Леанід Дайнека

# Жалезныя жалуды

РАМАН



МІНСК
«ЮНАЦТВА»
1993

ББК 84 Бел 7
Д 15

Серыя заснавана ў 1982 годзе

*Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту*

Мастак
А. Ю. КАЖАНОЎСКІ

Это произведение — своего рода продолжение серии романов: «Меч князя Вячки» и «След оборотня». Желуди, отлитые из железа,— это символ, талисман, который новогородские братолюбы слали всем достославным мужам как священный знак, призыв к объединению в борьбе против нашествия Золотой Орды и Тевтонского Ордена, против врагов, стремившихся разжечь междоусобные войны, призыв общими силами установить единое могучее государство.

События, которые разворачивались в начале — середине XIII столетия во время деятельности князей Миндовга, Изяслава, Далибора, Войшалка, и отражены в романе.

Д $\frac{4803120201-001}{М 307(03)-93}$ 44—93

ISBN 5-7880-0694-5

Была Чорная Русь, была Чырвоная, ёсць Русь Белая, але ніколі не было і (дай, неба!) ніколі не будзе Русі Шэрай.

З перадуманага

— Хто пасадзіў вас, дубы Панямоння?
— Пярун і Пяркунас.

Невядомы беларускі паэт
XVI стагоддзя

Кожнаму насельніку цудоўнага беларускага краю ўласціва любіць даўніну сваёй зямлі, цікавіцца ёю.

Зміцер Леанардаў. «Полацка-Віцебская старына», выпуск II, 1916 г.

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ТОЕ, ЯК З'ЯВІЛАСЯ ГЭТА КНІГА

Усё пачалося з таго, што мне і маім калегам-пісьменнікам нарэзалі ў чыстым полі па чатыры соткі зямлі і прапанавалі зрабіцца садаводамі-аматарамі. Я, параіўшыся з жонкаю і сынамі, згадзіўся. Не тое, каб было ў мяне дужа шмат часу, але я ўспомніў, што я — сялянскі сын, ажыў ува мне сялянскі патрыятызм, які (вось дзіва!) ластаўчыным нявынішчаным гняздом ляпіўся ў душы. А мне ўжо гадоў дваццаць, калі не болей, здавалася, што я стопрацэнтны гараджанін. «І Парыж калісьці быў вёскаю»,— бадзёра сказаў я сам сабе, купіў новую вострую рыдлёўку, апрануўся папрасцей і паехаў электрычкаю на сваю фазэнду. Дадому прыцёгся позна ўвечары. Балела спіна, смылелі далоні. Жонка са шкадаваннем пазірала на мяне. «Ці ёсць у нас родзічы або знаёмыя сярод палярных лётчыкаў?» — звышбадзёра спытаўся я ў яе. «Навошта табе?» — не зразумела, разгубілася жонка. «Ды праз год трэба заказваць грузавы самалёт. Завалім Нарыльск беларускімі агуркамі і клубніцамі».

Гэта, вядома, быў жарт. Але капанне на невялічкім участку захапіла мяне і ўсіх маіх сямейцаў. Мы, як, дарэчы, і нашы суседзі, паступова пачалі адчуваць сябе антэямі, якім дае сілу адзін толькі дотык да роднай зямлі. А я ж капаўся на ўчастку цэлае лета, бо вырашыў уласнымі рукамі заліць падмурак пад хату.

Трэба зазначыць, што сыны ў мяне з фантазіяй. «Добра было б выкапаць зараз паўнюткі гаршчок золата»,— сказаў аднойчы малодшы сын, выціраючы з ілба гарача-салёны пот. «Золата? На гэтым полі?» — іранічна глянулі на яго старэйшы і сярэдні мае сыны. Юныя няверы мелі рацыю. У свой час гэта зямля стваралася не для золата. Калісьці ледавік, як няўмольны магутны бульдозер, прыпоўз сюды са Скандынавіі і страціў сілу, пакінуўшы пасля сябе безліч марэнных узгоркаў. Не адну рыдлёўку разбіў я з сынамі аб камяні. «Добра было б выкапаць тут старадаўнюю берасцяную грамату,— не здаваўся малодшы.— Да Заслаўя адсюль два кіламетры, а Заслаўю — тысяча гадоў». Пры гэтых словах ягоныя апаненты прыціхлі і спарней налеглі на рыдлёўкі. А я з нечаканым сорамам адчуў, што яшчэ тыдзень-другі, і садавод накаўціруе ўва мне пісьменніка, які, як пішуць крытыкі-ўсяведы, «распрацоўвае гістарычную тэматыку». Я ж і сапраўды капаюся ў святой зямлі! Амаль тысячу гадоў назад тут магла хадзіць Рагнеда! Ізяслаў мог ехаць следам за маці на рахманым нетаропкім коніку! Будучы полацкі князь быў яшчэ дзіцем, і яму давалі адпаведнага каня!

Назаўтра ў нашым сямейным катлаване, які мы капалі ўжо месяц, пачалі адбывацца цуды. «Знайшоў!» — крыкнуў раптам старэйшы сын, укленчыў і голымі рукамі пачаў разграбаць рыжы вільготны жвір. «Нейкая жоўтая папера! Нейкія старадаўнія пісьмёны!» — усхвалявана залапаталі два астатнія мае жэўжыкі. Ах, манюкі! Ах, мілыя сабачаняты! Вось чаму яны ўвесь вечар круціліся ўчора, як змоўшчыкі, каля газоўкі — рыхтавалі, капцілі «старадаўнюю паперу», а сёння падкінулі яе ў катлаван. Класічны прыклад навукова-археалагічнай фальсіфікацыі! Было ўжо такое, сынкі, не раз было. Нядаўна я даведаўся, напрыклад, што ёсць вучоныя, якія катэгарычна адмаўляюць існаванне ўсёй антычнасці, гэта значыць не вераць у старадаўнюю Грэцыю і Рым, ва ўсе гэтыя цудоўныя статуі, будынкі, фрэскі. Маўляў, іх «падрабілі» тытаны Адраджэння. Шмат жа давялося б ім падрабляць! Але як бы там ні павярнулася, я быў удзячны сынам за своечасовы напамінак, што зямля, на якой мы будавалі сваю хату, не магла быць і не была бясплоднай у гістарычным плане. Гісторыю і экзотыку мы, беларусы, шукаем звычайна ў Францыі, чытаючы

Дзюма, у Англіі і Шатландыі, чытаючы Вальтэра Скота. Але яшчэ Сенека сказаў: «Радзіму любяць не за тое, што яна вялікая, а за тое, што яна радзіма».

Так з садавода-аматара я зноў ператварыўся ў белетрыста. І ўсе мае думкі ўладна прыцягнуў, прывабіў да сябе паўночна-заходні кут Беларусі. Сапраўды, мы шмат ведаем, шмат чыталі пра Полацк і Мінск. А што мы ведаем (прабач, Заслаўе) пра Навагрудак? Толькі тое, што там ёсць замак Міндоўга і што ў тым краі нарадзіўся і тую цудоўную зямлю да самай смерці апяваў Адам Міцкевіч, называючы яе «Літвою». У галаве ў мяне, як стрэмка, засела: Навагрудак, Навагрудак... Я не раз бываў там, бачыў залітую месячным святлом Свіцязь, кратаў рукою халодныя валуны Міндоўгавага замка. Здалёку руіны замка нагадваюць зубы, іклы нейкай дагістарычнай жывёліны, якая ў страшэннай напрузе хоча выпнуць з-пад зямлі галаву.

Мяне зацікавіла сама назва горада. Чаму — Навагрудак? Гэта вынік паланізацыі, тлумачылі мне. Слова «гарадок» пад уплывам польскай мовы пачало вымаўляцца як «грудак». Але я паспрабаваў не згадзіцца. А чаму гэта назва не магла пайсці ад старадаўняга беларускага слова «груд», «грудок», што азначае ўзвышанае месца, бугор? Прыйшлі аднекуль аднойчы людзі, убачылі прыгожае высокае месца, новы груд, і заклалі горад, сказаўшы: «Хай пад божым сонцам будзе новы град на новым грудзе». Але, калі я перачытаў беларуска-літоўскія летапісы, давялося адмовіцца ад сваёй, здавалася б, такой абгрунтаванай і смелай думкі. Усе летапісцы называлі горад «Новогородком», а жыхароў горада — «новогорожаны», «новогорожане». Значыць, усё-такі не «груд», а «горад», «гарадок».

Вельмі хвалявала мяне, вельмі прымушала працаваць маю думку і фантазію тая акалічнасць, што ў свой час Навагрудак быў сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Дарэчы, у «Большом советском энциклопедическом словаре» аб гэтым не сказана. І, дарэчы, нельга прайсці міма такога факта: наша навука тую беларуска-літоўскую дзяржаву, сталіцай якой быў Навагрудак, упарта называе Вялікім княствам Літоўскім, а летапісцы называлі яе Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім.

Адным словам, я захварэў Навагрудкам. Гэта было

як шыфр, як таемны сігнал — Навагрудак, або Нава́градак, як называе сёння гэты горад мясцовы люд. Варта было пачуць, прачытаць гэта слова, і адразу бачыўся Нёман, бацька-Нёман, як заве яго народ, адразу далятаў гром лютых сечаў, хруст дзідаў, іржанне коней, крыкі вояў. Мне здавалася, я чую нямоўчны шум бору, шолах бясконцага дажджу, бачу крыжыкі птушак на небасхіле. Куды ляцяць вольныя птушкі? Хто іх чакае? Можа, яны стукнуць у акенца, прарэзанае ў суровай каменнай сцяне. Бледны дзявочы твар свеціцца ў цемры акенца. Даўно заснуў горад. Наўкола — змрок, халадэча... Толькі не спяць вартавыя і закаханыя. Чуйна прыслухоўваецца дзяўчына — вось-вось павінен прагучаць тупат конскіх капытоў. Сядміцу назад малодшая дружына пайшла ў наезд за Нёман, каб мячом і дзідаю пералічыць рэбры ў крыжакоў. Прывязі, прывязі каханага, конь, а не залітае цёплай крывёю сядло.

Па даверлівасці і нявопытнасці я расказаў аб сваіх «навагрудскіх мроях» аднаму вядомаму, хоць яшчэ і маладому, журналісту.

— Кінь, стары,— хіхікнуўшы, сказаў гаспадар жоўтага партфеля.— Навошта табе ўсё гэта? Навагрудак, Літва, крыжакі... Ты ж не Адам Міцкевіч. Пішы пра сучаснасць. Хочаш, паедзем у Салігорск. На радыё нарысок пра шахцёраў заказалі. А гісторыя...— ён махнуў рукою.— Пустое ўсё гэта, неперспектыўнае.

Я тады змоўчаў, але падумаў, маючы на ўвазе гэтага звышупэўненага рыцара сучаснай тэматыкі: «Дрэнная тая птушка, якая брудзіць уласнае гняздо». І мне ўспомніліся словы мудрага чалавека: «Час і наша жыццё, як страла, ляцяць у адным кірунку, уперад. Назад мы можам рухацца толькі памяццю».

Чаму мы ў большасці сваёй не ведаем імёнаў уласных прадзедаў? Вы скажаце, што мы не шляхцюкі, не дваране, што рабочыя або сяляне з-за сваёй сацыяльнай забітасці і прыніжанасці не мелі магчымасці цікавіцца сваім радаслоўным генеалагічным дрэвам. Што ж, у гэтым ёсць рацыя. Але кітайскія і в'етнамскія сяляне, калі іх спытаць, упэўнена назавуць імя любога свайго продка, які жыў тысячу гадоў назад. Значыць, трэба вучыцца гістарычнай памяці. Іншага шляху няма, калі мы хочам застацца народам.

Думаючы пра ўсё гэта, адчыняю жалезныя дзверы памяці, бяру ў руку пяро.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## I

У лютую чэрвеньскую спёку прывалокся з-за Нёмана калека. У яго не было левай рукі і правай нагі. Замест іх з дзіравага запыленага радна тырчалі кароценькія чырвоныя кульцяпкі. Мухі, чорныя і сінія, роем насіліся над ім, садзіліся на непакрытую спатнелую галаву, нават на бровы і вейкі, нібыта быў ён ужо мерцвяком.

Яму адчынілі браму навагародскага замка, і ён адразу ж упаў, уткнуўся тварам у гарачую зямлю, заплакаў. Крываваты дубовы дручок, на які ён абапіраўся, ляжаў побач. Мухі з прагнасцю абляпілі дручок, смакталі чалавечы крывавы пот.

Усе дзівіліся, як мог адолець такі калека такую доўгую цяжкую дарогу. З адной нагою і з адной рукою толькі на палацях ляжаць, а гэты, калі верыць яму, прыйшоў з правага нёманскага берага.

Навагараджане, усхвалявана перагаворваючыся, стоўпіліся вакол прыхадня, чакалі, пакуль ён аддыхаецца і можна будзе распытаць яго. Нехта здагадаўся прынесці карэц з халоднай вадою. Калека, не ўстаючы з зямлі, доўга піў, аж нешта шчоўкала ў ягоным горле.

— Ты хто? — не вытрымаў, прысеў побач з ім на кукішкі навагародскі меднік Бачыла.

— Чалавек,— ледзьве варушачы языком, адказаў калека.

— Бачу, што чалавек,— зазлаваў меднік.— Але хто цябе так абкарнаў, як бярозу пры дарозе?

Бачыла быў чалавек вельмі цікаўны, гаваркі. Нездарма навагараджане жартавалі, што калі меднік гаворыць, у яго агонь з рота скача. Бачыла аж працінаў калеку зялёнымі, як маладая трава, вачамі.

— Хто ты? — насядаў ён.— Скажы.

— Слізкі ж у цябе язык,— не вытрымала ўдавіца Мархва. Мужа яе, дружынніка Астаха, у мінулым сонцавароце забілі тэўтоны.

Бачыла, як шылам кальнуў, зірнуў на ўдавіцу, хацеў ударыць гняўлівым словам, але ў натоўпе прашумела:

— Далібор ідзе... Далібор...

Княжыча Далібора ўсе пабойваліся. Было яму толькі васемнаццаць сонцаваротаў, але постаць меў карчавітую, далоні каляныя, чэпкія, твар нахмурана-суровы, а вочы няўсмешлівыя. Чорныя валасы густой грываю спадалі на загарэлую да цемнаты шыю. Далібор уладным позіркам як бы рассунуў перад сабой натоўп, спытаўся, узяўшы рукі ў бокі, у прыхадня:

— Адкуль ты і што табе трэба ў Новагародку?

Ён заўсёды стараўся гаварыць «па-княжаму» — Наваградак называў Новагародкам.

Калека ўздрыгнуў, выгінаючыся ўсім тулавам, няўклюдна сеў на пясок. Хацеў устаць перад княжычам, але не змог, не хапіла сілы, і ён сказаў, седзячы:

— Як вада да вады, так і кроў да крыві дарогу знойдзе.

— Калі я цябе зразумеў, ты з Новагародскай зямлі? — строга звёў чорныя бровы Далібор.

— Сысунком-млекасосцам купала мяне маці ў Нёмане, а завуся я Валасачом. Нагу ж і шуйцу* нямчыны мне адцялі,— хуценька адказаў калека. Ён пазіраў то на Далібора, то на людзей, што маўкліва абкружалі княжыча і яго. Страх ліпеў у самай глыбіні зрэнак. Нібы чакаў знявечаны Валасач, што вось зараз, праз міг, адбудзецца нешта дужа непажаданае, прыкрае. І сапраўды, удавіца Мархва (а яна па ўзросту была самай старэйшаю з новагараджан, што сабраліся тут) раптам войкнула і аж прыкрыла абсіверанай даланёю вочы.

— Дык гэта ж вяшчун з Цёмнай гары,— спалохана і разгублена прамовіла яна.— Як я яшчэ зялепухай-дзеўчынёхаю была, ён на Цёмнай гары сядзеў, святое вогнішча паліў. Бацька князя Ізяслава, князь Васілька, прагнаў яго за Нёман, у пушчу. І яго старцоў-ведуноў прагнаў. Дванаццаць старцоў жыло на гары. Праўда ж, ты — вяшчун?

Пры гэтых словах удавіцы Валасач з палёгкаю ўздыхнуў, нібы скінуў з плячэй і душы камень-жарнавік. Лагодная ўсмешка ўспыхнула на твары.

— Пазнала. Вяшчун я,— з нейкай задаволенасцю сказаў Валасач і глянуў на Далібора.— Твой дзед

* Шуйца — левая рука.

знішчыў наша капішча. Звер-зверам быў твой дзед. А зараз, княжыч, загадай мне прынесці кавалачак хлеба і жменьку вады. Чалавек датуль жыве, пакуль есці хоча.

Ён засмяяўся. І ўжо ні кропелькі страху не было ў позірку.

— Ты,— аж задыхнуўся ад гневу Далібор і нават узмахнуў кулаком.— Камар балотны. Чарвяк падземны. Як смееш майго дзеда, новагародскага князя, сваім брудным языком бэсціць?

— Загадай жа, княжыч, адсекчы мне астатнюю руку і нагу,— спакойна сказаў Валасач,— або загадай прынесці хлеба.

Далібор пры словах калекі гнеўна пачырванеў, крута павярнуўся, амаль пабег у бацькаў церам. Бачыла-меднік, што цікаўна стаяў у княжыча за спіною, не паспеў адскочыць убок і схапіў поўху. Меднік цёр вуха, а Далібор, шпарка крочачы ў церам, чуў, як былы вяшчун казаў новагараджанам:

— Прыпоўз паміраць на родную зямліцу. У кожнага з жывых такое будзе. Але не гэта страшна мне. Страшна тое, новагараджане, што сіла вялікая і злая ідзе на нас. Жамойту тэўтон падмяў пад сябе. Ідзе сюды. Нікога не шкадуе.

«Я загадаю кінуць яго ў вір галавою,— задыхаючыся, думаў Далібор.— Не, няхай цемрука раздзяруць на кавалачкі сабакі. У бацькавых пастухоў добрыя псяюхі».

Разгневаны княжыч пад адкрытай, засланай мядзведжымі і барсуковымі шкурамі галерэі, узбег на другі ярус церама і вока ў вока сутыкнуўся з маці і братам Някрасам.

— Глебачка,— ласкава сказала княгіня Мар'я і пагладзіла сына па чорнавалосай галаве,— чаму ты такі невясёлы?

Хрысціянскае імя ў яго было Глеб, ён не любіў гэта імя, але маці ўпарта называла яго толькі Глебам, Глебачкам, бо князь (а яна вельмі хацела, каб яе сын стаў некалі новагародскім князем) не можа не быць хрысціянінам.

— Дажыў да старых капытоў, а розуму не мае,— злосна выдыхнуў Далібор, усё яшчэ ўспамінаючы дзёрзкага калеку.

— Пра што ты гаворыш, Глеб? — не зразумела маці.

— Там, каля замкавай сцяны, ляжыць прыблуда-калека,— стомленым голасам адказаў Далібор.— Агідны, мокры... Мухі з усяго Новагародка зляцеліся да яго.

— Дык у яго ж адзін капыт, а не два,— весела выгукнуў Някрас, малодшы Далібораў брат, і кпліва, як падалося Далібору, засмяяўся. «Ужо быў там, бачыў»,— здагадаўся Далібор, глянуўшы ў цёмна-арэхавыя шчаслівыя вочы свайго вельмі прыгожага брата. Сябе Далібор лічыў непрыгожым і не вельмі каб перажываў раней, ды на васемнаццатым сонцавароце жыцця пакутліва пачаў разумець, што ў мужчыне жанчына шукае не толькі сілу, багацце, знаны род, але і лепасць твару. Нашто ўжо маці — заўсёды ласкавая, усмешлівая з ім, Даліборам-Глебам,— але і яна больш прывячае прыгажуна Някраса, у хрышчэнні Нікадзіма. Цяжка жыць на белым свеце, адчуваючы, што цябе родныя табе людзі любяць не на ўсё сэрца, не на ўсю душу. Яны хаваюць гэта, яны абсыпаюць цябе пацалункамі, але не-не дый мільгане ў позірку раптоўная халоднасць — так у зацішку цёплага маёвага лесу побач з яркімі вясёлымі кветкамі надараецца ўбачыць вастразубы камячок нерасталага лёду. Чуў жа Далібор, як маці, разгневаная нечым, сказала пра яго: «Касавура гэты...» Ён і сапраўды, калі злуе, калі што-небудзь не ўпадабае, упарта схіляе лабатую галаву, касавурыць блакітным вокам з-пад шырокага калматага брыва.

— Глеб, Нікадзім,— устрывожана глянула на сыноў княгіня,— пра якога калеку вы гаворыце?

— Ды ляжыць там адзін каля сцяны. Смокча гразь,— весела сказаў Някрас. Яго светла-русыя даўгаватыя валасы на канцах злёгку кучаравіліся, адлівалі цёмным золатам.

— Навошта такога пусцілі на дзядзінец? — захвалявалася княгіня. Яна, як з самага свайго дзяцінства помніў Далібор, не магла пераносіць, трываць рознае людское калецтва, чалавечую кроў. Неяк прызналася сынам, што маленькаю дзяўчынкаю ў начной апачывальні, калі яшчэ жыла ў Менску, бачыла жахлівую Маўку. У той Маўкі прыгожы белы твар, але няма спіны. Маўка нахілілася над маленькай князёўнай, пацалавала халоднымі губамі і раптам рэзка крутнулася, і ўбачыла змярцвелая князёўна ўсе яе ўнутранасці, усе вантробы, убачыла, як пругка сціскаецца і расціскаецца сэрца, як дыхаюць лёгкія, як трапечуць сіне-

чырвоныя жылы... З таго часу палахлівая яна, як асінавы ліст, што ўздрыгвае нават ад птушынага свісту.

— Пойдзем, матуля, глянем на яго,— шырока ўсміхаючыся, прапанаваў Някрас. Княгіня пацямнела ў твары, з нейкім болем і шкадобай зірнула на малодшага сына, моцна сціснула цвёрдыя вусны.

— Не пайду,— адказала пасля маўчання.— Трэба, каб добрыя людзі дагледзелі яго, накармілі, напаілі... Загадай чаляднікам, Глебачка,— павярнулася яна да Далібора.

— Добрых людзей мышы паелі,— выгукнуў між тым Някрас і, шпарка збегшы па галерэі, накіраваўся да гарадской сцяны, дзе ўсё гусцеў натоўп. Далібор пайшоў за братам. Княгіня глядзела, як зыркае чэрвеньскае сонца няшчадна лье гарачыя прамяні на галовы яе сыноў, чорнавалосую і русавалосую, перахрысціла іх услед.

Валасачу ўжо прынеслі карчажку з халоднай вадой, удавіца Мархва разаслала на зямлі белы абрус, клапатліва паклала на яго хлеб, печанае мяса. Валасач з вялікім смакам еў, піў ваду і пачуваў сябе дужа шчаслівым чалавекам.

— Пэўна, багацеем зрабіўся ты ў чужых землях? — седзячы на кукішках каля Валасача, пацікавіўся меднік Бачыла.

— Э, які багацей з валачая*? — з хрустам абгрызаючы свіную костку, адказаў Валасач.— Па маёй адзежы вош вашанят водзіць. Хочаш, адну табе дам.

Ён памкнуўся рукою да сваёй загарэлай расхлістанай грудзіны. Меднік, як уджалены пчалою, ірвануўся ад калекі. Натоўп зарагатаў.

Валасач, задаволены сабою, старанна абгрыз костку, высмактаў з яе мозг, потым шпурнуў сабакам. Тыя пакаціліся клубком, толькі пыл закурэў.

— Нельга есці мазгі жывёліны, бо дурнем будзеш,— рашуча прабіўшыся праз натоўп, сказаў Валасачу Някрас.

— Княжычы прыйшлі,— усклікнуў калека. Здавалася, што ён вельмі ўзрадаваўся. Ён выцер сухім кулаком губы, потым растапыранай пяцярнёй пачаў шкрэбці сваю грудзіну. Далёка не кожны асмеліўся

---

* Валачай — валацуга.

б рабіць такое ў прысутнасці княжычаў. Някрас грэбліва зморшчыўся, чмыхнуў носам, сказаў:

— Балотам смярдзіш... Мы ў Новагародку не любім такіх. Трэба загадаць нарэзаць свежай лазы, спусціць табе парткі і даць добрага прачуханца, добрую лазню. Згодзен на такое?

— Лёгка ўсё бяззбройнае, голае падпарадкоўваецца зброі,— усміхнуўся ў адказ Валасач. Новагараджане, што заціхлі пры з'яўленні княжычаў, навастрылі вушы. Дзіўныя словы гаварыў гэты прыхадзень, гэты былы вяшчун.

— І ці далёка ты хадзіў за Нёман? — стрымліваючы злосць, спытаў Далібор. Ён глядзеў на тоўстых мух, якія віліся над галавою калекі, глядзеў з агідай.

— На слабога каня болей мух садзіцца,— перахапіўшы ягоны позірк, прамовіў Валасач.— А хадзіў я далёка, ой далёка. Асабліва, калі маладзейшы быў і дзве нагі было. Пабачыў зямліцу. Вялікая яна, аж да мора. А за тым морам народ-жабаед жыве. Жаб травяных есць, як мы ялавічыну.

Пры гэтых словах усе новагараджанкі і некаторыя з мужчын зморшчыліся.

— Вялікая зямля,— вёў сваё Валасач.— Лясоў, балот-дрыгавін уга колькі. Быў я ў аўкштайтаў у градзе Кернаве, быў я ў літоўскага князя Мяндога, які ў сваёй Варуце ў лясах каля ракі Руты сядзіць.

— У кунігаса Міндоўга быў? Які ён? — хуценька запытаўся Далібор. Голас у княжыча ўздрыгнуў, і ўсе заўважылі гэта. Але княжыч і не хаваў сваёй усхваляванасці. Апошнім часам і ад бацькі, князя Ізяслава, і ад новагародскіх баяр і купцоў неаднойчы чуў ён гэта імя: Мяндог... Міндоўг... Нешта ад глухога яловага лесу, над якім стогне навальніца, было ў гэтым слове.

— Калі твой дзед, князь Васіль, знішчыў наша капішча, пайшоў я з надзейнымі людзьмі на ўсход ад Навáградка,— з ахвотаю пачаў расказваць Валасач.— Там у пушчах літва сядзіць. Чаму да літвы пайшоў? А куды яшчэ ісці было? Не да нямчынаў жа, што прусаў у рабстве чорным трымаюць і на жамойтаў пруць. І ў Пінеск або Галіч ісці не выпадала — там татары, як крумкачы-мертваклюі, кружыліся. Пайшоў я да літвы. Пайшоў таму, што народ гэты і тварам і звычаем на нас

падобны. І веру дзядоў-прадзедаў яны моцна шануюць. У іх Пяркунас. У нас Пярун.

— У нас Хрыстос,— рашуча сказаў Далібор.

— Няхай сабе будзе і ён,— адразу згадзіўся Валасач, не панізіўшы і не павысіўшы голас.— Але я са сваімі людзьмі пайшоў да Пяркунаса святы агонь, святы зніч паліць. Пайшоў да святых дрэў, да зялёных дубоў.

— Цябе самога трэба спаліць, як струхлелы корч,— перапыніў яго Някрас.

Былы вяшчун пільна зірнуў на прыгожага княжыча, нешта шапнуў сам сабе.

— Што шэпчаш? — уз'юшыўся Някрас.

— З Перуном размаўляю,— адказаў Валасач.

— Брудны абрубак! — закрычаў светлавалосы княжыч і затупаў нагамі.— Гэта Хрыстос цябе пакараў! Глеб,— звярнуўся ён да брата,— пойдзем да бацькі, возьмем дружыннікаў, каб гэтага цемрука зашылі разам з яго блявоцінай у мяшок і ў Нёман завалаклі. Не! У суседняе балота, бо ў Нёмане вада гніць пачне.

Ён наўмысна прыпомніў хрысціянскае імя брата — Глеб, хоць у цераме, дома, звычайна зваў яго Даліборам. Далібору край як хацелася даведацца пра кунігаса Міндоўга, неахвотна згадзіўся ён з малодшым братам, памкнуўся за ім, але былы вяшчун праця́ў Далібора вострым позіркам, павольна расчэпліваючы губы, сказаў:

— Як ты ні старайся, ніколі не зможаш змяніць колер сваіх вачэй.

Дзеля чаго сказаў ён такія словы? Што меў на ўвазе?

Княжыч Далібор пільна пазіраў на Валасача, напружана ўдумваючыся ў пачутыя словы. Вешчуны, былыя або сённяшнія, дарма слоў на вецер не кідаюць — усё ў іх узважана, адмерана, усё мае патаемны сэнс, трэба толькі дужа захацець. Сказана ж у святым пісанні, што на адно сонца глядзяць усе жывыя людзі і некалі, праз вякі, павінны сталкавацца, паразумецца між сабою.

— Адзінаўладцам літоўскім хоча зрабіцца Міндоўг,— пасля кароткага маўчання загаварыў Валасач, напэўна ж, здагадаўшыся, якіх слоў чакае ад яго княжыч Далібор.— Ліцвіны Міндоўгавы ідуць у бой у мядзведжых шкурах і равуць, як мядзведзі. Не хацеў бы я яшчэ раз глянуць у вочы Міндоўгу. Ён, кунігас, карае жахлівай смерцю ўсіх сваіх сяброў маладосці, каб

астатняя літва думала, што ён не нарадзіўся ад смяротнай жанчыны, а як кавалак гарачага жалеза ўпаў з нябёс. Сын у яго ёсць, Войшалкам клічуць. Ен і сапраўды — вой шалёны, сэрца мае суровае, як у свайго бацькі. Але бачыў я аднойчы, як ён плакаў, схаваўшыся ў лесе.

Далібор прагна слухаў пакалечанага вешчуна і быццам бачыў непраходную пушчу, дзе ўладарыць Міндоўг з Войшалкам, звярыныя сцежкі, засыпаныя мяккім лісцем і расой, залатыя іскры ручаёў.

— Пойдзем, Далібор,— тузануў брата за рукаў ільняной кашулі Някрас. Далібор схамянуўся, са шкадаваннем пайшоў следам за Някрасам.

— Не хоча пакланіцца Міндоўгу літва, але што паробіш,— казаў наўздагон ім Валасач.— Кланяцца моцнаму нас навучыла маланка. У чыстым полі ў лютую навальніцу ўпадзеш на зямлю — і ты жывы.

Княжычы, не азіраючыся на вешчуна, шпаркім крокам рушылі да церама. Натоўп перад імі разломваўся, развальваўся на дзве палавіны, быццам бярозавы кругляк, у які ўпэўнена і лёгка ўваходзіць дубовы клін. Вельмі непадобныя былі княжычы. Грубая чарната валасоў Далібора, ягоная камлюкаватая постаць, вялізныя жылістыя рукі рэзка адрозніваліся ад шаўкавістай русявасці і гнуткасці малодшага брата. Не ведаўшы іх, можна было падумаць, што не з аднаго ж і таго мацярынскага лона з'явіліся яны на божы свет. Дарэчы, балбатлівыя доўгія языкі, а іх, як усюды, хапала і ў Новагародку, казалі, што ў свой час княгіня Мар'я мела салодкі грэх з адным з галіцкіх князёў. Вядома, такое казалі на пачцівай адлегласці ад князя Ізяслава, а то адразу загадаў бы набіць жалезных цвікоў у язык. Як бы то ні было, а браты-княжычы моцна сябравалі і адзін за аднаго не задумваючыся перарэзалі б глотку любому нядобразычліўцу.

Свайго бацьку, князя Ізяслава, яны сустрэлі на двары церама ў акружэнні купцоў і залатароў з навакольнага горада. Разам з князем быў новагародскі ваявода Хвал, высокі, магутнаплечы, са светла-жоўтымі, заўсёды як бы трохі мокрымі валасамі. Купцы і залатары пачціва пакланіліся княжычам і прыціхлі. Ваявода Хвал злёгку кіўнуў галавою. Князь Ізяслаў, убачыўшы сыноў, перапыніў сваю вельмі ажыўленую гаворку з купцамі і залатарамі, спытаў:

— Глеб і Нікадзім, вучыў вас сёння ляшскі настаўнік рукапашнаму бою?

На людзях ён ужываў толькі хрысціянскія імёны сыноў.

— Вучыў,— адказаў Далібор.

— А ты чаму маўчыш, Нікадзім? — незадаволена звярнуўся князь да малодшага сына.

— Вучыў,— паспешліва прамовіў Някрас і пачырванеў.

Ізяслаў, строга звёўшы густыя русыя бровы, падышоў да яго ўпрытык, сказаў, узяўшы сына за плячук:

— Даносілі мне чалядзіны, што няма ў цябе належнага старання ў войскіх справах, што і вялікай неахвотаю бярэш у дзясніцу сваю меч. Праўда гэта?

Нікадзім маўчаў. Князь Ізяслаў са злосцю глядзеў на доўгія сынавы валасы, што жаноча віселі-віліся ўздоўж ружовых шчок, на ягоную далікатную шыю, на вузкае падбароддзе, абсыпанае юначымі прышчыкамі. Вось гэтыя прышчыкі, такія безабаронна-пяшчотныя, гэта не надта загарэлая скура, калі ўвесь горад пёкся пад сонцам, гэтыя бясхмарна-блакітныя прыгожыя вочы давялі князя да шаленства. «Ззяе, як вясновы ручай»,— падумаў пра сына Ізяслаў і, каб не ўдарыць яго зняважлівым словам прылюдна, бо меў за сабой такі грэх, сашчаміў кісці рук, хруснуў пальцамі. Някрасам па настойлівай просьбе княгіні Мар'і назвалі малодшага сына, схаваўшы пад такім імем прыгажуна. Доўга не знойдзе яго смерць, бо будзе шукаць непрыгожага.

— Да літвы паедзеш, Глеб, да Міндоўга. Праз сядміцу паедзеш з ваяводам Хвалам,— строга сказаў старэйшаму сыну князь і адвярнуўся. А сыны глядзелі на яго з замілаваннем, бо моцна любілі, хоць кожны пасвойму. Ізяслаў быў апрануты ў сіняе тонкай воўны карзно з чырвонымі разводамі на грудзях. На правым плячы карзно зашпільвалася вялікай срэбнай фібулай і давала волю правай руцэ. Левая рука хавалася пад крысом. Зялёную ядвабную кашулю з касым выразам, з якога вылузвалася магутная загарэлая шыя, цесна падпяразваў шырокі скураны пас. На ім зіхцелі рознакаляровыя металічныя бляшкі. На галаве ў навагародскага князя, хоць займала дых спёка, горда сядзела шапка з ярка-чырвонага сукна, аблямаванага светлым сабаліным футрам. Князь без шапкі не князь.

— Бацюхна,— трохі павагаўшыся, прамовіў Далі-

бор,— вяшчун Валасач вярнуўся. Нагі і рукі не мае. Гаворыць, што нямчыны адцялі.

Гэта навіна, як заўважыў Далібор, здзівіла і адначасна ўзрадавала князя. Незразумела толькі было, чаго ён радуецца. У хрысціянскі горад вярнуўся паганец, і ўжо кіпяць, як мухі, каля яго людзі. Зноў могуць слабыя духам перавярнуцца ў паганства.

— Прыпоўз паміраць,— лагодным голасам сказаў Ізяслаў і, зняўшы шапку, трохі астудзіў ад ліпучага поту галаву.

Усе яны, князь Ізяслаў з сынамі, ваявода Хвал, купцы і залатары, пайшлі туды, дзе на самым санцапале сядзеў Валасач.

— Князь ідзе,— спалохана шапнуў вешчуну меднік Бачыла.— Пакруцішся ты зараз у яго, як бяроста на агні.

Але той і краем вуха не павёў. Сядзеў, шкроб пацярнёй сваю грудзіну. Пэўна, столькі грозных і вялікіх людзей бачыў на сваім вяку, што патроху адвык іх баяцца.

Новагараджане адступіліся ад Валасача, далі праход князю.

— Ці ты гэта? — спытаў Ізяслаў.

— Я, прыснапамятны князь. Як ты яшчэ ўпоперак лаўкі ляжаў, мяне твой бацька, князь Васіль, прагнаў з Наваградскай зямлі,— адказаў Валасач.

— Чаго ж ты хочаш ад мяне?

— Хачу кончыць свой век на радзіме.

— А не баішся мяне?

— Кажуць, што ты князь акрутны*, але, бачыць неба, я не баюся цябе.

Такі адказ спадабаўся Ізяславу, і ён урачыста прамовіў:

— Бойся толькі бога, бо ўсе мы, і князі, і рабы, у божых руках. Ты быў віноват перад вечнай памяці бацькам маім, але я здымаю з цябе віну. Вяртайся на Цёмную гару і сядзі там да самай смерці сваёй. Можаш там агонь запаліць у гонар свайго Перуна.

Натоўп, як уражаны маланкаю, знямеў, а потым загаманіў на ўвесь рот, на ўвесь голас, і невядома было, ухваляюць або ганяць новагараджане княжую волю. Ды князь Ізяслаў не вельмі каб прыслухоўваўся да

---

* Акрутны — грозны, жорсткі.

гаваруноў. На сённяшні дзень ён моцна сядзеў у сядле, чэпкай рукой трымаў баяр, купцоў і ўвесь пасадскі люд. Новагародская зямля шырока рассунула свае межы, абапіраючыся на Нёман, вадзяны ход у Варажскае мора. Купцы з усёй Русі і амаль з усёй Еўропы прывозілі свае тавары і свае кашалькі са срэбрам у Новагародак. Гэта ў Полацку веча дакрычалася да таго, што полацкія князі сядзелі як вераб'і ў каноплях, баяліся дыхнуць без згоды веча. І што гэта дало? Страціў Полацк вусце Дзвіны, усе свае багатыя землі над Дзвіною. Лівы і латыгола, якія былі вечнымі даннікамі Полацка, ператварыліся ў тэўтонскіх рабоў. Кожны, хто мае меч і сілу, нясе гэты меч у Полацк і там гаспадарыць. У Новагародку зусім не такое. Тут калі князь, дык князь, калі халоп, дык халоп. Тут усе жывуць па ўставах князя Ізяслава Васількавіча, нястомнага ў сечы і ў працы нашчадка менскіх Глябовічаў. Як жа не быць нястомным яму, князю, калі, куды ні кінь вокам, акружаюць Новагародскую зямлю моцныя вастразубыя суседзі. Татары прыйшлі са стэпаў, разбурылі стольны Кіеў, накінулі на выю аркан многім і многім народам і ўвесь час падціскаюць, трывожаць з поўдня. Спіш і, здаецца, чуеш, як грымяць капыты іхніх коней. З Варажскага мора, з прускіх земляў жалезнай гарой навальваюцца тэўтонскія рыцары. У іхніх атрадах ёсць рыцары-ключы, што нясуць у бой сцягі, на якіх крывёй ворагаў намаляваны ключы ад божага неба. Князь Канрад Мазавецкі, пэўна, ужо не раз пракляў той дзень, калі запрасіў рыцараў з Паноніі, дзе яны ваявалі супраць ўграў, да сябе пад бок, каб кінуць іх на прусаў. Рыцары, як тая амяла, усмакталіся-ўпіліся і ў прускую, і ў польскую зямлю. Але і сам Канрад, як толькі выпадае магчымасць, вядзе сваіх ляхаў на Валынь, на суседніх яцвягаў. Сонцаварот назад разам з князем Данілам Раманавічам Галіцкім і кунігасам літоўскім Міндоўгам ударыў Ізяслаў па Канраду.

— Навошта, бацюхна, вешчуну ласку сваю княжацкую дорыш? — занепакоена спытаў Далібор. Ён, як і Някрас, думаў, што загадае бацька біць прыблуду свежай лазой, гнаць у каршэнь, ды атрымалася неспадзяванка.

— Няхай сядзіць на Цёмнай гары,— гледзячы ў чорныя вочы сыну, сказаў Ізяслаў.— Трэба нашай Новагародскай зямлі з Міндоўгам пабрацімства ўзяць.

Сёння ён самы моцны і пакуль што самы ўдачлівы кунігас у Літве. Міндоўг, як і ўсе яго аднапляменнікі, паганец. Няхай жа глядзіць і ведае, што мы, навагараджане, можам розных багоў шанаваць. Молімся Хрысту, але і не тушым зніч, які запаліў Пярун.

Ен паклаў Далібору цяжкую руку на плячо.

— Да Міндоўга пасылаю цябе, сын. Памятай: на вялікую справу ідзеш. Разам з ваяводам Хвалам выведай, вынюхай, чым жыве Літва. Пільны вокам і цвёрды сэрцам будзь. Потым усё мне раскажаш. Веру табе так, быццам пасяліўся ў тваёй душы і яе дыханне чую.

Далібор, уражаны такімі словамі, прыкусіў губу, нізка пакланіўся бацьку.

## II

— Чаму мяне разам з табой не захацеў бацька паслаць? — усхвалявана запытаў у брата Някрас, як толькі яны засталіся адны.

— Не ведаю,— са спачуваннем гледзячы на яго, адказаў Далібор. Яны залезлі на самы верх вежы, што ўзвышалася над дзядзінцам. Вежу яшчэ не дабудавалі. Велізарныя камяні, звезеныя з глухіх мясцін, грэлі пад пякучым сонцам шурпатыя бакі. Шмат холаду было ў камянях, але чалавек сабраў іх разам, навекі склеіў-злучыў іх між сабой вапнаю, і яны былі ўжо сцяной, вежай. І яны наліваліся цяплом і сілай, каб потым, калі пойдзе на прыступ вораг, устояць у самым лютым агні.

Браты на нейкі міг адчулі сябе птушкамі, што ўзляцелі над родным горадам. Далёка бачылася з вышыні. Навагародскі дзядзінец мясціўся на высокім узгорку, але людзі зрабілі яго яшчэ вышэйшым, нанасілі зямлі і камянёў. На суседнім ніжэйшым узгорку зіхцеў рознакаляровымі вокнамі багатых сядзіб, грукаў малаткамі кавалёў вакольны горад. Як два гнязды адной магутнай птушкі былі яны, вакольны горад і дзядзінец Навагародка. З поўначы і захаду вакол дзядзінца быў пракапаны роў. Дзягцярна-чорная вада ў ім блішчала пад сонцам. Побач з ровам грозна ўзвышаўся земляны вал, асядланы дубовай сцяной. Падножжа вала было выкладзена камянямі. У вакольным горадзе на храме Барыса і Глеба свяціўся вялізны срэбны крыж, асяняючы хрысціянскія могілкі. На

могілках аддавалі зямлі толькі новахрышчаных дзяцей. Іхнія дзяды-прадзеды ляжаць у паганскіх курганах, якія даўно зараслі лесам і якіх так шмат каля Навагародка.

— Калі б я пачынаў будаваць наш горад, я абавязкова паставіў бы яго на Нёмане. Чаму навагараджане вырашылі сяліцца ўдалечыні ад ракі? — у глыбокім одуме прамовіў Далібор.— Тавары з Варажскага мора і з Русі да нас трэба цягнуць на калёсах і санях па сухапутку. Які гэта горкі пот, я сам зведаў, калі ішоў з бацькавым абозам з Менска.

Някрас, пазіраючы ўдалячынь, прыкрываючы далонню вочы ад сонца, няўпэўнена сказаў:

— Можа, яны баяліся ракі.

— Баяліся ракі? — здзівіўся Далібор.— Хіба можна баяцца ракі, вады, баяцца Нёмана? Хоць рака — дарога, і на дарозе сустракаюцца не толькі сябры. Пойдзем, Някрас, на вал. Там я ўчора шмат спелых суніц бачыў.

Браты хуценька спусціліся з вежы, подбегам прыпусцілі да вала. Далібор, як заўсёды, бег наперадзе. Някрас — следам за ім. Па вяровачнай лесвіцы, якую скінуў зверху вой-ахоўнік, яны ўзабраліся на вал, на дубовую сцяну, потым, абдзіраючы жываты, саслізгнулі са сцяны на знешні бок вала. Там укленчылі ў траву, кідалі ў рот буйныя падпечаныя сонцам ягады. У самай сіле быў звонкі летні дзень. Распрамянёнае сонца плыло над Навагародкам, над дзядзінцам і вакольным горадам, над пушчамі і лугамі, над курганамі, у якіх вечным сном спяць прадзеды. Вой на сцяне заплюшчваў вочы і ўсё роўна бачыў сонца — нязгасны залаты круг. Пчолы вылётвалі з глыбіні лясоў, пілі, аж захлынаючыся, гарачую духмянасць кветак, цяжка вярталіся дадому, да бортных дрэў, з дуплаў якіх, напоўненых па самы край, выліваўся, цёк шырокімі бліскучымі ручаямі іскрыста-жоўты мёд. Мурашкі і мухі прагна лезлі з усіх бакоў і тапіліся ў мёдзе.

— Ягада забівае кветку,— сказаў раптам Далібор, уважліва пазіраючы на прыгожы, абліты сонцам, сунічны кусток, дзе побач красаваліся чырвоныя ягады і пяшчотна-белыя, падобныя на зорачкі кветкі. Някрас, нічога яшчэ не разумеючы з братавых слоў, сеў на кукішкі поруч з ім, плячо ў плячо.

— Бачыш? Ягада забівае кветку,— зноў паўтарыў

Далібор, не адрываючы позірку ад сунічнага кустка. І як бы нейкая заслона адкрылася братам, як бы ўпаў змрок з вачэй і яны на кароткае імгненне глянулі ў самы корань усяго існага. Нараджэнне ягады было смерцю кветкі. І гэтак — усюды, гэтак — заўсёды. Радасць і боль жыцця былі зліты ў адно цэлае.

— Княжычы, што вы там знайшлі? — гукнуў са сцяны русабароды вой.

Пот цёк па ягоных маладых шчоках. Далібор з Някрасам, быццам пабуджаныя гэтым голасам, зірнулі адзін на аднаго, засмяяліся. Потым прутка ўскочылі на ногі, каб бегчы ў церам да настаўніка-ляха, і тут заўважылі на лугавіне, што была побач з валам, вешчуна Валасача. Ён сядзеў на траве, падставіўшы змарнелы твар сонцу, і шчасліва ўсміхаўся. Ды зусім не вешчуну здзівіліся яны. Побач з ім сядзела маладзенькая прыгожая дзяўчына ў скураным вяночку са шклянымі падвескамі і карміла Валасача суніцамі, дастаючы іх з невялікага лубянога кубарыка. Дзяўчына, пэўна, даўно ўжо бачыла княжычаў, бачыла, як шукалі яны ягады, але вось яны зірнулі на яе, і яна сарамліва апусціла вочы з доўгімі светлаватымі вейкамі.

— Арол і арліца,— гучна сказаў Валасач княжычам, маючы на ўвазе сябе і дзяўчыну.

— Я яе ведаю,— шапнуў Далібор Някрасу.— Гэта дачка залатара Івана з вакольнага горада. Я толькі не ведаю, як яе завуць.

Яны смела, як і належыць княжычам, падышлі да вешчуна і незнаёмай дзяўчыны, спыніліся супраць іх.

— Як цябе завуць? — спытаў у дзяўчыны Далібор.

Яна спалохана ўзнялася з травы, хуценька абцягнула, прыгладзіла адной рукою прыпол вышытай чырвонымі і чорнымі ніткамі белай ільняной кашулі, а ў другой руцэ моцна трымала кубарык, на самым сподзе якога яшчэ відneліся ягады. У яе былі надзіва чыстыя праменна-блакітныя вочы, роўны маленькі носік і пухлыя пунсовыя губы. І не ад суніц была свежая пунсовасць, а прыродная, дадзеная ад самага з'яўлення на белы свет. Калі яна ўзнімалася з травы, Далібору кінуліся ў вочы далонькі яе загарэлых рук, схаваных у доўгія рукавы. На запясцях рукавы былі сцягнуты ў зборкі, якія прытрымліваліся абручамі-бранзалетамі. У выразе кашулі княжыч убачыў пяшчотны пачатак цвёрдых смуглаватых грудзей.

— Я Лукера з вакольнага горада,— сказала дзяўчына.

— Ты дачка залатара?

— Усё княжыч Далібор ведае,— усміхнулася Лукера і ўжо смялей зірнула на яго.

Далібора ўразіла іскрыстасць яе вачэй. «Як вада ў Нёмане»,— падумаў княжыч.

— Навошта з вешчуном водзішся? — строга спытаў ён у Лукеры.

— Папрасіў я, каб яна мяне пазёмкамі накарміла,— адказаў за дзяўчыну Валасач.— Дачка майго сынаўца*.

— Залатар Іван твой сынавец? — здзівіўся Далібор.

— А чый жа? Мой. Я, княжыч, з вялікага і багатага роду. У Наваградку адвеку мой род адным з першых быў. А стары я, як вунь той дуб, што ў полі стаіць. Але жыву. Перунова страла яшчэ не паслана па маю душу. Зараз Іван прыгоніць з вакольнага горада коніка і паеду я на Цёмную гару. Ідзі, Лукера,— мяккім голасам сказаў ён дзяўчыне.— А праз сядміцу прыходзь з сяброўкамі сваімі да мяне на гару.

Лукера пакланілася Валасачу, пакланілася княжычам, паставіла каля Валасача кубарык з ягадамі і шпарка пайшла ў вакольны горад.

— Прыгожая яна,— задуменна прамовіў Далібор, праводзячы Лукеру позіркам.

— Прыгожая,— згадзіўся Валасач.— А ведаеш, калі чалавек прыгожы бывае? Калі душа ў яго спакойная, калі болькі на душы не сядзяць. Шмат пабачыў я людзей. Я малым хлапчанём бегаў тут яшчэ тады, калі пушча засявала поле вакол Наваградка дзікім насеннем. Колькі князёў бачыў я! Я быў у самога Крыва-Крывейты, пакуль не выгналі яго крыжакі з-пад святога дуба. Я сядзеў на Цёмнай гары, паліў агонь Перуну, і мне ўсе так верылі, што жанчыны з'ядалі адбіткі маіх слядоў на снезе. Вялікая зборня людзей жыве на зямлі, і мала між імі прыгожых таму, што неспакойныя душы маюць, таму што смерці баяцца. Не гневайся дужатка на мяне, княжыч Далібор, але я скажу, што і ты непрыгожы.

Пры гэтых словах вешчуна Далібор злосна бліснуў вачамі. Ягоны ж малодшы брат нават сціснуў кулакі. Моцна сябравалі княжычы, хадзілі заўсёды разам,

* Сынавец — пляменнік.

быццам злыганыя, і калі крыўдзілі аднаго, соль крыўды раз'ядала сэрца другому.

— Маўчы, дупло дубовае,— грозна сказаў Някрас, упрытык падступаючы да вешчуна. Такімі словамі хрысціяне заўсёды абражалі паганцаў, дзяцей Перуна. Але вяшчун спакойна глядзеў на княжычаў, спакойна сядзеў на траве і нават паспяваў лавіць у свой загарэлы кулак мух, што нястомна кружыліся над ім.

— Ад мух не адцерабіцца,— нібы пажаліўся ён.— А ты, княжыч, не сярдуй. Кажу табе так, бо моцную душу ў табе бачу, крамянёвую, жалезную. Вялікі лёс табе наканаваны. Праз усё ты пройдзеш, усяго паспытаеш. І радасць напаткаеш, і боль, і здраду. Памятай, што жыццё — пастаянная здрада. Вечар здраджвае раніцы, стары чалавек здраджвае самому сабе, які калісьці быў маленькім. Такую мудрасць я ад Крыва-Крывейты пачуў. І ты яе запомні.

— Бог забраў у яго розум,— сцішэлым голасам сказаў Някрас Далібору. Але Далібор прагна слухаў словы вешчуна.

— Скажы, а што мне наканавана? — спытаў ён, пранізліва гледзячы на Валасача.

— Галаву тваю ў княжай шапцы бачу,— цвёрда адказаў вяшчун.— Наваградак у вялікай сіле і ў вялікай славе бачу. Дзяржаву магутную бачу, якую з попелу і крыві ўзнімеш, выпестуеш ты і твае аднадушнікі.

Вочы ў вешчуна натхнёна заблішчалі, шчокі запунсавелі. Ён свідраваў княжычаў сваім позіркам, палохаў і адначасна прыцягваў да сябе, як бы накідваючы на іх нябачнае сіло.

У гэты час пачулася парыпванне колаў, і ўсе трое ўбачылі вазок з лубяным верхам. Невялікі, але моцнаногі конік, махаючы хвастом, жвава бег па зялёнай лугавіне. Мухі дапякалі коніку, сонца смаліла з вышыні. Возчык, пад'ехаўшы да княжычаў і Валасача, зняў з галавы сплеценую з чароту і сасновых карэньчыкаў круглую шапку, пакланіўся.

— А дзе Іван? — строга запытаў у яго Валасач.

— Іван загадаў перадаць, што хапае яму таўкоты і без цябе,— не міргнуўшы вокам, адказаў возчык, які аказаўся светлавалосым хлапчуком з вясёлымі вачамі.— Іван загадаў завезці цябе на Цёмную гару. Я дапамагу табе сесці.

Ён саскочыў з вазка.

— Памажы, памажы,— лагодна згадзіўся Валасач. Ужо седзячы на вазку, вяшчун прамовіў, пазіраючы на княжычаў:

— Рознымі дарогамі пойдзеце вы, браты. Гуляйце, баўцеся ў залатым малалецтве вашым, пакуль не развяло назаўсёды жыццё. Ці задумваліся вы, чаму рэкі цякуць у розныя моры? Чаму Нёман бяжыць да варагаў, а Дняпро да грэкаў? Не ведаеце? Так і яно. А ты, княжыч Далібор, прыйдзі да мяне на Цёмную гару. Слова хачу табе сказаць.

— Якое слова? — запытаў Далібор.

— Тое слова гаворыцца з вока на вока, пры святым агні, пад зялёным дубам. Толькі табе і небу можна пачуць яго.

— Вурдалачына стары,— не вытрымаў Някрас.— Не чакай, ніхто да цябе не пойдзе. Быў бы я новагародскім князем, ляжаць табе ў Нёмане з булыгай на шыі.

— Золата плавіцца агнём, а чалавек няшчасцем,— адказаў яму вяшчун.— Таму ты і не князь, а толькі княжыч. І заўсёды будзеш ім. Есць вялікія мужы, такія, як твой князь-бацька, міласнік Ізяслаў, а ёсць мышва, што круціцца, пішчыць у мужоў пад нагамі. Запомні гэта.

Валасач узяў у хлапчука-возчыка з рук хварасціну, шлегануў каня, і вазок, парыпваючы і пагрукваючы, пакаціўся па зялёнай лугавіне. Раз'ятраны Някрас ірвануўся быў следам, але Далібор прытрымаў яго за плячук. Новагародскія княжычы стаялі і глядзелі, як узбіваецца з-пад конскіх капытоў жоўты пылок, як падскоквае вазок, як падскокваюць разам з ім дзве спіны і дзве галавы. Адна спіна была вузкая, хлапчукоўская, пругкая, як малады зялёны парастак, другая, Валасачова, шырэйшая, але старая: сонцаварот-другі — і сагнецца ў крук.

На дзядзінцы княжычаў ужо чакаў лях Костка. Гэтага ляха вывеў з палонам з Мазавецкай зямлі Ізяслаў Новагародскі, калі разам з галічанамі і Міндоўгам хадзіў на мазавецкага князя Канрада. Добрым рыдзелем* быў у сябе на радзіме Костка, у апошняй сваёй сечы з новагараджанамі паклаў чацвярых вояў,

* Рыдзель — рыцар.

разваліўшы іх сякераю ад ключыцы да сцягна, але ляснулі булавою яму па галаве, разбілі жалезную шапку, і ўпаў харобры лях, каб ачомацца ўжо з дубовай калодкай на шыі. Да скону веку насіць яму на смуглым ілбе буйную сіняватую зорку, след таго страшнага ўдару. Князь Ізяслаў упадабаў палонніка, загадаў зняць з яго калодку, наблізіў да сябе і нават зрабіў настаўнікам сваіх сыноў. Пасля сямі гадоў няволі па хрысціянскаму звычаю хацеў адпусціць ляха ў Мазовію, але Костка адказаў, што нікога ў яго на белым свеце няма і да самай смерці сваёй будзе жыць ён у Новагародку. І яшчэ сказаў, што не сумна будзе яму ляжаць у гэтай зямлі, бо ў будучым завалодаюць ёю ляхі. Смяяліся новагараджане на такія словы, але Костка быў упарты, цвердзіў, што ў сне пачуў такое прароцтва ад свайго ляшскага бога.

Пад прыглядам Косткі княжычы скінулі з сябе кашулі, потым чаляднікі нацёрлі ім спіны і грудзі ваўчыным і барсуковым салам, каб цела было слізкае, каб меч не так чапляўся за яго. Костка даў ім невялікія круглыя шчыты, даў драўляныя мячы, для схову галавы загадаў надзець лёгкія, сплеценыя з жалезнага дроту, шапкі. Чаляднікі засыпалі круг дзесяць на дзесяць сажняў жоўтым рачным пяском, прывезеным з Нёмана. Наўкол гэтага рысталішча сабраліся княжыя баяры. Наперадзе ўсіх стаяў князь Ізяслаў.

Костка аб'явіў, што будзе біцца супраць княжычаў, таксама распрануўся да голага цела, узяў драўляны меч. Вырашылі біцца да чырвонага рубца, бо сінякі сапраўдны вой не павінен нават заўважаць. Трохі збоку чакалі свайго часу зялейнікі з прымочкамі, націраннямі і белымі ручнікамі ў руках.

Князь Ізяслаў пляснуў у ладкі, і бой пачаўся. Далібор з Някрасам, як галодныя ваўчаняты, рынуліся на ляха. Замільгалі мячы. Захрабусцеў пясок, і ўзвіўся пыл. Костка са спакойнай усмешкай на твары адбіў першы наскок-наступ княжычаў, вёртка ўхіліўся ад іхніх мячоў, сваім дастаў-такі, пекануў Някраса па плечуку. Той сашчаміў зубы, але нават не зморшчыўся, бо ўсе баяры і сам бацька глядзелі на яго, а яшчэ таму, што мужчына павінен вучыцца цярпець боль.

— Горкі корань у вучэння, ды салодкія плады,— паблажліва сказаў лях Някрасу і ледзь паспеў вывернуцца з-пад магутнага ўдару, які нанёс Далібор.

— Бі лацінніка! — выгукнуў нехта з зялейнікаў, што цярпліва чакалі свайго часу.

— У яго ўжо лыткі трасуцца,— здзекліва дадаў другі.

Князь Ізяслаў гнеўна зірнуў на зялейнікаў, і яны адразу ж прыкусілі языкі.

— Пакажыце, сыны, на што вы здатныя,— ціхім голасам прамовіў князь.

Княжычы пачулі бацьку і патроілі свой напор. Ды Костка быў дужа вёрткі. Цяжка было дастаць ягонае смуглае цела, на якім сінелі старыя рассечыны ад мячоў. Засланіўшыся шчытом і мячом, праходзіў, прасвідроўваўся ён, як яшчарка праз пясок, між княжычамі. Сам жа біць шкадаваў. Някрас, зразумеўшы гэта, закрычаў:

— Ты што нас гладзіш, лях?! Дай мне толькі дабрацца да цябе!

Занадта нецярплівым ва ўсіх сваіх справах і парываннях быў малодшы княжыч, і гэта не раз, як кажуць смерды, бокам яму вылазіла. «Часта будзе ў цябе, сын мой, чуб надзёрты»,— гаварыў Някрасу князь-бацька, але і любіў за такую гарачку.

Сонца ў гэты самы міг прашыла промнямі лахманок хмаркі, што вісеў над Новагародкам. Мяккім жаўтавата-шэрым святлом заліўся пясок рысталішча, і Далібору падалося, быццам не на пяску б'юцца яны, а таўкуцца па самыя костачкі ног у густым мёдзе. Расказваў нядаўна бацька, як знайшлі ў пушчы смерда, што палез выдзіраць дупло і па самы пояс уваліўся ў пчаліны мёд. Карачун быў бы смерду, ды, на ягонае шчасце, надарыўся побач мядзведзь і за каршэнь выцягнуў недарэку з мёду. Хлусіў хітры смерд ці казаў праўду — невядома. Адно ісцінна — шмат, вельмі шмат мёду ў вакольных лясах, а дзе мёд, там і сіла.

Улучыўшы момант, з усяго маху ўдарыў Далібор Костку па драцяной шапцы і, здаецца, прыглушыў ляха. Потым ударыў яшчэ, яшчэ, з большай сілаю, з гарачай злосцю, якая нечакана ўспыхнула ў душы.

— Так яму! — заенчыў Някрас і сваім мячом дастаў настаўніка. Лях не на жарт раззлаваўся.

— Абоіх вас за пояс запхну,— прыжмурыўшы калючыя вочы, сурова сказаў ён Някрасу, але ў гэты час князь Ізяслаў махнуў рукой у скураной пальчатцы. Паядынак скончыўся. Усе зашумелі, пачалі віншаваць княжычаў.

— Емка я ляха мячом хапіў,— хваліўся Някрас. Далібор жа падышоў да Косткі, моўчкі глядзеў, як завіхаюцца каля яго зялейнікі.

— Ты хват, княжыч,— усміхаючыся, сказаў Далібору Костка.— А твой брат, прабач мне грэшнаму, ні пес, ні выдра*.

Гаворачы гэта, ён прыцішыў голас, каб не пачуў ніхто, акрамя Далібора.

Чаляднікі змылі з княжычаў і Косткі бруд і пот, насуха выцерлі іх калянымі ручнікамі. Потым прынеслі з пограба бярозавіку з мёдам у гліняных размалёваных брацінах. Добра пілося, добра адчуваўся порсткі дрогкі бег крыві па ўсім целе.

— Княжычаў Глеба і Нікадзіма князь Ізяслаў да сябе кліча,— абвясціў, нізка пакланіўшыся, надворны хлапчук-халоп.

Яны шпарка пайшлі да бацькі, бо не любіў навагародскі князь ні запрашаць, ні загадваць двойчы. Стомленыя, з яшчэ макраватымі валасамі, спыніліся яны на парозе княжай святліцы. Ізяслаў сядзеў, як грузная птушка на гняздзе, на дубовай лаве. На ім была толькі белая нацельная кашуля. Срэбны крыжык свяціўся ў паўзмроку на пукатых грудзях. Увайшоўшы з двара, дзе ззяла сонца, княжычы нейкі час не маглі разабрацца, лагодны ці злосны твар у бацькі. Цёмнымі плямамі бачыліся ягоныя вочы.

— Секліся з ляхам нядрэнна,— пахваліў сыноў Ізяслаў.— Не шкадуйце сіл, вучыцеся ў ляха, бо мячом князь моцны. Гніце свой малады хрыбетнік сёння, каб заўтра ўсе перад вамі гнуліся. Будзе ў вас усё: і срэбра, і дружына, і жонка, аддадзеная богам у вашы рукі, але будзе гэта ўсё, калі не хірлякамі станеце, а храбрымі воямі.

Ізяслаў узняўся з лавы, упрытык падышоў да сыноў. Яны ўбачылі, які ў яго стомлены, быццам падталы твар. А кроплю часу назад, на двары паміж баярамі і купцамі, бацька быў такі вясёлы, рухавы, глядзеўся такім зухам, аж вачэй нельга было адвесці. Значыць, расслабіўся перад сынамі, распусціў вузел на душы, каб трошкі вальней дыхнуць. Далібору зрабілася шкада бацьку, але гэту сваю шкадобу ён не выдаў ніводным рухам, ніводным словам. Князёў не шкадуюць. Гэта тое

* «Ні пес, ні выдра» — выраз у польскай мове, які адпавядае нашаму «ні рыба, ні мяса».

самае, што шкадаваць неба альбо маланку на небе.

Ізяслаў тройчы пляснуў у ладкі, і ў святліцу адразу ж увайшоў перапалоханы рудабароды чаляднік.

— Прынясі мапу*,— загадаў князь.

Чаляднік пакланіўся і як вокам міргнуць разам са сваім напарнікам прынёс у святліцу вялікую мапу, намаляваную яркімі фарбамі на шчыльнютка збітых белых дубовых дошках. Мапу паклалі на стол. Рэкі на ёй былі адзначаны бліскучым срэбным дротам, азёры і Варажскае мора выкладзены сінім шклом. Далібор і Някрасам уперылі прагныя позіркі на мапу, як галодныя на ежу. Рэдка, дужа рэдка паказваў каму-небудзь князь Ізяслаў Новагародскі сваю прыгажуню, змайстраваную купцамі і залатарамі з вакольнага горада.

— Вось наш Новагародак! — захоплена ўсклікнуў Далібор.— А вось Нёман!

— Каб бог пажадаў зрабіць вас птушкамі, сыны мае,— паважна, усміхаючыся ў вусы, сказаў Ізяслаў,— і каб вы маглі ўзляцець над цвердзю зямною, з-пад воблакаў, зверху, вы б убачылі такое. Вось наша Новагародская зямля. Бачыце? Як круглы войскі шчыт, абпалены ў сечах, ляжыць яна між суседніх земляў і народаў. Вось Нальшанская зямля. Вось Дзятлава. А вось край жамойтаў — Каршува, Княтува...

Доўгім смуглым пальцам, на якім ззяў залаты пярсцёнак з густа-зялёным каменьчыкам-гарошынкай, ён паказаў сынам землі жамойтаў.

— А вось тут літва Міндоўгава сядзіць. Як клін, уразаецца яна між намі і Менскім княствам. Даўным-даўно, калі нашы прыснапамятныя прадзеды, крывічы з дрыгавічамі, прыйшлі сюды, каб закласці Новагародак, яны сустрэліся з літвою, пасуседзіліся з ёй, рассяліліся тут. Потым частка іх пайшла далей, на Рубон, які цяпер завецца Дзвіною, абцякаючы з усіх бакоў Літву. Так вясновая вада абцякае камень, абцякае востраў. Я сам не бачыў, але ваявода Хвал расказваў мне, што, калі ён з нашым пасольствам ездзіў да ўладзіміра-суздальскіх князёў, сустрэўся ім народ голядзь, што такім самым вострававам ці клінам сядзіць на рацэ Паротве, якая ўпадае ў Маскву-раку. Голядзь і літва з аднаго кораня выраслі.

---

* Мапа — геаграфічная карта.

Князь Ізяслаў уважліва паглядзеў на сыноў. Яны слухалі не дыхаючы.

— А на захад сонца ад Новагародка ляжаць нашы гарады: Услонім, Ваўкавыйск, Здзітаў... Далей за імі ў пушчах жывуць яцвягі, за яцвягамі — прусы, шматлікі і ваяўнічы народ. Прускія землі, Памязанія, Вармія, Самбія раскінуліся да Варажскага мора і да Віслы. Шмат у іх сваіх багоў. А адным з самых магутных багоў яны лічаць лес. Яны кажуць: «Лес — гэта калыска народа».

— Добра кажуць,— не стрымаўся Далібор.

— Добра,— згадзіўся Ізяслаў.— А вось тут, на адным з рукавоў Віслы, які завецца Нагат, стаіць Марыенбург, горад святой дзевы Марыі, сталіца тэўтонскіх рыцараў.

Далібор з Някрасам нізка нахіліліся над мапаю, каб лепш разгледзець тую дзяржаву і той горад, пра якія апошнім часам столькі розных чутак даходзіла. Яны ўбачылі чырвоны кружок, што прыляпіўся да срэбнага дроціка ракі.

— Рыцары-тэўтоны нядаўна аб'ядналіся з мечаносцамі, якія сядзяць у Рызе і на землях эстаў і ліваў,— гаварыў Ізяслаў.— Пра мечаносцаў вы, вядома ж, чулі, і чулі не раз. У сечы з імі, як бясстрашны леў, загінуў князь полацкага роду Вячка.

— Хто не ведае Вячку! — адначасна ўсклікнулі княжычы.

— Вячку ўсе ведаюць,— згадзіўся Ізяслаў.— Такія людзі жывуць вечна, як багі. Вучыцеся ў яго, дзеці мае, вернасці і мужнасці. Будзеце такія, як ён, ніколі вораг не ўзыдзе на новагародскі дзядзінец, на нашы курганы, у якіх ляжаць косці прадзедаў. Але я вам яшчэ колькі слоў скажу пра рыцараў. У бітве каля Шаўляя амаль дашчэнту высеклі мечаносцаў войскі мясцовых тубыльцаў. Ад страху закалола рыцарам у пяты, і пабеглі яны прасіць рымскага папу, каб ратаваў іх, далучыўшы да Тэўтонскага ордэна. Папа выратаваў мечаносцаў, загадаў ім усюды і заўсёды насіць белыя плашчы з чорным крыжам. Ідуць гэтыя крыжаносцы вайною вялікай на прусаў, бо прусы, як і родзічы іхнія жамойты і літоўцы, паганцы. А зараз гляньце сюды. На поўдзень ад прусаў жывуць мазуры з ляхамі, пладавіты моцны народ. Вераць яны Хрысту, плацяць дзесяціну і святапетрык, срэбра з кожнай душы на ўтрыманне лампады,

якая дзённа і ношчна гарыць у царкве святога Пятра ў Рыме. За Берасцейскай зямлёю месціцца дзяржава валынян і галічан, адзінаверцаў нашых. А яшчэ далей — угры, чэхі... Колькі размаітых народаў жыве побач з намі і далёка ад нас! Народ сінь*, які валодае стэпамі і горамі там, дзе ўзыходзіць сонца, кажа: «Няма большага няшчасця, чым няведанне меж сваёй краіны». Вось для гэтага я і загадаў прынесці мапу. Глядзіце, сыны, запамінайце.

Ен змоўк, пацёр лоб смуглымі пальцамі, рашуча хітануў галавой.

— У кожнага чалавека свой крыж. Мой крыж — Навагародак, зямля Навагародская. Славы і сілы хачу Навагародку. Хай чэрві завядуцца ў вачах у таго, хто хоча ўбачыць пагібель і няславу Навагародка, хто дзясніцу ўздыме на нашу дзедзіну. Даверымся ж ва ўсім богу, бо гасподзь наш вышэй галоў нашых і Зямля на водах і на нябёсах пакладзена яго промыслам.

Князь перахрысціўся. Разам з ім перахрысціліся сыны. З шыракагорлай рамейскай амфары, што стаяла ў куце святліцы, князь дастаў пажоўклы, скручаны ў трубку, пергамен, разгарнуў яго, знайшоўшы патрэбнае месца, сказаў Някрасу:

— Гэта пісанне мудраца Яфрэма Сірына. Чытай адсюль.

Някрас, злёгку пачырванеўшы, пачаў чытаць:

— Мінае дзень, следам за ім ідзе другі, і калі не гадаеш — смерць ужо стаіць над галавою тваёй. Дзе мудрацы, якія напісалі кнігі і пісаннямі сваімі напоўнілі свет? Дзе тыя, каторыя дзівілі свет сваім словам і тварамі, чаравалі сваімі думамі? Дзе тыя, каторыя пышыліся дарагімі шатамі, спачывалі на пурпуровых ложах? Дзе рукі, якія аздабляліся перламі? Дзе тыя, перад загадамі якіх трухлелі і якія панявольвалі зямлю страхам сваёй улады? Скажы зямлі, і яна пакажа табе, дзе яны: спытай магіл, і яны табе пакажуць, куды яны паложаны. Во ўсе яны разам ляжаць у зямлі, усе абярнуліся ў прысак, і не разрозніш, дзе астанкі багатага і дзе парахно ўбогага. Бачыў я, як прагная магіла пажырае і заўсёды не сыта: чым больш нябожчыкаў у яе ўходзіць, тым шырэй разяўляецца яе пашча. Незлічоныя тысячы ляжаць там і багатых,

---

* Сінь — кітайцы.

і бедных, незлічоныя соймы бачыў я ляжачых там. Ціха ляжаць яны ў дамоўках.

— Годзе,— сказаў Ізяслаў, і Някрас адразу ж замоўк. Далібор як скамянеў ад пачутага. Жахотнасць і холад былі на сэрцы. Колькі пакаленняў пайшло ў змрок, а ён, Далібор, які яшчэ ні добрай сечы не бачыў, ні жанчыны не аблагодзіў, хоча нечага дамагчыся, хоча нешта зразумець у зямным малачасным жыцці. Навошта бацька загадаў Някрасу чытаць гэтага Сірына? З непаразуменнем глядзеў княжыч на князя і бачыў суровы твар, строгія прыжмураныя вочы, якія, як яму зараз падумалася, амаль ніколі не ўсміхаюцца. Цёмныя няўсмешлівыя бацькавы вочы помняцца з самага зялёнага малалецтва. Нейкае бясконцае чаканне і нейкі одум у іх.

— Вось што такое жыццё, сыны,— прамовіў Ізяслаў.— А ты, Далібор, пачынай збірацца ў дарогу. Праз тры дні да Міндоўга едзеш.

Ноччу над Навагародкам пачало цяжка грымець у небе, а потым абложны лівень рынуўся на зямлю. Далібора пабудзіла маланка. Жоўтым трывожным святлом пырснула ў вузкае акно апачывальні. Далібор усхапіўся, працёр кулакамі вочы. Падалося, што нехта запаліў свечку ля самага твару. Глуха шумела за акном, за сцяной. Шыпела, захліпвалася, булькатала, аж екатала вада. Княжыч узняўся з ваўчыных шкур, на якіх любіў спаць, хоць маці строга забараняла, падышоў да акна, прыпаў ілбом да халоднага шкла. Дажджавыя бізуны шлёгалі па шкле. Чорная цемра, напоўненая жоўтым святлом маланкі, зеўрала за акном. Удары грому былі такія моцныя, такія ляскотныя, раскацістыя, аж звінела ўвушшу. Калі шырока ўсхоплівалася маланка, княжыч на кароткае імгненне паспяваў убачыць то аблітыя вадой, усклычаныя ветрам галіны бярозы, то крыты дорам дах малой грыдніцы, у якой жылі надворныя халопы, то бліскучыя камяні недабудаванай вежы. Усё гэта ярка, дужа выразна выступала з цемры, потым зноў знікала, быццам змывалася, сціралася чорнай рукой навальнічнай ночы. З вялікай аблёгкаю думаў Далібор аб тым, што княжы церам і ўсе пабудовы дзядзінца не можа ўзяць нябесны лятучы агонь, бо на вільчыках і на сценах, на дзвярах і на вокнах ахоўваюць людзей і іхняе багіно ад злыбяды грамнічныя знакі, кругі, перакрыжаваныя стрэламі. Як бы ні гневаліся Ілля-прарок і Пярун, але, убачыўшы

гэтыя святыя знакі, адвядуць удар ад Новагародка, і агністы серп маланкі ўвап'ецца ў зямную цвердзь недзе ў пушчах і балотах. Княжыч хацеў быў ужо зноў класціся спаць, як раптам у вока яму кінулася такое, ад чаго перахапіла дыханне. Узмахнула крыллямі маланка, асвяцілася чорнае як бы металёвае неба, і на двары дзядзінца Далібор, ледзь не крыкнуўшы ад здзіўлення, убачыў свайго бацьку, князя Ізяслава. Пад дзікаю навальніцаю бацька стаяў без шапкі, у незашпіленым карзне і трымаў за аброць каня, [redacted] якога злазіў нейкі незнаёмец у доўгім плашчы [redacted] капюшонам. Бацька нават падставіў плячо, і незнаёмец, пэўна, вельмі змучаны, здарожаны, абапёрся аб яго рукою, цяжка саскочыў з сядла ў гразь. Толькі гэта ўдалося разгледзець Далібору, бо ўсё праглынула чорная прорва віхурыстай дажджыстай ночы. Потым, калі зноў жыхнула маланка, нікога нідзе не было. Толькі тлуста блішчала гразь ды сцёбаў па лужынах шыпучы густы дождж. Але Далібор не мог памыліцца — некалькі імгненняў назад ён бачыў на начным двары свайго бацьку. Каго сустракаў бацька? Чаму сустрэча гэта адбылася ноччу, а не ўдзень? Гэта выпадковасць ці загадзя было дамоўлена, што незнаёмец прыедзе ў Новагародак пад покрывам ночы? Няўжо бацька, князь, род якога вядзецца з Глябовічаў і Рагвалодавічаў і якога некаторыя лісліўцы ўсё часцей пачынаюць велічаць вялікім князем, некага баіцца на сваім дзядзінцы, у сваім горадзе, так баіцца, што сустракае сваіх гасцей, хаваючыся, як начны таць? Далібор павольна адышоў ад акна, сеў на ложак, абшчаперыў галаву рукамі. Сум, нечаканы і востры, упіўся ў сэрца, хоць ты крычма крычы. Княжыч ведаў, што не засне ўжо да самага сонца.

## III

Раніцаю Далібор, успомніўшы запрашэнне вешчуна Валасача, вырашыў з'ездзіць да яго на Цёмную гару. Але перад гэтым агледзеў увесь двор, схадзіў на стайню, пакруціўся каля бацькавай святліцы, ды нідзе не было следу ні начнога незнаёмца, ні ягонага каня. Можна было падумаць, што Далібору прысніўся навальнічны, заліты маланкаю і дажджом, двор і бацька з таямнічым незнаёмцам. Княжыч пачаў асцярожна выпытваць

у брата — можа, той, што ведае. Але Някрас шчыра здзівіўся: «Хіба ноччу навальніца была?»

Ускочыўшы на каня, Далібор у суправаджэнні надворнага халопа Найдзёна, які на коніку-каруздіку пачціва трымаўся ззаду, выехаў праз браму з дзядзінца. Пасля начнога дажджу лясы і палі сохлі пад сонцам. Густой парай была заслана зямля. Дажджавыя чарвякі-рабакі выпаўзлі з норак на белы свет. У суседніх з Новагародкам весях Гарадзілаўцы, Чарэшлі, Рудзе, Суляцічах, радуючыся добраму сонцу, спорна працавалі смерды. Над Рудай тапырыліся ў неба слупы брудназжоўтага дыму. У ямах і ў гліняных домніцах там выплаўлялі руду. Чуўся ляскат малаткоў. Бэкалі авечкі. Брахалі сабакі. У драўляныя вёдры лілося духмянае цёплае малако. Жанчыны, павязаўшы галовы белымі хусткамі, неслі вёдры з малаком на карамыслах дадому. Разамлелыя ад спёкі каровы, зайшоўшы па вымя ў сакаўную траву, глядзелі ім услед. Сустрэўся хударлявы светлавалосы смерд з абвараным на сонцы белым тварам. Убачыўшы княжыча на кані, хуценька схаваўся за куст. Даўно абжытая чалавекам, багатая зямля была наўкол.

Уехалі ў лес, і згубілася ў зялёных вяршынях сонца. Дрэвы стаялі яшчэ мокрыя. Добра тут хвастаў начны дождж, шматназбіваў лісця. Нават былі абламаны некаторыя танчэйшыя галіны. У ручаях, што шыліся праз траву і мох, плылі мёртвыя лясныя мышы.

Спусціліся на конях у сырую лагчыну. Лес тут перарваўся вялікім прагалам-палянаю. Леваруч ад сцежкі ўбачылі агромністы таўсматы дуб. Начны ветравал вывернуў яго з зямлі, паклаў набок. Шырокія лісты падсвечвала сонца. Дужа шмат жалудоў было на дубе, шмат іх было рассыпана ў траве. На бугорыстай, пасечанай сякерамі гадоў, кары пырхалі бліскучыя стракозы. Даўжэзныя карані, што яшчэ зусім нядаўна жылі пад зямлёю, бездапаможна тапырыліся ў неба, высушваліся сонцам і ветрам і ўвідавочкі бялелі.

— Як жа ты так? — спытаў у дуба халоп Найдзён, калі пад'ехалі да абрушанага дрэва.— Хіба можна было ў гэтым месцы сяліцца? Тут жа балота, зямля мяккая. На сушняку трэба было караніцца, дубе. Слабая тут зямля, не ўтрымала цябе. Твае браты вунь дзе жывуць.

Ён паказаў на заліты сонцам узгорак, дзе стаяла светлая дуброва.

Далібор злез з каня, пагладзіў рукою дубовую кару. Упершыню ў сваім жыцці бачыў ён пераможаны дуб. Часта сустракаліся яму разбітыя, абсмаленыя маланкай, з разарванай карой-грудзінай, з чорнымі ямінамі дуплаў. Як шкілеты стаялі яны. Але стаялі! Гэты ж дуб ляжаў, як мёртвы чалавек. Страшна было бачыць ягонае бяссілле. «Слабая тут зямля,не ўтрымала цябе»,— успомніліся княжычу словы халопа. Значыць, на моцнай зямлі трэба сяліцца. Толькі дзе яна, моцная зямля? Зноў прыгадаўся Далібору начны навальнічны двор дзядзінца, бацька, што, хаваючыся ад усіх, сустракаў незнаёмца. Ці на моцнай зямлі жывеш, бацька?

Нарэшце дабраліся да Цёмнай гары. На лясным лужку кінулі коней, спутаўшы іх, а самі па вузкай сцежцы пайшлі на сіні слуп дыму, які нерухома стаяў над шчэццю дрэў. Тут, як адразу прыкмеціў Далібор, было вельмі шмат яшчарак. Яны няспынна мільгалі ў траве, грэліся на камянях і каменьчыках. Іхнія маленькія бліскучыя вочкі-кропелькі як бы танцавалі нейкі танец.

На сухім схіле, трывала ўчапіўшыся каранямі ў зямлю, рос каржакаваты кучомісты дуб, абвешаны ручнікамі. Выявы сонца і маланак, невядомых звяроў і птушак былі вышыты на ручніках. У дубовую кару былі ўбіты дзіковыя іваўчыныя іклы. Падножжа дуба апаясваў драўляны памост сажняў на дваццаць удоўж і ўшыркі, засыпаны лісцем. Якраз усярэдзіне памост праломваўся велізарным сіне-зялёным валуном. Побач з валуном з невялікіх камянёў быў выкладзены круглы, як чаша, падмурак для агню, на якім гарэў касцёр. Вяшчун Валасач сядзеў пад паветкай, што ляпілася да дубовага камля. Дробныя лясныя птушачкі мітусіліся каля яго. Вяшчун быў ва ўсім белым, з заплюшчанымі вачыма. Пачуўшы крокі, варухнуў вейкамі. Павольна, неахвотна адкрыліся вузкія, нібы прарэзаныя асакой, палоскі вачэй.

— Прыйшоў? — спытаў, нікольку не здзівіўшыся, у Далібора.

— Прыйшоў,— сказаў княжыч.— Бедна ты жывеш.

— А навошта жыць багата? Думаеш, багаты і сыты шчаслівы? Бывае дзень, калі сытаму хочацца голаду. Але адашлі халопа. Не для яго вушэй наша з табой гаворка.

— Ідзі да коней,— загадаў Найдзёну княжыч.

— Не для сытасці жыве чалавек, а для любові,— прамовіў Валасач, калі халоп бясшумна знік.— Трэба сказаць сабе: «Я люблю няшчасных, люблю калекаў, люблю выкінутых у мора за борт карабля, непрыгожых і дужа прыгожых, слабых і дужа моцных».

— А які я? Слабы ці моцны? — перапыніў яго Далібор.

— Ты слабы, але будзеш моцны.

— Калі я буду моцны? — схапіў вешчуна за плячо Далібор.

Ды Валасач не спяшаўся з адказам. Кінуў у вогнішча сухую галінку, сказаў:

— За кожны жолуд з гэтага дуба мне жанкі з навакольных весяў курынае яйка даюць. Вантробы ахвярных жывёл я спальваю ў агні, а мяса ем. Тым і жыву.

— Не тое кажаш,— раззлаваўся Далібор,— навошта зваў мяне сюды?

Ад гневу ў яго пабеглі жаўлакі па шчоках. Чорныя вочы, здавалася, прабівалі вешчуна навылёт.

— Ну што ж,— урачыста ўзняўся Валасач са свайго сядалішча.— Чуй, святы зялёны дуб. Чуй, святы агонь. Чуй, неба. І чуй ты, княжыч Далібор. Наваградскі князь Ізяслаў Васількавіч не твой бацька, а ты не яго сын.

Сказаў ён гэта моцным голасам, рашуча, адчайнасмела, нібы паляцеў з гары. І зноў сеў, уталопіў вочы ў чырвоныя пялёсткі, што круціліся на чорных абгарэлых камянях. Далібор, аглушаны пачутым, таксама глядзеў на агонь. І чамусьці ўспаміналася яму, што нямчын, які мінулым летам прыязджаў з Рыгі, казаў, быццам у агні, у самым полымі, жывуць саламандры, жахлівыя чырванавокія стварэнні. Ні ў вадзе яны не могуць жыць, ні ў зямлі, ні ў зялёнай лістоце дрэў, а толькі ў агні. Вось і зараз пачварна крыўляецца, шчэрыць зубы з агню агідная саламандра. Вось яна паказала Далібору доўгі раздвоены язык. На тым языку ляжыць, перакочваецца гарачы іскрысты вугаль.

Княжыч падскочыў да вешчуна, схапіў загрудкі, аж у таго затрашчала кашуля, трасянуў, што ёсць моцы закрычаў надарваным голасам:

— Што ты сказаў?! Ды я цябе заб'ю!

Па шалёнаму позірку Далібора Валасач здагадаўся, што так яно і будзе, але прамовіў са спакойнай годнасцю:

— Смерці я не баюся, княжыч. Усіх жывых прыбярэ Пярун. Забівай, але спачатку паслухай, што я табе скажу.

Далібор, скрыгатнуўшы зубамі, піхнуў яго ад сябе, і вяшчун асеў каля дуба. З вялікай лютасцю княжыч падчапіў нагою, шпурнуў галавешкі з вогнішча. Яны раскаціліся па траве. Княжыч за неабгарэлы канец схапіў галавешку, тыцнуў ёй амаль у твар вешчуну.

— Кажы, а то вочы выпалю!

— Навошта [redacted] мне было гаварыць табе тое, чаго я не ведаю? — пачаў Валасач.— Ты сабе жывеш, я — сабе. Ты княжыч, высокага роду, я нікчэмны калека. Ты лётаеш пад воблакам, я поўзаю па зямлі. Дык слухай: ты не сын Ізяслава Васількавіча. Ты — Міндоўгаў сын. А маці твая княгіня Мар'я. Як ёсць, княгіня Мар'я. Слухай. Семнаццаць сонцаваротаў назад я прыслужнікам-вайдэлотам быў у самога Крыва-Крывейты ў Жамойці. Збег я [redacted] Наваградка ад папоў і князя і прыбіўся туды.

— За кожнае слова ты адказваеш мне сваёй выяй,— шпурнуў галавешку ў траву Далібор.

— Слухай. Замятня вялікая тады была ўсюды. З Рыгі і Мар'іна Гарадка* перлі рыцары, паход за паходам. Попел на лісцях і траве ляжаў у Жамойці, як снег. Прусы ўцякалі за Нёман. Яцвягі хаваліся ў пушчы, жыўцом закопваліся ў зямлю. Аўкштайты адседжваліся [redacted] дзецьмі і жонкамі ў сваіх балотных гарадах. У Літве рэзалі адзін аднаго Міндоўг і кунігасы Рушкавічы. Кроў не высыхала. Князь Ізяслаў уцякаў ад наваградскіх баяр і купцоў у Здзітаў. І дайшло тады да разумных людзей, што трэба, каб уцалець, агулам трымацца. З'ехаліся Ізяслаў [redacted] Міндоўгам, пацалавалі крыж хрысціянскага бога ў наваградскай царкве на вялікую згоду. А потым і да Крыва-Крывейты паехалі.

Валасач змоўк, як бы падавіўшыся.

— Гавары,— трасянуў яго княжыч.

— Прыехалі да Крыва-Крывейты, і святы вяшчун, бачачы, што ўжо рэкі цякуць не сінія, а чырвоныя, загадаў ім, Ізяславу і Міндоўгу, крэўным ланцугом злучыцца, абмяняцца на тры сядміцы жонкамі, каб нарадзілі ім жонкі сыноў. Клятву далі яны пад святым дубам, перад вачмі Пяркунаса, што так і зробяць. Сваімі

---

* Мар'ін Гарадок — Марыенбург, з 1309 года сталіца тэўтонскіх рыцараў.

вушамі чуў я гэту клятву, кладучы дубовае паленне ў вогнішча. Сваімі вачыма бачыў, як ішлі княгіні Мар'я і Паята да белых шатроў, каб выйсці адтуль праз тры сядміцы. І раз'ехаліся ад святога Зніча князі. І нарадзіўся ты ў Навағрадку, а Войшалк у Варуце.

— Войшалк? — перапытаў Далібор.

— Войшалк.

Вяшчун сарваў пук травы і выцер спатнелы твар. Пэўна, ад вялікага хвалявання выбіўся з сухога цела пот, а можа, і ад страху.

— Калі сказаў праўду, еш зямлю, на якой расце святы дуб,— пільна пазіраючы ў вочы Валасачу, загадаў Далібор.

Не міргнуўшы вокам, вяшчун узяў жменю шэрай лясной зямлі, праглынуў яе адным дыхам. Толькі травінка зачапілася на ніжняй губе. Далібор глядзеў на гэту травінку, на Валасачоў твар, забруснелы ад сонца, і не ведаў, што рабіць. Узвёў позірк угору, убачыў бясшумнае дубовае лісце, а праз яго — блакітныя бяздонныя яміны неба. Усюды была цішыня. Хоць бы хто крыкнуў, грукнуў, хоць бы рыпеў голлем дуб і рэзаў шчаку вецер. Была цішыня, а значыць, вяшчун казаў праўду. Княжыч абыякава, ужо не са злосцю, паглядзеў на яго і пайшоў ад святога дуба. Адпусціўшы халопа Найдзёна ў Новагародак, сеў на каня, павольна паехаў, а куды — сам не ведаў. У нейкую асінавую гушчэчу, у змрок ельнікаў, дзе ўсё заткана бледна-зялёнай заечай капустай. Там ляжалі агромністыя спарахнелыя дрэвы. Некаторыя, паваленыя калісьці бурай, віселі на плячах у сваіх суседзяў, не змогшы ўпасці на зямлю. Не адзін сонцаварот, згінаючыся, крэкчучы ад напругі, трымаюць на сабе жывыя дрэвы мерцвякоў. Конь, палахліва сапучы, правёз Далібора пад імі, прашыўся праз гусцеж нізкарослых бярозак, убіўся ў прыбалатак, падышоў да балота. Княжыч, як сонны, злез з каня, стаўшы па костачкі ў цёмна-рудую халаднаватую ваду. За некалькі сажняў ад яго на травяным гняздзе сядзела ружовадзюбая крыжанка. Убачыла чалавека, здранцвела, заплюснула вока.

Ён быў не тым, кім лічыў сябе заўсёды, лічыў вось да гэтай сустрэчы з вешчуном. Рукі, вочы, ногі былі тыя ж, а кроў была інакшая. Міндоўгава кроў цякла ў ім.

Заржаў конь, паклікаў гаспадара. Далібор, плюхнуўшы вадою, пайшоў да яго. І адразу ж сарвалася са свайго гнязда крыжанка.

Шмат што рабілася зразумелым княжычу, калі ён у глыбокім одуме ехаў да Новагародка. І непадобнасць іхняя [redacted] Някрасам, і тое, што маці, раззлаваўшыся, называла яго, здавалася, любімага сына, касавураю, і тое, што бацька іменна яго пасылаў у Літву да Міндоўга.

Ружовы попел хмар плыў над зямлёй. Мацнеў гул ветру ў навакольных лясах. Далібор заехаў у белы бярэзнік, які быў повен травы і кветак, сеў проста на зямлю. Конь пасвіўся непадалёку, лянiва адмахваючыся хвастом ад мух і камарэчы.

Прыкры ўспамін апёк раптам душу. Успомнілася княжычу, як сонцаваротаў сем-восем назад ён, забеганы за дзень хлапчук, прыйшоў да маці ў апачывальню, прылашчыўся да яе. Яна расчэсвала яму самшытавым грабянцом валасы, цалавала ў макаўку, і ён заснуў каля яе, і яму снілася нешта цёплае, нешта залатое. А ўночы цяжкія жорсткія рукі разбудзілі яго. Ён хацеў закрычаць, але ў апошні міг крык прыліп да гартані. Зусім побач [redacted] сабой ён адчуваў гарачае бацькава дыханне. Князь Ізяслаў, пераблытаўшы сына з жонкай, шаптаў п'янаватым голасам: «Мар'ечка, золатка, дзе ты тут?» І гарнуўся ўсё бліжэй. Як страла з лука, вылецеў Далібор [redacted] ложка. Чаму ўспомнілася такое? Чаму, як атручаная кветка, выплыла далёкая ноч з глыбінь памяці на паверхню юнай адзінокай душы?

Княжыч рэзка ўстаў, падумаў з пяклівай злосцю: «Княгінь, калі гэта палічаць неабходным баяры і святары, вядуць пакрываць, як кароў, вядуць да быкоў з суседняй дзяржавы». У адзін скок ён падбег да каня, з размаху гоцнуўся ў сядло, ды так, што бедны конь сеў на хвост. З усёй сілы Далібор шлёгнуў яго нагайкаю. Узляцеў на зялёную, парослую нізкім хвойнікам, выдму і пачуў галёканне людзей, голас сурмы. Яго шукалі. Ён не стаў крычаць у адказ, ціха паехаў насустрач людзям. Ехаў і гладзіў конскую грыву, нібы прасіў даравання за нагайку, чуў, як уздрыгвае конь.

— Вось дзе ты ездзіш, княжыч,— радасна сказаў Костка, параўноўваючыся з Даліборам, асаджваючы свайго каня.— А халопа Найдзёна ўжо б'юць лазою на княжым двары. Як уюн круціцца халоп, крывавай пенай абмываецца. Дужа залютаваў князь Ізяслаў Васількавіч, што халоп вярнуўся адзін, без цябе.

— А што са мной можа стацца, Костка? — уладным голасам перапыніў настаўніка Далібор.— Я не сысунок.

Лях уважліва паглядзеў на княжыча, усміхнуўся куточкамі вуснаў, нізка пакланіўся. Падумаў: «Малады орлік выпускае кіпцюры».

Непадалёку ад Навагародка напаткалі купку дзяўчат, з вянкамі на галовах, ва ўсім белым. Твары крамяныя, загарэлыя, валасы як лён і як крумкачова крыло. Паміж імі Далібор заўважыў Лукеру, сказаў:

— Хутка еду ў Літву. Што табе адтуль прывезці?

Лукера ўся ўспыхнула, закрыла твар далонямі. Яна ішла басанож, і Далібору адразу ж кінуліся ў вока маленькія, як выразаныя з беладрэвіны, ступні.

— Падвесак прывязі, княжыч! Бліскучых бубенчыкаў прывязі, якія там усе жанкі носяць! — весела заверашчалі новагараджанкі. Толькі адна Лукера маўчала. Лях Костка, нагнуўшыся з сядла, пагладзіў ёй галаву сваёй цяжкай рукой, прыцмокнуў языком.

— Якія ў цябе ясны влосы*. Ты — прыгажуня.

— А ты ўжо старушок,— раптам прамовіла Лукера і паказала Костку язык. Усе засмяяліся, і, мабыць, мацней за ўсіх Далібор.

— Вось ты якая,— трошкі збянтэжыўся Костка.— Не такі я стары, як табе здаецца. Але куды ты ідзеш? Няўжо разам з сяброўкамі будзеш паліць паганскае вогнішча на Цёмнай гары? Няўжо будзеш прыслужваць вешчуну? Ад яго ж смярдзіць балотам. Усе тыя, хто пакланяецца Перуну, або Пяркунасу, няшчасныя людзі. Працягні д'яблу пальчык, і ён схопіць цябе за валасы. А ты ж яшчэ маладзенькая.

З вялікай шкадобай Костка пазіраў на Лукеру. Дзяўчына разгубілася, не ведала, што рабіць.

— Я хрысціянка,— ціха сказала нарэшце.

— Хрысціянка? — строга ўсміхнуўся Костка.— Душа твая, як полымя ў вецер, кідаецца ва ўсе бакі. У нас, у ляхаў і мазураў, хрысціянкі ходзяць у святы касцёл.

— Гэта ў вас,— нечакана раззлаваўся Далібор і сваім канём адцясніў Косткавага каня ад Лукеры.— Гэта ў вас...

Лях з непаразуменнем глядзеў на княжыча, а той разгарачыўся, расчырванеўся, з вачэй так і ляцелі злосныя прамяні. Вось-вось за каўнер схопіць настаўніка. «Яна яго каханка»,— унікліва падумаў лях і адразу ж у глыбіні свайго сэрца пачаў шкадаваць Далібора, бо кахаць паганцаў — тое самае, што цалаваць у атрутнае джала гадзюк.

* Я с н ы  в л о с ы *(польск.)* — русыя валасы.

— Пойдзем, Лукера,— загаманілі дзяўчаты.— Пойдзем.

Узбіваючы босымі пяткамі лёгкі пыл, яны і Лукера разам з імі пашыбавалі да Цёмнай гары. Зноў пачуўся вясёлы смех, бесклапотны віск. Далібор адчуў, як быццам халоднымі абцугамі сціскаецца сэрца, прыкусіў губу. А вянок на галаве ў Лукеры сінеў васількамі, аддаляўся, знік у зяленіве лясной дарогі.

— Зачакаліся мы цябе, Глебачка,— кінулася на двары дзядзінца насустрач сыну княгіня Мар'я. Ён спакойна злез [redacted] каня, падышоў да яе, спакойна пацалаваў ёй белую халаднаватую руку. І княгіня сваім матчыным сэрцам здагадалася, што нябачная малюсенькая трэшчынка прабегла сёння па сынавай душы.

— Заўтра едзеце,— адразу ж сказаў Ізяслаў.— Даю табе з ваяводам Хвалам тры сотні вояў. І Костка з халопам Найдзёнам паедуць. Пасылай паперадзе дазоры, бо зноў неспакойна ў Літве.

У зборах, у вялікіх рыхтаваннях прабег акраец дня пасля таго, як Далібор вярнуўся ад вешчуна. Вастрылі мячы і дзіды, [redacted] каптуром набівалі аўсом паходныя торбы, чысцілі і кармілі коней. Коні на малако перамолвалі зубамі авёс, елі з прагнасцю, прадчуваючы далёкую цяжкую дарогу. Някрас цэлы вечар канючыў у бацькі, каб і яго адпусціў разам [redacted] Даліборам. Але князь так цыкнуў, так тупнуў нагою, што давялося, праглынуўшы крыўду, адступіцца. Малодшы княжыч пайшоў да маці ў святліцу і там, калі не было побач староннягa чужога вока, заплакаў.

Стомлены прыйшоў Далібор у апачывальню, распрануўся [redacted] дапамогаю надворнага хлапчука-халопа і як камень паваліўся на ложак. Пад падушкаю, напханай цецеручыным і курыным пер'ем, нешта муляла. Ён адкінуў падушку ўбок і ўбачыў невялічкую фігурку Перуна, вытачаную з мядова-жоўтага бурштыну, і нейкі цёмны металічны шарык. Загадаўшы халопу запаліць свечку, Далібор доўга круціў у пальцах таемны шарык і раптам здагадаўся, што гэта — жолуд, жолуд, адліты з жалеза. Які мудрагель зрабіў яго? Чыя рука і для чаго паклала пад падушку? Маці? Але яна б сказала. Ды і не будзе яна, спрадвечная хрысціянка, важдацца з нейкім жолудам і [redacted] выявай Перуна. Для яе гэта садомскі грэх. Хто ж тады надумаўся на такое? Сам князь? Халопы? А жолуд быў як жывы, асабліва ягоная шапачка-капялюшык. Кожную лусачку, кожную рысачку ахайна

і дужа старанна выштукаваў невядомы майстар. Была на жолудзе і зачэпінка, каб, працягнуўшы нітку або дроцік, насіць на шыі. Жолуд, вядома ж, быў абярогам. Але хто і ад чаго хацеў абараніць Далібора? Доўга не мог заснуць у гэту ноч княжыч, а калі ўжо сон склейваў павекі, ціха ўвайшла ў апачывальню маці, села побач з сынам, асцярожна пачала гладзіць яму галаву. У змроку ён не бачыў яе твару, хацеў прыкінуцца, што спіць, але пяшчотныя лёгкія пальцы, як ветрык, бегалі па ягоных валасах. У яго зашчымела на сэрцы. Ен моўчкі пачаў цалаваць матчыны рукі. З пякучай вастрынёй ён зразумеў, што наперадзе чакае невядомасць, трывожная дарога, можа, нават кроў і пакута, і ўсім тым, што з ім здарыцца, матчынаму сэрцу балець да астатняга ўдару. Ён пяшчотней і гарачэй пачаў цалаваць яе рукі. Яна заплакала. Ціхія цёплыя слёзы капалі яму на твар. Маці моўчкі паплакала, моўчкі пайшла. Лёгкі белы абрыс мільгануў у праёме дзвярэй. Зноў на ўсё і на ўсіх навалілася ноч. Некалі, праз доўгія дзесяцігоддзі, на парозе сваёй смерці, сын будзе праклінаць сябе за тое, што не шапнуў ёй тады: «Мамачка... мама».

Новым сонечным святлом успыхнула неба, і Далібор з Хвалам павялі дружыну з Навагародка ў бок літоўскіх лясоў. Там, дзе камень саступае дарогу кветкам і траве, адлягло ў Далібора ад сэрца, забылася начная туга. З прагнасцю глядзеў княжыч навокал. Усё яму было цікава: і ручаі, што, весела пазвоньваючы, беглі да Нёмна, і сем'і дубоў у полі, і зялёны мур лесу, які неўзабаве праглынуў дружыну. У апошні раз азірнуўся княжыч на Навагародак, убачыў бліскучы купал царквы, вежу замка, вал і каля яго ўскудлачанае ветрам дрэва. Ірвануліся зялёныя галіны — падалося, быццам нехта махнуў рукой на развітанне.

За адну-дзве вярсты паперадзе дружыны ішла чата* на самых хутканогіх конях. Калі дарога была вольная і ніпгго не насцярожвала чатнікаў, яны на лясных выспах запальвалі высокае вогнішча з белым дымам, калі ж надаралася нечаканая перашкода або мог пагражаць вораг — з чорным.

На другі дзень паходу пакалечыў нагу халоп Найдзён. Павёў паіць коней да лясной азярыны і трапіў у самалоў, які навагародскія паляўнічыя называюць

---

* Чата — разведка, дазор.

ступіцай. Самалоў, хітра зацярушаны травой і свежым лісцем, чакаў ваўка або лісіцу, але напароўся на яго няўклюдны халоп і ад страху заенчыў на ўвесь лес. Падбег Далібор з Косткам, спытаў, сціскаючы меч:

— Што з табою?

— Лесавік за нагу ўхапіў,— закочваючы вочы, млява адказаў Найдзён. Ад перапуду ён сеў на зямлю і стараўся не глядзець на сваю зашчэмленую дзвюма дубовымі дошкамі нагу, бо быў упэўнены, што яе трымаюць зубы лесавіка. Далібор са смехам абсек гнуткія арэхавыя пруткі, якімі ўпіраліся дошкі ступіцы. Халоп на адной назе рвануўся-паскакаў далей ад клятага месца. Усе, хто бачыў гэта, зарагаталі, закрычалі ўслед: «Ату яго! Ату!», але ваявода Хвал адразу ж павялічыў колькасць чатнікаў. Есць у лесе самаловы, значыць, недзе побач ёсць іхнія гаспадары. Найдзёну перавязалі нагу сухім чыстым мохам і белым кужалем, пасадзілі на каня, бо ісці не мог.

— Даруй мне, дурню, княжыч,— паныла прамовіў халоп,— цябе я павінен пільнаваць-дагледаць, а не ехаць на кані, як яловая калода.

— Кінуць бы цябе аднаго ў пушчы, каб камары ўсю кроў выпілі, тады б ты вочы займеў, бачыў бы, куды нагу ставіш,— за Далібора жорстка адказаў Костка. Хлоп пабялеў, са страхам паглядзеў на яго.

На сухім грудзе пасярод густога лесу напаткалі мноства вялікіх і малых камянёў, якія стаялі і ляжалі асобнымі купкамі.

— Баярскія магілы,— праляцела між воямі.

Далібор і раней бачыў такія камяні, калі разам з князем Ізяславам ездзіў у Веверэск.

— Які народ тут ляжыць? — спытаў ён у Косткі.

Лях толькі пацісную плячыма. Ніхто не ведаў гэтага. Ведалі толькі, што самыя вялікія камяні стаяць у галаве і ў нагах у нябожчыкаў.

— За грахі пакараны ўсе гэтыя людзі,— упэўнена сказаў вой па імені Вель.— Гасцяваў я ў вотчыне баярына Яромы. Дык там возера ёсць, глыбокае, дна не ўбачыш. Гаварыў баярын, што раней на месцы возера была дужа багатая весь. Прыйшоў туды бог у вобліку старога жабрака і папрасіў, каб накармілі яго. Але ніхто не злітаваўся над старым, крошкі ніхто не кінуў. Толькі адна жанчына пашкадавала жабрака, дала яму паесці і яшчэ бохан хлеба на дарогу. Разгневаўся бог на ўсіх веснякоў, не шкада яму было іх ні капачкі. Шапнуў ён

жанчыне: «Збірайся і хуценька сыходзь з вёскі, але, глядзі, не азірайся». Пайшла жанчына, ды ўжо каля самага лесу ўспомніла, што серп у хаце забылася, не сцярпела, глянула назад цераз плячук. І адразу на месцы весі вада раскінулася, возера забушавала, а сама жанчына валуном зрабілася. Жыхароў жа бог ператварыў у камяні і раскідаў на ўзгорку. І сёння яны там ляжаць, як вось гэтыя.

Вель наском скуранога бота тыцнуў абамшэлы камень.

— Як леў мясаедны карае шакалаў, так і Хрыстос пакараў недавяркаў,— выгукнуў Костка.

Усё глушэў лес. У некаторых месцах даводзілася мячамі і сякерамі прабіваць шчыліну ў непарушнай сцяне дзікага хмызу, каб мог прайсці конь. Воі стаміліся. Коні спуджана храплі. Пот выядаў вочы.

Але і ў гэтым, здавалася б, мёртвым гусцяжы пільны позірк мог заўважыць прысутнасць чалавека, які не аднойчы бываў тут, а можа, і зараз сачыў за новагараджанамі, схаваўшыся зусім побач. Пад рэдкім промнем сонца, што часам прарываўся ў лес, успыхваў, блішчаў дасюль непрыкметны ліст. А можа, гэта цікуе насцярожанае чалавечае вока? Пра тое, што гэты лес абжыты людзьмі, даводзіў і самалоў, на які напароўся Найдзён, і камень над ручайком, з якога Далібор глынуў цурок вады. Ужо нагнуўшыся, княжыч убачыў у траве на самым беразе камень. На камені невядомай рукой былі выбіты след босай чалавечай нагі і конская падкова.

— Вось гэта лес,— здзіўлена-разгублена сказаў Далібору Костка.— І звер не пераскочыць, і птах не пераляціць.

Зусім кепска зрабілася новагародскай дружыне, калі ўсчалася непагадзь. Якая ўжо дарога была ў лесе, але дождж разбіў і яе. Падвязалі коням хвасты, каб меней пэцкаліся ў гразі. Дождж дужэў, ляцеў і ляцеў на лес. Глухі бясконцы шум палохаў людзей і коней.

На начлег ваявода Хвал прыпыніў дружыну ў негустым бярэзніку, які светлым акном пракінуўся між старых змрочных елак. Зашыпелі кволыя вогнішчы. Усё было мокрае, слізкае, як балотны вуж. У змроку ўбачылі, як грузна прайшоў непадалёку велізарнейшы зубр. Тры чалавекі маглі б умясціцца між ягоных рагоў. Ён соп, ламаў галлё, злаваў на людзей, што парушылі адзіноту, але падбегчы да вогнішчаў, раскідаць,

растаптаць іх пабаяўся і знік за дрэвамі, як гара.

Найдзён дапамог Далібору распрануцца, пачаў сушыць над агнём адзенне, спачатку княжычава, потым сваё. Напялі пад густой елкай паходны скураны шацёр, заслалі зямлю веццем, лапнікам, а зверху паклалі ваўчыныя і мядзведжыя шкуры. Далібор, загарнуўшыся ў тоўстую ваўняную коўдру, чакаў, пакуль халоп прынясе смажаную тураву печань з малаком — любімую страву навагародскіх князёў. Потым разам з Косткам пачыталі вячэрнюю малітву, патушылі свечку, што, уторкнутая ў звярыны рог, цьмяна гарэла ля ўвахода ў шацёр. Лях пайшоў спаць у буданок, дзе павінен быў начлежыць і Найдзён. Далібор стомлена расцягнуўся на цёплых шкурах і раптам спіной адчуў нешта цвёрдае, круглае. Уздрыгнула сэрца. Ён хуценька ўсхапіўся, потым апусціўся на калені, пачаў у змроку абедзвюма растапыранымі далонямі асцярожна абмацваць сваё ложа. І адразу ж знайшоў тое, што шукаў. Яшчэ не бачачы рэч, якую трымаў у руцэ, княжыч ужо ведаў, што гэта жолуд. Зноў таемны жалезны жолуд! Спачатку хацеў паклікаць Найдзёна і загадаць, каб той запаліў свечку, але перадумаў. Бясшумна падкраўся да чырвоных вуголляў вогнішча, пачаў разглядваць знаходку. Гэты жолуд быў як брат таго, першага. Такі ж старанна адштукаваны, з прыгожай шапачкай-капялюшыкам. Цьмяна блішчаў ён у паўзмроку і, здавалася, халадзіў далонь. Хто ж падклаў яго? Найдзён? Костка? Навошта падклаў? Ва ўсім павінен быць сэнс. Дзеля чаго ж гэтыя загадкавыя жалуды ідуць следам за ім, Даліборам? Княжыч з раптоўнай яраснай злосцю размахнуўся, хацеў шпурнуць жолуд у цёмны начны лес, але ўжо на самым узлёце рукі нейкая сіла астудзіла, прытрымала. Ён уздыхнуў, пайшоў у роздуме да шатра, лёг. Гэты жолуд, вядома ж, абярог, ахоўнік чалавечы, нехта хоча ўратаваць яго, княжыча, ад злыбяды. На першы жолуд ён не звярнуў увагі, і вось з'явіўся другі. Выкіне гэты — падкладуць трэці... Абярогі трэба насіць на грудзях, ля сэрца, але Далібор не паганец, і на грудзях у яго хрысціянскі крыж. У цемры адшукаў княжыч сваю шырокую паходную дзягу, упрыгожаную наборнымі залатымі і срэбнымі бляшкамі, адшпіліў капшук для трута і крэсіва, запіхнуў жолуд туды.

Раніцай зноў рушылі ў дарогу. Праз нейкі час Найдзён паклікаў Далібора:

— Княжыч!

Далібор пад'ехаў на кані, убачыў, што халоп з прасветленым тварам, прыгнуўшыся, стаіць над вялізным мурашнікам.

— Што табе? — строга запытаў Далібор.

— Глядзі сюды,— прыцішыў голас Найдзён і яшчэ ніжэй схіліўся над жоўта-бурай гурбой мурахавіння. Дзіўнае з'явішча ўбачыў княжыч. Дзесяткі, сотні мурашак выпаўзалі з дзірачак-ходзікаў, і ва ўсіх на спіне былі крылы. Вось гэты светлакрылы рой пырхнуў з мурашніка, паляцеў.

— Раз на сонцаварот і мурашка бывае крылатая,— задаволена сказаў халоп, праводзячы позіркам бясшумны рой, потым растлумачыў Далібору: — Гэта мурашыныя князі і княгіні. Апусцяцца дзе-небудзь на зямлю, адгрызуць не патрэбныя болей крылы, выкапаюць ямкі і пакладуць туды першыя яйкі. Глядзіш, новы мурашнік, новы горад вырас. Раз на сонцаварот і мурашка бывае крылатая,— зноў з нейкай радасцю паўтарыў ён.

Далібор пільна паглядзеў на халопа і раптам уявіў, як няўклюдны, але крылаты Найдзён ляціць над лесам, над полем, над морам, ляціць, аддаляючыся ад яго, княжыча. «Паляцеў бы і нават не азірнуўся»,— са злосцю падумаў княжыч і загадаў халопу:

— Едзь за мною і нікуды не сунь свой нос.

Скончыліся адгор'і Новагародскага ўзвышша, пайшла лясістая раўніна. Стаялі доўгія спякотныя дні. Прахалодныя ж ночы былі кароткія, на дзве салаўіныя песні. Вось-вось павінна была быць рака Рута. Недзе тут у сваім горадзе сядзеў Міндоўг. Далібору не цярпелася ўбачыць грознага літоўскага кунігаса.

— Хутчэй,— пачаў падганяць ён ваяводу Хвала.

— Не трэба бегчы паперадзе сваіх коней,— строга і цвёрда адказаў ваявода і кусануў жаўтлявы вус, што азначала вялікую незадаволенасць.

— Але Костка кажа, што нам трэба рухацца як мага хутчэй, бо можам не заспець Міндоўга ў Варуце.

— Костка? — перапытаў Хвал і, нядобра ўсміхнуўшыся, выдыхнуў: — Па чым распазнаюць ляха? На чэраве вісіць бляха.

Злы быў ваявода на Костку, бо бачыў, што вялікую ласку і міласць мае той ад князя Ізяслава Новагародскага. Далібор хацеў гнеўным словам асадзіць наравістага ваяводу, але ў гэты самы час некалькі вояў схапілі свае лукі і з крыкам «Зязюля!» навялі іх на густалапую

вельмі высокую елку. Далібор яшчэ нічога не паспеў сцяміць, як з елкі, ломячы голле, гоцнуўся на зямлю дужы светлавалосы юнак. Ён адразу ж усхапіўся на ногі, хацеў ірвануць дубіну-мачугу, якая на скураной пятлі вісела за правым плечуком. Але яму заламалі рукі, адабралі мачугу, і ён толькі часта дыхаў. Вядома ж, гэта быў літовец. Мажны, шыракаплечы, з прамым тонкім носам, як амаль ва ўсіх ягоных аднародцаў. На ім была белая льняная кашуля з доўгімі рукавамі, якую літоўцы называюць маршкіняй. Кашулю падпяразваў вузкі скураны рэмень, акаваны бронзавымі бляшкамі. Пэўна, каб лаўчэй залезці на дрэва, літовец быў басанож, скураныя ж боты з высокімі халявамі перакінуў, звязаўшы вяроўчынай, цераз плячо.

— Каму служыш, «зязюля»? — запытаў у яго ваявода Хвал.

Ваявода, як і большасць бывалых мужоў-новагараджан, някепска ведаў літоўскую мову, ніколі не браў з сабой тлумача.

— Мой гаспадар кунігас Міндоўг,— адказаў светлавалосы юнак.

— Дым! — закрычалі раптам воі.

Усе ўзнялі галовы і ўбачылі, як з самай вяршыні елкі ўразаецца ў неба рог чорнага густога дыму.

— Ты запаліў? — запытаў ваявода.

— Я. Кунігас Міндоўг павінен ведаць, што да Варуты набліжаюцца чужыя людзі.

Далібор прагна ўслухоўваўся ў гаворку літоўца. Нейкія словы ён разумеў. Родным знаёмым святлом успыхвалі яны ў плыні чужой мовы. Так бывае ў вятрысты непагодлівы дзень, калі то выб'ецца на неба сонца, то зноў схаваецца за чарноцце хмар. Пэўна, праўду кажуць людзі, якія зведалі мудрасць старых пергаменаў, што многія вякі таму назад Літва, Новагародак і ўся руская славяншчына былі братамі па мове і па веры. Гэта было тады, калі аднолькавым галасам спяваў ім свае песні пракаветны лес, калі дзікія коні і дзікія каровы пасвіліся, непадуладныя чалавеку, у залітых сонцам сакаўных лугах. Гэта было тады, калі Пярун і Пяркунас сядзелі абняўшыся на высокай гары пад святым дубам, а ў паняволенай Рымам Іудзеі яшчэ не нарадзіўся Хрыстос.

— Мяне завуць Гінтасам. Я дружыннік кунігаса Міндоўга, а Міндоўг распачаў вялікую вайну супраць свайго брата кунігаса Даўспрунка,— гаварыў між тым

ваяводу Хвалу засмучаны юнак.— Калі я вярнуся ў Варуту, кунігас жорстка пакарае мяне.

— За што? — пацікавіўся Хвал.

— Я трапіў у палон да чужынцаў.

— Мы не чужыя,— запярэчыў Хвал.— Мы воі новагародскага князя Ізяслава Васількавіча. Не з мячом, а з мёдам, хлебам і соллю ідзём мы ў Літву да кунігаса Міндоўга, каб стаць братанічамі ■ ім, каб агульным шчытом прыкрыцца ад татарскіх арканаў і тэўтонскіх арбалетаў. Я дам табе срэбра, Гінтас. Я скажу кунігасу, што ты быў харобры, як пушчанскі тур, і вастравокі, як ястраб.

— Не трэба срэбра, бо ўсё яно належыць нашаму кунігасу. Аддайце мне мачугу,— папрасіў Гінтас.

Яму аддалі баявую дубіну, і ён пацалаваў яе. Доўгія валасы, сціснутыя на лобе і на скронях скураным раменьчыкам, узвіхурыла ветрам. Ён рэзка трасянуў галавой, адкідваючы іх ■ твару, і ва ўпор глянуў на Далібора. Такіх сініх вачэй княжыч яшчэ не бачыў. У Лукеры з вакольнага горада (Далібор адразу ўспомніў пра яе) вочы таксама былі сінія, нават іскрыстыя. Але там была мяккая цёплая сініна. У Гінтаса ж у позірку быў сіні лёд, сіні мароз. «Не адну дзявочую душу карэжыў ён такім вокам,— падумаў княжыч.— Пэўна, шмат літовачак уздыхае па ім». У астатнім жа, як прыкмеціў Далібор, малады літовец амаль нічым не адрозніваўся ад новагараджан. Гэта не татарын з Алтын-Арды*, ад якога за дзесяць вёрст пахне стэпам. Апрані яго па-новагародску, дай у руку дзіду, пасадзі на каня, і будзе хвацкім дружыннікам у князя Ізяслава. «Мы падобныя,— узрадаваўся свайму адкрыццю Далібор,— з аднаго лесу мядзведзі».

Чорны дым ад вартоўнага кастра, што запаліў Гінтас, заўважылі ў Варуце. Дружыну ваяводы Хвала, як толькі яна пачала падыходзіць да горада, перастрэлі конныя літоўцы. Вершнікаў было сотні чатыры, калі не болей. Яны размахвалі мячамі, мачугамі і па сваёй старадаўняй завядзёнцы пачалі браць новагараджан у кола, аточваць з усіх бакоў.

— Сам Войшалк вывеў дружыну,— спалохана сказаў Гінтас, едучы поруч з Даліборам.— Значыць, кунігас Міндоўг вярнуўся ў Варуту. Без сям'і, без сваіх сыноў ён нікуды не ездзіць, бо ведае: трапяць сыны

---

* Алтын-Арда — Залатая Арда.

ў рукі Даўспрунку — і костачкі ад іх не застанецца.

У маладога літоўца голас перасеў ад страху. Далібор са здзіўленнем пазіраў на яго. Няўжо гэты асілак, гэты сціпруёліс, як кажуць літоўцы, так баіцца кунігаса? Але не трэба хадзіць са сваёй свечкай у чужы манастыр. Кожнаму небу свая зорка свеціць.

Ваявода Хвал тым часам загадаў трубіць у трубы, біць у бубны, спыніў дружыну і ў знак міру і згоды злез з каня, выняў з похваў меч, уваткнуў яго ў зямлю. Войшалк з некалькімі сваімі вершнікамі таксама спешыўся. Гэта быў, калі меркаваць з першага позірку, Далібораў аднагодак, высокі, цёмнавалосы, са строгім загарэлым тварам і нечаканай мяккасцю ў пільных рухомых вачах. На галаве ў літоўскага княжыча прыгожа сядзела ваўняная зялёная шапачка, увесь край у якой быў пераплецены бліскучым бронзавым дротам у выглядзе ромбаў і трохкутнікаў. Грудзі ахоўвала жалезная з кароткімі рукавамі кальчуга. Паверх яе княжыч апрануў чырвоны, падбіты лёгкай белай футравінай, плашч, які зашпільваўся фібуламі на правым плечуку. Фібулы былі багатыя, буйныя, з галоўкамі ў форме макавых каробачак.

Далібор глядзеў на ладную паставу і прыгожае ўбранне Войшалка, і ўсё ці амаль усё падабалася яму ў ім. Асабліва ж кінулася ў вочы шапачка, мірная, хатняя. Побач сцяной стаяць суровыя воі ў жалезных шлемах і кальчугах, а на галаве ў княжыча, іхняга вадаса*, шапачка, як лясная бясклапотная птушка.

— Адкуль вы і да каго? — звонкім голасам спытаў Войшалк у Хвала і Далібора, што ўжо стаяў поруч з ваяводам.

Хвал разгладзіў скуранай пальчаткай вусы.

— Мы, як ты бачыш, княжыч, воі слаўнага Новагародка, слугі харобрага князя Ізяслава Васількавіча. Вось гэта,— ён паклаў руку на плячо Далібору,— новагародскі княжыч Глеб Ізяслававіч.

Далібор злёгку схіліў галаву. Войшалк пакланіўся ў адказ.

— А ідзём мы ў слаўны горад Варуту, да слаўнага кунігаса Міндоўга,— працягваў ваявода.— Прымі, княжыч, дарункі ад Новагародскай зямлі.

Пры гэтых словах дзецкія з малодшай дружыны прынеслі куфэркі з каштоўнымі камянямі і срэбрам,

* В а д а с (*літоўск.*) — правадыр, кіраўнік.

кіпы футраў чорных і рудых лісіц, багата аздобленыя чары для мёду і віна, лоўчых сокалаў, у клетках з меднага дроту, з атласнымі каўпачкамі на галовах, прывялі двух войскіх коней пад чырвонымі гнутымі сёдламі і шытымі залатой ніткай апонамі. Потым ваявода Хвал на шырокім квяцістым ручніку паднёс Войшалку меч, сказаў:

— Прымі гэты меч, гэты кардас, гартаваны на трох агнях, купаны ў чорнай, сіняй і чырвонай крыві. Няхай сагнецца ён толькі тады, калі вайдэлоты запаляць памінальнае жоглішча, калі іскры паляцяць разам з душой у неба, а смяротнае цела ляжа разам з вугалем, прыскам, канём і неперcase у зямлю.

У Войшалка радасна ўспыхнулі вочы. Ён пацалаваў меч, потым пацалаваў Хвала і Далібора, усклікнуў:

— Калі зазвоняць у звон ратны, устану я з гэтым мячом за Літву і Новагародак! Ідзіце ж да нас, нашы пабрацімове. Варута чакае вас.

І адразу ж, нібы пачуўшы словы Войшалка, за земляным валам і драўляным тынам Варуты ўдарылі калатушкамі па дубовых дошках, якія віселі на вяроўках, скручаных са звярыных жыл. Урачыста-трывожны голас біла паляцеў над ракой Рутай, над пушчамі і камяністымі выспамі. У кожнага з літоўцаў і новагараджан зрабілася трапятліва ў душы.

Міндоўгаў горад ужо чакаў іх. Пясчаная рака дарогі цякла да грознай дубовай брамы, што была ўрэзана ў вал. Брама шчацінілася даўжэзнымі ікламі дзікоў і ваўкоў. Як жалезныя цвікі, былі ўбіты яны ў пацямнелае ад дажджу і дыму дрэва. Выява Пяркунаса, выпілаваная з тоўстага дубовага камля, завяршвала браму.

Бог-грамавік, сціскаючы ў руцэ вогненную нябесную стралу, пранізліва глядзеў на ўсіх, хто ўязджаў і ўваходзіў у ягоны і Міндоўгаў горад. З двух бакоў брамы гарэлі нязгасныя вогнішчы, удзень і ўночы рабілася тут чорным прыскам дубовае стволле. Над вогнішчамі былі змайстраваны паветкі, каб ні дождж, ні вецер не затапталі святое ачышчальнае полымя. Вайдэлоты і вайдэлоткі ў белых адзежах лілі ў касцёр смалу-жывіцу, кідалі ламачча. Зніч, вечны агонь, не мог патухнуць, знікнуць, як не патухае сонца, як не патухаюць сёстры ягоныя, нябесныя знічкі, над Новагародкам і Літвой. Згарыць адна, але глядзі — ляціць услед за ёй другая, распырскваючы залатое святло

ў начным бяздонным небе. З цемры магіл бачыцца сынам наднёманскіх пушчаў гэта святло. Усходняе і заходняе неба азораны ім.

Непадалёку ад брамы стаяла дубовая бакшта* вышынёю ў пяць коп'яў. На яе ў адказны і ўрачысты час уздымаўся галоўны святар (а святаром у Варуце быў кунігас Міндоўг), каб аб'явіць волю багоў народу. Акрамя Пяркунаса, бога войнаў, гаспадара маланак і верхніх вод, тут шанавалі Калвеліса і Мянуліса, ■ таксама бога буры і ветру Вейяса. Пакланяўся мясцовы люд і Лаўме. Гэта багіня яркай незвычайнай прыгажосці жыла на воблаках і пасля дажджу распускала свой пояс — нябесную каляровую вясёлку.

Побач ■ бакштаю рос дуб, адзінае дрэва, якому дазволілі ўвайсці ў горад. У лютую навальніцу Пяркунас кінуў з неба стралу і апаліў дубу галаву. Дуб, узгорак, маланка, агонь, меч, конь — вось што спрадвеку было тут святым.

Толькі дзве душы ў паганскай Варуце таемна маліліся Хрысту: Міндоўгава жонка кунігайкшціене Ганна-Паята, дачка цверскага князя, і яе сын Войшалк. Была ў іх свая каморка, дзе вісела ікона і гарэлі васковыя свечкі і пра якую ведаў толькі Міндоўг. Даведаецца пра гэта і Далібор, але пазней.

Новагараджане злезлі з коней, прайшлі каля свяшчэнных вогнішчаў. Далібор чуў, як адзін з вайдэлотаў казаў, пазіраючы на полымя: «Хвала табе, Агонь, Сын неба, Бацька зямлі, разбуральнік цвёрдага, знішчальнік халоднага».

Варута стаяла на высокім рачным мысе, ад поля адгароджвалася валам, зробленым з дубовых і сасновых клетак-гародняў, якія былі з верхам набіты глінай і каменнем. Ля падножжа вала змяіўся глыбозны роў, напоўнены зеленаватай цёплай вадой. Там крумкалі жабы.

Вуліца, што вяла да двух'яруснага княжага церама, была высцелена шырокімі драўлянымі плахамі. Паабапал яе шчыльна мясціліся дамы баяр і старшых дружыннікаў, майстэрні рамеснікаў. Халупкі чэлядзі ляпіліся да княжага церама, як лепяцца малюскі-прысмочкі да карабельнага днішча. Тут жа была вялікая стайня для войскіх коней.

Далібор разам з ваяводам Хвалам і Косткам ішоў да

---

* Бакшта — вежа.

Міндоўга. Неўзабаве ён павінен быў убачыць грознага кунігаса, глянуўшы ў вочы якому, многія, калі верыць чуткам, трацяць прытомнасць.

На вялікі здзіў, Міндоўг сустрэў новагараджан не ў сваім шыкоўным прасторным цераме, а ў звычайным нумасе, у якім спрадвеку жылі і жывуць тыя ■ яго аднародцаў, што ходзяць за сахой. Сціплы нумас, драўляны, з чатырохсхільнай саламянай страхой, стаяў, прытуліўшыся да сцяны багата аздобленага церама. Новагараджане пераглянуліся. Костка хмыкнуў у вус, шапнуў:

— Мядзведзь, як яго ні ваб, усё роўна прэцца ў сваю бярлогу.

«Незнаёмаму чалавеку глядзяць спачатку на вочы, потым на рот»,— успомніў Далібор, калі апынуўся перад Міндоўгам. Вочы ў кунігаса былі рэдкага чорна-зялёнага колеру, крышку прыжмураныя і такія вострыя, такія пякучыя і неадчэпныя, аж рабілася вусцішна. Яны, як цвікі, даставалі да самага дна душы. Пра людзей з такім позіркам кажуць, што маці, нарадзіўшы, купалі іх у кіпетні. Губы кунігас меў чырвоныя, таўставатыя, адтатураныя, перабітыя зверху ўніз баразёнкамі-маршчынамі. Цёмная з рудой падпалінкай барада аблямоўвала смуглы твар. Калі ўвайшлі новагараджане, Міндоўг калыхаў у калысцы свайго самага меншага сына Руклюса, які жыў яшчэ толькі першае лета. Калыска была зроблена з двух лукаў, абцягнутых цёплай мяккай аўчынай, і падвешана да столі нумаса на срэбным круку. Руклюс якраз плакаў, тоненькім галаском выводзіў нешта сваё, дзіцячае. Адкуль было ведаць яму, немаўлёнку, што люляе яго, хоча, каб ён заціх, заснуў, самы суровы чалавек Літвы? Разгубленыя мамкі-карміцелькі безгалосай анямелай купкай стаялі за спіной у кунігаса. З якой радасцю кінуліся б яны супакойваць маленькага княжыча і супакоілі б, развяселілі, зацалавалі, але, як скала, узвышаўся між імі і калыскай Міндоўг. Яны былі ціхенька аб нечым зашапталіся, ды азірнуўся Міндоўг, і гаворка, як абрэзаная нажом, спынілася.

«Няўжо гэты чалавек мой бацька? — з хваляваннем, з нейкай пакутаю думаў Далібор, абмацваючы насцярожаным позіркам не дужа буйную паставу кунігаса.— Няўжо часцінка яго крыві цячэ ўва мне? Ен згінае людзей не цяжкай рукой, а пякучым вокам. Гэта пра яго казаў Гінтас: «Бліжэй да князя — бліжэй да смерці».

Міндоўг між тым, раззлаваўшыся, адпіхнуў ад сябе калыску, яна паплыла, паляцела, і з яе ляцеў плач малога Руклюса. Карміцелькі адразу ж, як спушчаныя са шворкі, рынуліся да калыскі.

Выйшлі з нумаса на двор, і там, стоячы на ганку церама, варуцкі кунігас прыняў дарункі Новагародскай зямлі. Было відно, што яны яму спадабаліся. Ен заўсміхаўся, чорна-зялёныя вочы пасвятлелі.

— Я таксама шчодра адару вас, новагараджане,— прамовіў Міндоўг і запытаў у Далібора:

— Як жыве мой брат князь Новагародка Ізяслаў?

— Князь Ізяслаў шле табе вітанне, харобры кунігас,— хвалюючыся, адказаў Далібор.— Ён загадаў перадаць табе, што Новагародак і Літва — два жолуды з аднаго святога дуба, што супроць злыбяды, супроць варожай сілы мы павінны стаяць разам.

Княжыч з вялікай прыкрасцю адчуў, што голас ягоны нечакана ўздрыгнуў, абсекся і на апошніх словах як бы вільнуў убок. Так ранняй вясною па адталым снезе плывуць у бок з наезджанай каляі цяжка гружаныя сані. «Няпраўда, што ён мой бацька,— раптам падумаў Далібор.— Гэта ўсё наплёў, выдумаў вяшчун. Вярнуся ў Новагародак і адкручу яму, як дурному пеўню, галаву. Я зусім не падобны на Міндоўга, ні кропелькі. Калі б ён быў маім бацькам, ён бы ведаў гэта, ён бы неяк глянуў на мяне, сказаў нешта асаблівае...»

— Добрыя словы перадаў ты мне, княжыч,— павольна вымавіў Міндоўг.— Ад Нёмана да Рубона грыміць слава Новагародка, усе баяцца мяча князя Ізяслава. Хадзіў я з тваім бацькам на Мазоўшу, ведаю сілу новагародскіх дружын. У маёй Літве сёння кроў цячэ, як балотная вада. Я, кунігас, у лесе, як мыш у скрыні, хаваюся ад сваіх ворагаў.

Ен скрыгнуў зубамі.

— Мой брат, гнайнавокі Даўспрунк, са сваімі неданоскамі-сынамі, Таўцівілам і Эдзівідам, хоча мяне, як лася, загнаць у лоўчую яму, хоча, каб я хрыпеў, віўся на вострых коллях, што праб'юць мне грудзіну. Разам з бязвухім Выкантам, а вуха Выканту конь зжаваў, калі ён, п'яны, як падла, валяўся на снезе, хоча Даўспрунк узяць Літву, усю Літву.

Міндоўг трасянуў кулакамі.

— Хутчэй Нёман пацячэ назад, чым я скаруся ім. Добрыя словы прынёс ты мне, княжыч Глеб. Меч

Навагародка і мой меч скрышаць усё. Дай я цябе пацалую за гэта.

Ён у міг вока скокнуў з ганка, абшчаперыў Далібора моцнымі чэпкімі рукамі. Княжыч як знямеў ад неспадзяванкі. Цвёрдыя вусны Міндоўга, ягоная жорсткая чорна-рудая барада каўзануліся па шчацэ. І тут Далібор убачыў такое, ад чаго забілася сэрца, а ў горла быццам сыпанулі гарачым пяском. На бугрыстай загарэлай шыі кунігаса на танюсенькім срэбным ланцужку вісеў жалезны жолуд, такі самы жолуд, што ляжаў у кашпуку ў Далібора. Яны былі падобныя, як дзве пчалы [redacted] адной борці. У княжыча закружылася ў галаве, і ён, каб не ўпасці, сеў на ганак церама. «Напалохаў літоўскі мядзведзь дзіцяня»,— адразу ж падумаў Костка і, не дужа цырымонна адсланіўшы плечуком Міндоўга, кінуўся да княжыча. Але Далібор ужо авалодаў сабою, суха сказаў Костку:

— Стой на сваім належным месцы, калі размаўляюць кунігас Літвы і навагародскі княжыч.

## IV

Міндоўг надумаў аб'яднаць пад кроквамі, пад дахам адной дзяржавы ўсіх тых, хто пакланяўся Крыва-Крывейце, звязаць у адзін сноп каласы, якія дасюль раслі паасобку. Літва, Жамойць, Яцвягія, Земгалія, Прусія са сваімі шматлюднымі землямі не давалі спакою кунігасу, які пакуль што сядзеў у маленькай драўлянай Варуце і ледзь пасняваў адбівацца ад суседзяў-аднародцаў. Яны лезлі [redacted] усіх бакоў, таптаталі ягоныя нівы, забівалі або выводзілі з палонам ягоных людзей, палілі каймасы*. Ён быў раз'юшаны, як параненны зацкаваны дзік. Апошнім часам бясконцая барацьба зрабілася такой крывавай, што, калі ён засынаў, яму сніліся чырвоная трава, чырвоныя дрэвы, на якіх раслі чалавечыя чарапы.

Ці задумваўся ён над тым, якую дзяржаву хоча ўзгадаваць і як цяжка гэта будзе? Незадоўга да яго велізарную дзяржаву стварылі Чынгісхан і Батый, заліўшы крывёй Азію, растаптаўшы сваёй конніцай трэць Еўропы. Яна была як перакаці-поле, гэта дзяржава,— кацілася з усходу на захад, падмінаючы

---

* **К а й м а с** *(літоўск.)* — вёска.

пад сябе ўсё жывое, захопліваючы ў свой нястрымны рух шматлікія плямёны і народы. Вялікага чалавечага стогну і енку каштавала яна, і сам Чынгісхан, «патрасальнік Сусвету», як называлі яго, калі паміраў, загадаў, каб ягоную магілу не маглі адшукаць нашчадкі. «Патрасальніка» закапалі пасярод шырокага стэпу, а на тым месцы, дзе ён нарэшце супакоіўся, прапусцілі тысячныя табуны коней. Ні каменя, ні кургана не пакінуў пасля сябе хан. Дарэчы, амаль такім самым чынам схаваўся ад нашчадкаў пасля сваёй смерці заваёўнік Рыма Аларых. Перакрылі раку плацінаю, на дне выкапалі магілу, а потым зноў пусцілі ваду. Плюскоча рака, бягуць хвалі, і хто здагадаецца, што на ціхім дне, куды ніколі не кіне свой позірк сонца, вечным сном спіць той, хто з аднолькавай асалодай крышыў камень крапасных сцен і людскія косці.

З усіх бакоў астравок зямлі, на якім сядзеў Міндоўг, акружалі моцныя, ваяўнічыя суседзі — Полацк, Менск і Навагародак, Нальшанская зямля, дзе ўладарыў Доўмант. Гэта было першае, самае цеснае кола. Але варуцкі кунігас сваім вострым зрокам воя і дыпламата бачыў і другое кола, больш моцнае і шырокае. На поўдні, за Пінскімі балотамі, Галіцка-Валынскае княства, землі якога аб'яднаў сваёй дзяржаўнай рукою Даніла Галіцкі. На захадзе, за Жамойцю, дзе ў сваіх гарадах сядзелі шматлікія кунігасы і кунігасікі, стаў на жалезныя ногі Тэўтонскі ордэн. Не пашанцавала прусам, гэтым «блакітнавокім людзям з ружовымі шчокамі і доўгімі валасамі», як пісаў пра іх Адам Брэменскі. Уважлівы нямецкі храніст адзначыў, што прусы вельмі чалавекалюбівыя, ахвотна дапамагаюць тым, хто церпіць бедства на моры або падвяргаецца нападу піратаў. Яны ядуць конскае мяса, кабыліна ж малако і кроў ужываюць як хмельнае пітво. Срэбра і золата прусы шануюць не дужа. Зусім не шануюць незвычайна багатыя футры, якіх маюць незлічонае мноства, абменьваючы іх на адзенне з воўны. Не пашанцавала ж прусам у тым, што да іх падсуседзіўся Тэўтонскі ордэн і, як рысь упіваецца ў шыю ласю, упіўся ў прускія землі. Там зараз ідзе бясконцая вайна. Калі прусы не вытрымаюць, Ордэн выйдзе на Нёман, і Крыва-Крывейта твар у твар сутыкнецца з лацінскім Хрыстом. Ён ужо з ім сутыкнуўся, бо кінуў святы дуб у Ромаве і пабег у жамойцкія пушчы шукаць іншы.

З далёкага поўдня чуецца дыханне Залатой Арды.

Стэпавікі зламалі хрыбетнік Кіеву, садралі залатыя дахі і купалы з рускіх цэркваў. Кожны міг, як шалёная нястрымная вада, іхнія тумены могуць рынуцца з Дняпра на Нёман. Есць такая жахлівая смерць, такое пакаранне — чалавека расціскаюць дзвюма тоўстымі дубовымі дошкамі. Міндоўг заўсёды адчуваў сябе, сваю сям'ю і свой народ між гэтых няўмольных дошак Ордэна і Арды. Спыніць іх, зламаць іх можна, толькі сабраўшы вялікую супольную сілу. Але дзе ўзяцца той сіле, калі ў маленькай Літве, у гэтым чырвоным Міндоўгавым яблычку, у самай сярэдзіне завяліся ненаедныя лютыя чэрві. Яны грызуць яблык, сэрца кунігасава грызуць. Даўспрунк з Таўцівілам і Эдзівідам, Выкант, Рушкавічы, Булевічы... Праўда, Рушкавічаў Міндоўг знішчыў, хоць і ездзіў з імі ў Галіч на перамовы [redacted] рускімі князямі. Знішчыў з незвычайнай жорсткасцю. Перад смерцю загадаў у кожнага з мужчын дома Рушкавічаў выразаць [redacted] жывога цела па кавалку мяса. Мяса вы́разалі, падсмажылі, і было загадана, каб брат еў мяса брата. Баючыся новых, яшчэ больш жудасных пакут, Рушкавічы зрабілі такое і былі забіты мачугамі. Толькі багам і кунігасам дадзена высокім небам права дараваць людзям жыццё або смерць. Гэта Міндоўг ведаў цвёрда, гэтаму быў прывучаны змалку. Не выпадала быць добрым, добрым, як дзіця ў калысцы. Жыццё вучыла насцярозе і жорсткасці. Заставаўся пад сонцам дужэйшы або той, хто ўмеў вельмі хутка бегаць, уцякаць, не пакідаючы нават на зямлі слядоў. Міндоўг з агідаю думаў пра палахліўцаў. Ен любіў моцных душою людзей. Яны былі падобныя на агонь, што крушыць усё жывое на сваёй дарозе. Ен сам імкнуўся зрабіцца чалавекам-агнём, якога баяцца ворагі і слухаюцца сябры. Жорсткасць была разліта ў прыродзе. Маланка бязлітасна шчапала дубы. Воўк рэзаў авечку. Снег валіўся на цёплыя вясновыя кветкі. Пярэстая рысь, тыгр мясцовых лясоў, душыла казуль і ласіц. Трохгадоваму Міндоўгаваму брату Мантвілу певень, якога прывезлі ад індусаў, выдзеўбнуў зрэнку ў воку — падумаў, што гэта бліскучы каменьчык. Нельга было раскісаць, як сыраежка пад дажджом, чакаць, пакуль нехта прыйдзе і прыкончыць цябе самога і ўсіх тваіх сямейцаў. Варуцкі кунігас не аднойчы пасылаў сваім ваяўнічым суседзям борць пчол. У Літве, калі хочуць пасябраваць, заўсёды дораць пчол. Пэўна, таму, што пчала працавітая, багатая і ніколі не дасць сябе

ў крыўду. Тыя пчол ахвотна бралі, але ўсё роўна пплялі змовы, шкодзілі на кожным кроку. Апошнім разам накіраваў Міндоўг да Таўцівіла свайго лепшага ваяводу асілка Гедруса. Таўцівіл разам з Эдзівідам шчодра частавалі ваяводу мёдам і смажанай зверынай, да нябёс праслаўлялі Міндоўга, а потым Таўцівілаў чалавек (нават імя яго невядома) абняў захмялелага Гедруса, спытаў: «Дзе ў цябе сэрца?» — «Тут,— адказаў даверлівы асілак, нават ляпнуўшы рукою па сваёй левай грудзіне. І Таўцівілаў чалавек па самую рукаятку ўсадзіў доўгі нож дакладна ў тое самае месца. Нечаканая смерць ваяводы ўразіла Міндоўга. «Сам сябе праспаў»,— такія былі першыя словы кунігаса, калі ён дачуўся, што Гедруса ўжо няма на гэтым свеце. Зноў полымя вайны пакацілася па Літве. Іскры ж ад яе ляцелі ў Дзяволтву, Дайнаву, Нальшу, усюды, дзе ляжала зямля Зялёных Дубоў і Чорных Вужоў. Міндоўг пачаў ліхаманкава ўмацоўваць Варуту і свае шматлікія гарадзішчы-пількальнісы, бо ўжо пабеглі па ўсіх сцежках варожыя людарэзы і людаловы. Да гэтага сцены сваіх умацаванняў літоўцы рабілі з дрэва, пяску і каменняў, але камянні сыпалі проста кучаю, бо не ведалі, як злучаць, звязваць у адно цэлае. Новагародак адкрыў ім сакрэт вапнавага раствору, цамянкі. Таўцівіл з Эдзівідам, апёкшыся каля такіх сцен, пачалі паліць навакольныя весі, браць у палон Міндоўгавых коймінцаў*. Варуцкі кунігас адказваў тым жа і бяссоннымі начамі думаў, шалеючы ад гневу: «Пачакайце, хутка так удару — чорныя іскры пасыплюцца ў вас з вачэй». Вось чаму з такой радасцю сустрэў ён дружыну, што прыйшла з Новагародка. Цяпер удача і ўлада не вылузнуцца з ягоных рук, бо моцнае плячо падстаўляў Ізяслаў Новагародскі.

Весела было ў Варуце наступнай ноччу. На вялізных вогнішчах смажыліся дзікі і ласі. Міндоўг з Войшалкам і сваімі ваяводамі, Далібор з Хвалам і Косткам сядзелі за багатымі сталамі пад адкрытым небам, пілі мёд, рамейскае віно і светлае літоўскае піва-алус. Міндоўг са смакам еў ласіныя губы ў воцаце, кідаў хуткія позіркі то на Далібора, то на Хвала, і ў чорна-зялёных вачах яго ўспыхвалі яркія бліскаўкі.

— Чаму сам князь Ізяслаў не прыехаў? — спытаў ён у Далібора, паклаўшы цяжкую руку яму на плячо.

* **Коймінцы** — нявольныя людзі, якіх гаспадар надзяляў зямлёй.

— Да князя Данілы Раманавіча ў Галіч збіраецца,— адказаў Далібор.

Кунігасава рука сціснулася ў кулак, гэтым кулаком ён шкрабануў княжычу па хрыбетніку, быццам выпрабоўваў на моц. Потым ускочыў з-за стала, загадаў Войшалку:

— Кліч дружыннікаў! Хай новагараджане паслухаюць нашы дайны!

Прыйшло чалавек дзесяць — пятнаццаць, сталі паўколам, заспявалі. Пад начным небам, пад срэбнадымнымі воблакамі шырока паплыла песня:

Сёння п'ём мы піва,
Ну, а заўтра выйдзем
На рубеж угорскі.

Вінныя там рэкі,
Яблыкі на дрэвах
Чыста залатыя.

Міндоўг падбег да спевакоў, ушчаміўся між імі, паклаўшы ім рукі на плечы, заспяваў-запытаў:

— Што ж рабіць мы будзем
На зямлі угорскай?
— Мы збудуем горад
З камянёў каштоўных,
З яркіх самацветаў,—

адказаў хор.

— А калі ж мы прыйдзем
З той зямлі угорскай? —

зноў запытаў кунігас.

— Калі ў сінім моры
Зашапочуць дрэвы,
Зацвітуць каменні,—

паляцела ў чорную ноч, паляцела да зорак. Расступіўся, раскалоўся змрок, і ў кожнага, хто слухаў песню, пранеслася ва ўспамінах, як вогненны шар маланкі, уласнае жыццё ад самага пачатку да вось гэтай песні, у якой абудзіліся ўсе выявы зямлі: таемны лес, глыбозная вада, крыкі-шэпты прыроды. Далібор убачыў расахатую бярозу над пясчанай туманнай дарогай, кроплі расы на кветках, дзявочую постаць ва ўсім белым. Туман цёк, наплываў на дзяўчыну, вось толькі тоненькая рука, як крыло птушкі, мільганула ў хвалях шэрага туману і знікла. Дзе гэта было? Хто гэта быў?

Зноў селі за багатыя сталы. Міндоўг быў дужа вясёлы, усмешлівы, шмат еў і піў. Чаляднікі падавалі смажаных качак і гусей, вэнджаных вугроў, халодныя цялячыя языкі.

— Есці ўжо няма куды, а вочы ядуць,— задаволена выгукнуў адзін з літоўскіх ваяводаў, і ўсе засмяяліся. Але Міндоўг раптам пацямнеў у твары, схапіў ваяводу за доўгія валасы, тыцнуў яго тварам у тлустыя кавалкі смажаніны, закрычаў:

— Распусціў чарава! Помніш, як мы галадалі над ракой Нявежай? Як кару грызлі? Як лівонцы кідалі нам цераз вал дохлых кошак?

Ён перакуліў стол, пайшоў у змрок, апусціўшы галаву. Нечаканая змена ў настроі кунігаса перапалохала чаляднікаў, здзівіла навагараджан. Толькі ваявода, быццам нічога не здарылася, спакойна сядзеў на кляновай лаве з перапэцканым тварам. Па шчоках цяклі бліскучыя ручайкі. І не слёзы гэта былі, а гусіны тлушч.

— Ідзі сюды, княжыч,— паклікаў Далібора Міндоўг. Калі Далібор падышоў, горача схапіў яго за плячук, загаварыў: — Я самы моцны і самы багаты ў Літве. У мяне ёсць рабы, у мяне ёсць зямля. Мае коймінцыаруць на валах, а не на худых конях, як у Даўспрунка. У мяне тысячы сярпоў і сох, а кавалі куюць лепшыя баявыя сякеры, лепшыя, чым у лівонцаў. Мае людзі вязуць за рубеж футравіну, якой дзівяцца Рым і Брэмен. Вы ў Новагародку моліцеся пры свечках, зробленых з майго воску. Ты верыш мне? — запытаў ён раптам.

— Веру,— адказаў Далібор.

— Літву хачу бачыць моцнаю, як святы дуб, пад якім сядзіць Крыве,— казаў далей варуцкі кунігас, і чорна-зялёныя вочы натхнёна свяціліся.— Усіх, хто пакланяецца Пяркунасу, хачу сабраць пад сваім сцягам. Ты верыш мне?

— Веру,— зноў адказаў новагародскі княжыч, бо што інакшае мог ён сказаць. Гэты чалавек быў як магніт, як бераг, да якога, хочуць яны ці не хочуць, але абавязкова павінны прыплыць некалі ўсе чоўны. Той жа, хто не прыплыве, ляжа мерцвяком на дно.

— У мяне шмат валоў, і я сам раблю, як вол. Хіба гэта дрэнна, княжыч? — спяшаючыся, гаварыў Міндоўг.— Калі я караю ворагаў, здраднікаў, адступнікаў, калі я на сваю зялёную зямлю лью іхнюю чорную кроў, я мацую Літву. Хіба гэта дрэнна?

«Ён размаўляе са мной, як размаўляў бы са сваім духоўнікам, калі б быў хрысціянінам,— здагадаўся Далібор.— Ён хоча аблегчыць душу, а тут, у Варуце, няма перад кім — яго або баяцца і, як рабы, поўзаюць каля ягоных ног, або не жадаюць зразумець, хоць прыкідваюцца, што згодныя з кожным кунігасавым словам. Ён — няшчасны». Навагародскі княжыч, зрабіўшы такое адкрыццё, паўжыцця аддаў бы, каб прасвятліць яшчэ адну пякучую таямніцу — даведацца, ці родная ў іх кроў. Але як разблытаць і вымудрыць такое? Не спытаеш (вочы ў вочы) у кунігаса. Міндоўг, як баявы сокал, пэўна, бачыў на сваім жыцці нямала светлых саколак. Але ж адна з гэтых саколак, калі верыць праклятаму ведзьмаку з Цёмнай гары, княгіня Навагародская. Як падступіцца да гэтай загадкі?

Калі пакладаліся спаць, прысніўся Далібору нейкі заблытаны цьмяны сон. Убачылася яму дрымотная пушча — мох спаўзае сівымі вужакамі са старых дрэў, пахне кіслай цвіллю, на вільготнай зямлі пад яловымі лапамі ляжаць ірваныя плямы нняркага нежывога святла, чуецца густы і трывожны шум, але невядома, што шуміць, бо ні лісцік, ні іголачка, ні травінка наўкол не зварухнуцца. У гэтай пушчы Далібор як у бяздонным калодзежы. Крычы ні крычы, слабы голас вяртаецца назад, адбіўшыся ад стромкіх слізкіх ствалоў. Мноства пнёў, з'едзеных старасцю, аплеценых срэбна-шэрымі ніткамі моху, у гэтай пушчы. І ўсюды стаяць шкілеты велізарных зуброў, ласёў і дзікоў. Толькі жоўтыя косці стаяць, між якіх журботна свішча вецер. Чаму яны не рассыпаюцца, не па́даюць? Якая сіла трымае іх? Страшна Далібору. І раптам аднекуль з'яўляецца жвавая птушка, сінякрылая сойка. Яна лётае над самай галавой і нібы кліча за сабою. Далібор, спатыкаючыся, бяжыць за сойкай, разумее, што толькі яна выратуе яго, выведзе з жахлівай бясконцай пушчы. І вось ужо святлее наўкол, ажывае душа, нібы кветка на сонцы. Птушка вылётвае на шырокую паляну, дзе ўсё заліта гарачымі промнямі, дзе на невысокім затравелым пагорку расце дуб незвычайнай велічыні і моцы. Далібор здагадваецца, нібы нехта шапнуў на вуха, што перад ім — князь дубоў. Сойка з усяго лёту б'ецца аб жалезную дубовую кару, чуецца трэск, успыхвае іскрысты ярка-белы клубок святла, і перад княжычам стаіць Міндоўг. «Бачыў звярыныя шкілеты ў пушчы?» — пытаецца кунігас. «Бачыў»,— адказвае спалоханы княжыч. «Там

ёсць і чалавечыя косці. Там ёсць косці Рушкавічаў». Міндоўг захліпіста смяецца, задраўшы ўгору цёмную з рудой падпалінкай бараду. Потым жылістай моцнай рукою згінае пругкі дубовы сук. І Далібор бачыць на тым суку жалезныя жалуды з меднымі лускаватымі шапачкамі-капялюшыкамі. Яны аж гараць на сонцы, слепяць вочы. Увесь дуб абсыпаны імі. «Вось мая сіла»,— з вялікай лагодай у голасе кажа Міндоўг і гладзіць іх, як гладзяць маленькіх дзетак. Раптам у кунігасавым позірку ўспыхвае зласлівая чорная маланка, твар перакошваецца, вочы, здаецца, вылузваюцца з вачніц. «Не хапае аднаго! — крычыць ён з найвялікшым гневам.— Кожны дзень я іх лічу. Не хапае аднаго жолуда! Ты сарваў!» Ён кідаецца на размяклага ад жаху Далібора і пачынае душыць яго. А над плячом у кунігаса пырхае сінякрылая сойка, задаволена смяецца і кажа чалавечым, дзіцячым, галаском: «Аддай мне яго галаву, я занясу яе ў сваё гняздо».

Далібор усхапіўся са звярыных шкур, на якіх спаў. Сэрца аж выломвалася з грудзей. Над Варутай плыло мяккае ранішняе сонца. Звонка білі ў жалезныя кавадлы кавалі.

Міндоўг з Войшалкам, засяроджаныя, маўклівыя, ужо чакалі навагародскага княжыча. Халоп Найдзён паліў яму са срэбнага рукамыя на рукі, паднёс белы льняны ручнік, і, нават не паснедаўшы, не кінуўшы крошкі хлеба на зуб, Далібор пайшоў глядзець, як літоўцы ўмацоўваюць сцены сваёй Варуты. Каб пачуваць сябе спакойным у час наездаў-нападаў Таўцівіла з Эдзівідам, Міндоўг загадаў павялічыць таўшчыню і вышыню сцен. Сотні коймінцаў пад наглядам кунігасавых дружыннікаў цягалі з лугоў і палёў велізарныя камяні, seклі дрэвы, капалі пясок і гліну. Яны працавалі амаль без перадыху. Толькі тады, калі дзённая спёка стане асабліва бязлітасная, іх ненадоўга адпусцяць у цянёк, дадуць па кавалку хлеба са скрылькам мяса і па кварце халоднай вады.

Убачыўшы кунігаса, коймінцы здзерлі з галоў ваўняныя шапкі і саламяныя капелюшы. Спіны былі мокрыя ад поту. Міндоўг строга паглядзеў на сваіх падуладнікаў, сказаў:

— Марудна працуеце.

Потым павярнуўся да дружыннікаў, загадаў:

— Як скончаць работу, дайце кожнаму па дзесяць гарачых кіёў. Лянівыя рабы мне не патрэбны. Шкуру

спушчу з усіх, але Варуту зраблю непрыступнай скалою.

Ён нахіліў галаву, хутка пакрочыў уздоўж сцяны. Коймінцы, пакуль ён ішоў, не смелі глянуць на яго.

Так Далібор пачаў жыць у Варуце. Памятаючы бацькаў наказ, да ўсяго прыглядваўся, усё выведваў і выпытваў. Ледзьве сонца вока расплюшчыць, ішоў да Войшалка, з якім паспеў пасябраваць, і разам з літоўскім княжычам гойсаў на кані па ўсім наваколлі Варуты. Ад'язджалі вёрст на дваццаць — трыццаць. Бывалі ў абшчынах вольных земляробаў, якія самі сябе называлі палянамі. Паляне не хаваліся адзін ад аднаго, жылі навідавоку, як пальцы на далоні. Луг і лес у іх былі агульныя, а вось ворную зямлю яны рэзалі на кавалкі, дзялілі між сем'ямі. Яшчэ за памяццю дзядоў мела абшчына свой замак-сховішча з высокімі землянымі валамі. Доўмант спаліў браму, скапаў вал. Калі ж нальшанцы вымушаны былі ўцякаць дамоў, абшчына хацела аднавіць сваё разбуранае ўмацаванне, ды Міндоўг не дазволіў, сказаў: «Я — ваш замак! За маёю спіною будзеце, як за сцяной». З таго часу плаціць абшчына, як і суседнія абшчыны, даніну варуцкаму кунігасу. Кожную восень Міндоўг разам з дружынай выпраўляецца ў палюддзе, тут яно называецца — паседзіс. Абшчына абавязана карміць кунігаса і яго-ных слуг. Для гэтага з кожнага дому паляне збіраюць складчыну-мезляву. Калі надараюцца нейкія спрэчкі між суседнімі абшчынамі, усе ідуць да Міндоўга, і ён вершыць суд. Унутры ж абшчыны права суда мае мясцовы баярын, падуладны кунігасу. Нікому не хоча аддаць Міндоўг ні кропелькі ўлады, бо дзве лісіцы ў адной нары не жывуць. Кожнага (няхай гэта будзе родны сын), хто асмеліўся б узняць руку на ягонае багацце і дзяржаву, ён з зямлі б сцёр. І сціраў. Але надышлі і для ягонай Варуты цяжкія часіны. Усё часцей і яго пачалі перыць па лбе дубінай. Вялікая замятня ўсчалася ў Літве. Палілі весі, руйнавалі засекі-сховішчы, жанок, мужоў і малых дзетак на колле саджалі. Раней на Менск і Слуцак рабіў наезды Міндоўг, браў багаты палон у землях русінаў. Тады казалі ўсюды: «Руская нязгода — Літве пагода». Але, як вяртаецца ў мора з нябёс вада, вярнулася крывавая нязгода на зялёныя нівы літоўскія. У такі страшны час добра быць не тапкаскурым чалавекам, а птушкаю або непрыкметным чарвяком. Калі вецер дзьмуў у бок Варуты, Таўцівіл з Эдзівідам падпальвалі лясы, і чорны

гарачы дым велізарнымі хмарамі зацягваў неба. Цяжка, амаль немагчыма было дыхаць. Жанчыны, якім надыходзіў час разрадзіцца, нараджалі мёртвых. «Забудзеш, адкуль сонца ўзыходзіць»,— праз паслоў перадавалі ворагі сваю нянавісць Міндоўгу. Варуцкі кунігас паслам адсякаў галовы, а сам, сашчаміўшы зубы, муштраваў дружыну і коймінцаў, мацаваў свой горад. І пры першай магчымасці наносіў у адказ жорсткі сакрушальны ўдар.

Ляцелі дні. Амаль кожны вечар Міндоўг шчодра частаваў новагараджан, не шкадаваў прыпасаў, якіх, калі шчыра прызнацца, заставалася не надта шмат. Усе абозы, што ішлі ў Варуту, перапынялі Таўцівіл з Эдзівідам.

Два разы Далібор патаемна пасылаў у Новагародак дружынніка Веля, дакладваў князю Ізяславу аб літоўскіх справах. Вайна на першы погляд абяцала быць бясконцай. І ўсё-такі Далібор, а следам за ім і князь Ізяслаў цвёрда верылі, што пераможа Міндоўг. Як вой і як стратэг, ён на дзве галавы быў вышэй сваіх ворагаў. Акрамя таго варуцкага кунігаса падтрымліваў сам Крыве-Крывейта. Першы служка Пяркунаса, якім быў Крыве-Крывейта, шукаў таго, хто б змог абараніць святы агонь-зніч ад крыжакоў. У гаданнях праводзілі ўсе дні вайдэлоты, гадалі па зорках, па крыві забітых жывёл, па шуму дубоў, злавілі і спалілі рыжавалосага немца, бо надта даспадобы зніч у такі колер, колер іскраў і вуголляў. Паварочваліся гаданні на карысць Міндоўга. Яго хацеў бачыць Пяркунас вярхоўным уладаром свайго народа. Не ўсім кунігасам гэта падабалася. Выкант у Жамойці ў сваім горадзе Цвірамеці хваліўся, што прыйдзе ў Варуту, абрэжа Міндоўгу бараду, і будзе варуцкі кунігас пасвіць гусей. Жамойцкі Трайнат, як перадавалі верныя віжы, таксама ў шаленстве тупаў нагамі, калі нехта асмельваўся хваліць Міндоўга.

«Цяжка табе»,— думаў Далібор, назіраючы за Міндоўгам. Складаныя былі адносіны новагародскага княжыча да варуцкага кунігаса. Захапляўся ім, дужа паважаў за адчайную смеласць і няўтрымнасць, за жалезную рашучасць і волю. Бачыў, як усе наўкол баяцца кунігаса, бо вялікі страх наводзіў на людзей. Пра такі страх добра пісалі іудзейскія мудрацы: «Набліжаючыся да ўладара, падай на твар свой». Усё болей пераконваючыся, што Міндоўг не можа быць

ягоным бацькам, Далібор адчуваў сваю залежнасць ад яго. І не толькі сваю, а ўсёй Навагародскай зямлі. Гэты жалезны чалавек, як толькі надарыцца зручная часіна, схопіць за кадык навагараджан. І невядома яшчэ, хто пераможа — Ізяслаў ці Міндоўг.

А між тым ішла вайна. Далібор з ваяводам Хвалам і навагародскай дружынаю ўжо некалькі разоў поплеч з Міндоўгам і Войшалкам секся ў лютай сечы, адкідваў ад Варуты ворагаў. Шмат пабілі, разагналі па лясах. Міндоўг быў нястомны ў розных прыдумках-хітрыках. Даведаўшыся, што ў пушчы за ракой Рутай сабралася незлічонае мноства Таўцівілавых людзей, абклаў, абкружыў іх з усіх бакоў, а перад самай бітваю выпусціў галодных пчол з вулляў. Наўмысна некалькі дзён запар затыкалі ў вуллях лёткі. Раз'юшаныя пчолы, цэлыя хмары, цэлыя гудлівыя медна-шэрыя воблакі, рынуліся на дружыннікаў. Дарэмна Таўцівіл махаў мячом, клікаў на сечу. На злом галавы пабеглі хто куды ягоныя людзі. Шмат каго на вяроўцы прыгнаў у той дзень Міндоўг у Варуту. Калі ж вярталіся, задаволеныя перамогай, у горад, насустрач войску паслала неба невялікі абозік. Дзесяць — пятнаццаць фурманак, гружаных соллю, жалезным таварам, валошскім* віном, калаціліся, рыпелі ў лясной глушэчы.

— Чаму Варуту бокам абыходзіце? — грозна спытаў Міндоўг.

Купцы, а гэта былі два браты са сваім сівабародым бацькам, спалохана пазіралі на кунігаса.

— Чаму? — схапіў старога за бараду Міндоўг.

Той бухнуўся сухімі каленямі на цвёрдыя хваёвыя карані, хліпнуў сіняватым носам:

— Не чулі пра такую.

— Пра Варуту не чулі?

Міндоўг адступіўся ад старога, як ад прыхадня з таго свету. Ён заўсёды быў перакананы, што ягоны горад, ягоную слаўную Варуту, ведаюць усе, як ведаюць Рым і Брэмен, а тут гэтыя сівы слізняк чаўпе нешта недарэчнае. Кунігас тупнуў нагою.

— Хто вы і куды ідзяце?

— Мы з Жамойці. Ідзём з таварам у Менскую зямлю,— перапуджана, часта міргаючы шэра-белымі вейкамі, адказаў купец. І ўсё хаваў, адводзіў убок вочы.

— Хлусіць,— упэўнена прамовіў Войшалк.— Да

---

* **Валошскім** — італьянскім.

Таўцівіла з Эдзівідам ідуць. Стукнуць яму раз у міжвочча, адразу іншае заспявае.

Літоўскі княжыч моцнай загарэлай далонню раптам ірвануў, шкуматнуў старога купца загрудкі. Трэснула, распаўзлася белая, з рудаватымі плямамі поту кашуля, і ўсе ўбачылі на зарослай калючым воласам грудзіне лацінскі крыж.

— У Рызе хрышчэнне браў? — сярдзіта прыжмурыўшыся, спытаў Міндоўг.

— У Рызе,— звялым голасам адказаў купец.— Але я жамойт. І яны, мае сыны,— ён паказаў рукою на сваіх маладых спадарожнікаў,— таксама жамойты, вашы адзінародцы. Адпусці нас, вялікі кунігас.

— І сыны, вядома ж, лацінянамі зрабіліся,— як бы не пачуўшы яго слоў, з пагрозай выдыхнуў Міндоўг. Старыя сіненькія вочы купца, вельмі стомленыя і спустошаныя, з кругаплётам чырвоных жылак, раптам выклікалі ў яго агіду. Ён ступіў крок да маладых купцоў, спытаў:

— Як завуць вас?

Тыя маўчалі. За спіной у Міндоўга, як асінавы ліст, шалясцела спалоханае дыханне іхняга бацькі.

— Нямыя, ці што?! — выгукнуў Войшалк.

І тут стары купец яшчэ раз грымнуўся на калені, пачаў тлумачыць:

— Не ведаюць яны па-нашаму. У Рызе з малалецтва жылі. З немцамі гандлявалі. Там, у Рызе, усё панямецку. Нельга было родным словам пакарміць душу. Адпусці нас, вялікі Міндоўг.

Стары заплакаў, давіў на шчоках слёзы мяккімі белымі рукамі. Сыны панура маўчалі.

— Не разумеюць па-нашаму? — здзівіўся Міндоўг.— Нашай косці людзі і не разумеюць? Чым жа ты карміў іх, шалудзівы пёс?

Ён гнеўна азірнуўся, убачыў лазовы куст ля сцежкі, з хрустам адламаў доўгі дубец, трасянуў у маладых купцоў пад носам, спытаў:

— Што гэта? Як гэта завецца? Не ведаеце?

Праз плячо загадаў Войшалку:

— Выпрагайце коней з трох купцовых фурманак. Бацьку і сынам спускайце парткі, прывязвайце гасцей да аглобляў. Я буду іх вучыць мове, на якой наш народ з Пяркунасам гаворыць.

Дружыннікі з вялікай ахвотаю, з усмешкамі і жартамі кінуліся выконваць кунігасаву волю. А ў купцоў,

асабліва ў маладых, вочы цьмелі ад жаху. Вось іх паклалі на аглоблі, моцна прыкруцілі вяроўкамі рукі і ногі, і Міндоўг, стоячы над гурбою лазовых, бярозавых і асінавых дубцоў, якую насеклі мячамі дружыннікі, удумна прамовіў:

— Няхай з далёкай пушчы ўбачыць нас першасвятар Крыве, галава нашай веры.

Потым узяў бярозавы дубец, спытаў у маладых купцоў:

— Што гэта? Як завецца?

Купцы маўчалі.

— Гэта — бяроза,— сказаў Міндоўг і загадаў дружыннікам: — Адзін гарачы дубец — бацьку, тры — сынам.

Тое ж самае паўтарылася з лазою і асінаю. На белай скуры ў купцоў успыхнулі чырвоныя пісягі.

— Годзе,— узняў руку Міндоўг,— адвяжыце іх і адпусціце з мірам. Няхай едуць у Менск. Калі ж даведаюся, што былі ў Даўспрунка або Таўцівіла і Эдзівіда, павешу на сухой грушы.

Купцы, прыніжана кланяючыся кунігасу, цяжка павалаклі пабітыя азадкі да фурманак.

— Запомніце,— сурова прамовіў ім услед Міндоўг,— калі прадасце сваю мову і веру, будзеце спаць на голым лёдзе, накрыўшыся снегам.

— Ці так робяць у вас у Новагародку, княжыч Глеб? — спытаўся Войшалк у Далібора.

— Так,— адказаў Далібор.— Здраднікам мы таксама даём пытлю. Здраднікі ўсюды падобныя, бо з-пад аднаго хваста выпалі.

Міндоўгу з Войшалкам дужа спадабаліся такія словы. Яны пераглянуліся, засмяяліся, і Далібор адчуў, што літоўцы яшчэ больш упадабалі яго. Гэта, вядома ж, усцешыла новагародскага княжыча, але ён, цвяроза ўзважыўшы мэту свайго прыезду, успомніўшы развітальныя бацькавы наказы, рашыў ні перад кім шырока не адкрываць душу. Паміж чужых людзей трэба асаджваць язык, трымаць яго за зубамі. І таму, калі праз пару дзён Войшалк запрасіў Далібора наведаць княгіню Ганну-Паяту, сваю маці, княжыч не адразу даў згоду. Ён чуў, што літоўская княгіня, дачка цверскага князя, і ў Варуце, жывучы між паганцаў, нават прыняўшы іхняе імя, засталася хрысціянкай і што любіць яна, як, бадай, кожная жанчына, прыгожыя

ўбранні, раскошу. Не падабаецца ёй нумас, у якім, не зважаючы на шыкоўны церам, днюе і начуе кунігас. У цераме ўсё абвешана рамейскімі і валошскімі тканінамі, усё застаўлена дарагім срэбным посудам. Але Міндоўг не надта каб гнаўся за ўсім гэтым, бо гаворыць сваім паплечнікам, калі бывае ў гуморы: «Кубак, які я нашу заўсёды ■ сабой,— дзве далоні». І паказвае абветраныя ў час паходаў цяжкія рукі. Кажуць шапатнікі*, што варуцкі кунігас вельмі строга абыходзіцца з жонкаю, што патаемна плача яна і, каб не багаплоднае дрэва праваслаўнай веры, даўно б памерла, легла ў лясны дол-беламошнік у ваколіцах Варуты. Але мала аб чым шэпчуцца па завуголлях нізкародныя шапатнікі! Услых і пры сведках яны гэтага ніколі не скажуць, бо кіне Міндоўг іхнія абрэзаныя языкі на корм надворным псам. Княгіню ж Ганну-Паяту, калі шчыра прызнацца, ніхто з шапатнікоў асабліва не шкадаваў. Па-першае, не мясцовая, а з Цверы прывезеная, па-другое, баба ёсць баба — стан чалавечы, а розум авечы. Хто ж, як не баба, і паплача? Але такі лёс жаночы. Хоча яна любові, хоча пяшчоты, ды вельмі цяжка даецца ўсё гэта, вельмі рэдка. Мала любові адпушчана ёй, бо брат любіць сястру багатую, муж жонку здаровую, дзеці маці маладую. Калі ж ты не багатая, не здаровая, і не маладая, як жыць табе?

Павагаўшыся (а як гляне на гэта грозны і нечаканы ў сваіх дзеяннях Міндоўг?), Далібор прыняў запрашэнне Войшалка і пайшоў да княгіні. Служкі правялі яго праз увесь церам у маленькую зацемненую малітоўню. Ён убачыў мноства залатых і срэбных абразоў, у кіёце, які ўзвышаўся ў пярэднім куце за малінавага святла лампадаю. На сцяне вісеў трохаблічны абраз-дэісус. Пасярэдзіне — Ісус Хрыстос, па баках Багародзіца з Іаанам Прадцечаю.

У княгіні быў блакітнаваты ад хваробы твар. Густыя цёмна-русыя валасы яна хавала пад павоем, бо нельга замужняй жанчыне «свяціць воласам». Белы ў чырвоную палоску павой абвіваў галаву, спускаўся на плечы. На Ганне-Паяце была доўгая вышываная кашуля, паверх якой яна апранула яшчэ адну, падперазаную залатым пасам, але больш кароткую, з шырокімі рукавамі. На нагах зіхцелі шытыя жэмчугам каляровыя боцікі. Княгіня сядзела на невялічкай арэхавага дрэва канапе. Побач стаяў Войшалк.

* Шапатнік — даносчык, пляткар.

Далібор нізка пакланіўся літоўскай княгіні, сказаў:

— Мір табе і твайму дому, прыснапамятная княгіня. Шле табе вітанне слаўны Навагародак, брат слаўнай Варуты. Шмат чулі мы ў сваёй зямлі пра твае шчадроты, пра тваё чыстае сэрца і галубіную душу. Прымі вось гэту залатую грыўну, якую зрабілі нашы майстры.

Ён яшчэ раз пакланіўся, на белым абрусе падаў Ганне-Паяце багатую нашыйную грыўну, якая сыпала наўкол сябе светлыя прамяні. Твар у княгіні заружовіўся.

— Вазьмі, Васіль,— сказала яна сыну. Войшалк узяў дарунак, асцярожна трымаў яго ў пацямнелых ад летняга сонца руках. Далоні ў княжыча былі на дзіва вузкія.

Княгіня запрасіла Далібора сесці, і ён сеў на нізкі мяккі пуф. Яна пільна і строга пазірала на свайго маладога госця. Стомлены твар з яркімі сінімі вачыма, здавалася, свяціўся ў паўзмроку. Роспач і пакута ўсіх жанчын — маршчыны — тоненькімі вострымі праменьчыкамі збягаліся ля вачэй. Як ні разгладжваюць іх чалядніцы нажамі са слановай касці, нічога не дапамагае. Час бярэ сваё.

Ганна-Паята, бянтэжачы Далібора, неадрыўна глядзела на яго. З таго часу, як яна стала жонкай кунігаса Міндоўга, яна жыла нібы на востраве. Ні разу не пусціў яе кунігас з'ездзіць у Цвер, наведаць бацькоў і сяброваk. Яна была ў суровай лясной сталіцы, дзе нязгасна гараць агні Пяркунаса, дзе шэпчуць незразумелыя словы доўгаваласыя вайдэлоты, дзе адно толькі на вуснах ва ўсіх: вайна, вайна... Хрысціянка, абкружаная шумлівым паганскім морам, яна спачывала душой толькі ў сваёй малітоўні. Адразу пасля вяселля свякроў, маўклівая маці Міндоўга, дала нявестцы зблытаны клубок ваўняных нітак, каб тая да сняданку іх разблытала і пераматала. Ганна-Паята справілася тады з нялёгкай работаю, але адчувала і сёння, што ўсё ў яе жыцці заблытана, склычана, што да самага скону трэба несці свой цяжкі крыж. Яна шчыра малілася за Міндоўга і ягоных паплечнікаў. Яны былі паганцамі, дзецьмі на гэтай грэшнай зямлі. Іх, вядома ж, калі толькі не павернуць свае душы да Хрыста, чакаюць скудзельніцы*, поўныя агню. Адзінай уцехаю заставаўся старэйшы сын, любімы Войшалк, ці Васіль, як

* Скудзельніцы — агульныя магілы.

звычайна называла яна яго. Сын меў два імені, але адну душу, і маці дужа хацела, каб гэта душа была хрысціянскай. Цяжка было залучыць Войшалка ў малітоўню — то паход, то Таўцівіл з Эдзівідам б'юць таранам у варуцкую браму, то бацька, кунігас Міндоўг, не адпускае ад сябе. Але калі ён прыходзіў, высокі, цёмнавалосы, танклявы, Ганна-Паята ўся ўспыхвала ад радасці, і бледныя шчокі залівала пяшчотная чырвань. Нездарма кажуць: «Мужчына чырванее, як рак, жанчына чарванее, як мак». Яна садзіла сына побач з сабой, брала яго рукі ў свае і пачынала расказваць пра Цвер, пра вясновую Волгу, пра прыгожыя цэрквы над рачной стромай. Яна расказвала яму пра Афон, які завецца Святой Гарою, дзе збудавана ажно дваццаць праваслаўных манастыроў. Гэта сапраўдная дзяржава манахаў. Калісьці туды і нагой не магла ступіць ніводная асобіна жаночага полу. Толькі пчолам дазвалялася лётаць, бо яны, пчолы, збіраюць божы тавар, нектар і воск. Дзякуй візантыйскаму імператару Аляксею Комніну. Ён дазволіў жанчынам наведваць Афон. «Я пайшла б туды, паляцела, папаўзла»,— страсна шаптала княгіня і выпрабавальна глядзела на Войшалка. Сын маўчаў. Светлыя вочы цямнелі, востры агеньчык пачынаў трапятаць у іхняй глыбіні. «Ідзі. Хай табе добрыя сны сняцца»,— адпускала Ганна-Паята Войшалка. Наступным жа разам, як бы між іншым, пачынала кпіць з літоўскіх багоў, якіх незлічонае мноства. Смяялася над вярхоўным богам Дзіверыксам, над богам-кавалём Кальвялісам, які скаваў сонца, над ахоўнікам лесу і палявання Мядзейнасам і над заечым богам... «Падумаць толькі — у Літве нават зайцы маюць свайго бога,— як бы здзіўлена казала яна і строга дадавала: — Хрыстос — уладыка ўсяго жывога».

Вось перад якой жанчынаю сядзеў навагародскі княжыч Далібор і не ведаў, аб чым весці гаворку. Ён не быў гаваруном, тым больш між чужых людзей. Выручыла княгіня.

— У вас у Навагародку, я чула, ёсць вельмі багаты святы храм,— прамовіла яна і перакінула позірк на Войшалка.

— Храм пакутнікаў Барыса і Глеба,— хуценька адказаў Далібор.

— Мяне жыццё карчом зрабіла,— сумна ўздыхнула Ганна-Паята.— Сяджу на адным месцы. А так бы хацелася з'ездзіць у Навагародак на маленне.

Далібор не паспеў адказаць. З панадворку пачуліся крыкі, рогат, дзікае конскае ржанне.

— Што там такое, Васіль? — занепакоілася княгіня.

Войшалк выйшаў з малітоўні, і колькі часу Далібор з Ганнай-Паятай сядзелі моўчкі. Уляцела нейкая мошка, кінулася на полымя свечкі і згарэла з лёгкім трэскам і смуродам. Літоўскі княжыч вярнуўся з пахмурнелым тварам. Маці запытальна паглядзела на яго.

— Дружыннікі звязалі трох коней хвастамі і скаляць зубы,— растлумачыў Войшалк і дадаў: — Я загадаў развязаць.

— А дзе кунігас? — зморшчылася Ганна-Паята.

— Ён там таксама быў, смяяўся,— з неахвотаю адказаў Войшалк.

У гэты час пачуліся гучныя ўпэўненыя крокі, і ў малітоўню ўвайшоў Міндоўг. Усе ўсталі. Кунігас пацалаваў жонку ў шчаку, паляпаў сына па плячы, хітравата падміргнуў Далібору. Відно па-ўсяму, у яго быў добры настрой.

— Сонца на вуліцы, а вы каля свечак грэецеся,— весела прамовіў кунігас.— Усё Хрысту кланяецеся. Ці не стане спіна качаргою?

Заўважыўшы абураны позірк Ганны-Паяты, ён замахаў рукамі — маўчу-маўчу. Потым сеў на пуф, усміхаючыся, пачаў гаварыць:

— А мне сёння ўва сне відзежа была. Бацьку свайго нябожчыка кунігаса Рынгольта бачыў.

Пры гэтых ягоных словах усе затаілі дыханне.

— Падалося, быццам на тым свеце да бацькі я прыйшоў. Павячэралі мы, Літву нашу ўспомнілі, і пачаў я вечнае ложа рыхтаваць, мяккай зямлёю бацьку засыпаў. Назаўтра пытаюся: «Як ты спаў?» — «Ох, цяжка,— застагнаў бацька.— Чэрві і гады елі мяне». Тады я для яго скрыню драўляную, дамавіну, змайстраваў. Назаўтра бацька зноў плача, жаліцца: «Не магу тут ляжаць. Камары і пчолы кусаюць». І рашыў я па звычаю дзядоў нашых краду вогненную сатварыць* і паклаў кунігаса на агонь. Раніцаю пытаюся: «Як табе спалася?» Вочы ў бацькі заблішчалі, абняў ён мяне, моцна пацалаваў і звонкім голасам кажа: «Дзякуй табе, сыне. Соладка я спаў. Як дзіця ў калысцы».

Міндоўг скончыў, уважліва паглядзеў на княгіню.

---

* Кра́ду вогненную сатварыць — раскласці, запаліць ахвярнае вогнішча.

Вядома ж, у першую чаргу ёй, хрысціянцы, прызначаўся гэты расказ. Яна сядзела з нерухомым тварам, ціхая і бледная. Раптам яна ўсхліпнула.

— Перастань,— лагодным голасам сказаў Міндоўг.— Вытры слёзы.

Ганна-Паята паслухмяна выканала мужаву просьбу-загад.

— Жанчына выцірае слязу пальчыкам, мужчына — кулаком,— усміхнуўся кунігас і рашуча дадаў: — І ўсё-такі на агонь абменьваецца ўсё, і агонь — на ўсё, як на золата — тавары і на тавары — золата. Так вучыў рамейскі мудрэц Геракліт. Так вучыў вярхоўны жрэц Вайдзевутас. Вось чаму мы ў Літве пакланяемся агню і не закопваем сваіх нябожчыкаў у зямлю.

Ён павярнуўся да Далібора.

— Засумаваў у нас новагародскі княжыч?

І, не даўшы Далібору адказаць, паклаў яму руку на плячо.

— Заўтра на ловы паедзем, на вялікае паляванне. Ведаю, што вы, новагараджане, любіце гэту справу. Мы любім таксама. Ці не праўда, Войшалк?

— Праўда, праўда,— згодна заківаў галавою ўзрадаваны сын.

— Сабаліныя і гарнастаевы футры, па сорак і па сто штук у кіпе, мы возім у Полацк і Менск і да вас у Новагародак. А ведаеш, якія ў нас мядзведзі водзяцца? Муравейнікі, аўсянікі і сцярвятнікі. А ваўкі? Конюхі — вялікія, ▪ шэрай поўсцю, і свінятнікі — меншыя, цёмна-жоўтыя.

Міндоўг, як, бадай, кожны літоўскі кунігас, ведаў толк у паляванні, змалку любіў яго. Мужчыны ўсхвалявана пачалі абмяркоўваць заўтрашнія ловы. І толькі Ганна-Паята, самотная душа, сядзела на сваёй канапе, рабіла выгляд, што ўважліва слухае іх, а думкі былі далёка-далёка адсюль, у нейкім захмар'і. Нездарма кажуць, што моль адзенне есць, а смутак — чалавека. Бачыўся варуцкай княгіні заліты гарачымі промнямі Афон, блакітнае ціхае мора, белыя сцены манастыроў, на якіх раскашуецца, лезе ўверх ап'янелая ад сонца вінаградная лаза. Там, у той сонечнай цішыні, жывуць, гутараць з богам смуглыя векікавокія людзі, што харчуюцца мёдам дзікіх пчол і акрыдамі, маладой смажанай саранчой. Як хацелася ёй туды з гэтай лясной глушэчы, ад крыві і страху, ад бясконцых незразумелых войнаў. Там ёсць месцы, дзе нават забаронена араць

зямлю, бо зямля — жывая і саха земляроба можа прычыніць ёй боль.

На ловы Далібор узяў свой любімы лук. Літоўцы не надта ведалі гэту зброю, і Войшалк з вялікай цікавасцю круціў яго ў руках, цмокаў языком. Лук біў звера і чалавека за сто сажняў і складаўся з некалькіх частак. Галоўнаю была кібіць — дрэўка лука, кожная палавіна якога называлася плячом альбо рогам. Касцяныя накладкі называліся мадзянамі, а ніжні бок рога — падзорам. На канцах рагоў мацаваліся косці, да якіх прывязвалася цеціва. Рабілі яе з ласіных або валовых сухажылляў. Звычайна лук быў з расслабленай цецівою, і толькі перад самым паляваннем або перад самай бітвай яе нацягвалі. На левае прадплечча Далібор надзеў металічны бранзалет-наручку, каб ахоўваць руку ад удараў цецівы, а на вялікі палец той жа рукі — касцяное кольца. Стрэлы ў яго былі бярозавыя і з лясной яблыні-дзічкі.

На ловы выехалі вялікай разнакаляровай кавалькадаю. Паперадзе на белым кані ехаў Міндоўг. Побач з ім гарцавалі браты-кунігасы Вісмант і Спрудзейка, абодва светлавалосыя, вясёлыя, прыгожыя. Міндоўг казаў ім ласкавыя словы, усміхаўся ім, і яны, як маладыя жарэбчыкі, паказвалі варуцкаму кунігасу і ўсім свой спрыт і жвавасць. То вырываліся наперад, абганяючы адзін аднаго, то кідалі высока ўгору шапку і, пусціўшы коней галопам, лавілі гэту шапку на кап'ё.

— Дужа вясёлы сёння кунігас. Не чакай добрага,— ціха сказаў Далібору ваявода Хвал, які ехаў побач.

Далібор з непаразуменнем паглядзеў на ваяводу. Аб дзіўным думае і гаворыць стары вой у такі радасны, такі сонечны дзень. Няўжо можна насіць чарноцце на душы, калі блішчыць неба ад залатых промняў, калі трапеча кожная жылка ў хутканогага каня?

— Вісмант як таль* у Міндоўга. Ды і брат яго таксама,— растлумачыў Хвал.— Прашу цябе, княжыч, на ловах трымайся каля мяне. Пушча вялікая. Шмат сецяў-мярэжаў у ёй.

Ваявода сваімі жаўтлявымі вачамі строга зірнуў на Далібора.

— Мне князь Ізяслаў наказ даў прыглядваць за табою. Твой жа лях сёння ляжыць як палена. Трымайся каля мяне. І ад мядзведзя, і ад ліхога чалавека разам адаб'ёмся.

---

* Таль — заложнік.

У Косткі, якога так не любіў ваявода Хвал, перад ловамі раптоўна разбалеўся жывот. Бедны лях аж енчыў, увесь пасінеў, і яго пакінулі ў горадзе пад наглядам Найдзёна і варуцкіх зялейнікаў.

— Жарало ненаеднае,— сказаў пра яго ваявода, маючы на ўвазе, што ўчора вечарам лях дужа налягаў на розныя літоўскія прысмакі.

Пад'ехалі да густога лесу. Пэўна, зусім нядаўна ў яго ўбягала навальніца, бо мноства дрэў, тонкіх і тоўстых, ляжала на зямлі, бездапаможна растапырыўшы свае карані. Міндоўг уладным рухам рукі спыніў усіх, саскочыў з каня і памаліўся богу лесу і палявання Мядзейнасу і заечаму богу, папрасіў у іх дазволу праліць звярыную кроў. Багі далі згоду, бо раптоўна зашумелі дубы на ўскрайку, заківалі светла-зялёнымі галовамі бярозы і ліпы, нейкія цені і нейкія плямы святла радасна замітусіліся ў лясным глухатраўі.

У пушчы для ловаў кунігасавы асочнікі і коймінцы загадзя змайстравалі доўгую, амаль на дзве вярсты, загародку з жэрдак і колляў. Сажняў праз дзвесце — трыста ў ёй меліся праходы. На гэтых праходах звяроў чакалі лоўчыя ямы, замаскіраваныя травой і галлём, сілкі, петлі-зашмаргі, самастрэлы.

Адчувалася, што пушча аж кішыць звяр'ём. Тры сонцавароты не ездзіў сюды Міндоўг на ловы, а без яго, кунігаса, ніхто не смеў і чхнуць у пушчы. Аднойчы асочнікі злавілі тут згаладалага смерда-палянца, які біў драўлянай калатушкаю цецерукоў. Як ні прасіўся бедалага, як ні цалаваў ногі, з жывога злупілі скуру і кінулі звязанага ў агромністы мурашнік.

Тоненька вішчалі на шворках сабакі. Перад ловамі іх не кармілі, толькі папаілі вадою, і мутныя ад голаду сабачыя вочы прагна глядзелі ў зялёную лясную глушэчу, туды, дзе, нікога не баючыся, ні аб чым не здагадваючыся, лагодна саплі, грызучы мяккую салодкую траву, тлустыя туры, важна пасвіліся зубры, драмалі на сонечных палянках казулі і сарны, у гушчары адлежваліся ласі і дзікі.

Вось чорнабароды асочнік, якому Міндоўг, упэўнены ў важнецкім паляванні, загадзя падараваў жменю срэбных і залатых манет, узняў касцяны рог, затрубіў. І быццам віхор уварваўся ў маўклівую пушчу. Шалеючы, звонка загаўкалі сабакі, ударылі ў бубны, засвісталі ў свісцёлкі асочнікі, успыхнула мноства паходняў, на ўсе грудзі закрычалі паляўнічыя ад

вялікага кунігаса да самага мізэрнага канявода.

Стогн прайшоў па пушчы. Яшчэ зусім нядаўна тут чуўся трубны покліч звяроў, калі шукалі і сустракалі яны сваё каханне. І вось усяму наступіў канец. Чалавек узняў зброю, і не было аніякага паратунку ад яе. Нават калі б у тураў і казуль выраслі крылы, не здолелі б яны аддаліць свой смяротны час, бо над усімі сцежкамі і прасекамі на высокіх шастах былі развешаны перавесы і цянёты.

Велізарная маса звяр'я, ломячы падлесак, рынулася проста на загародку, а там — у такія зманлівыя праходы. Выратаванне і жыццё былі, здавалася, зусім побач. Некалькі скачкоў — і застануцца ззаду ненавісныя ашалелыя сабакі, крыкі, яркі агонь паходняў сярод белага дня, трывожны пах згубнага металу. Але чалавек хітрэйшы. Дзесяткі, сотні звяроў правальваліся ў лоўчыя ямы, наляталі на вострыя коллі, на самастрэлы, адчайна біліся, сплятаючы і крышачы рогі, у сілках і петлях-зашмаргах. Таго ж, каму пашанцавала, хто праскочыў гэты крывавы смяротны рубеж, чакала сцяна капейшчыкаў, чакалі сякеры і бязмены, дубіны і лукі. Метал беспрашкодна ўваходзіў, упіваўся ў жывую звярыную плоць, і падсякаліся ногі, тухлі вочы, такія бліскучыя і трапятлівыя за некалькі імгненняў да смерці, такія прыгожыя. Расла гарачая гара мяса, гара рагоў і футравіны. А людзі, абпырсканыя яркай-яркай крывёй, усё не ведалі спыну. Надоўга запомніць пушча гэты дзень. Надоўга застанецца яна пустой, заселенай адным толькі ветрам.

Далібор зваліў тры або чатыры казулі і быў задаволены сабою. У ягоным Навагародку не было такога размаху на ловах. Князь Ізяслаў стараўся ашчаджаць лясных насельнікаў, і не часта на зялёную траву цякла звярыная кроў.

Глыбока ў лесе пачулася песня. Збіраліся ў адну купу асочнікі і паляўнічыя.

Любяць песню літоўцы. Спяваюць у полі і на лузе, у час адпачынку і ў час працы, спяваюць маладзенькія дзяўчаты і хлопцы, старыя дзяды і бабулі, спяваюць пад шэрым дажджом і пад іскрыстым сонцам.

Пад'ехаў на замыленым кані ваявода Хвал, шапнуў Далібору:

— Ну, што я казаў, княжыч? Цягнуць з пушчы на туравай шкуры Вісманта і Спрудзейку. Абодва мёртвыя. У лоўчую яму зваліліся. А ў той яме іх паранены тур стаптаў.

— Як жа яны, такія спрытнюгі, у яму ўляцелі? — здзівіўся Далібор.

Ваявода нічога не сказаў, толькі паглядзеў на яго доўгім праніклівым позіркам, і адчувалася, што з кончыка языка ў ваяводы, як птушка, гатова сарвацца слова, што свярбіць, дужа свярбіць кончык языка, але стрымаўся стары вой.

Нявесела скончыліся ловы. Вісманта і Спрудзейку разам з іхнімі коньмі, разам са зброяй павезлі на жоглішча і там спалілі. У Міндоўга быў змрочны твар. Трэба было на некім спатоліць злосць.

— Дзе конюх кунігаса Спрудзейкі?! — закрычаў Міндоўг.

Прывялі, а дакладней — прынеслі, бо ад страху запляліся ногі конюха. Ён нешта хацеў сказаць, нешта патлумачыць і тым самым адвесці ад сябе смяротную бяду, але толькі бялеў і чырванеў і з горла вырывалася нейкае булькатанне.

— Вазьміце яго ў абцугі,— загадаў Міндоўг.— З першага абцуга скажа, навошта завёў свайго гаспадара ў яму.

Бедалагу павалаклі на катаванне, дзе ўжо чакала ягоную плоць гарачае жалеза.

— Вялікі кунігас, я не вінаваты,— вымавіў нарэшце ён, але ніхто не слухаў. Тых, каму не пашанцавала, хто прагневаў зямных уладароў, не слухаюць. Адно ім суцяшэнне дадзена — ведаюць яны, што ўсе людзі прыходзяць на гэты свет і выходзяць з гэтага свету не па сваёй волі.

У той вечар шмат пілі, шмат елі печанай зверыны. Лугавіну над ракой Рутаю заслалі дарагімі апонамі, шкурамі тураў, мядзведзяў і ласёў. Прыслужнікі ўскочвалі на апоны і на шкуры бочкі піва, падносілі ўсім ражны з велізарнымі кавалкамі мяса. Тады ж убачыў Далібор Міндоўгаву дачку князёўну Рамуне, з такімі ж чорна-зялёнымі, як у бацькі, вачыма, але светлавалосую.

— Вось якая ў мяне дачка,— пахваліўся Міндоўг.— Вось якая ў маім небе аўшра* свеціць.

I загадаў:

— Кланяйцеся маёй дачцы. Усе кланяйцеся літоўскай князёўне.

Госці, хто са шчырасцю, хто таймуючы крыўду і злосць, пачалі кланяцца, трымаючы ў руках кубкі з ві-

---

* **Аўшра** *(літоўск.)* — зара, дзянніца.

ном і півам. Кунігас абыходзіў кожнага і цалаваў. І адным здавалася, што само сонца наблізілася да іх, іншыя ж з гідлівасцю думалі, што Міндоўг не цалуе, а нібы кусае за шчаку. Розныя вочы глядзелі на кунігаса і бачылі рознае. Адны — нястомнага ваяра, ахоўніка Літвы, барацьбіта і дыпламата, чалавека, які здолее ўзвысіць Літву над яе суседзямі, другія — славалюба і пыхліўца. Новагародскі княжыч Далібор бачыў перад сабой чалавека, у саюзе з якім Новагародак павінен выбіць зубы Ардзе і Ордэну, цвёрдай рукой сабраць у адну дзяржаву землі крывічоў і дрыгавічоў. Паходня Полацка ўжо адгарэла, адпалала. Надышоў час Новагародку запальваць сваю паходню, каб асвяціць ёю будучыя шляхі і будучыя дні. Не адзін раз Літва разам з Полацкай і Панямонскай Руссю ішла ў сечы пад аднымі і тымі ж сцягамі, за адну справу. Гэта павялося яшчэ да таго часу, калі жыхары Крывога горада* ўзялі да сябе князем полацкага Давыда, якога вялікі князь кіеўскі Мсціслаў Уладзіміравіч выслаў з усімі ягонымі чадамі ў Візантыю. Дзве ракі, што заўсёды беглі поруч, не могуць не зліцца ў адзін струмень, дзеля таго каб зберагчы сябе, сваю глыбіню і чысціню.

— Княжыч Глеб, кланяйся таксама маёй дачцы,— памякчэлым, але ўсё роўна ўладным голасам сказаў Далібору Міндоўг.

Далібор пакланіўся Рамуне і куточкам вока заўважыў, як спахмурнеў Войшалк. Няўжо яны, брат і сястра, варагуюць між сабою? Хіба можна не любіць гэту прыгажуню, мілагучны голас у якой повен шчасця, як спелая ягадзіна соку? А можа, Войшалк, дужа любячы сястру, раўнуе яе да ўсіх астатніх мужчын? Бо кожны з іх (у гэтым Далібор не сумняваўся) у думках, як пчала ў кветку, упіваўся ў пунсовыя вусны князёўны.

Удзячны Міндоўг моцна абняў, пацалаваў Далібора. Зноў матлянуўся перад вачамі ў новагародскага княжыча жалезны жолуд, што вісеў на танюсенькім срэбным ланцужку, абцяжарваючы загарэлую шыю кунігаса. Ці прасветліцца калі-небудзь тайна гэтага жолуда? Ці даведаецца ён, Далібор, кім даводзіцца яму варуцкі кунігас?

— Не глядзі, аблізваючыся, на Рамуне,— цісканул Далібору плячук, пажартаваў Міндоўг.— За галіцкім

---

* Крывы горад — адна з першапачатковых назваў Вільнюса.

князем яна замоўлена. Праз два леты паедзе ў Галіч. Цябе ж, я ведаю, таксама чакае князёўна з Ваўкавыйска. Так?

— Так,— адказаў Далібор.

— Яшчэ больш пашырыцца зямля Новагародская,— як бы пажаліўся Міндоўг.— А што сёння маю я? Шматок лясоў і балот. Ды і гэта хочуць вырваць з маіх рук ненажэрцы.

Ён узмахнуў кулаком ды раптам, быццам нешта прыпомніўшы, спытаў:

— Ты, княжыч, на ловах быў не побач з Вісмантам і Спрудзейкам?

І пільна-пільна, нейкім вострым тхарыным позіркам, зірнуў на Далібора. Такія насцярожана-спалоханыя вочы ўбачыў Далібор на кунігасавым твары ўпершыню.

— Я быў са сваім ваяводам Хвалам,— спакойна адказаў новагародскі княжыч.— Вісманта і Спрудзейку напаткаў ужо тады, як везлі іх да жоглішча.

Пра варуцкага ж кунігаса падумаў: «Пранырлівыя ў цябе вочы». Міндоўг з відавочнай палёгкаю ўздыхнуў, як самаму сардэчнаму сябру, паабяцаў Далібору:

— Толькі пачне жолуд з дуба сыпацца, паедзем мы з табой, княжыч, яшчэ на адно паляванне. Гэта будуць не сённяшнія ловы. Але сам пабачыш. Скажу адно: рэдка каго са сваіх гасцей запрашаю я на тое паляванне. А цябе запрашу.

## V

Міндоўг стрымаў слова. Праплыло-праляцела некалькі сядміц, паспелі некалькі разоў варутчане і новагараджане скрыжаваць зброю з Таўцівілам і Эдзівідам, і ў акно святліцы, дзе жыў Далібор, шкрабануў кашчавай лёгкай рукой незнаёмы непрыкметны чалавечак.

— Кунігас княжыча Глеба да сябе ў нумас кліча.

І адразу знік чалавечак, як не было яго. А можа, і сапраўды прымроіўся? Але Найдзён, верны халоп, які нейкім незвычайным чынам ужо ведаў усё і ўсіх у Варуце, упэўнена сказаў:

— Гэта Казлейка, Міндоўгаў шапатнік і навушнік. Гавораць людзі, што ён як цень у кунігаса — усюды за ім валочыцца.

Напружыўшы памяць, Далібор успомніў гэты вострыя лісіны тварык і бясколерныя вочы, якія глядзелі

з глыбокіх вачніц, быццам з прорвы. На ловах у пушчы быў Казлейка як прылеплены да Міндоўга. І заўсёды чамусьці трымаўся левага кунігасава пляча.

Далібор накінуў плашч, начапіў меч і пайшоў у нумас. Восеньская знямога прыроды адчувалася ва ўсім. Выў халодны вецер, абсяваў наваколле рэдкім краплістым дажджом. Яшчэ некалькі дзён назад радавалі вока зялёныя клубкі дрэў на небасхіле. А ўжо сёння большасць гэтых дрэў былі распрануты холадам і ветрам. Праз праломы ў хмарах бачылася неба, нізкае і няўтульнае.

Кунігас чакаў новагародскага княжыча. Быў ён у багатым сабаліным кажусе, з такой жа шапкаю на галаве. Шчыра здзівіўся, убачыўшы Далібора ў лёгкай апратцы.

— Куды гэта ты, княжыч, сабраўся? Матылькоў лавіць?

І загадаў Казлейку:

— Прынясі княжычу Глебу футра [illegible] майго пляча.

Пакуль Казлейка бегаў у церам, Міндоўг, хітра прыжмурыўшыся, спытаў:

— Як мяркуеш, княжыч: ці растуць ноччу дрэвы і трава?

Пытанне было дужа нечаканае, не адпавядала ні тым думкам, якія агортвалі Далібора, ні той панылай журботнасці, што была разліта ў наваколлі. Восень... Хлюпоцце... Хіба можа ў такі час расці хоць якая бадылінка?

Заўважыўшы разгубленасць новагародскага княжыча, Міндоўг весела засмяяўся.

— Я не пра восень кажу, а пра вясну. Ці растуць вясновай ноччу дрэвы і трава?

— Пэўна, растуць,— прамовіў Далібор і дадаў на ўсялякі выпадак: — растуць, калі ім не спіцца.

Казлейка прынёс футра, дапамог Далібору апрануцца. Паехалі ў лёгкай фурманцы са скураным верхам, запрэжанай парай гнядых укормленых коней. Казлейка быў за фурмана.

— Пры ім можаш казаць усё,— шматзначна зірнуў на Казлейкаву спіну кунігас. Гэта вузкая спіна (падалося Далібору) няўлоўна ўздрыгнула і зноў нібы скамянела. Было ў ёй чаканне. Так чакае свайго часу напятая цеціва лука.

Ні Найдзёна, ні Веля, ні Костку не дазволіў Далібору ўзяць з сабою Міндоўг. Буркнуў у цёмна-рудую бараду:

— Не іхнім вачам глядзець на такое!

«Што ж ён хоча мне паказаць?» — ламаў галаву княжыч і не знаходзіў адказу. Адно было вядома — чакаецца паляванне.

Спераду і ззаду фурманкі часцілі на рэзвых конях сотні паўтары літоўскіх дружыннікаў, дралі брудную слізкую дарогу конскімі капытамі. Толькі чулася: чвяк... чвяк... Некаторыя з іх ад холаду нацягнулі на твары ваўняныя маскі з прарэзінамі для рота і вачэй.

— Маленькія ў Літве коні,— пазіраючы на дружыннікаў, сказаў Міндоўг.

Коні і сапраўды, як кінулася ў вока Далібору, былі драбнаватыя, самай рознай масці. Такога коніка новагародскі або лівонскі шыракагруды конь у час сечы можа падмяць пад сябе. Праўда, гэта залежыць ад таго, хто сядзіць на кані.

— Маленькія коні, а вялікіх слаўных мужоў возяць,— нібы ўгадаўшы думкі новагародскага княжыча, трохі напышліва прамовіў кунігас.

Бегла насустрач пакляваная дажджавымі кроплямі разлезлая зямля.

З усяго маху пераскочылі па грэблі нейкую рэчачку.

— У вадзе ў нас гудзёлкі жывуць. Як вашы русалкі,— растлумачыў Міндоўг.— У месячныя ночы выплываюць з самага дна, спяваюць, танцуюць, маладых хлопцаў да сябе вабяць. А завабіўшы, заказычуць да смерці. Шмат мужчынскай сілы ляжыць на дне рэк і азёр.

— Русалкамі ў Новагародскай зямлі робяцца маленькія дзяўчынкі, якія памерлі і якіх не паспелі пахрысціць,— падтрымаў гаворку Далібор.— Любяць яны гушкацца на дрэвах. Аблепяць зялёнае голле і кожнага, хто напаткаецца ім, клічуць: «Ідзі да нас на арэлі, будзем калыхацца». Вызвалішся ад іх толькі тады, калі маеш пры сабе што-небудзь жалезнае. Пакажаш жалеза — адразу знікаюць. Адны сляды на пяску застаюцца.

— Прыехалі,— сказаў Казлейка і спыніў коней. Да гэтага, як і належыць прыслугачу, ён сядзеў нерухома і маўкліва, ніба камень.

Перад Даліборам, перад прыціхлымі літоўцамі ва ўсёй прыгажосці і веліччы ўстала, разгарнулася светлая свяшчэнная дуброва. Сотні, тысячы дубоў адной сям'ёю ўздымалі ў неба магутныя таўсматыя галіны, нібы рукі цягнулі да аблокаў. Галіны гэтыя былі пакручаста-

звілістыя, сагнутыя, бо кожны свой лісцік дуб павінен паказаць, падставіць сонцу. Пад парывістым ветрам чуўся зверху жалезны скрыгат пацямнелай дубовай лістоты. З цяжкім гупаннем падалі да падножжа дрэў мокрыя, налітыя яраснай жыццёвай сілай, жалуды. Кожны жолуд стромка ляцеў уніз, не адхіляючыся ні на пядзю, і клаўся каля свайго роднага дрэва. Разам з жалудамі ляцела, сыпалася вялікае мноства кароценькіх дубовых галінак з некалькімі пажоўклымі лістамі. Дуб вельмі шануе святло і, ловячы яго, як бы абтрасае, ачышчае ад лішніх галінак сваю ганарлівую, высока ўзнятую галаву. Гэта пра яго кажуць: любіць расці ў кажусе, але ■ непакрытай галавой. Увесь дол быў засланы апалымі лісцямі і галінкамі. Праз частакол магутных тоўстых ствалоў прарываўся вецер, узвіхурваўся ў глыбіні дубровы, раскідваючы, распырскваючы ва ўсе бакі мёртвае лісце.

— Алка,— усхваляваным ціхім голасам выдыхнуў Міндоўг і зняў ■ галавы шапку.

Далібор ужо чуў раней гэта слова, ведаў яго. Алка — гэта свяшчэнны дубовы лес, гэта цвярдыня прадзедаўскай веры. Дуб, а не якое іншае зямное дрэва абралі багі, каб у шуме ягонай вечнай лістоты пасылаць свае вітанні і свае загады ўсім тым, хто пакланяецца Пяркунасу. Дуб не баіцца маланак, бо сам — сын маланкі. Тысячагадовы і непарушны, глядзіць ён са сваіх вышынь на пакаленні людзей, бачыць, як немаўляты, што спалі ў калысках, падвешаных да ягоных галін, ахінутых ягоным ценем, растуць, дужэюць, робяцца воямі, потым робяцца дзядамі з белымі, як снег, барадамі. Дзяды паміраюць, кладуцца лёгкім прысакам на памінальных жоглішчах, але, як жалуды, прыходзяць на гэту зялёную зямлю новыя людзі, каб шанаваць і берагчы тое, што вяло па жыццёвай дарозе дзядоў.

Літоўцы пачалі тварыць сваю малітву. Далібор стаяў збоку, таксама зняўшы шапку. У ягоным хрысціянскім Навагародку свяшчэнным дрэвам, улюбёным дрэвам багародзіцы святары аб'явілі белую бярозу. З дуба ж кпліва смяяліся, здзекаваліся, бо быў ён дрэвам старой паганскай веры. А што паганскае — тое дурное і цёмнае, і той, хто верыць старым багам, таксама дурны і цёмны, мае на плячах дубовую галаву. Але стаіць побач Міндоўг, няўрымслівы жарсткавокі кунігас, і кажа, што дуб — ахова ўсяго народа. І Далібор верыць яму, бо бачыць, як гараць вочы ў літоўцаў, якія прасветленыя

ў іх твары. Літовец ніколі не ссячэ дуб. Лепш руку сабе адсячэ ці нагу. А ў Разанскім праваслаўным княстве (ведае Далібор) дубы ссякаюць, але і там дуб — ахова народа. Ратуючыся ад татарскай конніцы, разанцы ссякаюць цэлыя дубровы, кронамі кладуць іх на поўдзень, і ўстае ў голым стэпе, палохае ашаломленых стэпавікоў непраходная і непраезная рагатая сцяна.

Далібор нахіліўся і ў абляцелай дубовай лістоце паміж мноства жалудоў убачыў жолуд, які паспеў ужо прарасці. Моцным белым карэньчыкам, што быў падобны на крывульку, жолуд намацаў зямлю. Ягоныя ружовыя тоўстыя семядолі рассунуліся, расчыніліся, і на белы свет асцярожна зірнула маленькая почачка. Жолуду яшчэ трэба перазімаваць зіму, і калі не закасцянее ён ад марозу, то будучай вясною шпарка пойдзе ў рост. Але колькі неспадзяванак чакае ягонага сынка.

—Бачыў нашы святыя дубы, княжыч?—задаволена спытаў Міндоўг.— У іх — моц Літвы. Клянуся багам, што я ўзніму Літву на такую вышыню, аб якой і не сніцца маім ворагам. Вучаць мудрацы: ні ўва што надта не ўлюбляйся, бо разлюбліваць давядзецца. Ведаю, як цяжка гэта і балюча — разлюбліваць. Разлюбіў — быццам нож у жывую рану ўсадзіў. Але я люблю Літву і хачу, каб яна была маёй.

Побач з узрушаным кунігасам ціхмяна стаяў Казлейка, «самы верны Казлейка», як казаў пра яго Міндоўг, асабліва калі быў у добрым настроі. Гэтага чалавечка Далібор адразу запрыкмеціў, вылучыў з соцень баяр і слуг, што роем віліся цэлы дзень каля варуцкага ўладара. Невядома толькі, чым займаўся ўсяісны Казлейка. Як ехалі ў свяшчэнны лес, быў ён за фурмана, потым рыхтаваў з кухарамі абед, спрытна падтрымаў пад локцік Міндоўга, калі той паслізнуўся на мокрай лясной траве. Захацеў кунігас, прапарыўшыся ў дарозе, папіць, і Казлейка паднёс яму сінюю карчажку з нейкім пітвом.

— Хто гэты чалавек? — спытаў Далібор у віславусага немаладога баярына, паказаўшы вачамі на Казлейку.

Баярын спачатку не зразумеў.

— Хто ён? — дапытваўся Далібор.— Баярын? Ціўн? Або, можа, ён загадвае княжымі ловамі?

Віславусы літовец нарэшце здагадаўся, чаго ад яго хочуць. Рашуча матлянуў галавою.

— Не, не баярын і не цівун. Ён — Казлейка.

Другі баярын, больш смелы і больш гаваркі, сказаў:

— Ён з такіх, што, і ўніз па́даючы, узлятаюць угору. Ён, калі глядзіць на што, кідае вачамі адразу ў абодва канцы. Раю табе, навагародскі княжыч,— не вадзіся з Казлейкам. Прываротным зеллем апаіў ён Міндоўга, і кунігас без яго кроку не ступіць. Гніда гнідаю, а вялікую ўладу мае. Хацелі прыдушыць у лесе, ды неяк пранюхаў, і за яго Міндоўг пяць харобрых баяр узяў за коўцік*.

Далібор па сваёй маладой цікаўнасці і гарачлівасці пачаў, як бы між іншым, разблытваць клубок жыцця гэтага незразумелага чалавека, асцярожна выпытваць пра яго. Той жа баярын расказаў, што ў час чарговай літоўскай замятні Казлейка, каб паказаць вернасць Міндоўгу, уласнаручна забіў роднага брата, адсечаную ж галаву кінуў у балота. «Чырвоным агнём усхапілася тады ўсё балота»,— абурана гаварыў баярын, і ўсё ж, які ні быў адважны, прыцішваў, прыдушваў голас.

Ды, пэўна, не за тую нітку пацягнуў у клубку навагародскі княжыч, бо сам Міндоўг, хаваючы раздражнёнасць, сказаў яму:

— Княжыч Глеб, мяне не цікавяць і ніколі не цікавілі сядзельнічыя або пасцельнічыя твайго бацькі князя Ізяслава Васількавіча. Думаю я, што і мае бедныя слугі, якіх [redacted] кармлю і розуму навучаю, нікога не зацікавяць. Навошта нам, князям, пялёхкацца ў іхняй рабскай крыві?

Далібор як язык праглынуў. Потым ушчуваў сам сябе: «Дурню навука. Госць, дык гасцюй, а то захацеў на крывых санях пад'ехаць».

І вось пачалося доўгачаканае паляванне. Толькі самых верных, самых блізкіх людзей узяў з сабою ў тую халодную ветраную раніцу Міндоўг. Апрануліся як мага цяплей, узброіліся і пайшлі ў шэры мокры лес. Ён рос побач са свяшчэннай дубровай-алкаю. Тут таксама сям-там пракідваліся, вытыркаліся з багністай зямлі дубы, але былі яны лядашчымі хірлякамі ў параўнанні з волатамі, што раскашуюцца ў алцы.

На вуснах ва ўсіх, хто ўжо не першы раз браў удзел у незвычайным паляванні (а што яно будзе незвычайным, папярэдзіў Далібора сам Міндоўг), лётала адно толькі слова: «Жэрнас... Жэрнас...» Далібор ведаў, што

* Коўцік — кадык. Узяць за коўцік — павесіць.

па-літоўску так называецца кабан, дзік. «Дзікоў будзем біць»,— падумаў княжыч.

Казлейка, які ішоў наперадзе, трымаў у руках жалезны бязмен з трыма вострымі шыпамі. На лес, на балота нахлынуў туман, і людзі бачыліся ў гэтым тумане шэрымі зданямі. Раптам пад нагой у Далібора страхавіта хруснуў сучок.

— Цішэй,— прыклаў палец да чырвонай адтатуранай губы Міндоўг.

Нарэшце ў ранішнім мораку ўбачылі вялізнае лоўчае збудаванне, якое ў Новагародку завуць сценкаю. З тоўстых яловых калод была зрублена пастка, падобная на доўгі клін. Пастка мела шырокі ўваход, які кожны міг можна перакрыць тоўстымі дубовымі заваламі. Для таго каб гэтыя завалы былі пад рукою, паляўнічыя, у тым ліку і Далібор, залезлі ў цесныя схоўныя каморы. Заставалася чакаць.

Міндоўг, што сядзеў побач, шаптаў Далібору ў самае вуха:

— Нідзе няма столькі птушак, як у нашых літоўскіх лясах. Калі крыжакі, праклятыя заморскія псагалоўцы, пабудавалі на нашай зямлі свой першы замак, яны назвалі яго «Vogelsang», што азначае — Птушыны спеў.

Далібор, слухаючы кунігаса, зноў са здзіўленнем адзначыў, што той ці наўмысна, ці выпадкова амаль заўсёды гаворыць аб тым, чаго ў дадзеную хвіліну проста не можа быць. Вось жа — пачаў пра птушак. Якія птушыныя спевы ў глухім і халодным восеньскім лесе?

Усе маўчалі, затойвалі дыханне. Адзін Міндоўг, як і заўсёды, мог размаўляць калі хацеў і дзе хацеў.

— Праклятых псагалоўцаў здзівілі нашы лясы, нашы дубы,— шаптаў далей Міндоўг.— І свой першы замак яны збудавалі не на зямлі, не на скале, а на галінах велізарнейшага, у сорак чалавечых абхопаў, дуба.

«Дзіўнае паляванне,— слухаючы Міндоўга,— думаў між тым Далібор.— Ні загоншчыкаў няма, ні сабак не чутно».

Ен убачыў, што па ўсёй даўжыні пасткі-сценкі маўклівыя людзі пад наглядам Казлейкі рассыпаюць з мяхоў жалуды. Гэта была, вядома, прынада, любімая ядзь* усіх дзікоў. Але Далібор, з малалецтва ведаючы ловы, ведаючы норавы розных лясных, рачных і ба-

* Ядзь — ежа.

лотных насельнікаў, не сумняваўся, што дзікі не пойдуць у гэту няхітра задуманую пастку. У дзіка дрэнны зрок, але нюх і слых вельмі вострыя, і чалавека ён адчувае на вялікай адлегласці. Не можа быць, каб у Літве вадзіліся дурныя дзікі і добраахвотна ішлі да чалавека на ражон, хоць бы гэтым чалавекам быў сам кунігас Міндоўг.

Закрапаў дождждык.

— Няўжо Жэрнас не прыйдзе? — ціха, як бы самому сабе, сказаў нехта з баяр.

Міндоўг крутнуўся ў каморы, згроб у кулак бараду, пачаў сярдзіта накручваць яе на моцныя загарэлыя пальцы. Потым кінуў доўгі позірк на Казлейку, што стаяў ля ўвахода. Той імгненна адчуў гэты позірк, як бы сцебануў сваім позіркам кунігас.

Сціснуўшы ў бледнай худой руцэ жалезны бязмен, Казлейка хуценька пакрочыў у лес, растаў між туману. Міндоўг разгневана соп носам.

«Даўся ім той Жэрнас,— думаў Далібор.— У пушчы столькі звяр'я навалілі, што хопіць мяса да вясны. Дзежкамі зверыну салілі».

Вісела маўчанне. Вісела яно на тонкай павуцінцы, бо толькі віславусы баярын, не вытрымаўшы, кашлянуў у кулак, як Міндоўг лінуў на яго сваю злосць і раздражненне.

— Што раскашляўся? Хочаш, каб на жар босымі нагамі ставілі? Радуешся, нябось, што кунігасу не пашэнціла? Кажы: радуешся?

— Ды як ты мог такое падумаць, кунігас? — змярцвеў, задрыжаў баярын.

— Усе вы з аднаго гнязда яечкі,— грозна прамовіў Міндоўг.

Самаўладцу-манарху, якім у апошнія гады стаў калісьці непрыкметны варуцкі кунігас, было ўсё падуладна на ягонай зямлі: жалеза і срэбра, конная дружына і апалчэнне сялян-пешцаў, жыццё людзей. Самы багаты і самы бедны з літоўцаў пачуваў сябе перад ім, нібы пустазелле, што расце пад плотам. І чалавек чужой крыві, і найпершы бліжыка* мог заснуць у абдымках сваёй жонкі ці каханкі, а прачнуцца ў вяроўках. Часта было так, што з-за шырокага хмельнага стала, за якім толькі што піў адну чару з Міндоўгам, нешчаслівец, не паспеўшы здзівіцца,

* Б л і ж ы к а — родзіч.

трапляў у катавальню, дзе яго ўжо чакалі людзі Казлейкі. Кунігас мог адабраць у баярына зямлю і сядзібу, мог разлучыць мужа з жонкаю, бацьку з дзецьмі.

Вярнуўся з туманнага лесу Казлейка. Зноў як укопаны замёр ля ўвахода. Баяры не дыхалі.

— Жэрнас,— раптам прашаптаў Міндоўг і пабялелымі пальцамі ўчапіўся ў яловую плаху, з якіх была зрублена камора. Нецярплівы, здалося, нават нейкі ліхаманкавы кунігасаў позірк паляцеў у кустоўе, якім пачынаўся лес. Вялікая радасць, вялікая насалода ззяла ў позірку. Далібор глянуў туды і на травяністым узгорку-ўзлобку, з якога ранішнім ветрыкам ужо быў ссунуты шэры туман, убачыў незвычайнай велічыні і прыгажосці дзіка. Калі б ён не ўбачыў яго на свае вочы, ён ніколі б і нікому не даў веры, што могуць быць такія. «Вось ён які, Жэрнас!» — хацелася, ускочыўшы з месца, крыкнуць Далібору, бо здзіўленне і незразумелая радасць завалодалі душой. Краем вока зірнуў навагародскі княжыч на Міндоўга, на баяр і зразумеў па бляску вачэй і пунсовасці твараў, што усімі імі таксама творыцца нешта незвычайнае, непадуладнае тлумачэнню. Гэты прыгожы ганарлівы дзік, што стаяў, асветлены першымі промнямі нясмелага восеньскага сонца, што ўзвышаўся, здавалася, над усім лесам і наваколлем, быў, як пачынаў здагадвацца Далібор, не проста дзіком, не проста моцным, упэўненым у сабе самцом, а нечым значнейшым, больш вартнейшым і глыбейшым, нечым такім, ад чаго раптоўна ўздрыгвае сэрца і ў скронях пачынае тоненька звінець-спяваць кроў.

— Жэрнас... Мой Жэрнас... Прыйшоў,— замілавана казаў Міндоўг, быццам роднага, самага любімага сына сустрэўшы пасля доўгага расстання.

Баяры, следам за кунігасам, таксама радасна ўсміхаліся, слалі Жэрнасу цёплыя, пяшчотныя словы. А віславусы баярын дык нават усхліпнуў і рукавом бабровага кажуха (няхай бачаць усе і ў першую чаргу кунігас) шырока змахнуў з вачэй слязу.

На лясным травяністым узлобку, выйшаўшы з глухіх чорных балот, стаяў, уважліва і адначасова спакойна азіраючы наваколле, незвычайны дзік. Даўжыня тулава ў яго была недзе за два сажні*. Важыў ён,

* Адзін сажань адпавядае 152 сантыметрам.

на першы прыкід вока, пудоў трыццаць. Жорсткае бурае шчацінне з рудаватым падшэрсткам аж ільснілася на ім. Ён быў падобны на велізарны валун, завостраны спераду, там, дзе на доўгім плоскім, не пакрытым валаснёй лычы ўвесь час рухаліся, хадзілі хадуном чуйныя шырокія ноздры. Вушы ў Жэрнаса былі доўгія і таксама шырокія. Можа, трошкі псавалі ягоны выгляд кароткія ногі, але яны былі моцныя, тоўстыя, лёгка насілі агромністае, запоўненае тлушчам, цела па самых непралазных балотах. Пагрозныя, белыя, як соль, што прывозяць [redacted] Галіча, іклы рассякалі паветра.

Можна было толькі дзівіцца, як лясная балоцістая бедная на корм зямля нарадзіла і ўзгадавала гэтага волата-валаціну. Пэўна ж, пад ім павінен праломвацца лёд, калі ўзімку ідзе ён грызці салодкую мёрзлую асаку на лясныя азёры. Каб пракарміць такую жывую гару сала і мяса, не хопіць адной пушчы, патрэбны дзве, бо Жэрнас меў, мяркуючы па ім, надзвычайны апетыт.

[redacted] вялікай годнасцю, нават пыхлівасцю стаяў велізарны дзік, адкрыты кожнаму воку і кожнаму кап'ю, і рэдзенькае золата кволага ранішняга сонца абпырсквала ягоны магутны лыч. Вось Жэрнас варухнуўся, павольна павёў буйной галавою. Сонца яшчэ толькі ўсплывала [redacted] туману, слабое, нягрэйкае, і на нейкі міг падалося, што дзік падчапіў, падвярнуў яго лычом, каб хутчэй ускаціць на халоднае восеньскае неба.

«Няўжо яны заб'юць Жэрнаса?» — падумаў са шкадаваннем і сумам Далібор.— Хай бы жыў такі. Ці мала іншых дзікоў у пушчы».

Новагародскі княжыч яшчэ не ведаў, яшчэ не мог ведаць, што Жэрнас, гэты сапраўдны кунігас усіх навакольных дзікоў, народжаны не для таго, каб засоленым кумпяком ляжаць на сподзе кубла або сквірчэць над агнём на нечым ражне. Далібор не ведаў, што Жэрнас — несмяротны. Гэта, зразумела, не зусім так. Некалі стомяцца і ягоныя нястомныя ногі і заплюшчацца назаўсёды пільныя вочы, калі абрыдне глядзець на пушчу, на бясконцыя балоты і хмары над балотамі. Некалі і ягоны страўнік не захоча ежы. Але сёння Жэрнас меў надзвычайны апетыт, быў усёедны і мог у незлічонай колькасці жэрці карані, карэнішчы, цыбуліны рачных і балотных раслін, ягады, насенне, жалуды, грыбы, імхі, лішайнікі, насякомых і іх лічынак, дажджавых чарвей і гэтак далей, і гэтак далей.

Ён, каб змог, з'еў бы самога сябе, такім бясконцым ненажэрствам узнагародзіла яго неба.

Колькі пражыў ён сонцаваротаў? Сто? Трыста? Тысячу? Ён не ведаў, і пушча не ведала. Здавалася, ён жыве заўсёды і будзе жыць да таго часу, пакуль нехта пажырае некага, пакуль ёсць іклы, зубы, кіпцюры, капыты, дзюбы, яд у джалах, пакуль ёсць страўнікі, у якія можна запіхнуць некага, пакуль ёсць апетыт.

А некалі ж і ён, Жэрнас, быў маленькім пярэстым камячком, якога вясною нарадзіла маці ў цёплым балоце. У яго было ажно дванаццаць паласатых сястрычак і братоў. Дзе яны? Калі іх забілі людзі і зарэзалі ваўкі? Ён не помніў. Ён бегаў па балотах і еў. Нават ува сне ён еў. На рыпучых санях маўклівыя людзі з коп'ямі ў руках і ледзякамі ў барадах пацягнулі хмурай зімою з пушчы забітую маці. Знікалі, зніклі браты і сёстры. Ён еў. Гэта быў не голад. Гэта было — свяшчэннае ненажэрства. Мяняліся пакаленні дзікоў. Гнілі балоты. Зарасталі сляпой травой лясныя аглухлыя азёры. Жэрнас наліваўся тлушчам і сілай, рос і еў. Скура цвярдзела, рабілася як бубен.

Аднойчы ён канчаткова і на ўсё жыццё зразумеў, што няма больш смачнай, больш жаданай ежы, чым жалуды. Яны падалі на зямлю з дубоў, зверху. Можна было падумаць (і ён так і думаў), што іх пасылае яму само неба.

Ён упарта пачаў шукаць дубовыя лясы. Ён даўно ўжо адбіўся ад статка і карміўся адзін. Навошта дзяліць з некім ежу? Нават сяброўак ён не заводзіў, бо, калі зацяжарваюць і рыхтуюцца нарадзіць парасят, дужа шмат ядуць.

Бясконцыя няспынныя пошукі ежы так вытанчылі, адшлікавалі ягоны мозг, што ён пачаў лічыць сябе разумнейшым не толькі за ўсіх дзікоў, але нават і за людзей. Ды з людзьмі, вядома, цяжка было спрачацца. У пракаветнай даўніне (Жэрнас памятаў гэты час памяццю продкаў) яны пачалі пакланяцца дубу, пачалі абгароджваць і ахоўваць свяшчэнныя дубровы-алкі. «Вядома ж, як не аб'явіць свяшчэнным дрэва з такімі незвычайна смачнымі пладамі?» — думаў Жэрнас, бегаючы вакол агароджаў, спрабуючы падкапацца пад іх або зламаць. Ды ўсюды яго білі кіямі па лычы, шпурлялі камяні, коп'і. Абломак кап'я і сёння носіць ён у левай бакавіне.

Самае пакутлівае і невыноснае было тое, што

ў пушчы трапляліся дубы, і нямала, але ён, Жэрнас, хацеў, страсна марыў уволю наесціся жалудоў толькі у свяшчэннай дуброве, са свяшчэнных дрэў. Ён спаў, закапаўшыся па вушы ў твань, і ўва сне самі каціліся ў пашчу жалуды з непадступнай алкі, такія хрумсткія, буйныя, крухмальныя, салодкія. Ён аж давіўся імі, аж трашчалі вушы, а калі прачынаўся, калі разумеў, што рот ягоны пусты і страўнік таксама пусты, пачынаў вішчаць-плакаць, крышыць бязлітасным лычом альхоўнік. Тады ходырам хадзіла ўсё балота.

Аднойчы ён зламаў усё-такі агароджу і ўварваўся, уляцеў у алку. Але набеглі ■ усіх бакоў людзі, стукнулі дубінаю па лычы. Ён упаў, заліўшыся крывёю. Яго хацелі ўжо прыкончыць, ужо бліскучая сякера ўзвілася над ім, але раптам нейкі драбнацелы чалавечак, якога звалі Казлейкам, уладным крыкам спыніў усіх, узяў Жэрнаса, не пабаяўшыся, за вуха, потым лёгкімі пальцамі пачаў чухаць, часаць за гэтым вухам. Так яны напаткалі адзін аднаго, Жэрнас і Казлейка. Можна толькі дзівіцца, як хутка паразумеліся дзік з чалавекам. Дзік прагнуў ежы, і не звычайнай, што можа трапіць на зуб кожнаму, а адмысловай. Пра такую прагу кажуць: «Захацелася мёрзлага ў Пятроўку». Чалавек заўсёды марыў аб вялікай уладзе. Дробны ростам і душой, ён хацеў узвышацца над усімі, свяціць усім, прычым, свецячы, быць для людзей не сонцам (для гэтага не хапала ў крыві цеплыні), а начным халодным месяцам. Толькі б заўжды быць навідавоку, толькі б плыць над людскімі галовамі. Чалавек навучыў дзіка здабываць ежу.

Далібор са спачуваннем і ўжо нават з нейкай любоўю глядзеў на Жэрнаса. Хацелася крыкнуць, замахаць рукамі, папярэдзіць балотнага прыгажуна аб небяспецы.

Жэрнас узняў галаву, чмыхнуў, сцебануў кручаным хвосцікам па сцягне, быццам падагнаў сам сябе, і ўпэўнена рушыў уперад, набліжаючыся да адчыненага ўвахода ў сценку-пастку. «Карачун табе будзе»,— падумаў Далібор.

Жэрнас ішоў рашуча, велічна. Абліты ружовым сонечным святлом, ён быў надзвычай прыгожы, быццам адкаваны з медзі або нават чырвонага золата.

І тут Далібор убачыў такое, што прымусіла яго прыўзняцца са свайго седала і працерці кулакамі вочы. З-за ўзлобка, з нізіны, што хавалася за ім, у нейма-

вернай ціпіыні раптам выйшла незлічонае мноства дзікоў і, след у след, папраставала за Жэрнасам. Іх было сотні дзве, калі не болей. Яны ішлі, вялікія і маленькія, самцы і самкі, тоўстыя і худыя. Ішлі зеленавата-шэрыя і карычневыя ад бруду, бо ляжалі перад гэтым у балоце. Позіркі ўсіх як вяровачкаю былі прывязаны да Жэрнаса, да прыгажуна і волата. Ён (зразумеў Далібор) быў у іх за важака.

Паласатая маўклівая рака сцякала з узлобка. Бліжэй, бліжэй... Ужо можна было пачуць дыханне дзікоў, мяккі тупат капытоў па травяністай зямлі. Жэрнас, як і належыць самаму моцнаму і самаму мудраму, бадзёра джгаў паперадзе, скруціўшы абаранкам хвосцік. Гэты вясёлы рухомы хвосцік быў знакам, сігналам для тых, што ішлі за важаком: «Усё добра... Усё спакойна... Хутка я прывяду вас туды, дзе ёсць шмат ежы».

Людзі, якія схаваліся ў засадзе, затаілі дыханне, а некаторыя нават угнулі галовы і заціснулі рукамі раты і насы. Кожны ў думках маліў Пяркунаса, каб не наслаў у такую адказнейшую хвілю чых або кашаль. Чхнеш, адзін раз толькі чхнеш, і пасля палявання можаш трапіць не за хмельны кунігасаў стол, а да Казлейкі ў катавальню. А там усё робіцца хутка — нашкодзіў кунігасу рукой, адцінаюць руку, нашкодзіў кунігасу носам — чхнуў, адцінаюць нос.

Жэрнас рашуча ўвайшоў у пастку і, не спыняючыся, пакіраваўся ў самы дальні яе кут. Пярэстая балотная раць увалілася следам за важаком. Адразу як не было цішыні. Пачуліся віск, хруканне, хрупанне і чаўканне. Кожны з дзікоў спяшаўся набіць, напхаць у сваё чэрава як мага больш ежы. Тут і там сусед хапаў зубамі суседа, лічачы, што той апярэдзіў яго, сцягнуў смакату з-пад самага лыча. Казлейка пачакаў, пакуль самы апошні дзік увойдзе ў пастку, і махнуў рукой. Княжыя асочнікі і палясоўшчыкі з грукатам апусцілі цяжкія завалы. Пачалася бойня.

Увесь гэты час Далібор бачыў Жэрнаса, бо нельга было не прыкмеціць такую аграмадзіну. Вось-вось і яго прыкончаць дубінай або сякерай, і ляжа ён, лыч у лыч, побач са сваімі балотнымі братамі і сёстрамі. Але, на вялікі здзіў, Жэрнаса шчасліва абмінала смерць. Магутны прыгажун, ступаючы па крывавых ручаінах, спакойна і ганарыста прайшоў у самы кут пасткі, і там адзін з асочнікаў хуценька расчыніў перад ім хітра

ўробленыя ў сцяну варотцы. Далібор і не заўважыў бы іх, каб яны не расчыніліся. Жэрнас, нібы забыўшыся пра сваю веліч і нечуваную вагу, жвава скокнуў у іх, як парсючок-першалетак, і асочнік адразу ж зноў іх зачыніў, балюча стукнуўшы па лычы дзіку, што ў даверлівасці і прастаце сваёй хацеў вырвацца на волю следам за важаком. Нават не азірнуўшыся на пастку, дзе каналі ягоныя аднalясоўцы, мудры прыгажун борзда патрухаў у бок свяшчэннай дубровы-алкі. Яна была непадалёку, і да яе Жэрнас ужо пратаптаў, прабіў у густой траве толькі аднаму яму вядомую сцежачку-ручаёк. Асочнік і там, у абгароджанай алцы, адчыніў перад дзікам вароты. Жэрнас, які ўсю раніцу не еў, цярпліва чакаючы гэту часіну, з віскам рынуўся пад свяшчэнны дуб і ўсёй пашчаю пачаў хапаць з зямлі такія смачныя, такія салодкія жалуды. Ён вельмі спяшаўся і разам [illegible] жалудамі выдзіраў траву, смецце, мурашак, імгнення глытаючы ўсё гэта. А побач раслі яшчэ дубы, шмат дубоў, і пад імі ляжалі незлічоныя жалуды. Нават ён не мог з'есці ўсё адразу, і ад гэтай немагчымасці яму было шкода самога сябе, ён вішчаў, еў і плакаў бясколернымі слязамі. Потым, набіўшы чэрава так, што яно валачылася па зямлі, цяжка пакалываўся, папоўз, як гара, з дубровы. Хацелася піць. Ён прайшоў каля пасткі, дзе ўжо было ціха і толькі востра пахла свежай крывёю. Там грузілі на коней тушы, весела смяяліся задаволеныя людзі. Казлейка ўбачыў яго, крыкнуў: «Ідзі, Жэрнас, ідзі! Ты сёння добра ўсё зрабіў!» і нават памахаў яму, як чалавеку, рукою. Жэрнас пераваліў цераз узлобак, спусціўся ў балацявіну, пайшоў па халоднай рудаватай вадзе, ломячы крохкую асаку, шчасліва сапучы. Нарэшце, напаткаўшы прыдатную мясціну, спыніўся, усунуў лыч, а затым і ўсю буйную галаву ў твань і пачаў павольна смактаць ваду. Потым лёг, сыта заплюшчыў вочы. Колькі яму сонцаваротаў? Сто? Трыста? Тысяча? Ён не памятаў, не ведаў і не хацеў ведаць. Сёння ён уволю, усмак наеўся жалудоў з-пад свяшчэннага дуба. Гэта — галоўнае. Прыйдзе час, і ён зноў пабяжыць па пушчах і балотах, пабяжыць моцны, прыгожы і мудры. З хмызу і чароту, з чорных сатлелых карчоў і рудой асакі ён выведзе новых дзікоў, і яны павераць яму, бо нельга не паверыць Жэрнасу. Яны гэтак павераць яму, што пойдуць за ім шукаць здабычу пры сонечным святле, хоць звычайна робяць такое ўначы.

Да фурманак ішлі абцяжараныя свінымі кумпякамі. Усе, у тым ліку і Міндоўг, былі задаволены. Шчаслівы Казлейка круціўся каля кунігаса, глядзеў на яго адданымі вачамі, не адстаючы ні на крок.

— Упадабаў, княжыч, ловы? — весела спытаў у Далібора Міндоўг.

— Упадабаў,— адказаў Далібор. І не схлусіў, бо ведаў, што, каб здабыць мяса, трэба заўсёды праліць кроў.

— Гэта ўсё мой Казлейка, мой верны Казлейка пастараўся,— паманіў да сябе пальцам Казлейку і пагладзіў яго па галаве, як хлапчука, Міндоўг.

Казлейка аж расцвіў ад доўгачаканай ласкі кунігаса. Сказаў са шчаслівай дрыготкай у голасе:

— Для цябе жыву на гэтай зямлі.

— Ну, жыві, жыві,— зноў пагладзіў яго Міндоўг.

Перад вачамі ў Далібора ўсё яшчэ стаяў Жэрнас. Што й казаць: ніколі не чуў і не ведаў пра такія дзівосы навагародскі княжыч. Дзік вядзе сваіх братоў у пастку, пакідае іх там, а сам бяжыць у свяшчэнную дуброву і жарэ жалуды. Раскажы каму, не паверыць. Трэба мець чалавечы розум і чалавечае вераломства, каб зрабіць такое. А можа, гэты Жэрнас не дзік, а пярэварацень які-небудзь? Надзеў на сябе дзічыную шкуру, аброс лясным воласам. Пра такіх у Новагародку старыя людзі на кожным парозе баяць. І ў храме святых Барыса і Глеба іерэй Міхал пра іх казаў. На добры розум, трэба было б забіць гэтага Жэрнаса і паглядзець, чыё ў яго ў грудзях сэрца — звярынае ці чалавечае. Але хто дазволіць такое? Міндоўг? Або Казлейка? У гэтага Казлейкі, пэўна, у самога замест сэрца гліняны гаршчок з перагарэлымі вугалямі.

Седзячы ў фурманцы побач з Міндоўгам, закалыханы дарогаю, Далібор задрамаў, і прыснілася яму дуброва-алка з велізарнымі свяшчэннымі дубамі. Яны такія высокія, што, як ні задзірай галаву, хоць звярні шыю, не ўбачыць іхніх вяршынь. Сыплецца зверху нейкая пацяруха. Ці то вецер птушыныя гнёзды размёў, разваліў, ці кладзецца на зямлю знясіленая дохлая саранча. Такая саранча, сухакрылыя ненасытныя казюркі, прылятала сонцаваротаў дзесяць таму пад Новагародак, з'ела лясы і лугі і раптам, за адзін дзень, зняможана легла пад людскія ногі і конскія капыты, і людзі тады ў ёй па калена хадзілі. Ціха ў лесе. Замоўклі птушкі. Вавёркі адпачываюць у сваіх гнёздах-

гайнах. Далібор павінен ахоўваць свяшчэнныя дубы. Невядомы, дужа строгі голас загадаў яму несці няспынную варту. Калі ж прападзе хоць малюсенькі жолуд, на кволым агні смажыць будуць. І вось чуецца тупат, цяжкое сапенне, і проста на Далібора імчыць шалёны Жэрнас. «Пусці ў алку!» — чалавечым голасам крычыць Жэрнас. Далібор хоча прыкрыцца шчытом, узняць кап'ё, але дзік навальваецца на яго, збівае з ног, топча. Агідная шчаціна, што смярдзіць балотам, хвошча, дзярэ, як сухі каляны венік, па твары. Жэрнас падбягае да крайняга дуба, хапае разам з прэлым лісцем жалуды, жарэ. Ды гэтага мала, бо вечны голад грызе вантробы. І раз'юшаны дзік няўклюдна падскоквае, каб дацягнуцца пашчаю да ніжэйшых абсыпаных жалудамі галін. Вось-вось даможацца свайго. Але раптам на вачах у Далібора гэтыя жалуды робяцца жалезнымі. «У мяне таксама ёсць такі жолуд»,— шчасліва думае Далібор. Жэрнас крышыць, ломіць аб іх зубы і ў вялікім адчаі, і вялікай лютасцю кідаецца на княжыча.

Далібор уздрыгнуў усім целам, прахапіўся. Міндоўг сядзеў побач з перакошаным ад гневу цёмным тварам. Нейкі вершнік, малады і спалоханы, разварочваў перад фурманкаю кунігаса свайго непаслухмянага каня, каб стаць перад Міндоўгам вочы ў вочы.

— Якую навіну прывёз, Кінцібут? — рэзкім голасам спытаў кунігас.

— Бяда,— хрыпла выдыхнуў вершнік.— Як ты быў на ловах, падышоў з вялікай сілаю Даўспрунк і ўдарыў па Варуце. Горад гарыць.

Міндоўг, як падкінуты землятрусам або марской хваляю, выскачыў, вылецеў з фурманкі. У адзін міг апынуўся ля вершніка, моцна гнеўна схапіў за нагу, аж той войкнуў.

— Што яшчэ?! — крыкнуў Міндоўг.

— Некаторыя твае баяры, кунігас, перахіснуліся на бок Даўспрунка, ударылі ў спіну нашым дружыннікам, што стаялі на сценах. Вялікая кроў у горадзе.

— Хто стаў здрадным псом? — схапіў вершніка загрудкі Міндоўг. Вершнік ужо кубарам зваліўся з каня, каб (забі гром!) не быць вышэй кунігаса.

— Манівід, браты Кезгайлы, Юндзіл...

— Хто б'ецца за мяне?

— Усе мы б'ёмся за цябе,— нізка пакланіўся вершнік.— Новагароджане таксама б'юцца за цябе, як ільвы.

Пры гэтых словах вершніка Міндоўг яркімі бліскучымі вачамі зірнуў на Далібора, што ўжо стаяў побач, і моцна пацалаваў яго.

— Дзякуй, дзякуй Новагародку,— усхвалявана сказаў кунігас і зноў накінуўся з роспытам на вершніка.

— Дзе княгіня з маімі сямейцамі? Дзе Войшалк?

— Войшалка паранілі ў плячо. Ён забіў старэйшага Кезгайлу. І яшчэ многіх...

— Адцяў усё-такі галаву псу? Малайчына! — выгукнуў Міндоўг.— Хто яшчэ ўзняў супроць мяне меч?

— Родзічы кунігасаў Вісманта і Спрудзейкі. Яны ўсім крычаць, што ты...

Але Міндоўг перарваў вершніка.

— Ім трэба было ісці з вайной на пушчанскага тура, які пātаптаў тых недарэкаў,— са злосным усмешкай на твары сказаў ён.— Чым яшчэ ты мяне парадуеш?

У голасе пачынаў скрыгатаць метал.

Вершнік збялеў, аблізнуў языком перасохлыя губы.

— Кунігас, нас выбілі, выкурылі з Варуты. Даўспрунк прывёў дужа вялікую раць.

Міндоўг, падалося, аж прысеў ад такой навіны. Потым скінуў з сябе кажух, сарваў з дзясніцы скураную пальчатку, хвастануў ёй вершніка па твары:

— І дагэтуль ты маўчаў, пёс?! Каня мне!

Ужо седзячы на кані, што ўставаў дыбком, гроб капытом зямлю, крыкнуў:

— Каня княжычу Глебу!

Яны, кінуўшы Казлейку з фурманкамі і вяпрацінай, няшчадна б'ючы коней, рынуліся ў бок Варуты. Следам імчаліся паўтары сотні Міндоўгавых дружыннікаў.

Варута гарэла, як смаляны корч, з яркім агнём і густым чорным дымам. З горада несліся крыкі, адчайныя ўдары біла. Мітусіўся люд, бегала жывёла. Рудапёры запэцканы сажай певень узляцеў на галаву дубоваму Пяркунасу, ашаломлена разяўляў дзюбу, лопаў крылламі, але не кукарэканне, а толькі пшык вырываўся з горла — згубіў голас ад пярэпалаху.

Ацалелыя варутчане, з тых, што не чакалі ад Даўспрунка літасці, ратаваліся як маглі. Хто скакаў у рэчку з абрыву і бег-куляўся па мельчаку, хто на злом галавы даваў драла ў лес і поле.

Далібор круціў галавою туды-сюды, ніяк не мог у гэтым пекле ўбачыць хоць адну жывую душу са сваёй дружыны. Няўжо ваяводу Хвала і Костку з Найдзёнам

пасеклі? Няўжо вясёлы Вель глядзіць зараз у дымнае неба мёртвымі вачамі? Мароз бег у княжыча па скуры.

З неймавернай лютасцю ўдарыў Міндоўг па варожых вершніках, якія, упэўненыя ў сваёй поўнай перамозе, ганяліся ў ваколіцах Варуты за ягонымі людзьмі, білі іх, нібы курапатак. Гэтага Міндоўг ніяк не мог трываць і пасек амаль усіх вершнікаў на шматкі. Нават тых, што кінулі зброю і ўпалі на калені, пасек.

Далібор грудзі ў грудзі сутыкнуўся з магутным цёмнавалосым літоўцам, які, накінуўшы на плечы звярыную шкуру, размахваючы мачугай, імчаўся проста на яго. Свіснула за пядзю ад галавы мачуга. Калі б літовец патрапіў, зачапіў, толькі [illegible] чырвоныя пыркі паляцелі. Далібор не меў шчыта, але нейкім цудам вывернуўся з-пад гэтага страшнага ўдару. Прыўзняўшыся ў страмёнах, закусіўшы губу, навагародскі княжыч ужо наўздагон літоўцу, калі іхнія коні, цярануўшы адзін аднаго бакамі, разляталіся, цяжка махнуў мячом. Цёмнавалосы гігант выпусціў мачугу, схапіўся абедзвюма рукамі за шыю і рухнуў з сядла.

Міндоўг, у якім аж палала кроў, атрымаўшы ў першай сутычцы з ворагам перамогу, хацеў адразу ж уляцець у Варуту.

— Дзе Даўспрунк? — махаючы скрываўленым мячом, крычаў разлютаваны кунігас.— Гнайнавокі, дзе ты?! Не хавайся! Выйдзі на паядынак са мною!

Але, глуха рыпнуўшы, зачынілася варуцкая брама. Са сцен паляцелі ў Міндоўга і ягоных дружыннікаў бярвенні, камяні, гаршкі са смалой і агнём.

— Даўспрунк, ты заўсёды піў мае апіўкі! — крычаў Міндоўг.— Ты цалаваў жанчын, якіх я выганяў са свайго ложа!

У гэты час кунігасу паведамілі, што да Варуты з двух бакоў падыходзяць Таўцівіл з Эдзівідам. Скрыгатнуўшы зубамі, выцершы са шчокаў чорны пот, Міндоўг загадаў усім сваім людзям адыходзіць да балотнага гарадка, які быў пабудаваны вёрст за дзесяць паўночней Варуты. Кожны літоўскі і жамойцкі кунігас, які станавіўся на ногі, распраўляў крылы, стараўся ў першую чаргу займець сабе такі гарадок-сховішча. Дарогі туды не было. Яна, вядома ж, была, але цалкам хавалася пад балотнай вадой. Пад вадой ляжалі грэблі, вымашчаныя каменнем брады. Дарога была звілістая, з нечаканымі паваротамі. У нечым яна нагадвала чорнага вужа-гівойтаса, якому спрадвеку пакланяўся

мясцовы люд. Пэўна, той першы мудрэц, які надумаў збудаваць для сябе і сваіх бліжніх балотны гарадок і патаемную дарогу да яго, увесь час трымаў у памяці спрытнага вёрткага вужа.

Шмат працы і сілы ўзяла гэта падводная дарога, якая завецца кальгрындам. Спачатку на самае дно дрыгвы амаль цэлы сонцаварот сыпалі кучы камянёў. Дрыгва глытала і глытала іх, але нарэшце здаволілася. Камяні пакрылі тоўстым пластом пяску. Потым секлі сосны і крыж-накрыж клалі бярвенні, старанна масцілі дарогу. Як было не старацца, калі ад яе залежала жыццё. У мірны час дарогу мецілі тычкамі з вербалозу. Толькі ж з'яўляўся вораг, толькі ў пушчы на ўскрайку балота ўспыхвалі сігнальныя кастры, тычкі выдзіралі, і дарога знікала. Ведаў яе гаспадар балотнага гарадка і ягоныя найбліжэйшыя слугі. Большасць жа з тых людзей, што ў час небяспекі хаваліся ў гарадку, без праваднікa не маглі яе адшукаць. Здаралася, іншым часам нечакана гінуў чалавек, які захоўваў таямніцу дарогі. Ягоныя родзічы і спадкаемцы тапіліся тады ў дрыгве, стараючыся знайсці хады-выхады, і вельмі часта так і не дабіраліся да сухазем'я.

Ужо каля самага балота Далібор, на вялікую сваю радасць, убачыў нарэшце ваяводу Хвала, Костку, Веля, Найдзёна, амаль усіх дружыннікаў-навагараджан.

— Траім нашым не пашанцавала. Ляжаць у Варуце,— сказаў Хвал, па-бацькоўску абдымаючы княжыча.— Думаў я, грэшным чынам, што і цябе затаўклі дзе-небудзь паганцы, што болей мы не ўбачымся. Але бог літасцівы. І з таго свету буду дзякаваць яму.

Ваявода шырока перахрысціўся.

Найдзён, убачыўшы Далібора, аж прысеў ад радасці, пляснуў рукамі.

— Княжыч, княжыч, ты маіх бед прычынец. Дзе ты ездзіш? Дзе ходзіш? Мяне ж князь Ізяслаў у зямлю ўваб'е, калі без цябе ў Навагародак вярнуся. А ці паеў ты хоць на гэтых клятых ловах? Памятаеш, як добра мы ў Навагародку елі? Чатыры качачкі, гаршчочак кашачкі...

Усе засмяяліся.

Падышоў Костка, сказаў, прыцішыўшы голас:

— Дарэмна мы з Міндоўгам водзімся. Даўспрунк і Таўцівіл з Эдзівідам вельмі вялікую сілу займелі. Можна ўжо сказаць, што ўся Літва ляжыць у іхняй кішэні.

Далібор пранізліва паглядзеў на ляха, спытаў:

— Адкуль табе вядома такое?

— А хіба ты не бачыш, княжыч? Цэлая выправа крыжова* супроць Міндоўга ўчынілася, хоць тут, у Літве, жывуць паганцы. З усіх бакоў ідуць на варуцкага кунігаса. Не ўтрымацца яму.

— Свой лёс і канём не аб'едзеш,— падумаўшы, адказаў Далібор.— Але здаецца мне, Костка, што ты дрэнна ведаеш кунігаса Міндоўга.

— Кунігас як кунігас,— пазмрачнеў Костка, бо не дужа прывык, каб яму пярэчылі, нават тыя, што нарадзіліся ў княжых палатах.

— Усё-такі ён не зусім звычайны кунігас, не такі, як усе,— цвёрда вёў сваё Далібор.— У яго ёсць за што сваю і чужую кроў ліць.

— А ў Таўцівіла і Эдзівідам няма за што? — не здаваўся Костка.

— Таўцівіл і такія, як ён, бачаць перад сабой толькі стол, які повен пітва і ежы. Міндоўг бачыць перад сабой дзяржаву,— рашуча сказаў Далібор.— Калі мы ў Навагародку хочам узяць пад сваю руку тое, што калісьці Полацк трымаў, мы павінны абаперціся на Міндоўга і яго людзей. Няхай за нас, а не супроць нас ваюе іхні меч.

Апошнія словы княжыч і лях гаварылі ўжо, ідучы па калена, а потым і па самыя пахі ў зялёнай балотнай вадзе. Паперадзе ўсіх, высока ўзняўшы запаленую паходню, каб кідалася ў кожнае вока, ішоў праваднік. Ён часта спыняўся, прыпамінаючы аднаму яму вядомыя праходы ў гэтай глухой твані, браў то ўлева, то ўправа, як той заяц, што ратуецца ад лісы. Вялі на повадзе коней, і некалькі бедных жывёлін зламала ногі. Міндоўг загадаў прыкончыць коней, але тушы несці з сабою. Аблога магла доўжыцца не адзін дзень, а вою, калі будзе зусім нявыкрутна, не прывыкаць есці конскае мяса.

Нарэшце дайшлі, дацерабіліся да сухой зямлі. Адзежа ва ўсіх узялася карынай.

Балотны гарадок быў невялікі, абведзены з усіх бакоў драўляным тынам. Тут, на самым высокім месцы вострава, была выкапана яма, дзе хавалі зброю і збожжа. Ваду чэрпалі са студні, каля якой Міндоўг адразу ж паставіў варту. Было вельмі цесна і тлумна.

---

* Выправа крыжова *(польск.)* — крыжовы паход.

Расклалі вогнішчы, сушыліся, здзіралі з сябе агідную балотную твань.

— Мы, як зялёныя жабы,— смяяўся Найдзён, абчышчаючы Далібораў кажух.

— Можа, ты і жаба, а я навагародскі вой,— пачуўшы такія словы, сказаў дружыннік Вель.— А калі ты жаба, то лезь назад у балота.

І, жартуючы, схапіў халопа за каршэнь.

З вялікай радасцю сустрэў Далібор у балотным гарадку Войшалка. Варуцкі княжыч таксама заўсміхаўся яму. Селі на кучу камянёў, што была насыпана ўздоўж тыну. Зялейнікі абкруцілі Войшалку паранены плячук белым кужэльным палатном, тонкімі звярынымі шкуркамі.

— На ловы ездзіў? — спытаў Войшалк.

— Ездзіў,— адказаў Далібор.

— І Жэрнаса бачыў?

Толькі Далібор хацеў згодна кіўнуць галавой, як Войшалк, пачырванеўшы ад гневу, ускочыў, горача загаварыў:

— Як я хачу яго забіць! Як я хачу ўсадзіць кап'ё (усё кап'ё! па самую руку!) у яго тлустае агіднае чэрава! Павер мне, я яго некалі заб'ю. Калі я падумаю, што ён, здыхаючы, будзе вішчаць, енчыць, круціцца ў брудзе каля маіх ног, [redacted] раблюся шчаслівы.

— За што ты так не любіш гэтага дзіка? — уважліва паглядзеў на Войшалка Далібор.

— Я ненавіджу здраднікаў, тых, што прадаюць сваіх,— прыжмурыўшы вочы, прамовіў Войшалк і адразу ж у вялікай скрусе апусціў галаву на рукі.— Гэта ўсё Казлейка, гэта ўсё ён... Нездарма кажуць, што мяккі чарвяк цвёрдае дрэва точыць. Як чарвяк, упоўз ён у душу да майго бацькі, да кунігаса. Бацька, калі пабудзе [redacted] ім, робіцца зверам. Некалі я заб'ю Жэрнаса і Казлейку.

Зусім не баючыся, не асцерагаючыся малазнаёмага чалавека, якім быў для яго Далібор, варуцкі княжыч выліваў [redacted] сэрца злосць і крыўду. Потым сказаў:

— І яшчэ адна злыбяда навалілася. Няма нашай Рамуне.

— Дзе ж яна? — уздрыгнуў Далібор.

— Ніхто не ведае. Мінулай ноччу, перад тым як напалі на Варуту, панесла яна ахвяру Пяркунасу. Яна і раней часта апраналася вайдэлоткай і разам з усімі вайдэлоткамі хадзіла да святога вогнішча. Наша

Рамуне не такая, як іншыя дзяўчаты. Была не такая.

Войшалк замоўк.

— Якая ж яна? — са шчымлівым трымценнем у сэрцы спытаў Далібор. Ен раптам адчуў, што навіна, якую паведаміў варуцкі княжыч, балюча перахапіла дыханне. Прыгожая літоўка з чорна-зялёнымі вачамі і светлым попелам валасоў як бы прамільгнула перад ім.

— Задуменная была. Іншыя князёўны і баярскія дочкі, палец пакажы, хіхікаюць, ад смеху давяцца, а яна — не. Па лесе любіла хадзіць, па лузе. Вянкі прыгожыя пляла. Хрысту, праўда, не дужа малілася. Толькі калі маці прымусіць. Яна, як бацька, кунігас Міндоўг, да Крыве-Крывейты ездзіла, старую літоўскую веру шанавала. Мы з ёй, скажу табе праўду, княжыч, нават біліся калі-нікалі. Смешна: я, мужчына, брат,— і біўся са сваёй сястрой. А яна гордая была. Крыўды ніколі і нікому не спусціць. Ды што цяпер казаць?

Войшалк тужліва махнуў рукой.

— Пайду. Там маці плача.

Далібор застаўся адзін. Вострьі нечаканы сум, быццам халодны агонь, успыхнуў у самай глыбіні душы, і не было ад гэтага суму ратунку. Сэрца анямела ад крыўды на жыццё, якое насылае на людзей адну бяду за другой. Ляжыць у галавешках Варута... Цяпер вось — няма Рамуне... Дакуль будзе такое на белым свеце? Але тут цяжка што-небудзь надумаць. Сказана ж у святым пісанні: страх божы майце вышэй за ўсё.

Зноў успомніліся чорна-зялёныя вочы літоўскай князёўны, як бы выплылі з туману. Далібор раптам зразумеў: калі загіне або будзе згвалчана Рамуне, бязрадасным і непатрэбным, як спарахнелы лясны грыб, стане ягонае жыццё. Што ж рабіць? Ён зрабіў адзіна правільнае, што выпадала ў такім становішчы,— пайшоў да Міндоўга. Кунігас дапаможа разблытаць гэты жахлівы клубок. У думках ён маліўся Хрысту і Агню-Варажбіцічу, каб не адступіліся ад Рамуне і яго, Далібора.

Міндоўг, падалося, чакаў навагародскага княжыча. Быў ён голы па пояс. Нязменны Казлейка націраў кунігасу хрыбетнік пахкай светла-карычневай маззю, якую чэрпаў срэбнай лыжачкай з рыфленага чырванашкельнага флакончыка. Аброслыя чорным воласам тлуставатыя кунігасавы грудзі перасякаў доўгі звілісты шрам.

— Гэта апошняя іхняя перамога,— убачыўшы Далібора, адразу ж загаварыў Міндоўг.— Апошні ўкус гадзюкі. Хоць ён баліць, але ён не смяртэльны. Да мяне ўжо ідуць верныя мне войскі. За мяне Новагародак.

— Новагародак за цябе, кунігас,— пацвердзіў Далібор.

Гэта яшчэ больш натхніла Міндоўга

— Пад маімі сцягамі збярэцца ўся Літва. І ніхто не асмеліцца ўзняць руку на святы дуб.

«Жэрнас, пакуль ты кажаш такія словы, узнімае лыч»,— падумаў раптам Далібор і вельмі пільна паглядзеў на Казлейку, які аддана шчыраваў над кунігасавай спіною. Навошта, цікава, Казлейку гэты ненаедны дзік, гэты Жэрнас? Каб мець асалоду ад усведамлення, што нават са святыняю ён, здаецца, такі кволы і непрыкметны, можа рабіць усё, што толькі пажадае?

— Яны не любяць мяне, а я не люблю іх,— казаў між тым кунігас, маючы на ўвазе сваіх шматлікіх ворагаў.— Але за што іх любіць? І хіба можна любіць пацука, павука? Хіба можна любіць вось гэтага агіднага здрадніка, які хацеў атруціць мяне з маёй сям'ёю і ўцячы да Даўспрунка?

Рэзкім узмахам рукі Міндоўг шкуматнуў за льняны шнурок, і адкрыўся вачам чацвёрты кут святліцы, які да гэтага быў завешаны шчыльным чорным полагам. Далібор убачыў яшчэ не старога светлавалосага чалавека ў парваным адзенні, з разбітым да крыві тварам. Чалавек стаяў на каленях. Рукі былі заломлены, заведзены за спіну і звязаны сырыцай. Даволі важкі клунак вісеў у няшчаснага на шыі, гнуў да зямлі галаву.

— Гедка. Мой былы баярын,— растлумачыў Міндоўг.— Хацеў, сабака, бегчы цераз балота, і пабег ужо, але схапілі.

Тут кунігас удзячна паглядзеў на Казлейку.

— А перад гэтым, як ліхадзей і апошні таць, наліў у княгінін кубак віна і ў тое віно ўсыпаў жменю атруты.

— Клянуся багамі, клянуся Пяркунасам, я не сыпаў,— загаварыў раптам Гедка, і голас быў даволі дзёрзкі, не пасаваўся з прыніжаным выглядам баярына,— не бачыў я ніякага кубка, ніколі не браў яго ў рукі. Навошта мне труціць княгіню? Я ўзяў толькі сваё срэбра.

— Вось гэта срэбра і пацягне цябе на балотнае дно,— сурова сказаў Міндоўг.

— Так мне наканавана,— уздыхнуў Гедка і адчайна-смела бліснуў вачамі.— Гэта ўсё твой Казлейка, твой шапатнік пляце сваю павуціну. Апамятайся, пакуль не позна, кунігас. Глянь наўкол сябе жывым вокам. Папомні мае словы: кроў ударыць з магіл ручаём, і сам ты захлынешся ў ёй.

Міндоўг маўчаў.

— Ах, Гедка, Гедка, бедны Гедка,— ціхім шкадобным голасам прамовіў Казлейка, закрываючы прыгожай, у форме кветкі накрыўкай чырванашкельны флакончык.— Як асмеліўся ты сваім брудным языком бэсціць таго, на каго не маеш права нават глянуць? — Міндоўг — адзін, а вас як камароў на балоце. Ты мог памерці зараз жа, з цэлай скураю. А памрэш толькі праз тры дні, і ўсе гэтыя тры дні і тры ночы будуць прасмажваць цябе на вуголлях. Ты сам абраў свой лёс.

Гедка, пачуўшы такое, глуха застагнаў, у роспачы матлянуў светлавалосай галавой.

— Кунігас, дзе твая дачка? Дзе Рамуне? — запытаў Далібор, калі яны засталіся адны.

— Ты, княжыч Глеб, чуў што-небудзь пра яе? — увесь устрапянуўся, аж засвяціўся Міндоўг.

Калі ж зразумеў, што Далібору нічога невядома пра лёс князёўны, маркотна ўздыхнуў, у трывожным одуме сашчаміў цяжкія рукі. Потым, павольна вымаўляючы словы, сказаў як бы самому сабе:

— Не прыляцела мая пчолка.

І замоўк, заплюшчыўшы вочы.

Далібор глядзеў на кунігаса, на гэтага моцнага і адначасна слабага чалавека, на абветраную скуру шчок, на цёмную з рудоцінкай бараду, на загарэлыя чэпкія рукі («Ненавіджу мужоў з мяккімі рукамі!» — усклікнуў неяк Міндоўг), і супярэчлівымі пачуццямі напаўнялася душа. Кунігас, як помніць сябе, змагаецца за свае сцены, за сваю дзяржаву, але не праміне, калі надарыцца магчымасць, ухапіць чужое багацце. Ён жыве законам зямных уладароў і рыб: вялікія пажыраюць маленькіх.

— Не веру, што яна трапіла да іх у рукі,— раптам усхапіўся Міндоўг і пачаў ледзь не бегаць па святліцы.— Мая дачка разумная і хітрая, як лісіца. Яна затаілася ў пушчы, залезла ў якое-небудзь дупло і чакае мяне.

Але, астыўшы, цвяроза і сурова ўсё ўзважыўшы, зноў сеў.

— Проста ў сэрца пацэліў мне Даўспрунк. Гарпун, як у рыбіну, усадзіў. І гэты гарпун — мая Рамуне. Што ж ты нарабіла, дачка? Як быць мне, твайму бацьку і кунігасу?

— Трэба паслаць ганцоў у Варуту,— прапанаваў Далібор.

— Мірыцца з Даўспрункам? З Таўцівілам і Эдзівідам? Не! Лепей я з'ем свае ўласныя валасы.

Міндоўг зноў ускочыў, ды адразу ж сеў, ціха сказаў:

— Хай бы ты зараз была мёртваю, дачка.

І нерухомымі збялелымі вачамі паглядзеў на Далібора, але зразумеў княжыч, не ўбачыў, не захацеў убачыць яго.

Так ні з чым і вярнуўся Далібор да сваёй дружыны. Усю ноч яму снілася заплаканая Рамуне і быццам клікала некуды.

А раніцаю прыляцеў у балотны гарадок голуб. Сеў на вільчык Міндоўгавага нумаса. Усе адразу здагадаліся, што птушка ручная, вучаная чалавекам. Кунігасаў палясоўшчык Альгімонт пазнаў голуба, бо неаднойчы [redacted] пушчы ў Варуту і на балотны гарадок слаў Міндоўгу свае справаздачы-рэляцыі. Чырвоную нітку прывязваў да лапкі — усё добра, шмат зверыны развялося, можна збірацца на ловы. Сінюю — трэба пачакаць. Абпаленую, перапэцканую сажай — гуляе ў пушчы чырвоны певень, пажар.

Альгімонт паклікаў голуба, і той пырхнуў яму проста ў рукі. Адразу пабеглі за кунігасам. Да птушыных лапак былі прывязаны дзве лёгкія срэбныя бляшкі [redacted] галаўнога ўбора Рамуне. Прычым адна бляшка была цэлая, непашкоджаная, і вайдэлоты вытлумачылі гэта тым, што князёўна жывая і здаровая. Другая ж бляшка была сагнута, пакалечана з вялікай злосцю, і на ёй усе ўбачылі тры глыбокія рваныя драпіны, сляды нажа або мяча. Вайдэлоты, са страхам пазіраючы на Міндоўга, сказалі, што праз тры дні князёўну чакае вялікая страшная небяспека, а можа, нават смерць.

— Кунігас Даўспрунк паведамляе табе, што твая дачка Рамуне знаходзіцца ў яго руках і ад тваёй абачлівасці і мудрасці залежыць яе жыццё,— пакланіўшыся Міндоўгу, сказаў старэйшы з вайдэлотаў.

На кунігаса было страшна глядзець. Ён сеў на валун каля нумаса, абшчаперыў галаву рукамі і як здранцвеў. Ні слова не пачулі ад яго, толькі чырванеў і соп, нібы кавальскі мех.

Прыбегла княгіня Ганна-Паята. Упала перад мужам на калені, пачала слёзна прасіць.

— Выратуй дачку. Яна ж адна ў цябе. Адна саколка між арлоў.

Міндоўг маўчаў. Потым глухім, як з-пад зямлі, голасам прамовіў:

— Як жа я выратую?

— Пашлі ганцоў да кунігаса Даўспрунка.

У голасе ў Ганны-Паяты зацеплілася надзея. Але Міндоўг паныла і цяжка зірнуў на яе. Зорны холад неба стыў у кунігасавых вачах.

— З аднаго вала дзвюх шкур не лупяць,— сказаў Міндоўг.

Княгіня зразумела, што гэты камень, гэту скалу не ўзяць нічым. Дзяржава для яго вышэй за ўсё. І княгіня загаласіла так, як ва ўсе часы, ва ўсе вякі рабілі яе сёстры па целу і душы, жанчыны, кім бы ні былі яны на белым свеце — парфіраноснымі ўладаркамі ці чорнымі смердкамі.

Дочачка мая, зязюлечка мая,
Ягадка мая, недаспелая мая,
Без пары ты адкацілася ад мяне.
Лісточак мой зялёненькі,
Цвяточак мой чырвоненькі,
Без пары ты ападаеш,
Мне тугу пакідаеш.

Усе як знямелі. А Ганна-Паята аблівалася слязьмі.

Я жывая лягу ў калоду беладубовую...
Дочачка мая, зорачка мая,
Куды ж я цябе выпраўляю?
Не ў царкву пад вянец,
А ў магілу ў пясок.

Міндоўг зморшчыўся, моўчкі пайшоў у нумас. І нават Казлейка не асмеліўся пайсці следам за ім.

«Заложніцай узялі Рамуне. Што ж рабіць? Засталіся ўсяго тры няпоўныя дні»,— пакутліва думаў Далібор. Князёўна ўладна жыла ў сэрцы, звіла, як белая саколка, у ім гняздо. Ён адчуваў, што са стратай, смерцю Рамуне чорным будзе ягонае жыццё. У глыбокім одуме стаяў навагародскі княжыч каля балота, напружана ўзіраючыся ў супрацьлеглы бераг. Толькі паклычаны ветрам хмыз, толькі бурая асака і гнілая вада бачыліся яму. І раптам твар ягоны асвяціўся. І хоць не радасць была на твары, а толькі надзея, Далібор адразу

павесялеў, клікнуў Найдзёна і загадаў, каб той адшукаў Войшалка.

— Перадай, што навагародскі княжыч просіць яго да сябе,— сказаў Далібор халопу, рашуча накіроўваючыся ў свой шацёр. Неўзабаве Найдзён прывёў Войшалка. Навагародскі і літоўскі княжычы доўга сядзелі ў шатры. Каб Найдзён не пачуў іхнюю гаворку, Далібор уласнаручна заляпіў яму вушы воскам са свечкі. Вернага халопа гэта страшэнна пакрыўдзіла, але каго цікавіць, аб чым думае і што перажывае халоп.

Ужо ноччу ў шацёр было загадана паклікаць ваяводу Хвала і ляха Костку. Найдзён іх раскатурхаў, бо спалі, і прывёў да княжыча, хоць Костка лаяў на чым свет стаіць дурнога халопа.

А раніцою нечуваны пярэпалах быў у балотным гарадку. Крычалі ў сотню глотак Міндоўгавы дружыннікі, білі ў трывожнае біла. Чорны слуп дыму ўзняўся над востравам.

— Княжыч Глеб збег з усёй сваёй дружынай,— бялеючы ў твары, паведаміў Казлейка кунігасу.— І Войшалка з сабой павёў у вяроўках.

— Войшалка?! — схапіў Казлейку загрудкі Міндоўг.— Як жа ты праспаў? А хваліўся, што трохвокі, што на зямлі і пад зямлёй усё бачыш. Няўжо само неба супраць мяне?

Адразу ж расклалі ахвярнае вогнішча. Уласнаручна забіў Міндоўг казла і сабаку. Не надта шаноўныя гэта жывёліны, а калі казаць праўду, дык і зусім паршыўцы. Але не было пад рукою быка або вала, а без свежай крыві не паразумеешся з багамі.

Вайдэлоты спалілі на белым агні і чорным дыме казліныя і сабачыя косткі, развеялі на ўсе чатыры бакі гарачы прысак.

Потым доўга глядзелі на воблакі, на дрэвы, прыпаўшы вухам да зямлі, слухалі булькатанне адзінага ў балотным гарадку ручая. З воблакаў, калі ўважліва, не міргаючы і не адводзячы вачэй, прыгледзецца, праступіў нейкі твар, суровы і непрыветны. Але пабег па траве, па зялёных шапках дрэў вецер, зашумеў, залопаў цёплымі крыллямі паміж воблакаў, і надземны ўсюдыісны твар таго, што кіруе ўсім, памякчэў, пасвятлеў.

— Багі за цябе, кунігас Міндоўг,— урачыста абвясцілі вайдэлоты.

— Жывы не без хаты, мрэц не без магілы,—

глыбакадумна прамовіў старэйшы і мудрэйшы між імі.— Яшчэ доўга будзеш ты жыць і ваяваць, кунігас.

Потым яны далі Міндоўгу выпіць з абсмаленага казлінага рога зелля, пакаштаваўшы якое чалавек не адчувае ні боль плоці, ні боль душы. Кунігас выпіў і моцна, спакойна заснуў. Святую праўду казаў мудрэц Геракліт: «Адно і тое ж у нас — жывое і мёртвае, і шлях уверх і ўніз — адзін і той жа». І яшчэ ён казаў такое, што неабходна запомніць усім: «Людзям не зрабілася б лепш, калі б збыліся ўсе іхнія жаданні».

Надышла ноч. Спаў Міндоўг. Спала восеньская жаўталістая пушча. Спаў свяшчэнны лес усімі сваімі жалудамі і галінамі.

А ў Варуце ў гэты самы час было шумна і весела. Кунігас Даўспрунк разам са сваімі сынамі Таўцівілам і Эдзівідам шчодра частаваў навагародскага княжыча Далібора, які прывёў сваю дружыну з балотнага гарадка і, адступіўшыся ад Міндоўга, прызнаў тым самым вярхоўную ўладу Даўспрунка над усёй Літвой. Як было не святкаваць!

Даўспрунк, старэйшы Міндоўгаў брат, з такімі ж чорна-зялёнымі, быццам лясное возера, вачамі, радаваўся, але радаваўся асцярожна. Болей крычалі і п'яна бушавалі ў застоллі ягоныя сыны. Сам жа Даўспрунк сціпла сядзеў побач з Даліборам у звычайнай белай кашулі, без аніякага золата і срэбра. На нозі ён абуў звычайныя сялянскія клумпы*.

Маладыя гарачыя Таўцівіл з Эдзівідам хваліліся сваім спрытам і адвагаю.

— Мы так хутка ўбеглі ў Варуту, што Міндоўг і кашлянуць не паспеў,— казаў Далібору, наліваючы сабе і госцю новую чарку віна, Эдзівід, плячысты, з ярка-сінімі вачамі і белымі бровамі.

— Хвалі дзень увечары, жанчыну пасля смерці, меч пасля бітвы, а сваю нявесту на другі дзень пасля вяселля,— усміхаючыся ў рудаватую бараду, ціхім голасам прамовіў Даўспрунк. І, крыху счакаўшы, спытаў:

— Ведаеце, дзеці, хто гэта сказаў?

— Ты,— трымаючы ў руцэ залатую чару, тыцнуў ёю ў бок кунігаса-бацькі Таўцівіл.

— Гэта сказаў мудрэц Ішмінтас. Ён навучыў нас,

---

* Клумпы — зроблены з дрэва літоўскі абутак.

літоўцаў, страляць з лука і сеяць хлеб,— зноў усміхнуўся Даўспрунк.

Потым устаў, прасветленым позіркам абвёў усіх застольнікаў, выгукнуў:

— Вып'ем за Новагародак і Літву!

— За Новагародак і Літву! — як адзін падтрымала застолле.

Далібор быў вясёлы, усмешлівы, нямала піў, але галаву меў ясную. Насупраць яго за сталом сядзелі Хвал і Костка. Лях з вялікім імпэтам налягаў на літоўскія прысмакі, і ваявода ўжо двойчы наступіў яму пад сталом на нагу.

— А ў нас жа гасцююць нашы родзічы,— успомніў раптам Эдзівід.— Камарэча мы балотная, калі забыліся пра такое.

Даўспрунк пляснуў у ладкі і загадаў прыслужніку:

— Няхай прывядуць сюды Войшалка. І няхай прыйдзе князёўна Рамуне.

У Далібора няўлоўна ўздрыгнулі вейкі. Але ніхто з вясёлых п'юноў-застольнікаў не заўважыў, ды і не хацеў нічога заўважаць. Быў мёд, было віно, было гарачае мяса і была песня. Жанчыны таксама ўжо чакалі, каб адарыць пяшчотаю адважных мужоў, як толькі тыя выйдуць з-за стала. Што яшчэ трэба чалавеку, асабліва, калі наперадзе чакае цемра трывожных дзён, калі не можаш ведаць, на якім кроку і на якім уздыху ўвап'ецца ў тваю плоць смяротны метал?

Далібор чамусьці ўспомніў, як ішлі цераз ужо халоднае балота, як абрываліся, нібы ў бездань, ногі. Аж пот на лбе выступаў і млосна рабілася, пакуль шукаў, ліхаманкава намацваў выратавальную кладку. Злева ў чэзлым кустоўі раптам нешта хруснула, і ўсе ўбачылі старога лася. Ен таксама прабіраўся на сухазем'е. Асабліва небяспечныя багністыя мясціны лось прапаўзаў на жываце, далёка перад сабой выкідваючы пярэднія ногі.

— Толькі ляжа зіма, стане цвёрдым балота, мы пойдзем у яго і голымі рукамі возьмем там Міндоўга,— сказаў Эдзівід.

У гэты час дзверы адчыніліся, і ў іх увапхнулі Войшалка са звязанымі рукамі. Сіняк, як трохрогая зорка, гусцеў пад левым вокам, рукаў кашулі быў парваны. Міндоўгаў сын з вялікай пагардай і дзёрзкай смеласцю глянуў на ўсіх, не ўтапіў позірк у падлогу, як робяць звычайна палонныя, асабліва, калі ведаюць, што

іх прывялі не для таго, каб пагладзіць і пачаставаць. Пачаставаць, вядома, могуць, шпурнуўшы, як сабаку, абгрызеныя косткі са стала.

— Ну, што скажаш, варуцкі кунігас? — узяўшы рукі ў бокі, кпліва спытаў Эдзівід.— Вас жа там, на балоце, ужо два кунігасы, твой бацька і ты.

Эдзівід, а следам за ім і Таўцівіл зарагаталі. Даўспрунк, іхні бацька, а Войшалкаў дзядзька, маўчаў, кідаючы выпрабавальныя позіркі на пляменніка. Здавалася, ён адчувае нейкую няёмкасць.

— Развяжыце мяне,— не папрасіў, а запатрабаваў Войшалк.

— А вы з бацькам Рушкавічаў развязалі, калі рэзалі іх, як свіней? — выскачыўшы з-за стала, пабег да Войшалка Эдзівід. Быў Эдзівід шыракаплечы, але ў жываце і ў клубах занадта худы. «Юрлівы певень тлусты не бывае»,— казалі пра яго, маючы на ўвазе незвычайную цягу княжыча да жанок.

Войшалк ганарыста маўчаў. Тут уставіў сваё слова і Таўцівіл.

— Чулі мы, што ты разам са сваёй маці, цверскай князёўнай, Хрысту дужа шчыра пакланяешся, а пра Пяркунаса забыўся,— сказаў ён.— Гавораць усюды, што ты малітвы дзень і ноч шэпчаш-паўтараеш. Ці не дазволіш і нам іх паслухаць?

Таўцівіл, як блазен, скрывіў ва ўсмешцы вялікі рот, адставіў нагу, трубачкай прыклаў да вуха далонь. І раптам Войшалк, пабялеўшы ў твары, пачаў ціхім голасам гаварыць.

— Прыхіні вуха тваё да мяне, Хрыста Бога майго Маці, ад вышыні многія славы тваея, Благавесная, і пачуй стагнанне канечне, і руку мі падаждзь.

Далібор уздрыгнуў — варуцкі княжыч казаў малітву на зыход душы:

— Не адвярні ад мяне многія шчадроты твая, не зачыні ўтробу тваю чалавекалюбівую, чыстая, але прадстань мі ныня і ў час судны памяні мя.

І хрысціяне, і паганцы прыціхлі, як знямелі, бо такія словы гаворацца раз у жыцці. Павісла маўчанне.

— Развяжыце яго,— загадаў Даўспрунк.

У гэты час увайшла Рамуне. Убачыўшы брата, засвяцілася ўся ад радасці, кінулася да яго, абняла.

— Братачка мой! Саколік!

Войшалк памкнуўся ёй насустрач.

— Сястрыца! Зязюлечка!

Гэтыя самыя першыя і самыя шчырыя словы, што вырваліся адначасна з іхніх грудзей, не маглі крануць толькі камень. Чалавечае сэрца, якім ні быў бы чалавек, недзе ў самай сваёй жывой глыбіні заўсёды, можа, нават неўсвядомлена, адгукаецца на такія словы. У дадзеным жа выпадку асабліва павінна было ўстрапянуцца літоўскае сэрца, бо спрадвеку ў літоўскіх песнях-дайнах дзяўчына завецца зязюляй, ■ хлопец — сокалам або ястрабам.

Вырваныя з цёплага бацькоўскага гнязда, стоячы паміж ворагаў, яны, брат і сястра, моцна абняліся, ды так на нейкі міг і застылі, быццам явар і каліна, быццам дубок і бяроза. Што бушавала ў іхніх душах? Што праносілася ў іхняй памяці? Незваротныя дні маладзецтва, сінія летнія рэкі, белыя пухкія воблакі, нястрашныя дажджы і бяскрыўдна-залатыя маланкі, увесь той агромністы, зялёны, сонечны свет, у якім калісьці жылі яны, даверлівыя маленькія людзі, што разам бегалі па расе, па кветках басанож, галяком, і ні кропелькі сораму не было ў вачах, бо былі яны тады дзецьмі, былі братам і сястрой.

Раптам Рамуне ўбачыла за сталом Далібора і, здалося, аж пахіснулася. У чорна-зялёных вачах прабегла спачатку здзіўленне, потым роспач і крыўда. І нарэшце лядок нянавісці зашкліў вочы. Дзяўчына цяжка ўздыхнула і адвярнулася.

— Вось і ўбачыліся,— ласкавым голасам сказаў Даўспрунк.— Сядай, Рамуне. Сядай і ты, братачада* Войшалк.

Але тыя стаялі. Даўспрунк разгублена зірнуў на сваіх сыноў.

— Не так з імі трэба гаварыць,— злосна прамовіў Эдзівід.— Яны — нашы палонныя. Дзе хто бачыў, каб палонны, як гаспадар, сядзеў за сталом?

Ён павярнуўся да Рамуне.

— Учора мы паслалі да твайго бацькі голуба. Засталося чакаць два дні. Калі твой бацька праглыне язык і не прышле ніякага адказу, гэтага,— ён паказаў вачамі на Войшалка,— зарэжам, як твае сямейцы зарэзалі Рушкавічаў. А цябе...

Эдзівід на нейкі міг змоўк, холадна ўсміхнуўся.

— У нас ёсць нямала маладых нежанатых конюхаў.

Пры гэтых словах кунігас Даўспрунк вінавата

* Братачада — пляменнік, братаў сын.

і палахліва ўздрыгнуў, згорбіўся, уцягнуў галаву ў плечы і стаў падобны на вожыка, што звінуўся ў клубок. Таўцівіл у знак згоды і малодшым братам ківаў кароткай чорнай барадою. Далібор і ваявода Хвал маўчалі. Костка ж раптам наліўся гарачай крывёю, узняўся з-за стала і сказаў:

— У нас у Польшчы (а я сам — лях) да млодых прыгожых дзяўчат адносяцца з вялікай пачцівасцю. А яна ж,— Костка нізка пакланіўся Рамуне,— цурка* кунігаса Міндоўга. Можна ваяваць кунігасу супраць кунігаса, у нас таксама князі ваююць, але нельга ваяваць супраць безабаронных, тым больш дзяўчат і кабет.

Лях, прамовіўшы ўсё гэта і яшчэ раз пакланіўшыся Рамуне, з вялікай годнасцю сеў на сваё месца. Эдзівід са здзіўленнем і нечаканай для сябе нерашучасцю паглядзеў на Костку. У ягоным позірку так і крычала, так і рвалася аж пад столь святліцы пытанне: што гэта за дзіўная птушка заляцела за наш стол? Але ён змаўчаў.

Рамуне з Войшалкам вывелі, і зноў пацякло віно.

— Не дасць адказу Міндоўг. Я яго ведаю,— з паныласцю ўздыхнуў Даўспрунк.

— Пачакаем два дні,— бадзёра ўзняў чару Эдзівід.

— Я яго ведаю,— вёў сваё Даўспрунк.— Мамыра мамыраю быў, калі мы, малыя яшчэ, без штаноў у лазню бегалі, але ўпарціна, якую свет не бачыў. Аднойчы знайшоў цэлае бярэмя грыбоў і, каб даказаць, што толькі ён адзін іх знайшоў, каб нікому з нас, братоў, ні кропачкі грыбарскай славы не перапала, паеў іх сырымі, пакуль ішоў з лесу дадому. Ледзь не памёр потым.

— Хай бы ён тады і памёр! — са злосцю выгукнуў Эдзівід.

Даўспрунк як бы не пачуў сына, гаварыў далей:

— Малым убіў сабе ў галаву, што яго не нарадзілі, як нараджаюць усіх людзей, а знайшлі ў бары на высокім дубе ў арліным гняздзе. Нават некалькі сядміц патаемна ад нашай маці пазногці на руках і на нагах не абразаў, каб былі як у арла.

Ён уздыхнуў, і ўсе зразумелі, што дужа перажывае кунігас, што бяссоннымі начамі ён, пэўна, даўно пракляў той час, калі надумаў узняць дзясніцу на свайго ваяўнічага брата. Адна маці іх нарадзіла, ды не

---

* Цурка *(польск.)* — дачка.

аднолькавае сэрца дала. Мяккае шкадобнае сэрца ў Даўспрунка, і каб не сыны, асабліва малодшы, Эдзівід, даўно б памірыўся ён з Міндоўгам, выпіўшы віно згоды, даўно б прызнаў над сабой ягонае верхавенства.

— Колькі зла прычыніў нам гэты мардалысы*,— маючы на ўвазе Міндоўга, з непрыхаванай злосцю сказаў Эдзівід.

Нядобразычліўцы шапталіся па закуццях, што вытлумачыць Эдзівідаву нелюбоў да свайго дзядзькі можна вельмі проста — аднойчы, калі Эдзівід быў яшчэ зялёным хлапчанём з бурбалкамі пад носам, гэты самы дзядзька ўласнаручна скінуў з яго парткі і бязлітасна адхвастаў пякучай вогненнай крапівою. За што пакараў дзядзька пляменніка, чым той яго так угнявіў, у кругабезе дзён забылася, а вось зняважлівую крапіву ўсе добра помнілі. «Яму яшчэ і сёння свярбіць, бо рука ў Міндоўга цяжкая»,— казалі пра Эдзівіда, задаволена пасміхваючыся, усё тыя ж нядобразычліўцы.

— Скажы нам сваё слова, навагародскі княжыч,— папрасіў раптам Таўцівіл. Апошнім часам Таўцівіл пачаў усё больш задумвацца, не з такім імпэтам і ахвотаю, як раней, падтрымліваў Эдзівіда, калі той па сваёй улюбёнай звычцы прылюдна бэсціў Міндоўга.

— Скажу,— узняўся над сталом Далібор.— Вы і мы — пабрацімове. У адной вадзе купаныя, адной пушчай калыханыя. Калі і ўносілі злыдні меч нязгоды між намі, дык тое забудзецца. Але ніколі ні мы, ні нашы нашчадкі не забудзем бітваў за наш і ваш край, бітваў, дзе мы стаялі разам. Наша кроў, пралітая там, чырвоным кветам прарасце. У суровы век дадзена нам жыццё і дыханне. З Варажскага мора ідуць лаціняне, лівонскія і тэўтонскія рыцары. Вольны прус, брат жамойта, яцвяга і літоўца, ужо стаў іхнім рабом.

З вялікай увагаю і здзіўленнем слухалі ўсе ўсхваляваныя словы навагародскага княжыча. Казаў іх не абвіты маршчынамі і не абсыпаны сівізной дастаслаўны муж, а зусім яшчэ юнак.

— З поўдня,— гаварыў далей княжыч,— горкім дымам цягне. Гарыць Валынь. Узвіўся над ёй татарскі аркан. Дык няўжо можна сядзець склаўшы рукі і чакаць, як той лясны грыб, пакуль прыйдзе нехта і зрэжа пад корань? Сілу з сілаю трэба зліць, меч

---

* Мардалысы — чалавек з рэдкай барадой.

з мячом парадніць. З такою думкаю прыйшлі мы да вас у Літву з Навагародка. У нас у Навагародку кажуць: лепш дзень чалавека, чым век раба.

Даўспрунк, а за ім Эдзівід пацалавалі Далібора. Марудны Таўцівіл не адважыўся, але таксама, відно было па вачах, дайшло да ягонага сэрца пякучае слова. Костка і ваявода Хвал з любоўю глядзелі на свайго княжыча.

Ды толькі нейкую хвілю доўжылася такое. Бо адразу ж Эдзівід падумаў, што дужа соладка спявае гэты салавейка. А яшчэ ўчора ж, нябось, цалаваўся з Міндоўгам. Даўспрунк успомніў, што сядзіць у спаленай братавай Варуце і што брат да скону не даруе гэта. Таўцівіл ніколі не любіў людзей, якія здаваліся яму разумнейшымі і спрытнейшымі за сябе самога. Сам Далібор адчуў страшэнную стому, сеў, прыкрыў вочы рукою. Ва ўпор пазіраў на яго ваявода Хвал. І гэты позірк пёк, нібы вугольчык, напамінаў аб тым, што княжыча і ўсю дружыну чакае неўзабаве дужа небяспечная справа.

— Трэба класціся спаць,— шумна ўзняўся з-за стала Даўспрунк.— Пі, еш, цалуй жанчыну, стой на галаве, а спаць усё роўна трэба.

Далібору паслалі мядзведжыя шкуры ў Міндоўгавым нумасе. Тут яшчэ вісела калыска малога Руклюса. Тыя, што ўцяклі з Варуты, не паспелі, не змаглі ўзяць яе з сабой. Тыя ж, хто сёння гаспадарыў у горадзе, пэўна, яшчэ не дадумаліся, што з ёй рабіць. Так і вісела яна на срэбным круку, лёгенька пагойдваючыся. Далібор ляжаў, падклаўшы рукі пад галаву, і ўсё чамусьці думалася, што зараз у начной цішыні загрымяць рашучыя ўпэўненыя крокі, увойдзе Міндоўг, строга прыжмурыць вочы і грозна спытае: «Хто кратаў калыску майго сына?» Але ціха было ў Варуце. Не мог ведаць Далібор, слухаючы зацятае начное маўчанне, што сонцаваротаў дзесяць — пятнаццаць, не больш, засталося жыць гэтаму гораду, Міндоўгаваму гнязду, а потым назаўсёды пакінуць яго людзі, і ён заплыве пяском, зарасце хвашчом і лебядой, пакрыецца лесам. Толькі грыбы будуць купна сядзець там, дзе сядзелі грозныя воі.

Княжыч як бы плыў у густой цішыні, хоць не варушыў ніводным пальцам. Чорнае жарала ночы глядзела на яго праз вузкае акно нумаса. Гняла нейкая трывога, нейкі страх ліпеў на душы. Каб адагнаць гэту

непатрэбшчыну, ён успамінаў Рамуне, яе чорна-зялёныя вочы, і адразу рабілася лягчэй і весялей. «Чаму я ўвесь час думаю пра Рамуне?» — падумаў ён, і ціхенька засмяяўся, і ў самым патаемным куточку сваёй душы знайшоў адказ на пытанне.

З нянавісцю глянула яна на яго сёння. Сярдзіта і разгублена ўспыхнулі вочы, быццам убачыла нешта дужа агіднае, жахлівае, такое, на чым людзям, калі яны жывыя людзі, ні на міг нельга спыняць вока. Далібору добра знаёма такое адчуванне. Аднойчы, калі ён быў зусім яшчэ зялепушкам, калі трава каля навагародскага вала дасягала яму да падбароддзя, надворны халоп Анісім паклікаў яго да сябе і прапанаваў: «Хочаш, малы княжыч, каб я паказаў табе дзірачку ў цераме, адкуль ноччу дамавічок вылазіць?» — «Хачу,— радасна адказаў Далібор.— А дамавік страшны?» — «Не. Ён падобны на белага катка, што заўсёды круціцца каля кухаркі Маланні, калі яна гаршкі ў печ ставіць». Катка Далібор ведаў — мяккі, пушысты, з прыгожым выгінастым хвастом. Яны пайшлі ў церам, і ў адной са святліц-баковачак Анісім, адсунуўшы ад сцяны стары стол, паказаў дзірку ў дубовай падлозе. «Вось яна. Калі хочаш убачыць дамавічка, сядзь каля яе ціхенька і не зварухніся — чакай». Доўга пільнаваў дамавічка Далібор, ужо нават вочы пачалі зліпацца. А калі, перад тым як пайсці, апошні раз захацеў глянуць у таемную дзірачку і схіліўся да самай падлогі, вочы ў вочы, твар у твар, нос у нос сутыкнуўся з вялізным старым пацуком. Нейкае імгненне яны анямела глядзелі адзін на аднаго: малы Далібор і пасівелы чырванавокі пацук. Тыя жах і агіда засталіся на ўсё жыццё.

«Так і яна на мяне сёння глянула»,— з пакутаю думаў княжыч. Сэрца, здавалася, выкочваецца з грудзей.

Ён устаў, падышоў, наткнуўшыся ў цемры на калыску Руклюса, да акна. Мёртвая ноч камянела наўкол. Княжыч як бы растварыўся ў трывожнай ліпучай цішыні.

Самы раз цяпер было б заснуць пасля хапатлівага цяжкага дня. Днём чалавечая галава, ягоны мозг узбунтаваныя, нібы вада пад ветрам. Ноччу супакойваюцца, і, як зіхоткія яркія каменьчыкі на дне спакойнай ракі, чалавеку бачацца сны. Але Далібор не мог заснуць. Ён стаяў каля цёмнага акна. Ён чакаў.

І вось пачулася вельмі ціхае асцярожнае шкрабанне

ў дзверы. Так мог шархацець мяккакрылы начны матылёк або вецер, які ўблытаўся ў густую траву. Ды новагародскі княжыч, з палёгкай уздыхнуўшы, узяўшыся за рукаяць мяча, што ўжо вісеў на поясе, бясшумна падкраўся да дзвярэй, прыпаў да іх вухам, прыслухаўся.

— Хто? — ціхім голасам спытаў нарэшце.

— Вель,— прашалясцела знадворку.

Далібор, амаль не дыхаючы, зняў цяжкую дубовую завалу, выйшаў з нумаса, прыгнуўшыся, пашыбаваў за дружыннікам Велем. Было яшчэ даволі цёмна. Але ўжо пачыналася раніца, бо на самым небасхіле бачыліся ўсё часцей і часцей кароткія яркія пpoмільгі.

Каля спаленай варуцкай брамы княжыча ўжо чакала маўклівая дружына. Капыты ў коней былі абгорнуты кавалкамі палатна і клубкамі моху.

— Войшалк тут? — нягучна спытаў Далібор.

— Тут,— адказалі са змроку.

Адчуваючы, як перасыхае ў горле, ён спытаў яшчэ цішэй:

— А князёўна Рамуне?

— Тут,— адказалі яму.

Вель падвёў княжычу каня. З радасным сэрцам сеў Далібор у сядло. Конь, пазнаўшы гаспадара, засумаваўшы па ім, спрабаваў заржаць. Але Далібор адной рукой нацягнуў повад, а другой ласкава і адначасова строга абшчапіў конскую пашчу. Гарачае паветра з трапятлівых конскіх ноздраў пеканула ў далонь.

Чатырох літоўскіх вояў-дазорцаў, якія ахоўвалі браму, звязалі, заткнулі ім раты і доўгай смаляной бічоўкаю прыкруцілі да святога, абцалаванага нядаўнім пажарам, дуба. Трэба было рабіць усё як мага бясшумней. Асцярожна пайшлі ў едкі ранішні туман коні. І ўсё ж, як ні стараліся, поўнай цішыні не было. Даліборaў конь разбудзіў, успароў з гнязда велізарнага глушца. Той залопаў усім сваім пер'ем, ірвануўся крылатым пудкім ценем нізка над зямлёй. Коні спалохана захраплі.

— Пайшлі! — крыкнуў ваявода Хвал, і ўсе, як адзін чалавек, прышпорылі коней, далі волю конскім нагам. Здавалася, конскі тупат і галасы дружыннікаў далятаюць да самых воблакаў, што чыстым перламутрам ззялі над цёмнай зямлёй. Адна думка была ў кожнага — толькі ад'ехаць далей ад Варуты, толькі б не села на хвост пагоня.

Кіраваліся ў бок Навагародка. Цяжка даводзілася коням, але іх не шкадавалі. Потым, калі скончыцца гэты шалёны бег, калі расправіць светлыя крылы новы дзень, на лугах сваёй радзімы адпачнеш, здарожаны конь.

Ускочылі на лясістую выспу. Туманам было заліта ўсё ўнізе, як малаком.

— Пагоня,— азірнуўшыся назад, сказаў Вель.

Далібор выхапіў [redacted] похваў меч. Лязо было ў светлай ранішняй расе. «Як там Рамуне? — адразу ж занепакоіўся навагародскі княжыч.— Толькі б не адстала». Ды ён не ўбачыў юную літоўку. Затое прыкладна за вярсту ад сябе ён убачыў конную лаву яе супляменнікаў. Яны крычалі, размахвалі мячамі, сякерамі і яркімі паходнямі.

— Не дагоняць. Коні ў іх каруэлікі,— упэўнена сказаў Вель.

Праз некаторы час большая частка літоўцаў спынілася. Яны пачалі разварочваць коней. Толькі чалавек трыццаць з вялікай ярасцю працягвалі пагоню. Гэта быў гарачы Эдзівід і ягоныя сябрукі. Эдзівід пакляўся, што памрэ, але верне назад Рамуне. Ён, шалеючы, біў каня і крычаў:

— Войшалк! Палахлівы Міндоўгаў сын! Спыніся! Я хачу, каб ты паспытаў, які салодкі мой меч!

Тут і там выглядваў Далібор Войшалка з Рамуне і пакуль што не знаходзіў. Цяжка было на поўным лёце каня ў густым кустоўі разгледзець чалавечы твар. Мокрыя галіны лупцавалі, шлёгалі па твары, і ён, як усе, імчаўся, заплюшчыўшы вочы, бо можна было вярнуцца ў Навагародак бязвокім.

Нарэшце вырваліся на травяністую пустку, якая была ўсцяж засыпана слізкімі ад расы, дробнымі камянямі. Конскія капыты зашчоўкалі па гэтых камянях. І тут адзін [redacted] коней грузна спатыкнуўся, падламаўшы нагу. Светлавалосы хударлявы вершнік цераз галаву кульнуўся з яго.

— Рамуне! — закрычаў Далібор.

Сэрцам ён адчуў, здагадаўся, што гэта з ёй здарылася бяда. Ён прытрымаў, развярнуў свайго каня, памчаўся да яе. І ўбачыў Войшалка. Варуцкі княжыч ужо саскочыў на зямлю, трымаў сястру на руках. Вочы ў яе былі заплюшчаны. З цяжкасцю яна расплюшчыла, разляпіла іх, убачыла брата з Даліборам і вінавата ўсміхнулася.

— Дзе мой конь? — спытала яна.

Конь ляжаў побач. Пачуўшы голас гаспадыні, жалобна заржаў, спрабаваў узняцца, але не змог.

— Адбегаўся,— сказаў Войшалк.

На вачах у Рамуне нагарнуліся слёзы. Але яна, пасаромеўшыся Далібора, змахнула іх кулачком.

Пагоня тым часам наблізілася. Ужо быў відзён заліты гневам і потам твар Эдзівіда. Новагародскія дружыннікі, прамчаўшыся з паўсотні сажняў, заўважылі, што Далібор і Войшалк з Рамуне адсталі, і пачалі разварочваць коней.

— Войшалк! — як тур, крышыў на сваім шляху кустоўе, крычаў Эдзівід.— Пакаштуй майго салодкага мяча!

Твар у Войшалка перасмыкнуўся, пацямнеў ад гневу. Ён быў не з тых людзей, што прапускаюць міма вушэй знявагу. Як воласу перагарэць, ускочыў ён у сядло, пакінуўшы Рамуне з Даліборам.

— А ў мяне горкі меч! — закрычаў ён.— Хто мяне шукае?! Я — Міндоўгавіч! Хто хоча ўбачыць, якога колеру мая кроў?

Яны сутыкнуліся, сышліся грудзі ў грудзі на сыпкім рыжым пяску, з якога тырчаў сівы ад расы бадыльняк. Эдзівід кінуў свайго каня насустрач праціўніку, люта рассек паветра шырокім мячом. Войшалк сустрэў яго ўдарам сякеры і адразу ж ледзь не вывернуў, ледзь не выбіў з рукі меч.

— Хочаш маю сястру ў наложніцы?! Вазьмі! — зноў ударыўшы сякерай, закрычаў Войшалк.— Але спачатку пакажы тое, што мужчына беражэ больш за ўсё і чым адмыкае жанчыну! Кажуць, што ў цябе дужа маленькі той ключ! Пакажы свой ключык, Эдзівід!

Варуцкі княжыч здзекліва зарагатаў. Эдзівід аж сшалеў ад такой чорнай абразы, сек і сек мячом.

Месца паядынку-двубою ўжо абкружылі новагараджане і літоўцы, гарачліва сціскаючы зброю, каб пры першай магчымасці самім рынуцца ў сечу. Але старадаўні звычай патрабаваў стаяць збоку і чакаць, пакуль сякуцца між сабой вожы*. У каго першага свісне з раны кроў, той прайграў. Ну і, вядома, прайграў той, у каго хрусне, як арэх, чэрап і душа адляціць з мёртвага цела ў завоблачную нябесную дзяржаву.

Далібор, падтрымліваючы Рамуне, дапамагаў ёй сесці на свайго каня. Замілавана глядзеў на яе і краем

---

* Вож — правадыр, важак.

вока сачыў за паядынкам. Рамуне неадрыўна пазірала на брата. Можна было па яе вачах, стоячы спіной да байцоў, здагадацца, як ідзе паядынак. Вочы цьмелі, рабіліся зусім чорныя — значыць, адступаў пад ударамі Эдзівіда Войшалк. Святлінка ўспыхвала ў вачах — значыць, брат цясніў ворага.

Нарэшце Войшалк магутным ударам аглушыў, выбіў Эдзівіда з сядла. Той, матлянуўшы рукамі, гоцнуўся ў пясок, узараны конскімі капытамі. Аж, здалося, каменьчыкі запішчалі пад Эдзівідам.

Новагараджане і Войшалк [redacted] Рамуне адразу ж пусціліся ў дарогу. Літоўцы саскочылі [redacted] коней, укленчылі каля Эдзівіда. Калі ён і дыхаў, то на адну няпоўную наздрыну.

— А я думала, княжыч, што ты здрадзіў Міндоўгу, майму бацьку, і за Даўспрункам, як хвост, павалокся,— сказала Рамуне, хітравата пазіраючы на Далібора. Яна ехала на ягоным кані, Далібору ж аддаў каня Найдзён. Сам халоп, трымаючыся за стрэмя гаспадара, бег трушком побач. Гарошыны поту скочваліся са шчок, нават [redacted] вушэй. Але не шкадуюць людзей, народжаных на рваным рыззі і пад саламянай страхою, тыя, што ядуць свой хлеб зямны на золаце і на срэбры.

— Новагародак — саюзнік Міндоўга, а не яго ворагаў,— [redacted] урачыстасцю і важнасцю ў голасе прамовіў Далібор.— Як жа я мог пайсці супраць Новагародка? Кунігас Міндоўг (і Новагародак гэта ведае) лепшы, вартнейшы чалавек на Літве.

Рамуне, відно па-ўсяму, было прыемна слухаць такія словы. Шчокі ў яе заружовіліся, як прыхоплены сонцам летні яблычак. Яна ўжо з большай прыхільнасцю пазірала на Далібора. Чорна-зялёныя вочы святлелі. А княжыч, рассмеліўшыся, казаў далей:

— Даўспрунк, вядома, кунігас таксама не без галавы. Але ў адным ён дужа прайграе Міндоўгу.

— У чым? — хуценька павярнула галоўку, як птушка з гнязда, Рамуне. Нездарма мудрацы кажуць, што доўгавалосыя дочкі Евы, дзе б яны ні нарадзіліся, на Літве ці на Русі, хочуць ведаць усё і больш за ўсіх, нават больш за бога-тварца.

— У яго няма такой прыгожай дачкі,— адказаў Далібор.

Рамуне весела засмяялася і яшчэ больш, мяркуючы па іскрыстых вачах, упадабала новагараджаніна.

Ехалі, не спыняючыся, цэлы дзень. Ды колькі таго

восеньскага дня — жменька. Цурболіў ціхі дожджык. Хмары плылі над лясамі, як шэры бясконцы дым. Здавалася, далёка адсюль бушуюць нябесныя пажары, і ўвесь прысак, усю сажу прыганяе вецер у Панямонне. Перад самым вечарам прарэзалася ў небе пранізліва блакітная шчыліна. Расстайнае летняе цяпло было ў ёй. Далібор бачыў, як уважліва і ўсхвалявана глядзіць Рамуне на гэту жывую яркую палоску. І сам глядзеў туды.

Пераначавалі ў лесе, а на золку зноў рушылі ў дарогу. Перад тым як ехаць на новагародскі дзядзінец, Далібор завярнуў на Цёмную гару. З Рамуне і Войшалкам пайшоў да святога дуба.

Валасач сядзеў усё на тым жа месцы, пад лёгкай паветкай, што тулілася да дубовага камля. Цяпельца міргала, круцілася клубком каля ягоных ног. Вяшчун, неадрыўна пазіраючы на ружовыя пялёсткі полымя, ламаў на дробныя кавалачкі сухое суччa, карміў агонь. Вочы былі шчаслівыя.

— Ты хлус, ілгун,— пагрозліва сказаў Далібор.— Калелая цябе бярэ, вось ты і лезеш да агню. Навошта схлусіў пра Міндоўга? Навошта кляўся, што мы [redacted] ім адзінакроўнікі? Адказвай, пёс.

Валасач спакойна ўзняў вочы, усміхнуўся Рамуне і Войшалку, прамовіў, як заўсёды, з нейкаю загадкаю.

— Людзі зменлівыя, як воблакі. Ты быў у Варуце?

— Быў,— не сцішваў гневу Далібор.— Навошта хлусіў? Адказвай.

— Хацеў, каб ты сустрэўся з Міндоўгам, бо роўны роўнага шукае. Хацеў і хачу, каб не высеклі тэўтонскай сякераю і татарскай шабляю нашы карані. Хачу, каб Новагародак і Літва звязаліся ў адзін вузел, які нікому ніколі не развязаць. Толькі так уцалее наш род і дзеці-млекасосцы будуць карміцца матчыным малаком, а не дымам і попелам. Хіба ты не хочаш гэтага ж самага, княжыч?

Вяшчун, як хітрая рыбіна, выслізгваў з рук, а сваімі словамі, бляскам апантаных вачэй браў проста за сэрца.

— Зямлю еў... Кляўся,— ужо больш памякчэлым голасам гаварыў Далібор.

— Калі я ем зерне і ягадзіну, якія вырастаюць з зямлі, чаму я не магу з'есці жменьку самой зямлі? — усміхнуўся Валасач.— Усё было зямлёй, і ўсё зноў стане зямлёю. Ты кажаш, княжыч, што я нахлусіў табе пра Міндоўга. Ну што ж, хай карае мяне за гэта Пярун. Але

здаецца мне, што ты можаш стаць родзічам слаўнага кунігаса.

Пры апошніх сваіх словах вяшчун уважліва паглядзеў на Рамуне. Літоўская князёўна не ўсё зразумела з таго, аб чым ён казаў, і запытальна зірнула на Далібора. Той раптам засмяяўся.

— Зноў хлусіш. Пэўна, не можа твой язык і дня паляжаць за зубамі без хлусні.

Але адчувалася, што ён задаволены.

— Раскажу я вам, маладзёны, пра старца Кукшу, які да мяне сядзеў пад гэтым дубам,— жвавым голасам пачаў Валасач.— Вялікай мудрасці быў чалавек. І ўсё зрабіў, што дастаслаўнаму мужу трэба зрабіць на сваім зямным вяку. Нарадзіў сына, пасадзіў дрэва, збудаваў дом, перапісаў на пергамен кнігу. Заставалася забіць змяю. Пайшоў Кукша туды, дзе змеі водзяцца. У камяні, у пясок сыпучы. Адшукаў нару змяіную, адшукаў змяю. Узяў у рукі вялізную булыгу, каб распляскаць змяігадзюцы галаву. І не змог. Зразумеў, узняўшы булыгу, што кожнаму жывому стварэнню дадзена небам жыццё, і толькі неба, толькі Пярун, уладар нябесны, можа ўзяць гэта жыццё. Задумаўся Кукша, глыбока задумаўся і сеў пад святым зялёным дубам, каб да скону жыцця зямнога бясконцую думу думаць. І ведаеце, як ён памёр?

Усе маўчалі, слухалі:

— Варыў у пушчы святы мёд, пітво Перуну рыхтаваў. Шмат кадоўбчыкаў ліповых нарабіў, расставіў іх на паляне пад сонцам. А лікам дванаццаць было тых кадоўбчыкаў. Сам жа пайшоў да катла, у якім мёд кіпеў, памешваў мёд апалонікам дубовым. Зварылася пітво, і разліў яго Кукша ў кадоўбчыкі. Перад тым жа як Перуну ахвяру-трэбу прыносіць, ліць мёд на залатыя яго вусы, вырашыў сам пакаштаваць. Глынуў з кожнага кадоўбчыка па кроплі. І памёр. Ведаеце, чаму памёр стары Кукша? У кожны кадоўбчык запаўзло якраз перад тым, як ён мёд разліваў, па гадзюцы. Звярнуліся клубком і грэліся на сонцы. Зрокам слабы быў Кукша, не разгледзеў. Вось і ўвесь мой сказ, маладзёны. Пашкадаваў Кукша змяю, і змяя ж яго забіла.

— Трэба было б цягнуць цябе, Валасач, у вір з каменем на шыі,— сказаў на развітанне Далібор,— але я гэта яшчэ паспею зрабіць.

— Як жа я ўбачу цябе ў княжай шапцы? — засмяяўся вяшчун.— Спачатку стань князем, а потым ужо можна і ў вір мяне валачы.

## VI

Калі памаладзіў зямлю першы сняжок, прыбег у Новагародак Міндоўг са сваёй дружынаю. У крыві прыбег, у вялікім адчаі. Князь Ізяслаў Васількавіч урачыста сустрэў кунігаса. Білі бубны, спявалі трубы. Залататканы кілім разаслалі надворныя халопы перад уваходам у княжы церам.

Ізяслаў разам з княгіняй Мар'яй, разам з Даліборам, Някрасам, Войшалкам і Рамуне стаяў на высокім ганку церама, дзе балясы былі выразаны-вытачаны з дубовых сукоў у выглядзе пераплеценых чалавечых рук. Ізяслаў хваляваўся. Калі Міндоўг рашуча ступіў нагою на кілім (пацёртыя скураныя боты былі ў балотным брудзе), новагародскі князь пайшоў яму насустрач, усміхаючыся, шырока раскрыліўшы рукі для абдымкаў. Яны сустрэліся якраз на самай сярэдзіне кіліма, там, дзе была выткана рагатая турава галава, моцна абняліся. Абодва знялі шапкі, і халодны вецер гуляў валасамі — русымі ў Ізяслава, цёмнымі, нават чорнымі, у Міндоўга.

— Вітаю слаўнага кунігаса Літвы,— звонкім, каб усе чулі, голасам сказаў Ізяслаў, хоць Міндоўг быў пакуль што толькі варуцкім кунігасам, ды і Варута належала ў гэты самы час Даўспрунку з сынамі.

— Вітаю слаўнага новагародскага князя, вітаю магутны Новагародак,— прамовіў у сваю чаргу Міндоўг.

Як вядзецца спрадвеку, госць паднёс гаспадару свае дарункі. Асабліва спадабаліся ўсім залатыя і срэбныя літоўскія аздобы, якія кунігасавы слугі з паклонам уручылі княгіні Мар'і. Мноства на дзіва прыгожых фібул, бляшак, званочкаў, нейкіх лісцікаў, і ўсе лёгкія, зіхоткія і шумлівыя. Любяць прыгажуні-літоўкі насіць на сабе такое. Павернецца, крутнецца літоўка, і зашуміць, зазвініць на ёй уся гэта прыгажосць, і здаецца, не жанчына стаіць перад табой, а раскашуецца пад вясновым ветрам аблітая срэбным дажджом бяроза.

І ўсё ж дарункі былі, калі параўноўваць з мінулымі, зусім нядаўнімі сонцаваротамі, беднаватыя. Усе бачылі гэта. Сам Міндоўг страшэнна перажываў, сказаў Ізяславу:

— Прабач, брат мой новагародскі, што з пустымі рукамі прыйшоў я да цябе. Але клянуся Пяркунасам: вазьму Літву, пакараю сваіх ворагаў, і маё багацце будзе тваім, і мой хлеб будзе тваім хлебам.

Супала так, што пасля кунігасавых слоў у вакольным горадзе ў храме Барыса і Глеба ўдарылі ў звон. Святы айцец Анісім, які таксама прысутнічаў пры сустрэчы, незадаволена зморшчыўся. Атрымлівалася, што Хрыстос, адзіны і ўсемагутны, вітаў Пяркунаса, вітаў, як роўнага сабе. Званару ж было строга загадана не спяшыць і не спазняцца, а біць у звон дакладна тады, калі будзе гаварыць новагародскі князь-хрысціянін. «Пачакай,— з гневам падумаў святы айцец,— накладу заўтра ж на разяваку эпітымію, і трыццаць дзён і начэй будзеш стаяць на пакаяннай малітве».

Пасля новагародскіх князя і княгіні Міндоўг з вялікім хваляваннем прывітаў сваіх дзяцей, Войшалка і Рамуне, а таксама Далібора і Някраса.

— Жывыя,— абняўшы дзяцей, сказаў кунігас.— Добра, што вы жывыя. Ідзіце хутчэй да маці сваёй, бо вочы з-за вас выплакала.

Тыя адразу ж пабеглі да маці, што з малалеткамі Руклюсам і Рупінасам, з чэляддзю, з дзеўкай-векавухай Варварай, прывезенай з Цверы, чакала ў абозе, які прыпыніўся на торжышчы ў вакольным горадзе. Князевы дзеці, што б пра іх ні казалі абгаворшчыкі або зайздроснікі, у большасці сваёй таксама любяць мацярок, бо матчыну душу ні за срэбра, ні за футры сабаліныя не купіш. Кожнаму чалавеку самім небам даецца такая душа-зорка, як толькі народзіцца ён.

Някрас, дужа ссумаваўшыся па старэйшым браце, накінуўся з роспытамі.

— Ну як, шмат цікавага ўбачыў? У літоўскай пушчы начаваў?

Вочы ў яго аж гарэлі.

— Убачыў шмат чаго,— усміхнуўся Някрасу Далібор.— І ў пушчы быў, і ў Варуце, і на ловах. Ды што там ловы? Я, братка ты мой, чалавека ў сечы забіў.

— Чалавека? — Някрас аж адступіў крок назад.

— Чалавека. Літоўца. Каб не я яго, дык ён мне б галаву мачугай раструшчыў. Мячом я, як Костка вучыў, секануў.

Някрас з найвялікшай павагаю і захапленнем глядзеў на брата. Пакуль ён тут, у Новагародку, завостранай трысняговай палачкай-каламам, якую прывезлі з Візантыі, выводзіў пад наглядам святога айца Анісіма літары-казюркі на пергамене, старэйшы брат вастрыў меч аб чужыя шыі, бачыў такое, што можа ўбачыць толькі мужчынскае вока.

Далібор жа, заўважыўшы нясцерпны, нейкі галодны бляск у братавых вачах, раптам зразумеў, якім дарослым зрабіўся за гэтыя дні і ночы сам і якім зялёным дзіцянём застаўся брат. Гэта і ўзрадавала яго, і засмуціла. Ён стаў воем, ён забіў уласнай рукою ворага, на ім — жывая чалавечая кроў. Дзеля гэтага і нараджаюцца на свет князі. Караць, заваёўваць, ахоўваць — вось княжы хлеб. Але, першы і, пэўна ж, не апошні раз забіўшы чалавека, ён, Далібор, пасягнуў на божы запавет, у якім сказана: «Не ўбій». Колькі суровасці ў дарослым жыцці! Колькі болю і страт! А Някрас, малодшы, прыгожанькі, як дзяўчына, брат ляціць на злом галавы ў гэта зманлівае і прывабнае, быццам павуціна, жыццё, каб хутчэй ублытаць у яго свае крылы. І ў той жа самы час застаецца горкім дзіцянём. Яму б яшчэ ў жмуркі гуляць, прывязваць зялёных жаб да хвастоў церамных кошак. Вось і зараз, трохі астыўшы ад радаснай сустрэчы з братам, прапанаваў: «Пабеглі, пакатаемся з вала. Там дужа слізкая трава вырасла».

Далібор адчуваў, як пасталеў за апошні час. Ужо зусім не хацелася гуляць з Някрасам. Той дужа пакрыўдзіўся, калі старэйшы брат не захацеў бегчы разам з ім на вал, каб коўзацца па слізкай траве, але што паробіш. Пасля дарогі доўга спаў Далібор і, нарэшце прачнуўшыся, яшчэ раз канчаткова зразумеў сваю дарослалсць, калі пачуў, як маці гаворыць некаму пра яго: «Стаміўся. Спіць, як каваль».

Прачнуўшыся, ён адразу ж успомніў Рамуне, мяккую ўсмешку, светлыя валасы, незвычайныя чорназялёныя вочы. Ён зразумеў, што пакахаў прыгожую юную літоўку, і сэрца захлынулася ў халодным і адначасна салодкім суме: «А ці пакахае мяне яна? Ці спадабаюся я ёй?» Гэта было так важна ведаць, прычым ведаць неадкладна, зараз жа, бо кожны мужчына два разы нараджаецца на свет. Першы раз — для Бога і для сябе, другі раз — для жанчыны. Далібор хацеў паклікаць халопа Найдзёна, каб той занёс у вакольны горад і перадаў Рамуне сіняга шкла бранзалет. Ён чуў і ведаў, што мужчына павінен рабіць падарункі, а жанчына павінна з удзячнасцю іх прымаць. Але, падумаўшы, княжыч вырашыў такую важную і далікатную справу даручыць дружынніку Велю, свайму аднагодку, з якім вельмі сышоўся ў час паходу ў Варуту.

Вель зразумеў Далібора з паўслова

Ён узяў бранзалет, любуючыся, пакруціў у руках, прыклаў да вока, каб паглядзець праз яго на сонца, нарэшце схаваў запазуху і сказаў:

— Я таксама насіў падарункі ў вакольны горад. І бранзалет насіў, толькі бяднейшы, чым твой.

— Каму ж ты насіў? — зацікавіўся Далібор.

— Жыве там Лукера, дачка залатара Івана.

— Тая, што да вешчуна на Цёмную гару ходзіць?

— Яна,— здзіўлена адказаў Вель.— Адкуль табе, княжыч, вядома такое?

— Ужо ж вядома,— задаволена прамовіў Далібор, убачыўшы разгубленасць на твары ў дружынніка.— Нясі бранзалет, аддай і скажы, што навагародскі княжыч прыслаў. І абавязкова запомні, што яна пры гэтым скажа або як гляне.

— У яе брат злосны. Нездарма ж яго воем шалёным завуць,— пачухаў патыліцу Вель.

— А ты зрабі так, каб Войшалк не ўбачыў.

— Зраблю, княжыч, і ніводная пчала і муха не даведаюцца.

Увечары князь Ізяслаў, правёўшы перамовы з Міндоўгам, выпіўшы з ім мёд і развітаўшыся да заўтрашняга дня, пад вялікім сакрэтам склікаў проста ў сваёй апачывальні самых блізкіх людзей, правераных часам на вернасць яму, князю, думцаў*. Прыйшлі ваявода Хвал, святы айцец Анісім, тысяцкі Раданег, пасаднік Ізот, баяры, купцы і залатары з вакольнага горада, і сярод іх такія вятшыя і багатыя срэбрам, як Сарока, Іван, Тугажыл.

Густа гарэлі свечкі, устаўленыя ў запоўненыя тлушчам кубачкі, якія нагадвалі сабой дзівосныя срэбныя кветкі. Райская птушка Сірын з жаночай галавой была вышыта залатым танюсенькім дротам на велізарным рамейскім дыване, што вісеў над князевым ложам. Ізяслаў быў апрануты ў лёгкую зялёную кашулю з адамашку. Рукавы ў кашулі на запясцях схоплены буйнымі бліскучымі запінкамі-жамчужынамі.

Думцы селі паўкругам на перасоўныя дубовыя лавачкі, па чалавеку на лавачку. Чаляднікі ўнеслі ў гліняных цёмных брацінах квас, у якім плавалі кавалачкі лёду, светлае піва.

— Свайго сына, княжыча навагародскага Глеба,

---

* Думец — дарадчык, радца.

я таксама запрасіў сюды,— сказаў думцам Ізяслаў. Далібор устаў і, як вучыў Костка, пакланіўся ўсім.

— Гэта не чужы прыхадзяка, а свой новагародскі княжыч,— паважна прамовіў, трасучы сівой калматай барадою, баярын Тугажыл.— Няхай глядзіць, слухае і розуму набіраецца.

— Баяры і купцы, чадзь старая і мной любімая,— пачаў Ізяслаў,— трэба нам парадзіцца, мудрасць і развагу сваю ўзяўшы ў дапамогу. Усе вы ведаеце, што ў Новагародак завітаў і ўжо атрымаў нашу вялікую ласку і пашаноту высокамаентны госць.

— А я, едучы ■ Турыйска, сёння ваўка ўбачыў,— не дужа пачціва ўставіў свае слова залатар Іван,— воўк, дык воўк. Аж успомніў дзедаўскую прыкмету — убачыш ваўка, будзе на парозе госць. Прыехаў у Новагародак, а тут ужо Міндоўг ■ дружынаю.

Ізяслаў незадаволена зірнуў на залатара, а той хоць бы вусам варухнуў. Ведае, што за ім сіла, срэбра і золата. Новагародскія ж залатары-купцы аж у Рым і Брэмен свой тавар возяць. Іхняе Нёманскае сто* ў Полацку і ў Ноўгарадзе між мясцовых купцоў-багацеяў вялікую падтрымку мае.

— Як будзем наконт Міндоўга рашаць, наконт яго сямейцаў і дружыны? — нахмурыўшыся, спытаў Ізяслаў.

— А што ваявода Хвал скажа? Ён жа быў у Літве,— пачуліся галасы.

Ваявода Хвал, разгладзіўшы вусы, што зіхцелі медна-жоўтым бляскам, сказаў:

— Вялікая фуртавіна** ў Літве. Рэжуцца між сабой кунігасы. Вось нават і Міндоўга выгналі з Варуты. Але ён моцны. У яго дружына, якіх я мала бачыў, хоць, як вядома вам, шмат дзе ваяваў.

— Калі выгналі ■ Варуты, няхай ідзе на самакорм'е і жыве, як смерд, сваёй працаю,— кпліва прамовіў Тугажыл.

Але з ганарлівым баярынам ніхто не пагадзіўся. Усе разумелі, што за Міндоўгам стаіць сіла, і патрэбна гэту сілу выкарыстаць з розумам. Не парокам-таранам павінна біць яна ў новагародскую браму, а стралой, пушчанай з магутнага лука, ляцець туды, адкуль ворагі

---

* Сто — купецкія арганізацыі, якія існавалі ў старадаўніх усходнеславянскіх гарадах.

** Фуртавіна — непагадзь, бура.

пагражаюць Навагародку. Літоўскі меч трэба ўкласці ў навагародскія похвы.

— Думаю я, што з Міндоўгам і яго дружынаю нам неабходна заключыць рад*,— сказаў баярын Сарока.— Мы дапаможам яму вярнуць сталец у Варуце і ўсёй Літве, ён разам з намі стане на Нёмане супраць татараў і лацінян.

— Міндоўг — паганец,— запярэчыў айцец Анісім.— Дзе і калі хто бачыў, каб хрысціянская дзяржава, улюбёная Хрыстом-богам, садзілася, як з роўняй, за адзін стол з паганцамі? Яны адразу ж здрадзяць, бо жывуць, як звяры.

— Няпраўду кажаш, святы айцец,— міжволі вырвалася ў Далібора.— Паганцы такія ж самыя людзі, як і мы. Быў я ў Варуце, доўгі час жыў побач з імі. Яны не бязбожныя людзі, бо маюць сваіх багоў, якім з ахвотаю пакланяюцца. Толькі звяры не маюць багоў.

— Сын мой,— холадна прамовіў Анісім,— паганцы — ворагі роду чалавечага. Няўжо ты гэтага не ведаеш?

Але Далібора няпроста было збіць з тропу. Ен, калі адчуваў сваю праўду, мог казаць рэзкія, нават злыя словы.

— Не бачыў я на іхніх тварах звярынага поту,— вёў сваё княжыч.— Бачыў пот чалавечы і слёзы чалавечыя бачыў. Яны дзяцей сваіх берагуць і шкадуюць, як і мы, хрысціяне. І плачуць над дзецьмі сваімі, калі кладуць іхнія мёртвыя маленькія цельцы на памінальнае вогнішча.

— На вогнішча! — усклікнуў Анісім.— Не ў зямлю! Бо не вераць ва ўваскрэсенне з мёртвых.

Усе з вялікай цікавасцю сачылі за слоўным паядынкам іерэя і маладога княжыча. Князь Ізяслаў хмыкаў у вусы, хмурыўся, але пакуль што маўчаў. Апошнімі днямі хмурнасць гэта рэдка сыходзіла з ягонага твару.

— Варуцкая княгіня Ганна-Паята, дачка цверскага князя, праваслаўная, як і ўсе мы,— цвёрдым голасам казаў Далібор.— І сын яе Войшалк праваслаўны. Ды і сам Міндоўг, калі трэба для яго народа, трэба для Літвы, прыме веру хрысціянскую ад Усходу, гэта значыць нашу веру.

— Мудрыя словы гаворыш, княжыч,— аж ускочыў

---

* Рад — дагавор, умова.

са свайго месца Сарока.— Давайце дамовімся так: рад з Міндоўгам мы возьмем толькі тады, калі ён пакло-ніцца Хрысту, зробіцца хрысціянінам, як яго жонка і сын.

— Хутчэй дуб лясны паверыць у святую тройцу, чым варуцкі кунігас,— крыва ўсміхнуўся Тугажыл.

Але баярын з самага нараджэння свайго быў буркат-лівы, як паднябесны гром. Браты яго яшчэ ў малалецтве добра карысталіся гэтай слабінаю — калі нешта было загадана зрабіць усім чатыром, яны, загадзя дамо-віўшыся, злавалі Тугажыла. Баярын, раззлаваўшыся, соп, шалёна стрыг вачамі, бубніў сабе пад нос і адзін рабіў усю тую работу, якую павінны былі адолець чацвёра.

Назаўтра паслалі ганцоў да Міндоўга з прапановаю князя Ізяслава і ўсіх думцаў паслужыць сваім мячом Новагародку. Княства за гэта брала літоўскую дружыну і кунігаса з сямейцамі і чэляддзю на кармленне, плаціла вялікае срэбра. І яшчэ было сказана ў радзе: што здабудзе, заваюе Міндоўг мячом сваім ярасным, тая зямля і той народ пераходзяць пад яго руку. За гэта ж кунігас і найбліжэйшыя да кунігаса баяры павінны прыняць праваслаўную веру, паклясціся на святым крыжы ў вернасці Новагародку.

Ганцоў узначаліў Далібор. Ён перадаў Міндоўгу пергамен з віслымі пячаткамі князя Ізяслава Новага-родскага і епіскапа Анісіма, папярэдне зачытаўшы гэты пергамен. Міндоўг разам з Войшалкам, Казлейкам і баярамі ўважліва выслухаў, задумаўся.

— Няхай Новагародак дасць мне тры дні. Я павінен параіцца са сваімі багамі,— сказаў нарэшце кунігас.

Баяры яго, Войшалк і Казлейка, кіўнулі галовамі.

— Мы будзем чакаць тры дні,— згадзіўся Далібор.

Ён не сумняваўся, што кунігас адразу ж пашле вер-ных людзей да Крыве-Крывейты. Цікава, што скажа вярхоўны жрэц? Пэўна ж, забароніць адыходзіць ад ве-ры дзядоў-прадзедаў, ад Пяркунаса. Але ж нявыкрутка схапіла Міндоўга за самы кадык. Даўспрунк з сынамі сядзіць у Варуце, ваюе ўсю Літву, прымерваецца да Новагародка і Менска. У Жамойці Трайнат, красамоўца і місцюк*, падначаліў сабе ўсіх. У прускіх весях і гарадах рукі і ногі чалавечыя псы па вуліцах цягаюць. Жалезным чаравікам наступіў Ордэн на грудзі прусам.

---

* Місцюк — ілгун, хітрэц.

Як ні раскінь галавою, толькі адна дарога ў Міндоўга — да Новагародка, калі хоча застацца кунігасам, а не пасвіць коней або ўздзіраць сахой зямлю.

Выконваючы такое важнае, такое адказнае даручэнне, Далібор ні на міг не забываў пра Рамуне. Дзе яна? Што з ёю? Шмат аддаў бы княжыч, каб толькі ўбачыць гарачыя чорна-зялёныя вочы.

У вакольным горадзе твар у твар ён сутыкнуўся з Велем. Той, як заўсёды вясёлы, шыбаваў некуды, асцярожна, нібы дзіця, несучы ў руках ладную карчагу. Вядома ж, у карчазе была не вада.

— Дзе бранзалет? — схапіў яго за рукаў Далібор.

— Які бранзалет? — здзівіўся спачатку Вель, але, адразу ж усё змікіціўшы, бадзёра адказаў:

— У самыя рукі аддаў.

— Каму? — не адступаў Далібор.

— Вядома, каму — літоўскай князёўне. Ого-го, якая яна прыгажуня. Праўду кажуць: золата і ў попеле відно.

— Ты яе бачыў?

Голас у Далібора нецярпліва ўздрыгнуў.

— Як жа я аддаў бы ёй бранзалет, калі б не пабачыўся з ёю? — як на малога, зірнуў на княжыча Вель.

— І што яна сказала?

— Што сказала?

У гэты самы час нейкая пякучая восеньская муха, пэўна, апошняя з сёлетніх мух, джыганула Велю ніжэй калена. А можа, і не муха кусанула, а іншы верад напаў. Дружыннік нагнуўся, ляпнуў рукою па назе, і раптам ў яго з-за пазухі выпаў сіні бранзалет, Далібораў бранзалет, і закруціўся каля ног, пакуль ціхмяна не лёг на пясок. Вель і княжыч, разявіўшы раты, глядзелі на яго.

— Што гэта? — спытаў нарэшце Далібор.

— Гэта?

Вель паціснуў плячыма.

— Здаецца, бранзалет.

— Дык ты ж яго аддаў Рамуне.

— Аддаў?

Вель на міг задумаўся, потым пляснуў рукамі.

— Вот галава! Я ж яго нясу аддаваць.

І ён, паставіўшы на зямлю карчагу з мёдам, хацеў падняць бранзалет.

— Не ўжо, брат. Я сам,— наступіў яму нагою на руку Далібор.

Але Вель борзда схапіў бранзалет, не забыўся схапіць карчагу і, сказаўшы: «Будзь здароў, княжыч, дзякуй, што з душой мяне пусціў, бранзалет я сам аддам»,— прыпусціў па вуліцы. Далібор разгублена глядзеў услед. Толькі паспеў падумаць: «Ну і блудзень».

Вель проста ад княжыча накіраваўся да сядзібы баярына Сарокі, дзе, як ён выведаў, прыпынілася княгіня Ганна-Паята разам з Рамуне і малалеткамі Руклюсам і Рупінасам. Войшалк жа трымаўся Міндоўга. Кунігас пакуль што стаяў у шатрах каля новагародскага тыну. Ен ведаў вырак* князя Ізяслава і думцаў: толькі дасць згоду асяніць сябе хрысціянскім крыжам і служыць Новагародку, адразу ўпусцяць яго з дружынаю на дзядзінец.

Адважна шыбаваў Вель да літоўскай княгіні, дзе меркаваў, улучыўшы міг, аддаць Рамуне бранзалет. Але дарогу перагарадзіў высокі светлавалосы ахоўнік у лісінай шапцы і накідцы з мядзведжай шкуры, якая не зашпільвалася ні фібуламі, ні гузікамі, а мацавалася да скуранога раменьчыка, што ахопліваў моцную загарэлую шыю. Гэта быў Гінтас, той самы, які яшчэ нядаўна «зязюляю» сядзеў на дрэвах і папярэджваў горад Варуту аб небяспецы. У руцэ ён трымаў сякеру.

— Куды і да каго ідзеш? — паклаў Гінтас цяжкую далонь на плячо Велю.

— Іду да княгіні Ганны-Паяты,— весела адказаў дружыннік.

— Хто ты, каб ісці да княгіні?

— Я? — здзівіўся Вель.— Як бачыш, новагараджанін. Дружыннік княжыча Далібора.

— Навошта ідзеш да княгіні?

— Лекі ёй нясу,— рашуча схлусіў Вель.— Вось у гэтай карчазе знаходзяцца лекі, якія дадуць палёгку княгініным нагам. У тваёй княгіні ногі дужа баляць. Хіба ты не ведаеш пра такое?

Гінтас узяў карчагу, пакруціў у руках, панюхаў.

— Дык гэта ж мёд. П'яны мёд,— сказаў ён нарэшце, падазрона азіраючы Веля, і пачаў гнаць дружынніка з двара. Але той заўпарціўся, выхапіў меч, і скрыжаваліся літоўская сякера з новагародскім мячом. На валтузню і шум выглянула з баярскай сядзібы Рамуне. Вель пазнаў яе, закрычаў:

---

* Вырак — рашэнне, прысуд.

— Князёўна! Што робяць твае людзі? Я прыйшоў да цябе з вітаннем ад нава́градскага княжыча Далібора, а мяне не пускаюць і ў дадатак хочуць выпусціць з мяне кроў.

— Ты прыйшоў ад княжыча? — уся ўспыхнула Рамуне.— Гінтас, прапусці яго.

— Але ён толькі што казаў, быццам прынёс лекі для княгіні Ганны-Паяты,— у нерашучасці зморшчыў лоб, замуляўся Гінтас.

— Прапусці! — тупнула ножкай князёўна.

— Павесь сякеру на крук,— лагодна паляпаў літоўскага асілка па плячы Вель і, пакланіўшыся Рамуне, дастаў з-за пазухі прыгожы бранзалет.

— Гэта табе, князёўна, ад нашага княжыча. Упадабаў ён цябе і шле свой дарунак. Казаў, каб прыняла з чыстым сэрцам. І яшчэ казаў і прасіў, каб не хавалася ад яго, бо агнявіца-ліхаманка навалілася на маладое цела ад кахання вялікага.

Калі б княжыч Далібор пачуў гэтыя словы, асабліва пра агнявіцу, ён бы дужа здзівіўся, а магчыма б, і даў языкаватаму дружынніку добрага кухталя. Але такі быў Вель. Там, дзе казалі адно слова, ён казаў два, а там, дзе зрывалі дзве кветкі, зрываў тры.

— На тваім месцы, светлая князёўна, я загадаў бы зарэзаць бычка, варыць юху і гарохавае сочыва. А таксама нацадзіць піва і паставіць на стол добрыя чаркі.

— Гэты бранзалет ад княжыча? — любуючыся прыгожай аздобаю, прымерваючы яе да светласкурай рукі, перапытала Рамуне.— Але чаму ж сам княжыч не прынёс яго?

І ўважліва паглядзела на Веля.

— Княжыч прынясе срэбны і залаты бранзалет,— лоўка вывернуўся той.— Шкляны ж ён загадаў занесці мне, свайму вернаму дружынніку.

— Не вазьму,— уздыхнула Рамуне.

— Без грому нябеснага заб'еш княжыча,— нібы змахваючы слязу з вока, зажалобіўся Вель, а сам ужо хаваў бранзалет запазуху.

— Перадай княжычу, хай заўтра ўвечары сам сюды прыйдзе,— шапнула Рамуне, шмыгнуўшы назад ў святліцу.

Вель бадзёра кашлянуў у кулак, падміргнуў Гінтасу і пайшоў у адным яму вядомым кірунку. Якраз пачаўся халодны хвосткі дождж. Ужо не адзін раз клаўся на

Новагародак снег, але яму пакуль не хапала сілы, каб утрымацца на зямлі, бо налятаў з Варажскага мора вецер, ператвараючы яго ў кісель. Над сядзібамі, багатымі і беднымі, заструменіліся пахкія сінія дымкі. Для сугрэву запальвалі ў печах-каменках новагараджане, а яшчэ для таго, каб, наскробшы з сусекаў мукі, дастаўшы з халодных схоўных ям мяса, нарыхтаваць сабе і сваім сямейцам вячэру.

Вель, паставіўшы на галаву карчагу, так, як робяць гэта людзі-эфіопы, і хоць трошкі прыкрыўшыся ёю ад дажджу, борздка ішоў па бліскучых лужынах. Буйнаватым носам ён уцягваў апетытныя пахі, якія з двух бакоў вуліцы ляцелі на яго, прымушаючы ўздрыгваць галодны страўнік. «Хто жыве, а хто пажывае»,— думаў дружыннік, але вялікая карчага, дзе яшчэ амаль з краямі было хмельнага цёплага мёду, развейвала ягоную змрочнасць. Ды і не такі ён быў чалавек, каб дужа доўга сумаваць. Ён ішоў і мурлыкаў сабе пад нос песеньку, якую ўпершыню пачуў ад нябожчыка бацькі:

Бяруць мяне думкі-гадкі,
Што чужыя жонкі гладкі.

Неўзабаве ён быў у самай багатай частцы вакольнага горада, дзе жылі купцы-золатакавалі, якія ўваходзілі ў Нёманскае сто. Яны самі рабілі са срэбра, золата і каштоўных каменняў найдзівосныя рэчы і самі ж вазілі іх прадаваць. Іх ведалі Кіеў, Галіч, Полацк, Гародня*, Рыга. Іхнюю гаворку чулі ў Рыме і Майнцы, на Дунаі і на няблізкіх Ангельскіх астравах. Пудамі важылі яны срэбра корнае**. Сядзібы ў іх былі выштукаваны так, што Вель толькі языком шчоўкаў. Каля адной з такіх сядзіб, двух'яруснай, прасторнай, ён і прыпыніўся. Ніжні ярус сядзібы быў каменны, верхні — драўляны, абмазаны чырвонай і сіняй глінай.

Вель зняў з галавы карчагу, глынуў з яе, потым, схаваўшыся за дубовым вастраколлем, якім абкружаўся двор, прысеў на кукішкі і кугукнуў савою. Ён так лоўка падрабіў крык дзікай лясной птушкі, што не ў адной з новагараджанак пайшло ўніз, абарвалася сэрца, бо чуць саву насупраць ночы — нядобры знак для жанчыны. Крыху счакаўшы, дружыннік пракукарэкаў, а напаследак зацёхкаў салаўём.

Дзверы ніжняга яруса адчыніліся, і на двор выйшла

---

* Гародня — так у той час называлі Гродна.
** Срэбра корнае — срэбра ў злітках.

Лукера, у белай ільняной кашулі, у скураным вяночку са шклянымі падвескамі. Дзяўчына асцярожка прыслухалася. Ні гуку, ні зыку не было навокал. Яна сумна ўздыхнула і толькі паставіла маленькую нагу на ганак, як зусім побач рэзка і звонка пракукавала зязюля.

— Вель, не хавайся, я цябе бачу,— вясёлым, але ціхім голасам сказала Лукера, хоць бачыла толькі воблакі на небе, толькі лужынкі-сподачкі каля плота.

Дружыннік, усміхаючыся, выйшаў са свайго схованішча, прыгарнуў да сябе дзяўчыну. Потым дастаў бранзалет, той самы, што насіў ад княжыча да Рамуне, сказаў:

— Вазьмі, Лукера! Гэта я для цябе ажно з Менска прывёз.

Лукера хуценька ўзяла падарунак, надзела яго на запясце, потым зняла і пяшчотна пацалавала.

— Чаму ты цалуеш бранзалет, а не мяне? — хітравата спытаў Вель.

— Цябе я ўжо ўчора цалавала,— адказала дзяўчына.

Дружыннік, не гаворачы ні слова, моцна пацалаваў Лукеру ў свежыя пунсовыя вусны. Яна спалохана азірнулася, але нікога нідзе не было. Тады яна дазволіла яшчэ раз пацалаваць сябе.

У гэты час прагучалі цвёрдыя ўпэўненыя крокі, і на двор зусім нечакана для Лукеры і Веля ўвайшоў чалавек. Так рэзкі пук святла ўрываецца ў цемру. Дружыннік, хоць ніколі і нідзе не трасліся ў яго калені, адчуў лёгкую млявасць. Нават самы празорца з людзей не ведае, дзе ўпадзе на галаву камень.

— Алехна! Брат! — шчасліва ўскрыкнула Лукера і павісла ў таго, хто прыйшоў, на шыі.

Тут і Вель з палёгкай уздыхнуў, бо даўно ведаў Алехну, старэйшага сына залатара Івана.

— Адкуль ты? — адразу забыўшыся пра Веля, чым страшэнна пакрыўдзіла яго, спытала Лукера.

— У Рыгу да лівонцаў абоз вадзіў,— адказаў Алехна.

Быў ён у чорным дарожным плашчы, падбітым на каўняры і на крыссі прыгожым сабаліным футрам. На галаве, не зважаючы на халадэчу, сядзела лёгкая сіняя шапачка з доўгім жураўліным пяром. Кроплі дажджу блішчалі на мяккіх светла-русых вусах.

— І ты, Вель, тут,— сказаў Алехна, зрабіўшы выгляд, што толькі зараз убачыў дружынніка.

— Ды хацеў ужо ісці, а твая сястра не адпускае,— нібы пажартаваў Вель, але вочы былі халодныя.

Пры гэтых словах Лукера зачырванелася, прыкрыла рукамі твар. Алехна ж уважліва і выпрабавальна паглядзеў на дружынніка. Не падабалася яму тая ўлада, якую, мяркуючы па ўсім, займеў над сестрыной душой гэты прыгожы гаваркі нахабнік.

Вель спакойна вытрымаў ягоны пагляд, спытаў:

— Ці праўда, што ў Рызе на высокіх будынінах немцы нарабілі седалаў?

— Не бачыў,— адказаў Алехна.

— Прыляціць ведзьма ўначы, сядзе на гэта седала, на каменную пліту, і ўжо не хочацца ёй лезці праз комін туды, дзе чалавек жыве.

— Ты быццам сам там быў,— засмяяўся Алехна.

— Не быў, але яшчэ пабываю,— упэўнена і ганарыста прамовіў дружыннік, а сам падумаў: «Рана смяешся, купечык — чортаў чалавечык».

— А пакуль не пабываў там, бяры сваю карчагу. У ёй мёду яшчэ на адзін глык засталося,— з'едліва сказаў Алехна і ўвайшоў у дом. Вель і Лукера засталіся адны.

— Злы твой браток,— зморшчыў лоб і прыкусіў губу Вель. І раптам усхвалявана схапіў Лукеру за руку.

— Пачакай, пачакай, ён сказаў, што ў Рыгу абоз вадзіў. Так?

— Сказаў,— кіўнула галавой Лукера, не здагадваючыся яшчэ, куды хіліць Вель.

— Але ж я яго ўчора бачыў там, дзе Міндоўгавы шатры стаяць. Нешта ўсё круціўся са сваімі сябрукамі каля літоўцаў. А кажа, што ў Рызе быў...

Вочы ў Веля радасна заблішчалі:

— Абоз твайго бацькі і сапраўды ўчора ў Рыгу пайшоў. І Алехну разам з ім твой бацька адправіў. А ён з паўдарогі вярнуўся. Чаму?

Дружыннік так усхваляваўся, што, не дапіўшы мёд, шпурнуў ад сябе карчагу. Тая разляцелася на звонкі гліняны друз. Лукера са здзіўленнем і лёгкім спалохам глядзела на свайго каханка.

— Чаго ты хочаш, Вель? — мякка спытала яна.

— Алехна вярнуўся з паўдарогі, ды якое там — з чацвертака дарогі назад. Навошта ён вярнуўся?

— Можа, што забыўся,— пацiснула плячамі Лукера.— Можа, захварэў. Але што табе да гэтага?

Яна зазірнула ў ягоныя прыгожыя шэрыя вочы.

Адцененыя цёмнымі вейкамі, глыбокія і такія прываблівыя, яны валодалі яе душой.

— Твой брат ненавідзіць мяне,— сказаў дружыннік.

— Перахрысціся, Вель,— заціснула яму рот рукой Лукера.— Што ты гаворыш? Алехна, як яшчэ малы быў, знойдзе жука з абламаным крылом, бяжыць да маці і просіць: «Прышый яму новае крыльца. Яму баліць». Алехна чалавек незласлівы, збожны.

— Усе вы збожныя,— рэзкім голасам сказаў Вель.— А сама да вешчуна на Цёмную гару ходзіш.

І не даўшы дзяўчыне слова ўставіць, засмяяўся, зноў паўтарыў:

— Ён ненавідзіць мяне. Але ў кожнага мужчыны, я чуў, павінна быць сем нядобразычліўцаў. У мяне іх больш.

— Не нагаворвай на сябе. Ты — добры,— захоплена пазіраючы на Веля, ціха прамовіла Лукера.

Яна адчувала, што вельмі-вельмі кахае яго, і скажы ён толькі слова, загадай, пабяжыць за ім, як маленькая хваля за вялікай ракою. Але дружыннік, як бы нешта ўспомніўшы, хуценька пацалаваў яе ў шчаку.

— Мне трэба ісці.

І, не азіраючыся, пашыбаваў у бок дзядзінца. Дзяўчына сумна ўздыхнула, доўга глядзела яму ўслед, потым зняла свой вяночак, пайшла ў святліцу. Там яна пачала маліцца Хрысту, прасіць, каб не адварочваў ад яе Велева сэрца. Назаўтра ж надумала разам з сяброўкамі збегаць на Цёмную гару, бо пакланіцца святому зялёнаму дубу і нязгаснаму агню таксама не зашкодзіць.

Вель, паблукаўшы па дзядзінцы, пастаяўшы каля літоўскіх шатроў і паслухаўшы літоўскія песні, зноў вярнуўся ў вакольны горад. Недалёка ад сядзібы залатара Івана ён схаваўся за нечы плот і пачаў сачыць за акутай жалезам брамаю, што ахоўвала двор залатара. Ужо чалавек шэсць ці сем, азірнуўшыся па баках, шмыгнулі ў невысокія дзверцы, якія былі ўрэзаны ў браму. Усе яны былі ў плашчах з капюшонамі, і дружыннік не мог, як ні напружваў зрок, убачыць твараў. Што ж прымушала яго сядзець, нібы воўк, у засадзе? На такое пытанне ён, бадай, не змог бы адказаць. Пакуль што проста сядзеў, проста глядзеў, слухаў і лічыў людзей, якія пад покрывам змроку ішлі і ішлі да залатара. «Можа, будзе купецкая братчына і таўстамясыя будуць піць віно, хваліцца сваім

срэбрам?» — думаў ён. Але на братчыну ідуць не хаваючыся, у багатых уборах, цягнуць разам з прыслужнікамі амфары і карчагі, кошыкі з печанай рыбай і белым хлебам, кумпякі, ужо наткнутыя на ражно і абсмажаныя. У маленькіх сплеценых з танюткай лазы кошыках або на вышываных абрусах нясуць арэхі, яблыкі, ігрушы, кіслы ўгорскі корань, ад якога робіцца холадна ў роце. Гэтыя ж ішлі ў цёмных плашчах, па аднаму і моўчкі. У Веля аж у жываце забурчала ад цікаўнасці. Ён пагладзіў, пацёр далонню жывот, потым, прыгнуўшыся, падбег да брамы, праскочыў у дзверцы і асцярожна, затойваючы дыханне, пачаў красціся ўздоўж глухой сцяны. Ён добра ведаў гэты прасторны багаты двор, бо не раз прыходзіў сюды да Лукеры. Дзіўная адвага і незвычайная цікаўнасць бушавалі ў ім. Ні кропелькі страху не зведаў ён, калі прыставіў да сцяны сукаватае бервяно, якое, чырачы зямлю, прыцягнуў ад плота, і палез па гэтым бервяне на верхні ярус. Там, ён ведаў, ёсць вузенькі праход, ушчаміўшыся ў які можна прайсці, а потым прапаўзці да таго месца, дзе апорны слуп, што трымае перакрыцце, уразаецца ў столь. Каля слупа вілася даволі шырокая трэшчына. Вель прыпаў да яе вокам і навастрыў слых.

Спачатку ён убачыў лысага, хоць боб на галаве малаці, залатара Івана. Каля яго сядзеў Алехна, трохі зводдаль — купцы Алхім, Панкрат, Аўдзей, тысяцкі Раданег і нейкія незнаёмцы.

Вялізная люстра-хорас, ■ тых, што вісяць у цэрквах, асвятляла пакой. Уплішчыўшыся ўсёй шчакой у шчыліну, Вель убачыў частку пафарбаванай у чырвоны колер сцяны. На чырвоным полі строга пазіраў з фрэскі малады безбароды чалавек у княжай шапцы з сінім верхам. Гэта быў князь-пакутнік Глеб.

— Усе? — спытаў залатар Іван.

— Усе, акрамя Цімафея, у якога дачка-сямідзёнка памерла,— адказаў Алехна.

— Памянём душу новапрастаўленай рабы божай,— узняўся са свайго месца, перахрысціўся Іван. Тое ж самае зрабілі ўсе прысутныя.

Але галоўны тут быў, як пачаў здагадвацца Вель, Іванаў сын Алехна. Ён выйшаў на сярэдзіну пакоя, зняў з шыі срэбны дробнакаваны ланцужок, на якім нешта вісела. «Божы абразок»,— падумаў Вель.

— Паклянёмся нашай святыняй, паклянёмся жалезнымі жалудамі, якія ўсе мы носім на грудзях разам

з хрысціянскім крыжам, што, сабраўшыся сёння тут, будзем думаць толькі пра Навагародак і Навагародскую зямлю,— урачыста сказаў Алехна.

Усе ўзнялі ўгору жалезныя жалуды.

— Мяне вярнуў з дарогі ваш ганец. Дзякую, што ў такі час вы не забыліся пра мяне.

Алехна тройчы пакланіўся:

— Наша Нёманскае сто, наша купецкае і залатарскае браталюбства ведаюць далёка адсюль. Быў я ў Брэмене, даходзіў са сваім таварам аж да Генуі і Венецыі, дзе стварылі купцы свае дзяржавы, і мяне, навагараджаніна, сустракалі і прымалі там, як роўню. У тых далёкіх краях мужоў цэняць перш за ўсё за купецкі спрыт і за грошы, якія яны маюць. Перад купцамі там адчынены дзверы самых багатых палацаў, князі і правіцелі садзяць іх побач з сабою на залаты трон.

Усе прысутныя адабральна загулі. «Кубло гадзючае»,— са злосцю падумаў Вель, бо быў цвёрда перакананы, што сапраўдны муж, уладар зямлі той, хто з малалецтва носіць на поясе меч. А ўсе гэтыя смерды, кавалі, купцы — зямны тлен-пыл пад нагамі ў вояў.

— Браталюбы,— узвысіў голас Алехна,— надышоў час вялікага выбару. Усё цяжэй узнімаюцца ветразі нашых караблёў на Варажскім моры. Вы ведаеце чаму. Лівонскія і тэўтонскія рыцары перагарадзілі нам дарогу. І хоць лівонскі магістр у Рызе Андрэй Стырланд клянецца, што вельмі любіць навагародскіх купцоў, гэтак жа, як полацкіх і смаленскіх, мала яму ад нас веры.

— Мала,— гучна сказаў сваім грамавітым голасам Алхім.

— У нас ёсць грошы, вялікія грошы, але гэта сёння не ўсё. Патрэбна, каб у нас быў свой меч,— казаў далей Алехна.

«Ды ты, карузлік, той меч вышэй кален не падымеш»,— з'едліва падумаў Вель. Ён раптам зразумеў, чаму сядзіць тут, у гэтым павуцінным закутку, можа, нават рызыкуючы ўласнай галавою — ён ненавідзіць Алехну, ненавідзіць даўно, з таго самага дня, калі даведаўся, што ў Лукеры маецца дужа ўдалы, дужа разумны брат.

— Ёсць у Навагародку меч — князь Ізяслаў Васількавіч. Але няма ў ім ужо ранейшага гарту і моцы.

— Ступіўся меч,— зноў уставіў свае слова Алхім,

і некаторыя з купцоў засмяяліся. Вель аж здрыгануўся ад злосці.

— Меч у Ізяслава ступіўся,— згодна кіўнуў галавой Алехна,— а значыць, нам, вятшым людзям Навагародка, купцам і баярству, трэба шукаць меч, які б абараніў нашу зямлю і далучыў да яе новыя багатыя землі. З баяр да нас прыйшоў сёння тысяцкі Раданег. Скажы, браталюб Раданег, дзе б нам знайсці такі меч?

Павісла маўчанне. Вель сцяўся ў клубок, баючыся дыхнуць.

— Такі меч ёсць,— глухім голасам адказаў Раданег.

— Можаш ты яго назваць?

— Магу. Гэта — літоўскі кунігас Міндоўг.

Усе адразу зашумелі, пачуліся абураныя галасы:

— Аддаць хрысціянскі горад паганцу?

— Ды ён у храме Барыса і Глеба паставіць свайго драўлянага балвана!

Але ўсіх перакрыў уладны голас Алехны. «У гэтага ў глотцы мазалёў не бывае — гаворыць, што рэпу грызе»,— падумаў Вель.

— Міндоўга ўжо і так узяў з дружынаю князь Ізяслаў на сваю службу,— рашуча і цвёрда сказаў Алехна.— У яго жонка хрысціянка і сын хрысціянін. Абраўшы яго сваім князем, мы запатрабуем, каб ён прыняў нашу веру, і ён прыме яе.

— Мы забыліся пра княжыча Далібора,— напомніў усім маўклівы Панкрат.

— З княжыча Глеба Ізяславіча будзе нядрэнны князь. Але заўтра, не сёння,— адказаў Алехна.— А пакуль што ён можа служыць падручным князем у Міндоўга. Можна аддаць яму на кармленне Ваўкавыйск, а князю Ізяславу — Свіслач.

Вель у сваім сховішчы аж захлынуўся ад гневу, аж за руку сябе кусануў. Як у іх усё гладка і спорна атрымліваецца. А чаму б княжычу Далібору і сапраўды не стаць князем Навагародка, а ён, Вель, пры ім з божай дапамогаю мог бы быць ваяводам. Гэтыя ж хочуць загнаць княжыча ў Ваўкавыйск.

— Браталюбы, усе вы ведаеце, што вялікім мужам, якія служаць або могуць паслужыць Навагародку, мы таемна пасылаем праз сваіх людзей жалезны жолуд,— зноў загаварыў Алехна.— Міндоўгу мы паслалі такім жолуд, і ён, як стала вядома, не адмовіўся ад яго. І княжычу Далібору паслалі. Няхай з гэтых жалудоў вырастуць жалезныя дубы, няхай сякеры

чужынцаў скрышацца аб іх. Веру я, што так і будзе, браталюбы. А Міндоўга не трэба баяцца. Не мы першыя запрашаем князя збоку. Успомніце, як Ноўгарад запрасіў Рурыка з братамі. Успомніце, як балгарскі хан Крум, прыйшоўшы са стэпаў, захапіў сталіцу славян-паўднёўцаў, захапіў іхнюю дзяржаву, але неўзабаве і сам зрабіўся славянінам, і ўсе яго людзі, хоць дзяржава называецца Балгарыяй. Пераварылі яго славяне, перакавалі. А хіба вывеліся добрыя кавалі ў Новагародку?

Далей Вель ужо не слухаў. Як бясшумная ласіца, што, ў хлявах у смердаў доіць начамі кароў, праслізнуў ён са сваёй схованкі, злез на зямлю па сукаватым бервяне, што чакала яго каля сцяны, пабег на дзядзінец шукаць княжыча Далібора.

— Перадаў бранзалет? — першае, што спытаў у яго Далібор, не даўшы яму і рот раскрыць.

— Перадаў. Дужа дзякавала літоўская князёўна. Казала, што вызваліў ты яе ад Даўспрунка, што яна кахае цябе і заўтра ўвечары чакае каля сядзібы баярына Сарокі,— адным дыхам схлусіў Вель.

Далібор, як і кожны б маладзён на ягоным месцы, вельмі ўзрадаваўся такой навіне. Значыць, Рамуне думае пра яго, хоча пабачыць, сохне па ім. Адразу здалося вышэйшым цёмнае неба.

Але тут Вель расказаў пра ўсё тое, што чуў і бачыў на сядзібе залатара Івана.

— Завяліся, княжыч, у Наваградку нейкія браталюбы, што ўсім дастаслаўным мужам жалезныя жалуды шлюць,— скончыў ён свой расказ.—Завадатар у іх купец Алехна, Іванаў сын. Хочуць яны Міндоўга паставіць наваградскім князем, а твайго бацьку, князя Ізяслава Васількавіча, і цябе прымучыць* яму і выгнаць вас абодвух з дзядзінца.

Не хацелася Далібору даваць веру ўсяму гэтаму, ды ўспомніў пра два жалезныя жалуды, што падкідвала невядомая рука. Значыць, нешта ёсць, ёсць сіла ў Новагародку, якая хоча нанесці раптоўны ўдар. Але што рабіць?

— Няхай не ўстаўляюць нагу ў чужое стрэмя,— толькі і сказаў княжыч.

У вялікім одуме стаяў ён пасярод дзядзінца. Муралі будавалі вежу, спяшаліся і будавалі нават пры святле

* **Прымучыць** — пакарыць, падпарадкаваць.

паходняў. Новагародак распраўляў плечы, рыхтаваўся да новых паходаў і новых аблогаў. Далібор вырас на гэтым дзядзінцы, пад гэтым небам, і было нясцерпна крыўдна думаць, што нехта хоча выкінуць яго адсюль, як непатрэбнага цюцьку. Гневамналівалася душа. І ўсё-такі ён, добра ўсё абдумаўшы, рашыў нічога пакуль не расказваць бацьку. У новагародскага князя ў кожным куточку горада павінны быць свае вочы і вушы, і быць не можа, каб бацька нічога не ведаў пра браталюбаў. А вось з літоўскім княжычам Войшалкам Далібору вельмі захацелася сустрэцца. Ён нават хацеў напроціў ночы ісці да яго, але перадумаў.

Назаўтра вецер ляпіў у вокны мокрым снегам і апошнім размяклым лісцем з навакольных лясоў. Паміж белых снегавых хмар бачыліся халодныя сінія яміны неба. Потым падмарозіла. Далібор загадаў набіць свайму каню на падковы ледаходныя шыпы. Сам дапамагаў кавалям: глядзеў, як спалохана міргае конь вялікімі цёмнымі вачамі. Потым паехаў з дзядзінца да Войшалка, нікога не ўзяўшы з сабой. Акасцянела стаяў вакол горада прарэджаны ветрам і марозам лес. Яшчэ не хутка ляжа трывалы жорсткі снег і пачнецца сапраўднае зімовае глыбакаснежжа, але зіма ёсць зіма. Далібор павольна ехаў на кані і адчуваў, як мярцвее і ледзянее зямля і неба.

Войшалк сустрэў новагародскага княжыча прыветліва, але вочы былі сумныя, без роспытаў сеў на свайго каня, паехаў побач з Даліборам. Хрупаў пад конскімі капытамі снег.

Слова ў слова расказаў Далібор Войшалку ўсё, што пачуў учора ад Веля. Зірнуў літоўскаму княжычу проста ў вочы.

— Твой бацька сустракаўся з гэтымі браталюбамі?

— Не,— абыякава адказаў Войшалк.— Я гэта заўважыў бы, а калі б і не заўважыў, верныя людзі мне б перадалі.

І раптам дадаў:

— Я ў манастыр хачу ісці.

— Княжыч, Міндоўгаў сын, і хочаш ісці ў манастыр? — здзівіўся Далібор.

— Вось таму, што Міндоўгаў сын, і хачу ісці,— адказаў Войшалк і замоўк.

Яны ехалі па нечым санным следзе. Вецер шумеў у пустым зацярушаным снегам кустоўі. Са шкадаваннем думаў Далібор, што ягоны сябра (а Войшалка ён

яшчэ з Варуты пачаў лічыць сваім сябрам) збіраецца пастрыгчыся ў манахі, поснікі і маўчальнікі. Шум ветру тым часам узмацняўся, перайшоў у свіст. Здавалася, нехта нябачны і велізарны дзьме што ёсць моцы ў пусты арэх-свішчык. «Няхай асвецяць цябе божыя прамяні,— з жалем, з любоўю думаў пра Войшалка Далібор,— але не спяшайся, не спяшайся ў манастыр. Ты ж яшчэ такі малады».

— Кунігас хоча ўзяць новую жонку,— як бы самому сабе сказаў Войшалк, яшчэ раз дужа здзівіўшы Далібора.

— А Ганна-Паята, твая маці, куды ж дзенецца? — спытаў Далібор.

— Ён надумаў узяць маладую жонку. Есць у Нальшанскай зямлі Марта, сястра жонкі мясцовага кунігаса Доўманта. Да яе кунігас патаемна паслаў сватоў-выведнікаў. А Ганну-Паяту ён верне назад у Цвер.

— Няўжо вашы баяры, вашы ваяводы не могуць заступіцца за княгіню Ганну-Паяту? Яна ж нікому крыўды не чыніла,— сказаў Далібор.

Войшалк строга паглядзеў на яго.

— Той, хто надумаецца такое рабіць, будзе карміць вараннё сваімі вачамі.

Зноў наступіла маўчанне. Шумеў, свістаў вецер.

— Давай даедзем да самага Нёмана,— раптам прапанаваў Далібор.— Мы з Някрасам, маім братам, і з ляхам Косткам два разы так ездзілі. Заспрачаемся, хто ад Навагародка да Нёмана і назад хутчэй прыедзе — і ў дарогу.

— Паехалі,— згадзіўся Войшалк.

Яму, як зразумеў Далібор, было зараз усё роўна, што рабіць і куды ехаць.

Усю астатнюю дарогу маўчалі. Коні знясіліліся ўшчэнт. Даводзілася, каб даць ім перадых, злазіць з сёдлаў, ісці пешшу. Трохі ратаваў санны след, за які яны ўчапіліся, як тапелец чапляецца за вяроўку. Пэўна, купец з дзесяткам саней памчаў перад імі за Нёман і яшчэ далей, у Лівонію. Але гэта надзвычай цяжкая дарога дала сваю зідавочную карысць — Войшалк ажыў, пажвавеў, чырванню запалалі шчокі. Ен з удзячнасцю пазіраў на Далібора. Навагародскаму княжычу падабалася, што сябра павесялеў і хоць на нейкі час забыўся пра свае клопаты-згрызоты.

— Нёман,— выдыхнуў нарэшце Далібор, і яны спынілі коней над маўклівай ракою.

Яна была не дужа шырокая і глыбокая, а зараз, пад ільдом і снегам, і зусім выдавала шчуплай, сціплай, але яна была калыскай двух народаў, і пакуль жывуць гэтыя народы, у іхніх песнях будзе жыць і яна. З вялікім хваляваннем глядзелі Далібор і Войшалк наўкол, быццам нечага чакалі, быццам жывы магутны голас вось-вось павінен быў прагучаць, пракаціцца ў маўклівай снежнай прасторы.

— У цябе ёсць жалезны жолуд? — раптам спытаў Далібор.

— Есць,— адказаў Войшалк.

— Давай абмяняемся імі і нацельнымі крыжамі, каб на ўсё жыццё стаць братанічамі.

Вочы ў Войшалка заблішчалі. Ён усё зразумеў і з радасцю згадзіўся. Княжычы злезлі з коней, абмяняліся жалудамі і крыжамі, тройчы пацалаваліся і пайшлі на Нёман. Там, на самай сярэдзіне, яны апусціліся на калені, рукамі пачалі разграбаць снег, пакуль не заззяў чысцюткі лёд. Мячамі яны прасеклі, прадзяўблі ў лёдзе палонку, зачэрпнулі Даліборавым шлемам і зрабілі па глытку марозлівай, аж трашчалі зубы, вады. Да самага свайго канання яны не забудуць гэты дзень. І як бы не давялося ім памерці — на руках у сваіх родных або ў сядле ў час бітвы, за хмельным сталом або ў катавальні — святая нёманская вада ніколі і нідзе не дасць ім зрабіцца сляпымі і глухімі, забыць сваю зямлю.

Стомлены зімовы дзень схіляў ледзяное крыло, пачыналіся прыцемкі. Княжычы не адважыліся супраць ночы рабіць трыццаць вёрст назад да Навагародка. Насеклі лапніку, хмызу. Потым Далібор дастаў з дарожных торбаў-сакваў звярыную шкуру. Пад густымі маладымі елкамі ўтапталі снег, наклалі лапнік, зверху паслалі шкуру. Далібор чэкнуў крэсівам, выбіў іскру, і неўзабаве засвяцілася ў цемры невялікае цяпельца. Яны працягнулі да яго рукі, пальцы сутыкнуліся над агнём, і гэта было як бы яшчэ адным знакам, што душы іхнія параднiліся.

Не ўпершыню начавалі княжычы, новагародскі і літоўскі, у лесе, у полі, але заўсёды між свайго войска, у гушчыні людзей, сёння ж яны засталіся сам-насам з маўклівасцю дрэў і маўклівасцю неба. Пэўна, іх ужо даўно шукалі ў Навагародку і ў Міндоўгавым стане. Яны ж нібы закалыханыя зімовым лесам, сядзелі твар у твар, і здавалася, што не будзе канца гэтай незвычай-

най ночы. Яны бачылі, як збіраліся на начлег цецерукі — з усяго лёту нbackupыралі ў гурбы і клаліся спаць пад снегам. Потым, ужо на зломе ночы, непадалёку пачуўся прарэзлівы, нібы дзіцячы крык. Гэта заяц, упаўшы на спіну, усімі чатырма лапамі адбіваўся ад нейкай буйной белай птушкі.

Далібор глядзеў праз полымя на Войшалка, усё часцей замест літоўскага княжыча бачылася яму Рамуне. Яны, брат і сястра, былі падобныя тварам, толькі Войшалк меў цямнейшы волас. Далібор цёр кулакамі вочы, срэбныя бліскаўкі скакалі наўкол, здавалася, кружыўся лес, агонь. Галава ўпала на калені, і ён заснуў.

Раніцай княжычаў пабудзіла галёканне, крыкі. Вершнікі прабіваліся да іх скрозь снег. У пярэднім Войшалк з вялікім здзіўленнем і незадавальненнем пазнаў Казлейку.

— І тут — ён! — да болю сціснуў Войшалк рукаяць мяча.

Міндоўгаў шапатнік злез-скульнуўся з каня, адвесіў княжычам вельмі глыбокі паклон, стаў з непакрытай галавой перад Войшалкам.

— Па слядах знайшоў? — жорстка спытаў у яго Войшалк.

— Па слядах,— сказаў Казлейка.— Бяда вялікая, княжыч, напаткала ўсіх нас.

— Якая? — схапіў яго загрудкі Войшалк.— Гавары! З кунігасам бяда?

— Няма больш на свеце светлай княгіні літоўскай, а тваёй маці мудрасардэчнай Ганны-Паяты.

— Маці няма?

Войшалк пабялеў, глядзеў на Казлейку, як на самае страшнае, самае агіднае стварэнне, што прыпаўзло праз ноч, праз снег дзеля таго, каб і тут, у гэтым ціхім схоўным лесе, зрабіць яму, Войшалку, балюча.

— Што з маці? — апалым голасам спытаў княжыч.

— Конь капытом ударыў княгіні проста ў скронь, і княгіня памерла на руках у кунігаса.

— Конь? Які конь? — з непаразуменнем і слязьмі ў вачах пазіраў Войшалк то на Казлейку, то на Далібора.

— Конь дружынніка Гінтаса. Каня ўжо забілі разам з яго мярзотным гаспадаром.

«Зязюля,— адразу ўспомніў Гінтаса Далібор.— Як

ён баяўся тады, у лесе, што яго пакарае кунігас».

— Конь... Гінтас,— казаў між тым пабялелы Войшалк і раптам ярасна кінуўся на Казлейку.

— Навошта ты прыехаў сюды, павук душы?!

Казлейка пакорліва схіліў галаву. Войшалк спыніўся ўпрытык з ім, сціснуў рукамі свой лоб, у пакуце заплюшчыў вочы.

— А можа, капытом ударыла Марта? — сказаў ён раптам, і вочы заблішчалі.— Ты ведаеш, павук, Марту? Бачыў яе? Яна, вядома ж, маладая, маладзейшая за тваю нябожчыцу княгіню.

Ён упаў каленьмі ў снег.

— Божа, пакарай усіх, хто хоць адным пальцам крануў яе. Разбі іх сваім гневам, як у пракаветны час разбівалі млекасосцаў аб каменне. Зрабі, каб іхнюю чорную кроў спілі п'яўкі. Няхай яны сваімі галовамі б'юцца аб кожны пень у лесе. Божа, няхай іх сажрэ гліна і гразь.

Казлейка ўважліва пазіраў на Войшалка, потым даў знак рукою сваім спадарожнікам. Яны асцярожна ўзялі княжыча пад пахі, асцярожна пасадзілі на каня.

— Забіце Жэрнаса! — крычаў Войшалк.— Натапчыце яму чэрава жалезнымі жалудамі, каб ён лопнуў! Ты — Жэрнас! — павярнуўся ён раптам да Казлейкі.— Які ў цябе агідны лыч!

Далібор з дапамогаю літоўцаў зноў ссадзіў княжыча з каня. Войшалка паклалі на звярыную шкуру, і Далібор браў жменямі снег, студзіў яму лоб. Неўзабаве Войшалк заціх, заснуў. Так яго і павезлі ў Навагародак, соннага, прывязаўшы шкуру між двух коней.

У глыбокім смутку ехаў следам за сваім сябрам Далібор. Дужа баяўся ён, каб гарачка-агнявіца не ўзяла Войшалкаў розум, але на паўдарозе літоўскі княжыч прачнуўся, сеў у сваёй шкуры-калысцы, загадаў:

— Каня мне!

І як толькі падвялі каня, лёгка ўскочыў у сядло, моўчкі паехаў наперадзе ўсіх. Нават Далібору не сказаў ні слова.

І Міндоўгаў стан, і ўвесь Навагародак былі ў вялікай жалобе. Княгіню Ганну-Паяту, як прыроджаную хрысціянку, адпявалі па хрысціянскаму абраду. Іерэй Анісім, ва ўсім чорным, разам з усім сваім клірам спяваў святыя псалмы, хадзіў вакол дубовай труны-корсты, махаючы кадзілам. Але казалі на дзядзінцы і ў вакольным горадзе, што ўначы прыбягалі з пушчы, з глухога

буралому нейкія людзі, ці то мужчыны, ці жанчыны, у кашлатай поўсці, у рознакаляровых пер'ях, і спрабавалі танцаваць вакол нябожчыцы. Ды святы пах воску і ладану не дужа напалохаў іх. Адагнаў жа іх ад труны іерэй Анісім. Ён адважна ўзняў залаты крыж і тройчы сказаў:

— Адыдзі, згінь, сатана!

Праўда гэта ці небыліца, ніхто так і не даведаўся. Сам іерэй глыбакадумна маўчаў, кашчавай загарэлай рукою гладзіў сваю пушыстую бараду.

Далібору ніяк не выпадала вока на вока сысціся з Войшалкам. Ды ён і не спрабаваў гэта рабіць, бачачы тое лютае гора, што абрынулася на сябра, бо людзі паміраюць часта, а маці памірае толькі раз.

Ганна-Паята ляжала прыгожая, нікому ўжо, акрамя бога, недасяжная.

— Свечку жыцця паляць з двух канцоў,— ціхім голасам чытаў над ёй з жоўтага старога пергамена Анісім.

Галава ў нябожчыцы княгіні была абвязана прыгожай візантыйскай кімкай — сінія птушкі на белым полі.

— Развяжыце ёй галаву! — раптам крыкнуў Войшалк. Але княжыча клапатліва адвялі ад труны, далі папіць настою з лугавой і лясной травы. Ён, прыхіліўшыся да Рамуне, плакаў. Сястра таксама плакала. Над густой сцяной літоўскага і навагародскага баярства, якое прыйшло развітацца з княгіняй, шалясцела рыданне. Міндоўг стаяў, як змрочная скала. Чорназялёныя вочы здаваліся падмарожанымі.

Толькі аднойчы позірк Войшалка сутыкнуўся з позіркам Далібора. Літоўскі княжыч памкнуўся наперад, нібы хацеў падбегчы да Далібора, стаць побач, але патухла раптоўная іскра, скамянеў твар, і Войшалк сказаў глухім голасам праз натоўп:

— Яшчэ не сатлелі сляды маёй маці. Там, дзе я даведаўся пра яе смерць, там, дзе мы пілі з табой нёманскую ваду, я пастаўлю некалі манастыр.

Пахавалі Ганну-Паяту, і князь Ізяслаў Васількавіч разам з усімі сваімі думцамі зноў падступіўся да Міндоўга, бо даўно ўжо прайшлі тры дні, узятыя кунігасам на роздум. Запрасілі кунігаса, запытаў іерэй Анісім ад імя навагародскага князя, навагародскага баярства і купецтва:

— Ці згодзен ты, слаўны кунігас літоўскі Міндоўг Рынгольтавіч, паслужыць сваім непераможным мячом

Новагародку? Ці згодзен ты са сваёй дружынай, сваімі баярамі стаць верным саюзнікам Новагародскай зямлі? Ці згодзен ты прыняць святую праваслаўную веру? Калі ты згодзен, калі згодныя твае баяры і дружына, Новагародак прымае цябе, тваіх сямейцаў, тваю дружыну і чэлядзь на поўнае сваё кармленне, плаціць за харобрасць тваю срэбрам, хлебам, мёдам і аўсом для коней. Калі ты згодзен, усе тыя землі і народы, якія ты паваюеш сваім мячом і дружынаю, зробяцца тваім і тваіх дзяцей здабыткам. Калі ты згодзен, Новагародак і князь Ізяслаў Васількавіч урачыста вітаюць цябе, як адзінага ўладара Літвы, і абяцаюць табе дапамогу і падтрымку ў мілай богу справе па збіранню ў моцную дзяржаву ўсіх земляў тваёй бацькаўшчыны.

На ўсе пытанні Міндоўг цвёрда адказаў згодаю, акрамя змены сваёй веры. Тут ён настойваў, каб яго не сілавалі, не змушалі, бо пасля смерці любімай жонкі княгіні Ганны-Паяты душа ягоная павінна развітвацца з ёй цэлы сонцаварот. Для такога развітання павінен быць запас спакою ў душы, а змена дзедаўскай веры — гэта заўсёды душаломства. «Мінецца сонцаварот — і я са сваімі баярамі прыму вашу праваслаўную веру»,— паабяцаў кунігас.

Усе новагараджане з радасцю згадзіліся, акрамя іерэя Анісіма і баярына Тугажыла. Гэтыя двое з усёй рашучасцю і цвёрдасцю пачалі патрабаваць, каб Міндоўг неадкладна стаў праваслаўным, бо як можна трымаць у руках хрысціянскі меч, калі ў цябе душа паганца.

— Вычэкваеш, хітруеш,— пачаў выгаворваць кунігасу Анісім.— Патушы свае мярзотныя вогнішчы. Аддавай плоць нябожчыкаў зямлі, а не агню. Помні, што праз пакуты ўсе мы ідзём па жыцці.

— Чаго ты хочаш? — спакойна сказаў Міндоўг.— З дапамогай Хрыста і Пяркунаса мы сумесна заб'ём тэўтонскую свінню, якая хоча пажэрці нашы жалуды. Хіба гэта не галоўнае?

— Хрысціянская вера вучыць людзей жыць і вучыць паміраць,— з гневам гаварыў яму Анісім.— Адчуеш перад смерцю смагу духоўную і прыйдзеш у царкву, як конь да камягі*, але ўжо будзе позна.

— Душалом! — крыкнуў Міндоўг і разам са сваімі баярамі пакінуў княскую святліцу, паехаў у свой стан.

---

* **К а м я г а** — карыта для вадапою.

— Не тыя кветкі абразаеш, святы ойча,— сказаў Анісіму незадаволены князь Ізяслаў.— Абразай калючкі, абразай гніль, але не тое, што расце і пладаносіць.

— Богаў сад адзіны,— цвёрда выгукнуў Анісім.— І адно над гэтым вечным садам сонца — Хрыстос.

Прамовіўшы такія словы, пакрыўджаны іерэй пайшоў у царкву, стаў на калені, маліўся і праніклівa глядзеў на выявы князёў-пакутнікаў Барыса і Глеба, што былі выкладзены каляровай смальтай на сцяне. З вялікім узрушэннем душы і светлай слязой на вачах думалася іерэю, што хуткацечны час не патушыць фарбу фрэсак.

Калі пачаўся такі закалот* з Міндоўгам, кінуўся князю Ізяславу Васількавічу ў ногі дружыннік Вель і расказаў, што ёсць між купцоў і некаторых баяр людзі-браталюбы, якія хочуць кунігаса Міндоўга зрабіць адзіным уладаром усёй Навагародскай зямлі і Літвы.

— А мяне куды? — адваліў ад абурэння ніжнюю губу Ізяслаў.

— Цябе, князь-бацюхна, у Свіслач,— простасардэчна адказаў Вель.

А потым пайшло-закруцілася, як і заўсёды бывае ў такіх выпадках. Даносчыку быў першы бізун. Вель пляваўся крывавай слінай, крычаў, што да скону верны князю Ізяславу. Тысяцкага Раданегу знайшлі ў цёплым ложку ў абдымках прыгожай чалядніцы. Як быку, прасвідравалі яму ў носе дзірку, прасадзілі ў яе жалезнае кольца і павялі на ланцугу, падганяючы бізунамі, у церам. Браталюбаў не ўсіх удалося схапіць. У купцоў ногі лёгкія, жвавыя, і шмат хто паспеў уцячы ў Галіч, Рыгу або ў Нальшаны да кунігаса Доўманта. Алхім надумаў схавацца дома. Залез у вялізную стовядзёрную дзежку, у якой былі зроблены два днішчы. Зверху наліта вада, і, забі, не здагадаешся, што пад гэтай вадою, між двума днішчамі, сядзіць, скруціўшыся ў клубок, Алхім. Але чмыхнуў купец у сваёй хітрай схованцы, бо пыл у нос трапіў. Рассеклі, разбілі дзежку і ўзялі Алхіма за каршэнь. Алехну, галоўнага звадыяша і крыкуна, таксама схапілі. Біць яго бізуном або прыпякаць агнём Ізяслаў забараніў.

---

* Закалот — спрэчка, сварка.

Алехну проста не давалі спаць. Ноччу і днём бясконца дапытваюць, выведваюць, пагражаюць, сядзіць Алехна ўжо, як у тумане, вочы самі зліпаюцца, хоць ты іх абцугамі раздзірай, а толькі задрэмле, звесіць галаву на грудзі, як княжы чалавек дубовай лёгкай палачкай клюк яму па носе, і — адляцеў сон. На трэція ці чацвёртыя суткі такога гвалтоўнага бяссоння ў купца пачаліся відзежы. Бачыліся яму чырвоныя мухі на тварах у дапытнікаў, шматгаловыя чорныя павукі на сценах. Дзіка закрычаў Алехна і страціў прытомнасць. Агнём яго пячы — не міргне вокам.

— Хай паспіць,— сказаў князь Ізяслаў Васількавіч і сам таксама пайшоў спаць.

А назаўтра раніцай яны зноў сустрэліся.

— Дык што хацелі зрабіць са мной і маёй сям'ёй ты і твае браталюбы? — лагодна спытаў навагародскі князь.— Адказвай, купец. Адказвай, пакуль не позна, сам, бо хутка за цябе загаворыць і закрычыць бізун. Тысяцкі Раданег, нашто ўжо здаравіла, а пішчаў у катавальні, як парася.

— А я і не думаю маўчаць, князь,— сказаў, трохі бляднеючы, Алехна.— Бываў я на Гоцкім беразе, у Рызе, у Марыенбурзе, у Мемелі*. Купецкая доля такая — заўжды ў дарозе, заўжды на людзях. Вялікую сілу бачыў я там і чуў адно: Vae maledictis et infidelibus!»** І самае страшнае, князь, тое, што праклятымі і нявернымі там лічаць не толькі паганцаў ліваў, эстаў, жамойтаў, літоўцаў, а і нас, навагараджан, палачан, пінян і ўсіх жывых русінаў, якім яшчэ ў пракаветны час прынёс хрысціянскі крыж апостал Андрэй. Два чорныя крылы драпежнага каршуна бачыў я там. Адно крыло — Лівонскі ордэн. Другое крыло — ордэн Тэўтонскі. Рымскі папа іх ужо з'яднаў у адно цэлае, але з'ядноўваюць землі ў адну дзяржаву мячом, а не словам. І вось ідуць крыжакі на Мемель з двух бакоў, каб узвесці сцяну між намі і астатнім хрысціянскім светам. Усе нашы сілы нам трэба сабраць у адзіны кулак, іначай — загінем...

— І ты, нікчэмны купец, думаеш, што такі кулак можа сабраць толькі Міндоўг? — пранізліва паглядзеў на Алехну Ізяслаў.

---

* Мемель — так немцы называлі літоўскі горад Клайпеду.

** «Vae maledictis et infidelibus!» *(лац.)* — Бяда праклятым і нявернымі!

— Не гневайся, князь, але так думаю не толькі я,— зноў пабляднеўшы, сказаў Алехна.— Пасля Крутагор'я на Міндоўга народ глядзіць як на збаўцу ад татарскага рабства. Народ перакананы, што першародныя князі літоўскія, гэтак жа сама, як князі полацкія, навагародскія або кіеўскія, нашчадкі святога князя Уладзіміра. Нездарма ж Міндоўг быў жанаты на цверскай праваслаўнай князёўне.

Ізяслаў уважліва слухаў купца.

— Я веру,— гаварыў Алехна,— што вялікая моцная дзяржава Новагародка і Літвы створыцца, народзіцца не крывавымі набегамі, а мірным радам, згодай, дагаворам, шлюбамі літоўскіх і нашых княжат, а калі і будзе цячы кроў, то кроў адступнікаў, пярэваратняў. Такая дзяржава створыцца цярпімасцю да чужых багоў, да Пяркунаса і Хрыста, бо мы не жыдавіны, гэты рассыпаны ў свеце народ, які кажа, што яго бог самы лепшы і самы мудрэйшы за іншых.

Алехна раптам упаў перад Ізяславам на калені.

— Князь, аддай уладу Міндоўгу.

Ізяслаў з нянавісцю глядзеў на купца. Потым устаў, сурова сказаў:

— Пакуль я новагародскі князь, датуль ты будзеш сядзець у цямніцы. Цябе не будуць катаваць, як іншых. Разумных людзей я не катую. Ты будзеш сядзець у цямніцы сонцаварот, другі, трэці, і надыдзе міг, калі ты сам пачнеш катаваць самога сябе. Я шкадую цябе, купец, як чалавек, як хрысціянін, але як новагародскі князь, як нашчадак Глебавічаў і Усяславічаў я закоўваю цябе ў вечныя жалезы.

Ад Веля Ізяслаў даведаўся, што княжыч Далібор таксама чуў пра браталюбаў. Адразу ж княжыча паставілі перад светлымі бацькавымі вачыма.

— Мой гнюсны раб Вель клянецца на крыжы, што табе, сын, было вядома імя хрыстапрадаўцы Алехны. Так ці не? — ва ўпор гледзячы на Далібора, спытаў князь.

— Так,— адказаў Далібор.

— Вель клянецца, што табе было вядома не толькі імя Алехны, але і што ты ведаў пра чорныя справы псоў, якія назвалі сябе браталюбамі. Так ці не?

Пасля гэтага пытання Далібор на нейкі міг разгубіўся.

— Так ці не? — насядаў князь-бацька. Вочы гарэлі нядобрым агнём.

— Так. Я ведаў. Мне расказаў Вель,— вымушаны быў прызнацца Далібор.

— Чаму ж ты адразу не прыбег да мяне, свайго бацькі? Чаму адразу разам са мной не пачаў віць вяроўку, каб звязаць ворагаў маіх і тваіх, ворагаў Новагародка? Адказвай, глядзі мне ў вочы.

Князь Ізяслаў падскочыў да сына, стаў твар у твар — не адвернешся. Позірк быў страшны, халодны, нібы смерць, пра якую кажуць, што яна пройдзе праз усё войска, але возьме таго, каго захоча.

— Глядзі мне ў вочы,— зноў загадаў Ізяслаў.

— Я не паверыў Велю. Мала што набрэша які пустадомак.

— Іншае ў цябе на душы, іншае,— амаль шэптам сказаў Ізяслаў, і вочы свяціліся.— Бачу цябе наскрозь. Хочаш бацьку з княжага стальца скінуць. Сам хочаш князем стаць. Кажы, хочаш?

Далібор зацята маўчаў.

— У смердаў песня ёсць,— усё больш узбуджаўся, наліваўся ярасцю князь,— і ў той песні, ведаеш, як спяваецца? «Прыйшлі ў маю хатку ды б'юць майго татку». А ты роднага татку не пашкадуеш. Ты сам будзеш яго біць, па галаве, па руках, па чым патрапіш.

Ізяслаў замахаў кулакамі, быццам некага біў.

— Няма ў мяне такога ў думках,— цвёрда сказаў Далібор. Ен успомніў, што часам на бацьку находзіць нікому не падуладны страх, нават жах. Варухнецца ў лесе куст, затрапеча ў пакоі тканіна — князь адразу хапае меч. Аднойчы забіў дворнага пса, які ■ вялікай радасцю кінуўся да яго, неасцярожна выскачыўшы з-за адчыненай створкі брамы.

— А ці не забыўся ты, княжыч, сын мой, што тваіх сватоў чакаюць у Ваўкавыйску? — раптам спытаў Ізяслаў.

Далібор уздрыгнуў. Князь заўважыў гэта.

— Слухай жа волю маю, бацькоўскую і княжую. Тры дні табе на зборы, і каб разам з ляхам Косткам ехаў у Ваўкавыйск. Там цябе ўжо чакае твой будучы цесць, а мой падручны князь Усеваладка. Хоча на цябе Усеваладка паглядзець, на твой твар і твой розум падзівіцца. Час ужо надышоў сваё мужчынскае семя кінуць у жаночую баразну.

Далібор слухаў бацьку, а перад вачамі стаяла Рамуне.

— Ідзі,— сказаў сыну князь Ізяслаў.— Як ты

меншы быў, я цябе больш любіў, калупайчыкам сваім называў, а вырас ты, і як дубоваю карою сэрца тваё абрасло — не дагукацца да сэрца.

Здарылася тое, што павінна было здарыцца пры ўсіх гэтых варунках — Ізяслаў узненавідзеў Міндоўга. Ён гатоў быў узяць рад з Галічам, з Конрадам Мазавецкім, з яцвяжскімі старэйшынамі, але толькі не з варуцкім кунігасам. Ворага адчуў і ўбачыў у ім Ізяслаў. Але камень, які ляжаў на вяршыні гары і які скранулі, зрушылі з месца, не можа ўтрымаць нават самае магутнейшае плячо. Міндоўг, люта пасварыўшыся з навагародскімі думцамі і перш за ўсё з іерэем Анісімам, хацеў адзін узяць назад Літву. Ды не атрымалася, не хапіла сілы. І ён вярнуўся ў Навагародак, згадзіўся зрабіць усё, што запатрабуюць ад яго навагараджане. Вядома ж, першым патрабаваннем было ягонае і ягоных баяр хрышчэнне ў праваслаўную веру, адмаўленне ад балвахвалства*. І калі ў лютым месяцы, у самым канчатку, прыгрэла сонца і папаўзлі з елак і соснаў снегавыя шапкі, усе навагараджане абодвага цела** сабраліся каля гары, што ўсходней вакольнага горада. Міндоўг з найбліжнімі баярамі стаяў на гары, і святы айцец Анісім з урачыстым бляскам у вачах асяняў іх крыжам. Вецер даносіў ягоныя ўсхваляваныя словы: «Кажа Хрыстос: «Падай руку тваю і глядзі прабіццё рэбр маіх і вер, што я сам тут».

Клір крычаў:

— Слава табе, Ісусе, сын божы!

— Слава табе, святая Багародзіца!

А іерэй Анісім натхнёна выводзіў:

— Кажа паганская царква Хрысту, як абручніца яго: «Зранена я каханнем тваім, жаніхе нябесны».

Міндоўг рабіў усё, што загадваў Анісім: цалаваў крыж, станавіўся на калені і схіляў галаву, калі панамар Іларыён крапіў яго святой вадою. Потым было мірапамазанне. Анісім, творачы малітву, змачыў Міндоўгу духмяным маслам-мірам лоб, грудзі, вочы, ноздры і вусны, а таксама рукі і ногі.

Праз чатыры або пяць сонцаваротаў на гэтай жа самай гары Міндоўг, адрынуўшы праваслаўе, будзе хрысціцца па каталіцкаму абраду, каб атрымаць ад рымскага папы каралеўскую карону. А яшчэ праз

---

* Балвахвалства — паганскія звычаі і абрады.

** Абодвага цела — г. зн. мужчыны і жанчыны.

дванаццаць сонцаваротаў, зноў вярнуўшыся да дзедаўскай веры, да паганства, ён будзе засечаны ў сваім шатры разам са сваімі сынамі. Ягоны труп прывязуць сюды ж, аддадуць ахвярнаму агню, і народ назаве гэту гару Міндоўгавай гарой. Але не дадзена людзям бачыць свой лёс. Удыхаеш, бярэш у грудзі паветра і не ведаеш, ці выдыхнеш яго, бо страла смерці кожны міг можа ўпіцца ў выю.

Пасля хрышчэння Міндоўга і ягоных баяр абышлі з крыжамі, харугвамі і абразамі царкву Барыса і Глеба, і на яе парозе князь Ізяслаў Новагародскі тройчы пацалаваўся з кунігасам. Глядзелі на ўрачыстае цалаванне баяры і купцы, рукадзельныя людзі і смерды з вакольных весяў і ўсе разумелі, што гэта Літва цалуецца з Новагародкам.

— Слава! — крычаў народ.

Ізяслаў нібы атруту глытаў, калі цалаваўся з Міндоўгам. Але змушаў сябе ўсміхацца, радавацца. Ён адчуваў, што паступова робіцца для новагараджан нелюбімым князем, асабліва пасля таго, як жорстка пакараў браталюбаў. Новагародак у большай меры, чым Менск і нават Полацк, гандлёвы купецкі горад, і тут небяспечна быць ворагам купцоў.

Назаўтра ж ва ўсе канцы Новагародскай зямлі памчаліся вершнікі, павезлі вусны заклік і бярэсты, у якіх аб'яўляўся паход на Літву, дзе пакуль што ўладарылі Таўцівіл з Эдзівідам. Іхні ж бацька Даўспрунк ужо збег у Жамойць да свайго пляменніка кунігаса Трайната.

Праз сядміцу, як было ўмоўлена ў бярэстах, падышлі раці з Услоніма, Здзітава, Турыйска, Гародні, Ваўкавыйска, каля Новагародка задыміліся вогнішчы, заржалі коні, раскінуліся сотні белых і чырвоных шатроў. Воі-пешцы і конныя дружыннікі разам са збройнікамі вастрылі дзіды, мячы, сякеры, нашывалі тоўстыя слаі бычынай і туравай скуры на шчыты, змазвалі барсуковым тлушчам кальчугі, звязвалі сырамятнымі рамянямі нагрудныя бляхі-сустугі. Рыхтаваліся да паходу не з паспехам, а ўсё ўзважваючы, абдумваючы. У навакольных пушчах насеклі лясін, і з іх цесляры-сякернікі рабілі доўгія гнуткія лесвіцы, якія можна будзе класці пад ногі пешцам у літоўскіх балотах. Вязалі з галля і чароту вялізныя поршнімакраступы. Абуўшы іх, пройдзеш любую твань. Наладжвалі парокі і камнямёты, каб у час штурму біць

сцены Варуты. У навакольных палях і лугах збіралі горы каменняў-галышоў.

На час паходу Ізяслаў дазволіў Далібору не ехаць у Ваўкавыйск, а ісці на Літву з навагародскім апалчэннем, тым больш што Усеваладка Ваўкавыйскі сам заявіўся ў Навагародак. Яны сустрэліся. Усеваладка быў чарнавокі, кругленькі, вясёлы, з кароткімі нагамі. «Няўжо і ваўкавыйская князёўна такая?» — паныла падумаў Далібор. Але Усеваладка вельмі хутка развесяліў яго. Ваўкавыйскі князь аказаўся на дзіва гаваркім выхвалякам-самахвалам.

— Вока ў мяне зоркае,— пчалу адразу ў твар пазнаю, з якой яна борці,— адразу сказаў Усеваладка Далібору.

— Пчалу? — здзівіўся Далібор.

— А ты што думаў? Каня кожны ўбачыць, а вось пчалу...

І Усеваладка хвацка падкруціў цёмны вус.

— Чалавек я набожны,— хваліўся ён.— Калі вечарам забудуся памаліцца і перахрысціць падушку, бачу дрэнныя сны.

— Як жа можна забыцца пра малітву? — падсміхнуўся над ім Далібор.— Малітва як голад — абавязкова пра сябе напомніць.

— Праўду кажаш, княжыч,— згадзіўся Усеваладка і зноў паджучыў-падахвоціў сам сябе да пахвальбы.— Дачка ў мяне, князёўна Еўдакія, чыстае золата. Разумніца, якіх свет не бачыў, рукадзельніца. Сама з дзеўкамі-чаляднiцамі тчэ, вышывае, кухарыць. Ды і сыны ў мяне дужа галавістыя.

Але не пашанцавала балаку-гавaруну Усеваладку. У першай жа сутычцы з дружынаю Таўцівіла конь панёс яго проста ў самую гушчу ворагаў, і на вачах у ваўкавыйскіх вояў тыя пасеклі яго на шматкі. Так першы і апошні раз сустрэўся Далібор са сваім магчымым цесцем.

Смерць Усеваладкі патаемна ўзрадавала князя Ізяслава. Разам з усімі праліў ён слязу над нябожчыкам, што прыняў пакутніцкую смерць ад рукі паганцаў, а сыну адразу ж пасля гэтага сказаў:

— Як возьмем Варуту, паедзеш з дружынай і ваяводам Хвалам не ў Навагародак, а ў Ваўкавыйск. Там сталец пусты. З божай і з маёй дапамогаю станеш князем Глебам Ваўкавыйскім.

Чым глыбей Міндоўг з Ізяславам уваходзілі ў Літву,

тым з большай ярасцю нападалі на іх яе абаронцы. Давялося, каб аблегчыць хаду войску, кінуць цяжкія катлы і парокі. Перад кожным боем Міндоўгавы дружыннікі спешваліся з коней, абкружалі крыніцу і жменямі або шлемамі пілі з яе ваду. Хрысціяне з Новагародскай зямлі ў гэты самы час высока ўзнімалі выявы Хрыста, білі аб шчыты мячамі, спявалі «Багародзіцу». Ідучы ж у бой, воі Новагародка, Услоніма, Ваўкавыйска, Здзітава і Турыйска крычалі: «Слава!» І толькі гародзенцы крычалі: «Нёман!» Назва гэтай слаўнай ракі азначае на пракаветнай крывіцка-дрыгавіцкай мове «край», «канец», бо яшчэ за памяццю дзядоў іхнія дзяды, паміраючы, казалі: «Нёман майго жыцця прыйшоў».

Войскі ішлі на Варуту, а наўкол у самай сваёй сіле бушавала вясна. Крот, адчуваючы цяпло і сонца, капаў бліжэй да зямной паверхні, і ўсе лужкі, усе паляны былі ў светла-жоўтых бугарках. Ратуючыся ад паводкі, беглі на травяністыя выспы і пясчаныя выдмы пацукі, мышы, зайцы, лісы. Вечарам у лясах мацней за ўсіх птушак крычаў дрозд-рабіннік.

Далібор, едучы наперадзе малодшай новагародскай дружыны, неадступна думаў аб Рамуне. Яна з малымі Руклюсам і Рупінасам сядзіць зараз у Новагародку, чакае войска з паходу. Як хацелася яму хоць краем вока зірнуць на літоўскую князёўну. Ці помніць яна пра яго? Чаму так заведзена ў жыцці, што жаніцца ў большасці выпадкаў трэба не па сваёй волі і жаніцца на нелюбімых? А каханкі, за якіх бы сэрца аддаў, душу не пашкадаваў, ідуць у чужыя палаты, у чужыя ложкі, у чужыя рукі.

Захоплены такімі думкамі, Далібор і не заўважыў, як ад'ехаўся ад сваёй дружыны і ўбіўся ў строй новагародскіх пешцаў. Тут ішло апалчэнне кавалёў, броннікаў, сырамятнікаў, муралёў і рознага іншага рукадзельнага люду. Каня схапілі за аброць, і вясёлы голас крыкнуў, здалося, пад самым вухам:

— Княжыч!

Далібор аж уздрыгнуў. Перад ім стаяў меднік Бачыла, у меднай (сам выкаваў!) шапцы, у доўгай, дзіравай на спіне кальчузе, з доўгім вастрадзюбым кап'ём у руцэ.

— А я гляджу і думаю: ці не княжыч гэта? — смеючыся, казаў Бачыла і крочыў, трымаючыся за Даліборава стрэмя.— А брат твой дзе?

— Някрас таксама сеў на каня,— узрадаваўся знаёмцу Далібор.— Ён разам з Косткам у Міндоўгавай дружыне.
— Вялікая сіла люду ідзе,— прыцмокнуў языком меднік.
— І кроў вялікая будзе,— сказаў Далібор.
— Кроў?
— А як жа? Вайны без крыві не бывае. Не толькі Таўцівіл з Эдзівідам супраць нас. Татарскі хан Кульпа вядзе конніцу на Менск. Калі не ўстаяць мяняне, можа ўдарыць па Новагародку.
Пры такіх словах княжыча Бачыла глыбей насунуў на галаву сваю медную шапку, ускінуў на плячо кап'ё.
Ішлі раць на рать, меч на меч. Слупы чорнага дыму ўставалі над зямлёй. Трашчалі над пушчамі і балотамі навальніцы. Святло маланак, здаецца, сцёбала па вачах. Шумела, раўла, ручаямі ляцела з неба навальнічная вада. Стомлены вой здымаў з галавы шлем, набіраў вады з краямі, піў і не мог напіцца. Аднойчы вечарам заззялі ў небе над зямлёй два велізарныя вогненна-чырвоныя крыжы, якія раслі з аднаго кораня. «Гэта Новагародак і Літва,— казалі, хрысцячыся, бывалыя людзі.— Яны павінны злучыцца. Бачыце — у іх адзін корань». «Але ж Літва паганская,— не згаджаліся няверы.— Мала што Міндоўг з купкаю баяр хрысціўся». «Яна будзе хрысціянскай»,— адказвалі ім.
Ішоў у сечу Далібор, думаючы пра Новагародак, светлакосую Рамуне. У глухой цямніцы сядзеў Алехна, успамінаў браталюбаў, мёртвых і жывых, спрабаваў рукамі гнуць халодныя краты і ўсё часцей чуў ува сне звонкі незвычайны голас, які абвяшчаў яму і ўсяму свету: «Чалавек павінен жыць не законам галоднага ваўка, а законам жытнёвага поля». Міндоўг з вялікай лютасцю выганяў з Літвы сваіх ворагаў, нават калі гэта былі ягоныя пляменнікі. Войшалк марыў збудаваць манастыр над Нёманам, каб ішло адтуль святло вучонасці, святло біблейскай мудрасці. Жэрнас, пахудзеўшы за вясну, няўтрымна бегаў па пушчах, уздымаў, гуртаваў балотную раць, каб потым па крыві сваіх аднародцаў зноў ісці пад свяшчэнны дуб і жэрці жалуды. На прасторах Заходняй Еўропы грымела крывавая бязлітасная вайна паміж германскімі імператарамі Гогенштаўфенамі і папствам.
І было ўсё гэта ў лета 6754-е* ад стварэння свету.

* Лета 6754-е — 1246 год.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

На прасторах Заходняй Еўропы грымела ў гэты час крывавая бязлітасная вайна паміж германскімі імператарамі Гогенштаўфенамі і папствам. Папы, ратуючыся ад сваіх ворагаў, хаваліся ў горадзе Ліёне, і іх можна было лічыць і рымскімі і ліёнскімі. А пачалося ўсё вельмі даўно, пачалося з таго, што ў канцы ліпеня 1167 года войска германскага імператара Фрыдрыха I Барбаросы пад началам двух епіскапаў у рыцарскіх даспехах пасля жорсткай васьмідзённай аблогі ўварвалася ў Рым. Тысячы трупаў немцаў і рымлян валяліся на вуліцах. Папа Аляксандр III уцёк з Рыма. Імператар Фрыдрых Рудабароды хадзіў па захопленай папскай сталіцы, піў віно са сваімі воінамі, абдымаўся і цалаваўся з імі. Ён, пэўна ж, адчуваў сябе новым Цэзарам. Ды здарылася нечаканае і страшнае. Тое, што не маглі зрабіць адборныя папскія рыцары, зрабіў за два-тры дні нейкі нікчэмнейшы мікроб — у Рыме пачалася эпідэмія. Немцы паміралі адзін за адным, быццам іх валіла з ног нябачная вострая каса. Сінія твары, мутныя вочы, уздутыя жываты, слізь і смурод — вось што заставалася ад вясёлых пышнацелых здаравякоў. Акрамя простых воінаў сканалі ў нечуваных пакутах імперскі канцлер, кёльнскі архіепіскап Райнхальд, сямёра палкаводцаў Барбаросы.

І горды Фрыдрых, пераможца Мілана і Рыма, праз некалькі дзён бясслаўна ўцёк, абматаўшы твар змочанай у чырвоным віне кашуляй.

Рымскія папы, вядома ж, адразу аб'явілі, што за іх заступіўся сам Хрыстос, наслаўшы мор на бязбожнікаў. Але радасць, як вельмі часта здараецца, была нядоўгая. Зноў пачалася вайна, яшчэ больш упартая і бясконцая. У чэрвені 1244 года новы папа Інакенцій IV, ён жа генуэзскі граф Сінібальда Фіеска, апрануўшы ці то манаскае, ці то жаночае адзенне, цудам выслізнуў з Рыма, які штурмам брала войска Фрыдрыха II Гогенштаўфена, унука таго самага Фрыдрыха I Барбаросы. Куды было бегчы Інакенцію IV? Вядома ж, у Ліён. Там, у Ліёне, у 1249 годзе, сумуючы па апостальскім горадзе Рыме, папа сабраў XIII Усяленскі царкоўны сабор. На саборы гаварылі аб крыжовым паходзе ў Палесціну і вызваленні Іерусаліма, які захапілі туркі, аб лёсе Лацінскай імперыі і Канстанцінопаля, пад сценамі якога стаялі грэка-візантыйскія атрады на чале з імпе-

ратарам Нікейскай імперыі Іаанам Ватацам. Ратавацца ад манголаў вырашылі такім чынам: на ўсіх сцежках і дарогах, што вялі ў Еўропу, сабор прапанаваў паставіць варту, выкапаць ямы, збудаваць сцены і вежы. І ўсё ж сама больш гаварылі, як і чакалася, пра імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі і адначасова сіцылійскага караля Фрыдрыха II Гогенштаўфена. Яго зноў, у які ўжо раз, адлучылі ад царквы. Самыя ўсходнія епархіі рымскай каталіцкай царквы былі ў Прыбалтыцы — у Лівоніі і Прусіі. І вось туды, у Прусію, а затым, магчыма, і ў Літву вясною 1249 года ехала з Ліёна пасольства ад папы Інакенція IV на чале ▪ легатам Якавам. Гэты Якаў, чалавек, як можна меркаваць, рашучы і разумны, неўзабаве стане папам Урбанам IV, а пакуль што ён ехаў у далёкую Прусію, у адваяваны ў прусаў горад Кірсбург, які наўзабаве будзе называцца Хрыстбургам, каб імем папы прымірыць тэўтонскіх рыцараў з тубыльцамі. У гэтым жа пасольстве ехаў негаваркі задумлівы чалавечак, буйнатвары і з плоскімі ступнямі, манах-дамініканец Сіверт. Усяго год назад Сіверт жыў у Неапалі, у палацы самога Фрыдрыха II Гогенштаўфена і лічыўся ягоным задушэўным сябрам. Часта за мармуровым абедзенным столікам на дваіх, застаўленым цудоўнымі вінамі, вазамі з вінаградам, персікамі і арэхамі, яны, імператар і манах, вялі ўсхваляваныя шчырыя гутаркі пра старадаўніх філасафаў, пра Рым не сённяшні, а той, вечны, нятленны, дзе жылі Цэзар і Брут. Якраз перад гэтым каля імператарскага палаца садоўнікі, перасаджваючы дрэва, наткнуліся ў зямлі на цудоўны беласнежны саркафаг, у якім ляжала, як жывая, забальзаміраваная гадоў шаснаццаці дзяўчына незвычайнай прыгажосці. Збегліся ўсе прыдворныя, усе слугі. Прыйшлі да саркафага і Фрыдрых з Сівертам. «Якая прыгажосць,— шэптам сказаў Фрыдрых.— А гэтай жа дзяўчыне ўжо болей тысячы гадоў». Прамовіўшы такое, імператар паблядне́ў і закрыў рукой вочы. Затым загадаў у дальнім канцы саду тайна закапаць цудоўную мумію, якую народ назваў фанчулаю.

Сіверт, калі шчыра прызнацца, любіў імператара. Нічога не было ў ім ад дзікага нямецкага звера, якім прылюдна называў яго папа. Фрыдрых адкрыў у Неапалі універсітэт, дзе выкладалі арабы і яўрэі, пабудаваў моцны флот, у якім служылі мусульмане. Але ўдача ўсё часцей адварочвалася ад імператара, усё часцей яго

пракліналі ўсе і ўсюды, і Сіверт, як чалавек асцярожны і прадбачлівы, рашыў пераехаць з Неапаля ў Ліён. Фрыдрыху ён сказаў, што хутка вернецца, толькі пашукае новыя саркафагі ў ваколіцах Рыма. Але вяртацца не збіраўся, бо своечасова зразумеў, што на сённяшні дзень папа мацней за імператара. «Няма бядней бяды, чым смутак»,— любіў паўтараць ён. Застацца ж у Неапалі з Фрыдрыхам азначала смуткаваць да самай смерці, і не ў сваёй хатняй або манастырскай малітоўні, а ў папскай турме.

У Ліёне Сіверта сустрэлі ласкава. Ён расказаў усім, як цяжка жыць, нават цяжка дыхаць побач з Фрыдрыхам, як часта ён хацеў на простым рыбацкім чоўне вырвацца адтуль. А сам успамінаў фантан-вадамёт, што ў паўдзённую спёку струменіўся ў пакоі ў Фрыдрыха, і біў то падфарбаванай халоднай вадой, то салодкім вінам. Жывучы ў Ліёне, ён часта бачыў апошні ўздых людзей на гэтым свеце, а калі ўвайшоў у давер да кліра і папы, то на вуха паміраючым стаўшы на калені, чытаў адыходную. Амаль заўсёды між апошніх слоў тых, што адплывалі ў лепшы свет, ён чуў слова «Рым». Усе яны страсна хацелі разам з папам вярнуцца ў апостальскую сталіцу. У Ліёне ён убачыў цёмныя задворкі чалавечай душы. У папскім палацы, нібы ў гарэме мусульманскіх эміраў, ён сустракаў еўнухаў. Некаторыя з іх яшчэ захавалі палавы інстынкт і, не могучы савакупіцца з жанчынамі, білі іх, кусалі, драпалі да крыві.

Неўзабаве Сіверт заўважыў, што адносіны да яго перамяніліся. «Фрыдрыхаў прыхвасцень»,— не раз чуў ён за сваёй спіной. Нянавісць да Гогенштаўфенаў была такая вялікая, што ўсе, хто хоць аднойчы перакінуўся з імі добразычлівым словам, аб'яўляліся асабістымі ворагамі папы. Дамініканец рашыў ехаць з Ліёна, але не знікнуць назаўсёды, а, пабыўшы там, дзе ў бітвах з паганствам і схізмай гартаваўся меч ісціннай веры, са славай вярнуцца назад. Так ён прыбіўся да пасольства легата Якава. Яно накіроўвалася (вось цуд!) у адну з апошніх у Еўропе краіну паганцаў — Прусію.

Легат Якаў з Люціха ехаў паперадзе ў чырвонага дрэва брычцы на лёгкіх рэсорах. Брычку цягнула чацвёрка коней, пакрытых белымі апонамі, на якіх чарнелі святыя крыжы. Побач з брычкай, але ні на крок не апярэджваючы яго, на гнядым танканогім жарабку капыціў пыльныя дарогі Еўропы юны герольд у чырво-

ным плашчы, са срэбным рогам у руках. На перакрыжаваннях гандлёвых шляхоў і ў вялікіх хрысціянскіх гарадах ён трубіў у рог і звонкім голасам абвяшчаў: «Дарогу папскаму легату Якаву!»

Вернікі адразу падалі на калені, хрысціліся. Некаторыя з жанчын цалавалі сляды колаў ад вазка, у якім ехаў Якаў, потым выкопвалі гэту зямлю, насыпáлі яе ў гаршкі і садзілі там кусты пунсовых руж, бо ружа — гэта святая Багародзіца, якая часоваператварылася ў кветку.

Сіверт, апрануўшы чорны дарожны плашч з капюшонам, ехаў за Якавам і за герольдам на муле. Не адстаючы ад манаха, кіраваў вялізнай фурай, запрэжанай караткахвостым біцюгом, ягоны служка Гуга. Эскортам у легата Якава былі пяцьдзесят папскіх конных капейшчыкаў. Аднаго ■ іх, чарнавусага прыгажуна Морыца, Сіверт вылучыў між іншых і прыблізіў да сябе. Ён распытваў яго пра бацькоў, пра дзяўчынукаханку, і Морыц, задаволены той увагай, якая аказвалася яму, расказваў пра ўсё, быццам на споведзі. Сіверт любіў такіх прыгожых маладых людзей. Каб ён не быў манахам і не даў зарок бясшлюбнасці, такі пяшчотнашчокі прыгажун, як Морыц, мог бы быць ягоным сынам.

— Святы ойча,— спытаў аднойчы Морыц,— што вязе ў фуры твой слуга Гуга?

Сіверт мог не адказваць на такое пытанне, бо яно было нясціплым і несвоечасовым. Але расчулілася душа.

— Сын мой,— узнёсла сказаў Сіверт,— мы едзем у край бязбожнікаў і веразабойцаў. Там усё будзе не такое, як у нас, нават зямля, цвердзь, створаная Богам, будзе там не такой. Там жывуць паганцы, якіх рэдка асвятляў прамень ісціннай веры. Яны даўно ўжо прайгралі бітву Хрыстоваму воінству, але замест таго каб скарыцца, прыняць святыя таінствы, яны суцяшаюць самі сябе, гаворачы: «Пераможаны ўчора можа перамагчы заўтра». Не буду хаваць ад цябе, сын мой, што ў свой час жыў я пры двары імператара Фрыдрыха II Гогенштаўфена. Гэты імператар, неаднойчы праклятыя папам, і сапраўды — параджэнне пекла. Ён раскопваў старыя магілы і збіраў чалавечыя чарапы. Ён жа надумаўся адбіраць у няшчасных мацярок іхніх дзяцей-немаўлят і трымаць іх у пячоры. Ад самога нараджэння, ад першага мігу, калі дзіця ўбачыла

зямное святло, і да дзесяці год трымалі яго ў глухой пячоры. Іх, такіх дзяцей, кармілі, паілі, апраналі, але служкам, якія даглядалі іх, імператар пад страхам самай лютай кары забараніў казаць хоць слоўца. Усё рабілася моўчкі, нібы і служкі і дзеці нарадзіліся ў краіне нямых. Там былі дзеці чарнаскурыя і са скурай белай, быццам снег. Былі і хлопчыкі і дзяўчынкі. Імператар хацеў даведацца, на якой мове загавораць яны, ад нараджэння не чуўшы ніводнага чалавечага слова. У гэтай фуры мой слуга Гуга вязе васьмігадовага хлопчыка, якога я называю Ніхто. Мне яго падараваў сам імператар. Я ўпэўнены, што Ніхто праз два гады загаворыць на мове багоў, на святой латыні.

— Але ж ён чуе гукі жыцця? — спытаў узрушаны Морыц.

— У пячоры каля Неапаля ён не мог нічога чуць, а ў фуры Гуга кожны дзень залеплівае яму вушы воскам.

Ноччу, калі клаліся спаць пад адкрытым небам, калі ззяў Арктур, самая яркая зорка паўночных нябёс, манаху нешта цяжкае і цёмнае гняло душу. Ён ліхаманкава хрысціўся, шаптаў, абліваючыся халодным потам: «Божа ўсявышні, выратуй мяне ад успамінаў». Побач у фуры гугніў ува сне Ніхто. Сіверт прыслухоўваўся — можа, прарэжацца ў гэтым гугненні чалавечае слова. Але чулася нейкая бязглуздзіца.

Ішла па зямлі вясна. Загараліся іскры жыцця пад шкарлупінаю птушыных яек. Дзюбатыя хітрыя вароны ў паўзмроку лавілі каля белых бярэзнікаў майскіх жукоў-хрушчоў.

Чатыры гады назад амаль гэтай дарогай ехаў у мангольскія стэпы папскі пасол Іаан Плана-Карпіні. Ён хацеў падгаварыць манголаў вызваліць ад туркаў труну гасподнюю ў Іерусаліме. Нічога, як ведае Сіверт, у Іаана не атрымалася. Цікава, што атрымаецца ў легата Якава і ў яго, Сіверта?

Праехалі Чэхію, дзе ўладарыў ваяўнічы і рашучы кароль Пшэмысл II Атакар. Гэты Пшэмысл дамогся назалежнасці Чэхіі і марыў з дапамогаю папы давесці межы сваёй дзяржавы да цёплага Адрыятычнага мора.

Шмат пабачыў Сіверт на немалым вяку зямных уладароў і добра помніў словы мудраца: «Правіцель падобен чоўну, а народ — хвалі. Вада нясе човен, але можа і перакуліць яго». Жыццё навучыла манаха своечасова перасаджвацца з чоўна на човен. Быў ён

цыстэрцыянцам, але, калі аказалася, што папа любіць дамініканцаў, перайшоў у ордэн святога Дамініка.

У Галічы папскае пасольства вельмі ўрачыста сустрэлі браты-князі Даніла і Васілька Раманавічы. Яны былі вясёлыя, бо тры гады назад у жорсткай бітве пад горадам Яраславам ушчэнт разграмілі войскі ляхаў, уграў і дружыну чарнігаўскага князя Расціслава Міхайлавіча. Уцёк толькі Расціслаў, а ляшскага ваяводу Фларыяна і ўгорскага ваяводу Фільнія ў ланцугах прыгналі ў Галіч. Але заўважыў Сіверт і хмурынку ў вачах у гасцінных князёў. Гаспадары то яны гаспадары на сваёй зямлі, а па ярлык, які дае права на гаспадаранне, трэба ехаць у стаўку татарскага хана, кланяючыся па дарозе татарскім баскакам.

Ад Данілы і Васількі ўпершыню пачуў манах пра Навагародак і Літву. Раней ён быў цвёрда перакананы, што за Галіцка-Валынскім княствам аж да самага мора жывуць прусы або эсціі, як пра іх пісалі даўнейшыя падарожнікі. А Даніла Раманавіч, высокі, шыракаплечы, з хвалістымі цёмнымі валасамі, што спадалі амаль да самых плячэй, сказаў:

— На поўнач ад нас, за Пінескам, ляжыць моцная маладая дзяржава літоўцаў і навагараджан. Князь Міхаіл Пінскі, які зусім нядаўна ў нашай прысутнасці баяўся вочы ўзняць, цяпер з усёй сваёй сілай перакінуўся на іхні бок. Нам ужо робіцца цесна ад такога суседства. Думаю, недалёкі той час, калі галіцкі тур сутыкнецца з літоўскім зубрам.

Манаху Сіверту адразу ж захацелася сваімі вачамі пабачыць яшчэ не вядомую ў Еўропе дзяржаву. Ен быў чалавекам дзеяння і пакляўся сам сабе, што пасля Прусіі абавязкова патрапіць у Навагародак.

Прыехалі ў Кракаў. Дарога з Ліёна да Кракава заняла сем тыдняў. А Сіверту ўсё ўспаміналіся валынскія князі. Іхняга бацьку, князя Рамана, калісьці спакушаў прыняць каталіцтва папа Інакенцій III і за гэта абяцаў аддаць пад яго ўладу ўсю Русь. Вельмі насядалі папскія паслы на Рамана. Тады ён выняў меч і сказаў: «Ці такі меч святога Пятра ў папы? Калі ён мае такі, то можа даваць гарады і землі, але я пакуль што нашу гэты каля бядра і не маю звычкі браць гарады іначай, чым толькі крывёю — па прыкладу бацькоў і дзядоў нашых».

У Кракаве Якаву і Сіверту даў аўдыенцыю герцаг сандамірскі і кракаўскі Баляслаў V Сарамлівы. Былі

ў палацы князь мазавецкі і куяўскі Конрад з сынам Баляславам і кракаўскі епіскап Ян Прандота. Гаварылі пра жорсткасці татар, якія за восем гадоў да гэтага разбілі рыцарскае войска ўсёй Еўропы ў крывавай бітве каля Лігніцы, і пра паўстанне ў Прусіі.

— Божы біч пакараў нашу зямлю,— уздыхаў Ян Прандота.

— Ён пакарае вас, ляхаў, яшчэ больш, калі вы не ўтаймуеце князя Святаполка Паморскага,— рэзка сказаў папскі легат.— Ён дапамагае прускім паганцам, разам з бунтаўшчыкамі рэжа хрысціянскіх рыцараў.

Якаў, як заўважыў Сіверт, гаварыў нячаста, але словы білі ў цэль амаль без промаху, нібы арбалетныя стрэлы. Легат быў хударлявы і гарбаносы, з металёвым бляскам цёмных вачэй.

— Святы айцец, едзь да Святаполка,— прапанаваў Баляслаў Сарамлівы.— Я дам табе атрад маіх рыцараў. Перадай Святаполку — калі ён яшчэ раз возьме ў рукі меч, мы прыйдзем з Вялікай і Малой Польшчы і выкінем яго разам з мячом у мора.

Легату спадабаліся такія словы. Ён усміхнуўся куточкамі вуснаў, пачціва нахіліў галаву, сказаў:

— Так і перадам паморскаму князю.

Падмацаваныя ляшскім атрадам, рушылі ў Прусію. «Зямля, залітая крывёй»,— не раз чуў пра яе ад сваіх спадарожнікаў Сіверт.

— Няўжо яны, прусы, не жадаюць ускласці на сябе прыемнае ярмо гасподняе? — здзіўлена спытаў прыгажун Морыц.

Адказаў яму сам легат.

— Тут загінулі святыя прапаведнікі Хрыстовага вучэння Войцех-Адальберт і Брунон. Калі Войцех-Адальберт упершыню ступіў на зямлю прусаў, яны сказалі яму: «З-за такіх людзей, як ты, наша поле не будзе прыносіць ураджай, дрэвы не дадуць пладоў, не народзяцца новыя істоты. Убірайся з нашай зямлі». А потым іхні жрэц і пракляты разбойнік Сіка нанёс першыя раны прапаведніку. Брунона ж разам з васемнаццаццю таварышамі спачатку пяклі агнём, каб яны адмовіліся ад сваёй веры. Тут, у Прусіі, сын мой, засяваў апостальскім зернем сляпыя душы епіскап Хрысціян. Але яму менш пашанцавала на Вісле, чым Альберту, епіскапу Лівоніі, на Дзвіне. Епіскап нават трапіў у палон да паганцаў і цэлыя пяць гадоў быў іхнім нікчэмным рабом.

Якаў заплюшчыў вочы, і ўсе нібы адчулі той боль, які спапяляў душу легата.

— Пруская паўстанне ўжо цягнецца сем гадоў. Сем гадоў крыві і пакут! Разам з праклятым Святаполкам Паморскім прусы каля Рэйзенскага возера нашчэнт разграмілі брацця-рыцараў. Загінуў ландмаршал Берлівін. Загінула святыня Рыцараў — ордэнскі сцяг. Які-небудзь паганец разадраў яго на спадніцу для сваёй бруднай жонкі.

— У чым жа сіла прусаў, святы айцец? — пачціва спытаў у легата Сіверт.

Якаў укалоў яго суровым позіркам, але адказаў, як і заўсёды, мякка, не ўзвышаючы голас:

— Пра гэта, сын мой, добра гаварыў епіскап Хрысціян, калі яму нарэшце пашанцавала выйсці з прускай цямніцы. Ён кляўся святейшаму папу, што тэўтонскі Ордэн наўмысна чыніў усялякія перашкоды хрышчэнню прусаў, баючыся, каб уладары паганцаў не зрабіліся мацнейшыя за хрысціянскіх уладароў. І яшчэ, думаецца мне, прусы трымаюцца сваёй старыны таму, што бяруць прыклад з жамойтаў і літоўцаў. Асабліва з літоўцаў, якія разам з русінамі Новагародка здолелі за кароткі час аб'яднацца пад уладай свайго караля Міндоўга. Але не Міндоўг страшны мне, а яго сын схізматык Войшалк, што абапіраецца на праваслаўную Новагародскую зямлю. Даносяць верныя людзі аб незвычайнай пераменлівасці яго душы. Ён можа быць то жорсткі, як дзікі звер, то мяккі і ціхі, як лугавая трава. Ён добраахвотна адмаўляецца ад улады, ад трона, уцякае ў манастыры, а потым зноў вяртаецца і з такой страсцю пачынае будаваць сваю дзяржаву, мацаваць свае войска, што яго невыпадкова параўноўваюць нават з Карлам Вялікім.

— У гэтай глушы — і Карл Вялікі? — хмыкнуў Сіверт.

— Пад кожнай палоскай неба, сын мой, могуць нараджацца палкаводцы і паэты,— строга сказаў архіепіскап Якаў.

Легату з ягонай жалезнай настойлівасцю і мудрай абачлівасцю ўдалося адкалоць ад паўстаўшых прусаў князя Святаполка Паморскага. Святаполк спалохаўся анафемы і крыжовага паходу, якім яму пагразілі германскія і польскія князі. Старэйшыны прусаў, і ў першую чаргу старэйшыны заходніх абласцей, Памезаніі, Варміі і Натангіі, якія адчувалі пастаянныя

цяжкія ўдары Ордэна, вымушаны былі падпісаць у Кірсбургу мірны дагавор.

Сіверту быў аказаны найвялікшы давер — разам з пісцом з Марыенбурга манахам Торвальдам ён павінен быў напісаць тэкст дагавора на пергамене, каб сучаснікі і нашчадкі, што яшчэ народзяцца, маглі пераканацца ў чалавекалюбстве царквы. Сіверту выпала пісаць працівень прускага боку, Торвальду — працівень Ордэна. Спачатку трэба было падрыхтаваць пергамен. Сіверт ні на крок не адыходзіўся ад майстроў, што рабілі яго. Самы тонкі пергамен даюць шкуркі трусоў і вавёрак. Але спыніліся на шкурках абяскроўленых цялят, бо з іх атрымліваецца на дзіва беласнежны, прыемны воку пергамен. Потым Сіверт уласнаручна рабіў цыркулем наколы, разліноўваў графітным алоўкам лісты. Чарніла нарыхтавалі з дубовых арэшкаў і алею. З вялікім хваляваннем і гарачым сэрцабіццём вывеў Сіверт першую літару. Пісаў лебядзіным пяром з левага крыла птушкі. Няхуткая гэта была справа, але ніхто не падганяў, усе разумелі, што вырашаецца лёс Ордэна і лёс прускага народа. З кожным з прускіх старэйшын легат Якаў гаварыў, здаралася, да позняй ночы, пераконваў, упрошваў, пагражаў. Прусы выходзілі з ягонага шатра з чырвонымі тварамі і разгубленасцю ў вачах. Усе яны нарэшце згадзіліся стаць хрысціянамі, і кожнага неафіта Якаў горача пацалаваў.

Сіверт з найвялікшай стараннасцю рабіў сваю справу, але хутка стамляўся. Пачыналі балець вочы, дрыжала рука. Тады ён з дазволу легата піў віно, клаўся спаць і наогул паводзіў сябе з людзьмі ніжэйшымі, невысакароднымі дзёрзка, бо doctoribus atgue poetis omnia licent*. Калі ж нехта з ніжэйшых хоць позіркам, хоць жэстам выказваў незадавальненне, Сіверт прачула казаў:

— Даруй ім, бо не ведаюць, што твораць.

Дагавор, які з асалодаю амаль штодня пісаў Сіверт, пачынаўся так: «Усім, хто будзе глядзець гэтыя лісты, Якаў, архіепіскап з Люціха, капелан пана папы і выканаўца службы ягонага намесніка ў Польшчы, Прусіі і Памераніі шле прывітанне ў імя творца. Усе вы павінны ведаць, што паміж неафітамі Прусіі з аднаго боку і святлейшымі мужамі, магістрам і брацціямі

---

* Doctoribus atgue poetis omnia licent *(лац.)* — вучоным і паэтам усё дазволена.

Тэўтонскага ордэна ў Прусіі — з другога адбыліся жорсткія рознагалоссі. І вось мы, згодна апостальскаму мандату, прыбыўшы ў гэтыя часткі Прусіі, прывялі з Божай дапамогай да адзінства, згоды».

Шмат давялося папрацаваць Сіверту, пакуль роўнымі прыгожымі шнуркамі леглі на бялейшы пергамен словы, якім жыць у вяках. З радасцю пераконваўся манах, яшчэ і яшчэ раз перачытваючы дагавор, што галоўны і самы жорсткі ўдар, удар, ад якога не ўзнімаюцца на ногі, атрымлівалі паганскія багі і іхнія мярзотныя служкі. «Ідалу, якога раз у год, сабраўшы ўраджай, яны звычайна выдумваюць і лічаць за Бога, імя якому яны далі Курхе і іншым Багам, якія не стварылі ні неба, ні зямлі, яны ў далейшым не будуць рабіць вазліянняў, але цвёрда і нязменна застануцца ў веры ў госпада Ісуса Хрыста і каталіцкую царкву і будуць аказваць паслушэнства і пакорнасць рымскай царкве. Паабяцалі таксама, што не будуць мець у сваім асяроддзі тулісонаў і лігашонаў, ілжывых прытворшчыкаў, якія лічацца ў іх за родавых жрацоў, прысутнічаюць на пахаваннях і заслугоўваюць пякельных пакут за тое, што зло называюць дабром і хваляць мёртвых за зладзействы і рабункі, за бруд іхняга жыцця».

Духоўную чысціню несла рымская царква ў гэты дзікі для хрысціянскага вока і душы свет. «Жонак не прадаваць і не купляць. А то бацька купляў сабе жонку, і пасля смерці бацькі яна, як рэч, пераходзіла да ягонага сына. Не прысвойваць сабе мачаху ў якасці жонкі. І братаву жонку не браць. Наследнікі — толькі законныя дзеці. Абяцалі таксама, калі народзіцца ў іх дзіця, на працягу не больш васьмі дзён яны даставяць яго ў царкву, каб святар ахрысціў, а калі дзіцяці пагражае небяспека смерці, то няхай які-небудзь хрысціянін ахрысціць яго, тройчы акунуўшы ў ваду са словамі: «Дзіця, я хрышчу цябе ў імя айца, і сына, і святога духа».

Падпісалі гэты найсправядлівейшы дагавор і змацавалі сваімі пячаткамі, у адсутнасць магістра Ордэна правялебнага брата Дзітрыха фон Грунінгена, віцэмагістр Генрых фон Ганштэйн, прускі маршалак Генрык Ботэль і легат папы Інакенція IV архіепіскап Якаў з Люціха. Складзены ж гэты дагавор, які запісаў Сіверт з вялікім душэўным трапятаннем, у 1249 годзе пасля нараджэння Хрыстова, у сёмы дзень лютаўскіх ід.

Галоўным прычынцам такіх дастаслаўных поспехаў

святой царквы на паганскай ніве Сіверт лічыў легата Якава. І ён з усёй страснасцю і замілаванасцю сказаў яму пра гэта. І яшчэ сказаў, што прусы некалі з чыстага золата адальюць статую легата і паставяць яе на самым высокім месцы сваёй зямлі, бо ён, архіепіскап Якаў з Люціха, увёў іх у сям'ю хрысціянскіх народаў. Невядома было, ці спадабалася Якаву такая пахвальба. Ён толькі сціпла апусціў вочы, прамовіў:

— Род чалавечы як божы луг, дзе ўсе кветкі адной зямлёй ускормлены і ўспоены.

А праз некалькі дзён, прагульваючыся разам з прыгажуном Морыцам каля гарадской сцяны, Сіверт пачуў з надваротнай каменнай вежы дзікі крык.

— Што гэта? — уздрыгнуў манах і бліжэй падаўся да Морыца.

— Не ведаю, святы айцец,— прыцішыў голас Морыц,— кажуць, што тут, у Прусіі, браццi-рыцары сваіх палонных, а палонныя ў іх паганцы, ператвараюць у балванаў. І ў гэтых балванаў, трэніруючы руку і вока, капейшчыкі кідаюць дроцікі, а лучнікі пускаюць стрэлы. А яшчэ кажуць,— Морыц нават азірнуўся і зашаптаў,— што яны трымаюць псоў-ваўкадаваў. І кормяць гэтых псоў мясам сваіх палонных.

— Ці ў сваім ты розуме, сын мой?! — усклікнуў абураны Сіверт.— Гэта ж хрысціянскае войска, а не банда людаедаў.

Морыц упаў перад ім на калені, пачаў умольваць, каб ніхто не даведаўся пра ягоныя вар'яцкія словы.

— Супакойся,— лёгкай рукой пагладзіў цёмныя прыгожыя кучары свайго ўлюбёнца манах.— Я нямы, як рыба пад ільдом.

У першага сустрэчнага ландскнехта Сіверт спытаў:

— Ці не можаш ты адказаць, сын мой, што за голас вылятае вунь з той вежы?

Ландскнехт спалохана перахрысціўся.

— Там сядзіць рыцар Бенедыкт. Ён ужо нямала дзён сядзіць на жалезным ланцугу, бо звар'яцеў і аб'явіў усім, што ён Хрыстос.

— Я — Хрыстос! — данёсся дзікі крык з вежы.

— Спачатку браццi-рыцары хацелі адрэзаць яму язык, потым маршалак Генрых Ботэль загадаў, каб няшчаснаму затыкалі чым-небудзь рот, але ён выпіхвае языком кляп і зноў крычыць. Чакаюць імператарскага лекара. Ён неўзабаве павінен прыехаць з абозам.

— Хрысціянскі рыцар у хрысціянскай краіне ся-

дзіць на ланцугу, як смярдзючы пёс? — страшэнна абурыўся Сіверт. З вялікай крыўдаю пайшоў ён адразу да легата Якава і маршалка Ботэля. Тыя дазволілі пагаварыць з Бенедыктам, але маршалак параіў у час размовы трымацца далей ад вар'ята, бо можа ўкусіць.

Па вінтавой лесвіцы ўзняўся Сіверт на самы верх вежы, праціснуўся ў вельмі вузкія жалезныя дзверцы. Трохі пахаладзела спіна, калі ўбачыў перад сабой белы, як фландрскае палатно, твар. Бенедыкт быў альбіносам, з тых, што не вытрымліваюць чужога позірку ва ўпор. Толькі на міг Сіверт убачыў белыя снежныя кропкі вачэй, і адразу хворы рыцар схаваў іх. Якраз перад гэтым Бенедыкту прыносіў ежу і ваду нейкі прыслужнік. Манаху, калі яшчэ ўзнімаўся па лесвіцы, ляцелі ў вушы пагрозлівыя словы гэтага прыслужніка.

— Еш, еш, кажу табе! А зноў разальеш ваду, сам у мяне жыўцом у зямлю палезеш!

Зараз прыслужнік, зразумеўшы, што манах чуў усё, што ён сказаў, вінавата і спалохана стаяў каля каменнай, аброслай зялёным мохам, сцяны. Рыцар Бенедыкт сядзеў на ложку, засланым аўсянай саломай. Жалезнае кольца ахоплівала ягоную левую шчыкалатку, рукі былі скаваны лёгкім ланцугом, які, аднак, ні разбіць, ні перацерці.

— Ён сабе рот рукамі разрываў,— растлумачыў прыслужнік,— і брацці-рыцары вырашылі скаваць яго.

— Чаму ж не знайшлі для рыцара лепшага месца? — здзівіўся Сіверт, азіраючы дужа бедную і даволі брудную каморку.

— Наш капелан Марцін сказаў, што трэба ратаваць яго душу, а плоць няхай пакутуе, бо толькі праз пакуты плоці прыйдзем усе мы да вечнага нябеснага жыцця.

Бенедыкт раптам узняў галаву, няўцямна зірнуў на манаха і свайго прыслужніка і закрычаў:

— Я — Хрыстос!

— Вось зноў,— са скрухаю ўздыхнуў прыслужнік.— Маўчыць, маўчыць, а потым нячысцік, што пасяліўся ў галаве яго, тузае за язык. Ты не думай, святы айцец, што я б'ю яго або дрэнна даглядаю. Не. Я ж быў яго збраяносцам, калі рыцар, наклаўшы на сябе святы крыж, у Палесціне з сарацынамі біўся. Але яму зараз строгае слова патрэбна. Ён сам крычыць, а чалавечага крыку, калі хто іншы крыкне, дужа баіцца.

— Чаму ж бог адабраў у яго розум? — спытаў Сіверт.

— Усё пачалося, як мы сюды, у Прусію, перабраліся,— пачаў ахвотна тлумачыць прыслужнік.— Быў ён рыцар як рыцар. Адважны, справядлівы. Кухталёў мне ад яго, святы айцец, мала перападала, а вядома ж, што ў нямецкіх рыцараў кулак цяжкі. Як замак Пестэліна ў прусаў узялі, упершыню закрычаў рыцар Бенедыкт, быццам ён,— тут прыслужнік аж пабялеў ад перапуду,— Хрыстос.

— Чаму ж пасля Пестэліна такое здарылася? — не адступаў Сіверт.

— Не ведаю,— сумеўся прыслужнік.— Там шмат прускіх дзяцей пагарэла.

— Дзяцей?

— Так. Нам яшчэ ў тым замку па чорных абсмаленых дзіцячых костачках давялося прайсці. Ідзём, а яны хруп-хруп пад нагамі... Але той раз рыцар яшчэ мала крычаў. Ужо пасля таго як жалезнарукага Макса пабачыў, на галаву яго мут накінуўся.

— Я нешта чуў пра жалезнарукага Макса,— сказаў Сіверт.— Кажуць, што ён храбрэц незвычайны.

— Праўда,— згадзіўся прыслужнік.— Яму прусы руку адсеклі, правую руку.

— Я — Хрыстос! — зноў закрычаў Бенедыкт.

— У кожнага вала ёсць свой авадзень, які яго кусае, і ў кожнага чалавека ёсць свой смутак,— глыбакадумна сказаў Сіверт.

— Ісцінна так, святы айцец,— падхапіў прыслужнік.— Дык гэты Макс, які ўзрушыў і разбурыў душу рыцара Бенедыкта, на куксу сваёй рукі надумаўся надзяваць доўгі жалезны прут. Прыкручваў яго да куксы, напальваў на агні і вішчаў ад болю, бо жалеза аж чырванела. Потым да Макса падводзілі палонных прусаў, асабліва ён любіў палонных з прускіх старэйшын, ставілі на калені, і вось гэтым прутом Макс выпальваў на лбе святы крыж. Брацці-рыцары далі яму імя Макс Жалезнарукі. Навошта было яму,— прыслужнік кіўнуў на прыціхлага Бенедыкта,— бачыць такое? Але ж убачыў, нават у крэпасць Бальгу з'ездзіў, каб паглядзець, і ў наступную ж ноч закрычаў. І крычыць з таго часу без спыну.

— Мяккае сэрца ў твайго рыцара,— прамовіў, адыходзячы з вежы, манах.

— У людзей ва ўсіх сэрца мяккае. Камень у грудзях ні ў кога не знаходзілі,— пакланіўся на развітанне прыслужнік.

Сіверт, чым болей жыў у Прусіі, тым усё глыбей пераконваўся, што вера, прынятая пад пагрозай сілы або сілком увагнаная ў душу, недаўгавечная. Чалавек не дужа шануе і беражэ такую веру. Гэта тое самае, што прымусіць дрэва расцвісці зімою, у самы люты мароз.

«А навошта ж тады наша царква і наш папа абʼяўляюць святыя крыжовыя паходы? — пакутліва думаў ён.— Можа, яны памыляюцца? Не, я заўсёды верыў, веру і буду верыць ім. Крыжаносцы хочуць вызваліць труну гасподнюю ад няверных. А свой крыж, дакладней, свой паўмесяц, першымі панеслі іншым народам сарацыны, пасаджаныя на баявога каня Магаметам. І свой зялёны сцяг свяшчэннай вайны яны першыя панеслі. Дарэчы, чаму іхні сцяг зялёны? Пэўна, усё пайшло ад першай вясновай травы між пякельных пяскоў пустыні. Дужа ўзрадаваўся чалавек, убачыўшы кволыя зялёныя сцяблінкі, якія давалі яго каню, а значыць, і яму жыццё».

Так думаў дамініканскі манах Сіверт, закінуты лёсам у суровыя прасторы Прусіі, дзе то ўсчыналася вайна, то наступаў крохкі мір, дзе згаралі адны гарады і з неймавернай хуткасцю будаваліся другія, дзе папскі легат архіепіскап Якаў з Люціха ў час аднаго вельмі жорсткага нападу паганцаў, калі жыццё браццяў-рыцараў вісела на павуцінцы, загадаў зламаць усе помнікі на хрысціянскім могільніку і ўмацаваць імі крапасную сцяну. Барацьба вялася найлюцейшая. Ордэн, губляючы лепшых сваіх рыцараў, захапіў прускія крэпасці Рогаў, Пестэлін, Бальгу, знішчыў іхнія гарнізоны. На захопленай зямлі рыцары ўзвялі замкі Кульн, Торн, Марыенвердэр. Усе разумелі, што мір, падпісаны ў Кірсбургу (гэты горад неўзабаве ўрачыста назвалі Хрыстбургам), часовы, што прусы ўзялі перадышку. Праўда, Сіверту паказалі прускага старэйшыну Матэ, які разам са сваімі сямейцамі і дружынай, з усім сваім дабром перабег у Хрыстбург. Яму хрыстбургскі комтур уручыў за гэта даравальную грамату, дзе было напісана, што Матэ за бязмежную вернасць хрысціянству атрымлівае навечна ад Ордэна дваццаць гакенаў* зямлі і дзесяць сялянскіх семʼяў. Былі і яшчэ такія перабежчыкі. Яны вызваляліся ад абавязку хадзіць за сахой, але павінны былі несці Ордэну неабмежаваную ваенную службу. «Ці не ўдараць такія саюзнікі ў час

---

* Гакен — нямецкая мера зямлі, 11,2 гектара.

бітвы рыцарам у спіну, як зрабілі гэта земгалы пад Шаўляем?» — думаў Сіверт.

Ен працаваў пісцом хрыстбургскага комтура і адчуваў сябе анахарэтам* у гэтым шумным і крывавым свеце. У 1250 годзе прыйшла вестка пра смерць ягонага былога сябра і апекуна імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрыха II Гогенштаўфена. Усе наўкол, даведаўшыся пра такое, аж захлынуліся ад радасці, бо былі, як і папа, лютымі ворагамі нябожчыка. Сіверт адчуў халадок на сэрцы, лёгкае трымценне ў пальцах, пайшоў да сябе і амаль цэлы дзень ляжаў, не распранаючыся, на ложку. Трэба было тэрмінова пісаць чарговую даравальную грамату, у дзверы да Сіверта разы са два спалохана зазіраў Морыц, які стаў ягоным памочнікам, але манах ляжаў нібы камень. «Ці не памёр ён?» — думаў Морыц.

Ды сіплае дыханне манаха паказвала, што душа ягоная яшчэ на гэтым свеце.

«Я здрадзіў Фрыдрыху,— як на вуголлях успамінаў, курчыўся Сіверт,— і хоць кажуць, што старое на сем замкоў замкнута, ад гэтага не лягчэй. Хіба я хрысціянін, калі змог стаць Іудам?» З вострай нянавісцю ён адчуваў сваё цела, цяжкое, атлусцелае, хоць ён і стараўся сушыць яго пастом. Якія лятункі можа мець душа ў такім целе? Гэта турма для душы, і сцены ў ёй запоўнены тлушчам. У міг найбольшай духоўнай пакуты ў яго ўзнікала неадольнае адчуванне, што душа хоча стрэсці, скінуць з сябе цялесную абалону, вызваліцца з яе, як вызваляецца нявіннае птушанё са шкарлупіны яйка. Манах аж курчыўся на ложку.

Да яго, даведаўшыся пра хваробу, завітаў сам легат Якаў. Асяніў святым крыжам, прысеў на крэсельца, якое пачціва падсунуў Морыц. Сіверт з незразумелай для сябе ўпартасцю і з нейкім нахабствам глядзеў не ў твар архіепіскапу, не ў вочы, а на ягоныя чырвоныя (аж вока рве!) чаравікі. Успомнілася манаху спрэчка паміж святарамі — каталікам рымлянінам і праваслаўным грэкам. Рымлянін пахваляўся: «Мы, дзеці рымскай царквы, пераемніцы апостала Пятра, атрымалі ў спадчыну паводле дарунку імператара Канстанціна не толькі пурпуровыя рызы і адзенне, што з сівой даўніны з'яўляецца знакам імператарскай вартасці, але і чырвоныя імператарскія чаравікі». Грэк зняў тады з правай

---

* Анахарэт *(грэч.)* — пустэльнік, самотнік.

нагі чаравік, паказаў усім прысутным ягоны ўнутраны бок, абцягнуты чырвонай скурай, і сказаў: «Калі ты фанабэрышся сваімі чаравікамі і толькі з-за іх уяўляеш сябе вялікім і роўным імператарам, дык ты бачыш, што і мы далучаны да такой усемагутнасці. Толькі носім мы гэты знак — чырвоную скуру не напаказ, на знешнім баку чаравіка, бо грэбуем свецкім высакамер'ем, а пакорліва і ціхмяна, падобна Хрысту, валодаючы сілай духоўнай, хаваем знакі нашай свецкай улады, як штосьці забабоннае, унутр чаравіка».— «Грахоўныя думкі» — ушчуваў сам сябе Сіверт, але думкі гэтыя лезлі і лезлі, нібы жоўта-шэрыя пякучыя восы з разбуранага гнязда.

Легат пасядзеў, паглядзеў на апушчаныя долу вочы манаха і, падумаўшы, што ў таго няма сіл, каб іх падняць, устаў. На адыходзе сказаў:

— Няхай скрышацца колы калясніц нашых ворагаў.

Але зацягнуліся духоўныя раны ў манаха, як на прускіх соснах зацягваюцца, заліваюцца цвёрдай жоўта-залацістай смалою рассечыны ад сякеры. Узняўшыся з ложка, першым чынам падышоў ён да сваёй запаветнай фуры, якую пільна ахоўваў Морыц, прыпаў да яе вухам. Гугнеў, соп носам і чвякаў губамі Ніхто, пэўна, спаў. Гэта супакоіла Сіверта. Ён даўно ўжо адчуваў, што звязаны з Ніхто моцным вузельчыкам. Жыве Ніхто, значыць, жыве і Сіверт. Хутка, вельмі хутка наступіць той час, ужо засталося менш года да таго дня, калі Ніхто будзе паказаны святарам і багасловам і загаворыць на боскай латыні.

Працуючы пісцом, Сіверт кожны дзень сустракаўся з самымі рознымі людзьмі: рыцарамі, свяшчэннікамі, манахамі, купцамі, рамеснікамі, якія ехалі ў Прусію і Лівонію з усёй Еўропы. Ён гутарыў з немцамі і датчанамі, палякамі і французамі, прусамі і самбамі, літоўцамі і яцвягамі. Часта бываў ён у крэпасцях і замках, у марскіх портах і на рысталішчах, у сядзібах багатых тубыльцаў, якія прысягнулі Ордэну, у турмах і катавальнях, дзе аднародцы гэтых самых тубыльцаў абліваліся крывёю і слязамі. Аднаго разу ў ордэнскай турме Сіверт сустрэўся з чалавекам, які назваўся новагараджанінам, і імя ў якога было Панкрат. Гэты Панкрат ужо канаў. Так як нідзе не было праваслаўнага святара, прадсмяротную споведзь прымаў у яго Сіверт. З глухіх слоў новагараджаніна манах даведаўся, што ён быў купец з вельмі багатага горада Новагародка, што

былы правіцель горада князь Ізяслаў жорстка пакараў яго і ягоных аднамысnікаў, якія называлі сябе браталюбамі. Панкрату ўдалося ўцячы, шмат блукаў ён па свеце, начаваў у попеле вогнішчаў. Спачатку распальваў вялікае вогнішча, а потым, калі яно астывала, з галавою закопваўся ў мяккі, яшчэ гарачы попел.

— Хіба ты не мог змайстраваць сабе будан? — здзівіўся Сіверт.

— Каб я начаваў у будане, я даўно б памёр, і ты, святы ойча, не спавядаў бы мяне,— [redacted] дзіцячай непасрэднасцю сказаў Панкрат.— У будане мяне даўно [redacted] злавілі.

— А хто цяпер правіцель Навагародка? — спытаў манах.

— Чуў я, што навагародскае баярства, выгнаўшы Ізяслава, запрасіла на свой сталец літоўскага князя Міндоўга. Жывуць яны, як і жылі, па свайму прадзедаўскаму пакону. Міндоўг ім сказаў: «Мы старыны не рухаем, а навіны не ўводзім». Разам з гэтым князем баяры ў паходы на суседнія землі ходзяць.

Панкрат пачаў задыхацца.

— Я ў лесе [redacted] латрункуламі сустрэўся... Шмат мы нямецкіх рыцараў на той свет адправілі... А потым нас акружылі, злавілі...

Сіверт ужо чуў пра латрункулаў. Гэта былі дробныя атрады літоўцаў, жамойтаў і русінаў па дзесяць — дваццаць чалавек, якія, хаваючыся ў лясах, пранікалі ажно да сцен Хрыстбурга і нападалі, дзе толькі маглі, на брацтва-рыцараў. Яны былі вёрткія і хітрыя, як лісы.

— Навагародак больш не ўбачу,— шаптаў Панкрат, і слёзы стаялі ў вачах.

Потым пачалося трызненне. Ён зноў гаварыў пра браталюбаў, пра нейкага Алехну, пра нейкія жалезныя жалуды.

— Жалезныя дубы вырастуць, сцяной устануць,— хрыпеў ён, і смяротны пот залівае шчокі. Панкрат ужо не бачыў Сіверта. Апошняе, што губляе чалавек пры смерці, гэта слых. Ён яшчэ чуе жыццё, але ўжо не бачыць яго.

Манах, як і належыць у такіх выпадках, з усім стараннем тварыў святую малітву, падрыхтоўваў душу нябожчыка да вечнага жыцця ў нябеснай дзяржаве. Шкада яму было гэту душу, бо не пастукаецца яна ў дзверы раю. Той, хто ў зямным жыцці ўзняў руку на

Хрыстовага абранніка крыжаносца, будзе гарэць у смале і ў серы. Але шкадаваць усё роўна патрэбна ўсіх.

Пры апошнім уздыханні, ужо цалуючы крыж, які паднёс да вуснаў манах, Панкрат аслабелай рукою рвануў у сябе на шыі нейкі шнурок, у жмені працягнуў Сіверту цёмны круглячок.

— Жалезны жолуд... Вазьмі...

І амаль адразу спусціў дух.

Панкрата і яшчэ трох латрункулаў аддалі зямлі там, дзе закопваюць забітых у сечах рыцарскіх коней. Толькі сухая жоўтая трава будзе шумець над імі. Сіверт жа, вярнуўшыся да сябе, доўга пры святле свечкі круціў, разглядваў жалезны жолуд. Вядома ж, гэта быў, як ён адразу падумаў, нейкі талісман, нейкі абярог. Пэўна, такія талісманы насілі і носяць браталюбы, пра якіх казаў на споведзі новагародскі купец. Што тычыцца браталюбаў, манах падумаў, што гэта нейкая новая ерась, новая секта, якіх так шмат у грэшным свеце, пачынаючы яшчэ ад фарысеяў і садукеяў і канчаючы альбігойцамі. Жолуд ён паклаў у сваю паходную замкнёную на тры замкі, каробачку, дзе захоўваў свой малочны зуб, пасму сваіх дзіцячых валасоў, жменьку зямлі з матчынай магілы, далучыўшы, такім чынам, да сваіх святыняў. Ён адразу падумаў, што гэты перадсмяротны дарунак новагародскага купца прынясе яму шчасце.

З цікавасцю прыглядаўся манах да тутэйшых людзей. У нечым яны былі наіўныя, як дзеці. Богам лічылі не Хрыста, а зямлю і нябесныя целы — сонца, месяц, зоркі; мелі свяшчэнныя лясы, свяшчэнныя рэкі і азёры, вельмі шанавалі агонь. У сваіх адносінах да агню яны, на думку Сіверта, раўняліся з Праметэем і Гераклітам, бо лічылі яго пачаткам пачаткаў. У гэтым не было б нічога благога, каб над усім ззяў Хрыстос. Але да хрысціянскага бога яны адносіліся з недаверам ці, што яшчэ страшней, слухалі пра яго пазяхаючы, хіхікаючы.

Духоўнасць і хрысціянскасць народаў Сіверт вымяраў адносінамі да жанчыны. Яшчэ ў Ліёне казалі яму, што прусы маюць шмат жонак, што жонак там купляюць і прадаюць, нібы жывёлу. Ды са здзіўленнем заўважыў ён адваротнае. І ў князя, і ў селяніна было па адной жонцы. Скасаваць шлюб мог толькі мужчына, але ён гарантаваў сваю вернасць жонцы, аддаючы яе бацькам трэцюю частку маёмасці. Замужняя жанчына

не траціла сувязі з родным домам. Яна была пад двайной аховаю — і мужа, і бацькоў.

«Гэты народ саспеў для хрысціянства,— бяссоннымі начамі думаў Сіверт.— Яго трэба толькі злёгку падштурхнуць. Пад апекай святога Пятра дзікі лясны край неўзабаве зробіцца квітнеючым садам».

Галоўнай задачай ордэнаў, і Тэўтонскага, і Лівонскага, як адразу зразумеў назіральны манах, было знішчэнне жамойцкага кліна. Прусы не сёння, дык заўтра стануць daннікамі і прымуць хрысціянства або загінуць. Заставалася Жамойць. Яна перашкаджала зліцца ў адно цэлае ўладанням Рыгі і Марыенбурга. Гэта бачылі і немцы, і самі жамойты. Купцы, якія прыйшлі вялікім абозам з Дзвіны, расказалі Сіверту дужа цікавую гісторыю. На свае вочы бачылі яны, як у адным жамойцкім паселішчы звар'яцелы стары жрэц бегаў па вуліцах, па дварах, у полі і лесе і ўсюды збіраў птушынае пер'е. «Навошта табе яно?» — дзівіліся людзі. Але жрэц маўчаў і ўпарта рабіў сваё. Ён назбіраў цэлую гару рознакаляровага пер'я, абклеіў ім усе хаты, усіх сваіх бліжніх, а таксама найбольш адважных воінаў. «Нашаму народу не пашанцавала,— нарэшце загаварыў ён.— Прадзеды і дзяды нашы пасяліліся там, дзе сёння кладуцца дарогі рыцарскіх коней. Мала сілы ў нас, не справіцца нам з чужынцамі, бо з Цюрынгіі, Саксоніі, з Польшчы і Чэхіі ідзе да іх няспынная падмога. А наш саюзнік і брат літоўскі кунігас Міндоўг гуляе з намі, як з мышшу. То аддасць у кіпцюры нямецкай кошцы, то выхапіць з кіпцюроў. Але я выратую вас. Багі навучылі мяне. Спакойна кладзіцеся спаць, а я ўсю ноч буду паліць святы агонь, маліцца за ўсіх вас і за нашу зямлю. Калі ж устане сонца, усе мы разам з роднай зямлёй пераляцім далёка адсюль, пераляцім у такое месца, дзе няма праклятых рыцараў». Шмат хто смяяўся з яго, жанчыны плакалі, дзеці спрачаліся, у каго пер'е прыгажэйшае. Цэлую ноч, як шалёны, бегаў жрэц вакол вогнішча, нават скакаў у яго, аж чырвонае вуголле пырскала ва ўсе бакі. Увесь час махаў ён рукамі, нібы крыламі. Нарэшце выпіў пітво, настоенае на сямі лясных і лугавых травах, упаў на зямлю і заснуў як забіты. Калі ж прачнуўся, спытаў, не расплюшчваючы вачэй: «Дзе мы? Над воблакамі?» — «У Жамойці»,— горка адказалі яму. Тады з дзікім крыкам пабег ён з паселішча і з самай высокай стромы кульнуўся ў раку.

Сіверта ўразіла гэта гісторыя. «Чаму нас так баяцца? — думаў ён.— Ніхто, вядома, не хоча аддаваць сваю веру і волю. Кожнаму чалавеку здаецца, што яго вера самая правільная. І браталюбы з Навагародка так думаюць, і жамойты, і прусы. Але ж сонца — адно. І неба — адно. І некалі трэба зразумець, што гэта непазбежна — адкінуць убок свайго бажка і пайсці ўслед за Хрыстом, бо толькі ён павядзе чалавека праз сінюю бездань часу».

Халоднай мокрай восенню, калі зашумела над усёй Прусіяй жоўтая лістота, што валілася з дрэў, Сіверт паехаў у Рыгу. Па загаду самога папы Інакенція IV ён павінен быў сустрэцца з рыжскім епіскапам Мікалаем і аб'явіць яму волю рымскага апостальскага прастола, што з гэтага часу і назаўсёды манахі-дамініканцы будуць апекаваць Лівонію, а не цыстэрцыянцы. Усе іхнія манастыры, усе малельні і святыя сасуды павінны быць аддадзены дамініканцам. Сіверта спачатку напалохаў такі загад. Ен лічыў сябе занадта дробнай птушкай, каб лётаць у высокіх сферах. Але архіепіскап Якаў паручыўся за яго перад Рымам, бо манах спадабаўся яму за час нялёгкага падарожжа ад Ліёна да Прусіі.

Разам з Сівертам паехалі ў Рыгу Морыц і Ніхто, а таксама эскорт з сотні конных капейшчыкаў.

— Калі ўдасца жывымі праскочыць Жамойць, то лічыце, святы айцец, што мы прайшлі па шаўковай нітцы, якая нацягнута над бяздонным калодзежам,— нявесела пажартаваў прыгажун Морыц.

Але Сіверт, як прыроджаны немец, быў чалавек рашучы. Галоўнае для яго было зараз — выканаць загад, і ён бадзёра накіраваўся ў дарогу.

— Мы жывём пад аховай нябёс,— сказаў ён Морыцу.— Я веру, што нам пашанцуе, сын мой, што нас напаткае ўдача, як вецер пад крыло.

Дажджавела неба, шумелі мокрыя лясы, пад коламі фур сыпкі пясок перамолваўся ў густую ліпкую гразь. У некаторых месцах даводзілася дапамагаць коням, бо ў бедных усе жылы трашчалі. Сам Сіверт выходзіў пад дождж, слабым плечуком штурхаў у халодную скураную абшыўку. Перад дарогаю манах купіў сабе вялікага пярэстага сабаку з разумнымі вачамі, якога назваў Сарацынам. Сабака сядзеў, паклаўшы галаву яму на калені, а на прывалах, калі капейшчыкі кідалі абгрызеныя косткі, хапаў іх, закопваў у зямлю.

Спачатку награбаў пясок лапамі, а потым ужо раўняў усёй мордаю. «Сваю салодкую костачку трэба заўсёды з сабой насіць,— думаў Сіверт, назіраючы за сабакам.— Хоць вочы ў цябе і разумныя, але ты дурань з дурняў. Вось зараз паедзем — і прапала твая костачка».

Як заўсёды ў дарозе, знаходзіліся людзі, што любілі і ўмелі апавядаць страшныя гісторыі. Такім аказаўся капейшчык Ганс. Быў ён, як птушынае яйка, увесь абсыпаны беднымі вяснушкамі.

—Аднойчы прыехаў у заезны дом, што побач з нашай вёскаю, багаты купец,— расказваў Ганс.— Быў у яго цэлы мяшок срэбных дынарыяў, ну, можа, крыху менш. І ва ўсе кішэні дынарыі панасыпаны. Ходзіць купец па двары і ўвесь звініць. Гаспадар з гаспадыняю як убачылі гэта, як пачулі, адразу рашылі забіць багацея. Выкапалі ў садзе глыбокую ямку, каб там яго, забіўшы, закапаць. Ну, вядома, перад сном пояць яго самым п'яным вінoм, нясуць на стол смажаных курапатак і вараную заечыну. Адным словам, сам імператар не адмовіўся б ад такой вячэры. Ложак заслалі ўсім белым, усім самым чыстым, як быццам шлюбная ноч купца чакае. Выпіў купец, закусіў, але глядзіць на два вокі і на два вухі чуе. Лёг ён спаць і пад белай прасцінoю намацаў звярыную шкуру. «Для чаго б гэта?» — думае купец. І як быццам нехта шапнуў яму з цемры: «Гэта ж забіваць цябе будуць. А гаспадыня шкадуе бялізну і хоча ўсю тваю кроў на шкуру спусціць». Хуценька схапіў купец сваё адзенне, свой мяшок са срэбрам і пабег з гэтага заезнага двара, нават пра каня забыўся. А гаспадарская дачка Крысціна (я нават з ёю два разы танцаваў) вярнулася дадому позна, бачыць ложак свежазасланы, і лягла ў яго спаць. Ноччу яе бацька разуўся, каб ніякага рыпу не было, падкраўся да ложка і з усяго маху гопнуў па галаве бязменам. І мёртвае цела ў шкуры адразу ў яму пацягнулі. Засыпалі пяском, леглі спаць, рашыўшы купцовы дынарыі заўтра раніцай пералічыць. «Добры будзе Крысціне пасаг»,— радуецца гаспадыня. Ледзьве сонца на неба ўскацілася, пабеглі ў сад, каб кроў, дзе нацякла, усю да кропелькі затаптаць. Глядзяць — а з ямы сіні доччын касніочок тырчыць.

Да Рыгі даехалі без асаблівых прыгод. Толькі аднойчы, спыніўшыся начаваць на беразе невядомай ракі, раніцою ўбачылі ў абшыўцы фуры, у якой сядзеў Сіверт, жалезны дроцік. Пэўна, магутная рука кідала

яго, бо так упіўся, што насілу выцягнулі. Ды яшчэ захварэў Ніхто. Пачаў кашляць і дзіка скрыгатаць зубамі. Манах адагнаў ад фуры капейшчыкаў і разам з Морыцам, які ведаў таямніцу Ніхто, уліваў яму ў рот гарачы адвар з высушаных траў і карэнняў. Ніхто, які неўзабаве павінен быў здзівіць усіх чысцейшай лацінню, супакоіўся, заціх.

Сіверт быў расчулены, што выздаравеў Ніхто, што варожы дроцік, пушчаны д'ябальскай рукою, патрапіў толькі ў абшыўку, а мог упіцца яму, хрысціяніну Сіверту, у скронь. Ён доўга і горача маліўся, дзякаваў усявышняму і, перад тым як зноў крануцца ў дарогу, выступіў з казанню перад капейшчыкамі і Морыцам. Казань ён закончыў так:

—Хрысціянства — другое жыццё пасля смерці. Рай для добрых, пекла для злых.

Рыгу Сіверт бачыў упершыню, і гэта цвярдыня апостальскай веры на яшчэ ўчора дзікім паганскім беразе ашаламіла яго сваёй веліччу і прыгажосцю. Горда ўзнімаліся пад воблакі хрысціянскія храмы, ад аднаго выгляду якіх соладка замірала сэрца і ўдзячная сляза накочвалася на вочы. Безліч ветразяў — чырвоных, сініх, пярэстых — надзімаў свежы вецер. Як было не ўспомніць епіскапа Альберта фон Буксвагена? Гэта ягонай воляй і цярпеннем, ягоным розумам і гартам былі створаны Рыга і Лівонія. Ды даўно спіць у мармуровай труне неўтаймоўнік-епіскап, а ў доме, які пабудавалі па яго чарцяжу муляры з Готланда, жыве новы рыжскі епіскап Мікалай. Гэты, як даносілі Сіверту дасведчаныя людзі, толькі слабая цень Альберта. «Шуму ад мяне будзе не болей, чым ад мышы»,— быццам бы сказаў ён бліжэйшым сваім сябрам, уздымаючы разам з імі кубак з віном. Адзіная ў яго мара — стаць з цягам часу архіепіскапам, атрымаць ад рымскага папы паліум, як сімвал поўнага святарства. Кажуць, што Мікалай спіць і нават ува сне бачыць паліум — белы ваўняны каўнер, які ўпрыгожваецца шасцю чорнымі крыжамі і надзяецца на святарскую рызу толькі ў час асабліва ўрачыстай царкоўнай службы і толькі ў сваёй епархіі. Робяць яго з воўны свяшчэннай авечкі. Паліум асвячае і ўручае сам папа як знак узвядзення ў высокі сан архіепіскапаў.

Мікалай сустрэў Сіверта з прыязнай усмешкай і з халоднымі вачамі. Але гэта не збянтэжыла манаха. За яго спіною як бы нябачна прысутнічаў папа

Інакенцій IV, што ўжо ўрачыста пераехаў з Ліёна ў Рым. Усе свяціцелі былі за Сіверта, і ён рэзкім голасам абвясціў волю апостальскага прастола. З гэтага часу на першы план у Лівоніі выходзілі дамініканцы. У Мікалая быў кіслы твар.

— Ваша каталіцкая правялебнасць епіскап рыжскі, што мне перадаць святой рымскай курыі? — строга і рашуча, як і належыць пасланцу вышэйшай улады, спытаў Сіверт.

— Мы ў Рызе выканаем волю курыі,— збялеў епіскап.— Ды славіцца гасподзь наш Ісус Хрыстос і прасвятая дзева Марыя.

Трэба было не мець вачэй, каб не ўбачыць варожасці паміж епіскапам Мікалаем і рыжскім ратам* і магістрам Лівонскага ордэна Андрэем Стырландам. Яны ніяк не маглі падзяліць захопленую і яшчэ не захопленую зямлю, прыбыткі з гэтай зямлі. Вялікае і нікчэмнае сплялося тут, як заўважыў Сіверт, у адзін вузел.

Замест таго каб сакрушаць паганцаў жалезным бічом, хрысціяне грызлі адзін аднаму горла.

Пра ўсё гэта ў прысутнасці мясцовых клірыкаў і ратманаў Сіверт сказаў епіскапу Мікалаю. А потым паехаў з Рыгі ў Вэндэн, сталіцу лівонскіх рыцараў, і тое ж самае паўтарыў магістру Андрэю Стырланду. У магістра ён сустрэў чалавека, якога тры дні назад бачыў у пакоях епіскапа.

— Хто гэта? — пацікавіўся манах.

— Нальшанскі кунігас Суксе,— адказаў Стырланд.— Просіць нашай апекі. Кунігас Міндоўг адабраў у яго замак, зямлю, а самога з сямейцамі выгнаў у чыстае поле.

Стырланд быў высокага росту, з цёмнымі густымі валасамі і маленькім ротам-шчылінай.

— Шмат кунігасаў і баяр бягуць з Літвы,— ахвотна тлумачыў магістр.— Да твайго прыезду, святы айцец, былі ў мяне тры браты-баярыны: Тушэ, Мілгерын і Гінгейка. Іхні старэйшы брат Лінгевін, падвучаны тым жа Міндоўгам, таксама выгнаў іх. І не проста выгнаў, а падбіў мясцовую абшчыну, і тая праз свой копны суд вырашыла правесці гон па следу. Есць у літоўцаў такі звычай. Як за ваўкамі гналіся за баярамі.

---

* Рат — вярхоўны орган гарадскога самакіравання.

— Няўжо Міндоўг такі ўсясільны? — спытаў Сіверт.

— Ен, вядома, не бог,— усміхнуўся Стырланд,— але, калі трэба, можа паставіць пад сваю руку трыццацітысячнае войска. У яго дружынах б'юцца плячо ў плячо літоўцы і русіны. А Русь умее ваяваць. Табе, спадзяюся, вядома, святы айцец, як князь Аляксандр, празваны Неўскім, загнаў пад лёд нашых лепшых рыцараў на Чудскім возеры?

— Вядома,— уздыхнуў Сіверт.

— І ўсё ж надыходзіць час, калі і Міндоўгу давядзецца пакруціцца, як рыбе, кінутай на патэльню. Вялікая кааліцыя дзяржаў і народаў рыхтуецца супраць Новагародка і Літвы. Дужа не падабаецца суседзям, што яны так узмацніліся і пачынаюць бліжнія і далёкія землі браць пад сваю ўладу. Асабліва незадаволены галіцка-валынскія князі Даніла і Васілька. Адбіліся яны ад венгерскага караля Бэлы і ад палякаў, адчулі сілу і рвуцца ў бой. Не могуць князі дараваць Новагародку, што ён уступіў у саюз з паганскай Літвою, з іх сапернікам Міндоўгам.

— А што будуць рабіць брацці-рыцары? — асцярожна выпытваў манах.

— Справа рыцара — несці святы крыж туды, дзе яшчэ буяе агіднае паганства,— цвёрда сказаў магістр.— Мы будзем ваяваць на баку галіцка-валынскіх князёў, бо нядаўна адзін з іх, Даніла, прыняў каталіцтва. Мы не можам дапусціць, каб пад самым носам у Ордэна набухала гнойная паганская скула.

Сіверт згодна ківаў галавой, слухаючы Андрэя Стырланда, і ўвесь час перабіраў доўгімі белымі пальцамі ружанец.

— Кунігасы з Жамойці Таўцівіл, Эдзівід і іхні дзядзька па матчынай лініі Выкант ужо стаяць з войскам на паўночных межах Новагародскай зямлі,— гаварыў далей магістр.— Галіцка-валынскія князі ўдараць з поўдня і прывядуць з сабой полаўцаў. З захаду падступяць яцвяжскія раці. Нам застанецца сваім адважным рыцарскім мячом давяршыць справу. Гнайнік будзе раздушаны.

— У Новагародку жывуць хрысціяне,— вырвалася ў Сіверта.— І Міндоўг, як я чуў, прыняў хрысціянства ад Усходу.

— У Канстанцінопалі таксама жылі хрысціяне,— суха ўсміхнуўся магістр.— Але якія? Схізматыкі.

Толькі рымская ружа, нятленны сімвал крыві, якую праліў за нас Хрыстос, павінна цвісці пад сонцам.

— Ісцінна так,— засвяціліся вочы ў манаха. Ен парывіста схапіў Стырланда за руку і раптам папрасіў, і нешта дзіцячае было ў просьбе:

— Дастаслаўны рыцар, вазьмі мяне з сабой.

— Куды? — не зразумеў магістр.

— У паход на Новагародскую зямлю.

— Але не заўтра ж будзе гэты паход.

— Я пачакаю. Я гатоў чакаць год, два, абы ўбачыць, як Хрыстова воінства панясе святы крыж у непраходныя пушчы.

— У літоўцаў мячы вострыя,— пазмрачнеў магістр.— А новагародскія стралкі з лука раўняюцца з англійскімі. Я сам гэта сведчу.

— Я пайду капеланам брацціяў-рыцараў або тваім збраяносцам,— не адставаў манах.

Андрэй Стырланд са здзіўленнем пазіраў на яго. Не чакаў ён такога спрыту ад гэтага таўстуна. «Сядзець бы табе ў манастыры,— думаў магістр,— патаемна піць віно і жэрці мяса ды грэць чэрава каля цёплай печы. Паходаў захацелася? А ў паходах жа трэба хадзіць, нагамі дрыгаць, трэба камароў сваёй чырвоненькай крывёю паіць. Дурны тлусты каплун». Але Стырланд, вядома ж, не сказаў усяго гэтага. Ен усміхнуўся і сказаў вось што:

— Мінулай восенню хадзілі мы на жамойтаў. Гарадкі іхнія балотныя папалілі, шмат жывёлы прыгналі. Але дваіх нашых, Ротмара і Інгрыда, паганцам удалося захапіць у палон. Коні іхнія ў балотнай твані загрузлі. Усяго паўдня былі яны ў руках у жамойтаў, а потым мы іх адбілі, вызвалілі.

Магістр бачыў, як напругся твар у Сіверта.

— І рыцары засталіся жывыя? — не вытрымаў ён.

— Жывыя. Толькі Інгрыд быў ужо падсмалены, як печаная рыба, а ў Ротмара не было левай нагі, быццам ён яе ў тым праклятым балоце згубіў. Адшукалі ж мы гэту нагу высока на дрэве. Думалі спачатку, што варонне гняздо.

— Хрыстос таксама пакутаваў,— пабляднеўшы, прамовіў манах.

Пачыналася вайна. Кружылася варанне над Жамойцю і Літвою. «Вайна — бацька ўсяго!» — пісаў калісьці мудрэц Геракліт. Але што гэта за бацька, які забівае і калечыць сваіх дзяцей?

Зачэпкаю для вайны быў паход жамойцкіх князёў Выканта, Эдзівіда і Таўцівіла ў бок Смаленска. Гэтыя князі, па сутнасці, зрабіліся ізгоямі, бо Міндоўг выгнаў іх спачатку з Літвы, а потым дабраўся да іх і ў Жамойці, дзе яны мелі велізарныя зямельныя ўладанні. Сціснуўшы зубы, не па сваёй волі, а падпарадкоўваючыся Міндоўгу, пайшлі князі ў паход і пад горадам Зубцовам былі ўшчэнт разбіты аб'яднанай суздальскай, маскоўскай і цверскай раццю. Выратаваўся той, каму багі далі лягчэйшыя ногі. На пераправе цераз Днепр жамойцкіх князёў ужо чакаў Казлейка [redacted] людзьмі, і тыя людзі падрыхтавалі тры доўгія шчыльныя мяшкі, каб кінуць уцекачоў у раку. Але хітры Выкант выратаваў сябе і пляменнікаў. Тры вайдэлоты апранулі багатае княскае адзенне і добраахвотна здаліся ў рукі Казлейку. Калі аказалася, што гэта несапраўдныя князі, Выкант, Эдзівід і Таўцівіл былі ўжо далёка. Разлютаваны Казлейка загадаў кінуць у раку вайдэлотаў, якія перад смерцю заспявалі святую песню, а таксама аднаго са сваіх людзей.

Уцалелыя дзядзька і пляменнікі пабеглі да князя Данілы Раманавіча. Там яны ўсім сустрэчным-папярэчным нараскязвалі столькі жахаў пра літоўскага кунігаса, што галіцкія і валынскія мацеркі пачалі палохаць ім дзяцей: «Кладзіся спаць, заплюшчвай вочы, а не заснеш — Міндоўг возьме». Нечаканыя госці ўзрадавалі князя Данілу. Калі да яго неўзабаве прымчаліся на замыленых конях Міндоўгавы паслы, ён іх вельмі шчодра частаваў. Але паслы адмаўляліся ад пачастункаў. Старшы над імі, па імені Парнус, дзёрзка сказаў Данілу:

— Праз трох жамойцкіх князёў, якіх ты корміш і поіш, увесь наш край зрабіўся зямлёй ратнай. Не чыні ім міласці. Аддай іх у мае рукі, а я завязу іх да кунігаса.

— Навошта кунігасу збіваць племя сваё? — спакойна спытаў Даніла.

Ён мог бы, як князь, разгневацца на дзёрскага пасла, закаваць яго ў жалезы, але добра памятаў, што разважлівае мудрае слова часта ідзе паперадзе мяча і болей за меч карысці прыносіць.

Абцёрся Парнус рукавом і ні з чым паехаў у Навагародак. Выкант жа з пляменнікамі ў час гэтай размовы сядзелі за полагам у святліцы, усё чулі, кожнае слова, і пераменна абліваліся то халодным, то гарачым потам.

— Дзякуй табе, князь-міласнік, ад усіх нас,— у пояс пакланіўся Данілу Выкант.— За тое, што не аддаў у рукі крывапіўцу, мы твае верныя слугі да скону веку.

— Якія ж вы мне слугі? — весела ўсклікнуў хлебасольны Даніла, які быў родзічам жамойцкіх князёў.— Вы — князі, і я — князь. А князі толькі богу служаць.

Ен пляснуў у ладкі, загадаў прынесці віна, арэхаў, ігруш. Паднімаючы срэбны цяжкі кубак, сказаў:

— Самы час абкласці гэтага ненаеднага мядзведзя з усіх бакоў. Адзінаўладцам хоча стаць Міндоўг, манархам, забываючы пра астатніх княжат. Ты, брат мой Выкант, неадкладна збірайся ў дарогу, едзь да яцвягаў, у Жамойць і ў Рыгу. Яцвяжскія князі-кобнікі* павінны зразумець, што, калі яны не падтрымаюць нас, прыйдзе Міндоўг, прывядзе літоўцаў [redacted] новагараджанамі і растопча іх. Вязі срэбра, іншыя дарункі, нічога не шкадуй, але Яцвягія павінна ўзняць свае вострыя суліцы і кінуць іх у твар Міндоўгу. Вы ж, Таўцівіл і Эдзівід, едзьце следам за Выкантам, за дзядзькам вашым, у Жамойць, і калі ён будзе весці з лівонцамі перамовы ў Рызе, як найхутчэй збірайце войска. Выб'ем атрутны зуб у вурдалака!

— Выб'ем! — яшчэ раз пакланіліся яму кунігасы.

Пачалася вайна. Яшчэ ні разу не ішло пададнымі сцягамі такое войска, як гэта. Сонцаварот назад кожны разумны чалавек пачаў бы пляваццa, махаць рукамі і, хоць забі яго, не паверыў бы, што можа быць валынска-жамойцка-нямецкае войска, падмацаванае палавецкай конніцай. На нейкі час забыліся старыя крыўды, і хоць не паспелі загаіцца старыя раны, на іх стараліся не глядзець. Ва ўсіх на вуснах было адно: «Міндоўг».

Валынскія раці ўдарылі па Ваўкавыйску, Услоніму, Здзітаву, кіруючыся ў бок Навагародка. Жамойцкія князі павялі дружыны, палавецкіх вершнікаў і яцвяжскіх пешцаў, узброеных суліцамі, у глыб Літвы. Магістр Лівонскага ордэна Андрэй Стырланд, спальваючы па дарозе крэпасці земгалаў, якія былі саюзнікамі Міндоўга, наваліўся з поўначы на Аўкштайту. Усё было аддадзена на паток**. Забіралі хлеб, авёс, мёд, хмель, сена, дровы.

— Брацці, мы стаім на парозе святла. Не шкадуйце

* Кобнік — вядзьмак, чарадзей.
** Паток — рабаванне, разбой.

ж сыноў цемры і сыноў жаху,— натхнёна казаў Сіверт у паходнай малітоўні-капэле, што памяшчалася ў невялікім шатры, абгароджаным вяроўкамі.

На дапамогу лівонцам Тэўтонскі ордэн прыслаў рыцарскі атрад Марціна Голіна, які праславіўся ў вайне супроць прусаў. Вось у гэтым атрадзе і быў Сіверт капеланам.

Голін, суровы сівавусы воін, закаваны ў нарманскі панцыр, сказаў перад паходам:

— Гнілое мяса трэба вырваць. Без шкадавання знішчайце паганцаў. Але памятайце — для хрысціянскага рыцара лепш памерці на баявым кані і з мячом у руцэ, чым трапіць у палон да дзікіх тубыльцаў. Будуць мучыць, будуць на агні пячы. А каго адразу не заб'юць, то ў адным хляве са свіннямі трымаць будуць, кормячы са свінячага карыта.

Гэта страшэнна ўразіла рыцараў, асабліва маладых. Са слязамі на вачах яны маліліся ў капэле, цалавалі мячы і сваіх коней, абдымаліся адзін з адным і кляліся, што, нават паміраючы, не кінуць сябра ў бядзе. Сіверт, каб ускрыліць хрысціянскія душы, загадаў вернаму Морыцу падагнаць фуру, у якой сядзеў Ніхто.

— Брацці, зараз вы пабачыце цуд,— адчуваючы, як горача пабегла па ўсіх жылах кроў, усхвалявана выгукнуў манах.— Вось гэта чалавечае дзіця, якое ніколі не ведала ні сваіх бацькоў, ні родных нябёс, якое з самага нараджэння чула толькі шум ветру, удары грому і шчабятанне птушак, прамовіць сваё першае слова. Я не сумняваюся, што зараз прагучыць імя нябеснага Усетрымацеля і Збавіцеля, бязмежная падзяка яму, і сказана ўсё гэта будзе на мове моў, на святой латыні.

Ён даў знак Морыцу. Той адшмаргнуў скураны полаг фуры, узяў на рукі Ніхто, высока ўзняў яго над натоўпам. Рыцары і збраяносцы ўбачылі бледны бясколерны твар, на якім не было ніводнай крывінкі. Такая бывае белая, як смерць, трава, калі ў самую летнюю спёку яе прываляць валуном, хаваючы ад сонечных promняў.

Сіверт прачытаў-праспяваў малітву, узняў угору, раскрыліў рукі, крыкнуў:

— Гавары!

Усе перасталі дыхаць. Але вялікі сорам чакаў дамініканскага манаха. Ніхто разгублена лыпаў вачамі, жмурыўся ад яркага святла і маўчаў.

— Гавары! — яшчэ больш строга і патрабавальна крыкнуў Сіверт, і шчокі ягоныя паружавелі.

Толькі булькатанне, толькі нейкі змяіны свіст вырваўся з горла ў Ніхто. Ен круціў галавою, кусаў пальцы і нават не ўмеў заплакаць. Разгублены Морыц злосна цiскаў яго, гопнуў яму рукою па мяккім месцы. І ў гэты час над галовамі ва ўсіх траскуча каркнула вялізная чорная варона. Рыцары і збраяносцы як адзін узвялі на яе позіркі, і Морыц, карыстаючыся гэтым, схаваў Ніхто назад у фуру, шчыльна зашмаргнуў полаг.

Вялікая злосць успыхнула ў душы ў манаха. Якая нечуваная ганьба! Сам Марцін Голін бачыў гэту ганьбу.

— Паганская зямля адбірае мову ў дзяцей! — раз'юшана закрычаў манах і пачаў ▪ найвялікшай лютасцю таптаць зямлю, на якой стаяў. Рыцары і збраяносцы таксама следам за капеланам білі гэту зямлю нагамі, плявалі на яе.

Потым, калі рыцары са сваімі збраяносцамі разышліся, нейкае здранцвенне скавала рукі і ногі Сіверту. Ен не мог паварушыць ні пальцам, сядзеў каменем, і горкія думкі адна цяжэй другой не давалі ўздыхнуць. Было жахлівае адчуванне, што нехта прабіў яму чэрап і хоча распаленай на агні лыжкай вычарпаць мозг. Манах палахліва абмацаў потнымі далонямі галаву. Гэта ўжо суседнічала з вар'яцтвам. «Прыснадзева Марыя, не дай мне страціць розум»,— страсна маліў ён. Апошнім часам дрэнна паварочваліся справы ў Сіверта. Ягонага апекуна легата Якава адклікалі ў Рым, і хадзілі ўпартыя чуткі, што папа вельмі незадаволены легатам. Замест Якава прыехаў Альберт Суербер, які праславіўся ў Ірландыі і Францыі. Для Суербера дамініканскі манах Сіверт быў звычайнай варонай, што выпадкова заляцела на седала для паўлінаў. Такіх манахаў тысячы і тысячы, а папскі легат Альберт Суербер адзін. Магістр Лівоніі Стырланд таксама страціў цікавасць да Сіверта і не ўзяў яго ў паход з сабою, а падсунуў гарлапану Марціну Голіну. А зараз яшчэ вось гэта няўдача з Ніхто.

Манах сядзеў, абшчаперыўшы галаву рукамі. Раптам да яго данесліся нейкія ціхія ўсхліпванні. Ен абышоў фуру і наткнуўся на Морыца. Чорнавалосы прыгажун узняў заплаканы твар, і ў кожным воку манах убачыў па буйной слязе.

— Што здарылася, Морыц? — трапятліва спытаў Сіверт, адразу забыўшыся пра ўсе свае згрызоты.

— Мне цябе шкада, святы айцец,— сказаў Морыц.— Ты так стараўся, чакаў... А гэты Ніхто, гэты ўблюдак... Я заб'ю яго! — раптам крыкнуў Морыц.

Сіверт абедзвюма рукамі моцна націснуў яму на плечы, утрымаў каля сябе.

— Навошта праліваць нявінную кроў? Значыць, так трэба Хрысту, каб Ніхто маўчаў. Бацька, чада сваё любячы, б'е яго і зноў горне да сябе. Вось што я надумаў, Морыц. Як усе палягуць спаць, бяры Ніхто і адвязі яго ў Дзінамюндскі манастыр, што каля Рыгі. Я напішу абату, і ён прыме яго. І не забудзься воск у яго дастаць з вушэй. Ды я зараз сам дастану.

Манах у нейкай ліхаманцы паспешліва адшмаргнуў скураны полаг, схапіў спалоханага Ніхто за галаву, пачаў выкалупваць з бледных вушных ракавін воск. І ўсё паўтараў:

— Слухай. Слухай, як лес шуміць, як рака цячэ. Не трэба мне ад цябе латыні. Хоць пеўнем закукарэкай, абы не маўчаў. Я праклінаю той дзень, калі д'ябал падвучыў мяне пасадзіць цябе ў пячору, а потым у фуру. Гэта ўсё Фрыдрых, гэта ўсё ён, ганарлівы Гогенштаўфен. Вышэй Бога хацеў быць. А вышэй быць нельга, бо вышэй — пустата, смерць...

Сіверт раптам пачаў цалаваць рукі Ніхто. Гэта дужа абурыла Морыца.

— Што ты робіш, святы айцец! — усклікнуў ён.— За два-тры дні я завязу гэтага мурзаля ў манастыр, вярнуся назад, і паедзем мы разам заваёўваць Літву. А мурзаль,— ён лёгка пстрыкнуў Ніхто па носе,— няхай хоць на мурашынай, хоць на пчалінай мове гаворыць.

— На чалавечай мове няхай гаворыць,— строга сказаў манах.

Атрад Марціна Голіна — пяцьдзесят рыцараў, сто зброяносцаў, чатырыста ландскнехтаў і тры сотні хрышчаных земгалаў — марудна, але няўхільна прасоўваўся ў глыб Аўкштайты. Вёрст дзесяць — пятнаццаць лявей атрада Голіна ішлі рыцары Андрэя Стырланда. На небасхіле бачыліся слупы чорнага дыму.

— Магістр абганяе нас,— хваляваўся Голін.— Ён першы будзе каля сцен Навагародка. Ударым мацней, брацці!

Але вайна ёсць вайна, і паганцы, як хутка пераканаўся Сіверт, умеюць біцца не горш за хрысціян. Амаль на кожным кроку дарогу перагароджвалі засекі

з наваленых дрэў, земляныя валы. Вельмі шмат сустракалася пількальнісаў, невялікіх крэпасцей, кожная з якіх мела ўмацаваны замак і прыгарад. Усё гэта было абнесена моцнымі частаколамі. А земгальскія пількальнісы Ранеце, Сідрабе, Царвеце ў дадатак да ўсяго абкружаў глыбокі роў з пад'ёмным мостам і брамаю. Па ўсім небасхіле, як акінуць вокам, ярка гарэлі сігнальныя кастры — паганскія крэпасці паведамлялі адна адной аб набліжэнні ворагаў. Асабліва гэта ўражвала ў прыцемках. Здавалася, шматвокі грозны д'ябал сочыць з усіх бакоў за рыцарамі.

— Адкуль у іх бярэцца сіла? — ужо не раз раздражнёна казаў Марцін Голін.

І сапраўды, вёсачкі ўсюды былі дробныя — па пяць—восем двароў. Жыхары некалькіх такіх суседніх вёсак мелі дзе-небудзь у пушчы адно абшчыннае сховішча і ўцякалі туды з жонкамі і дзецьмі. Коней жа і кароў заганялі ў непраходны гушчар або нават у лясныя азёры, дзе з вады тырчалі толькі грывы і рогі.

Зброю жамойты і літоўцы мелі, на здзіў рыцарам, вельмі добрую. У княскіх дружыннікаў былі мячы, шаломы, панцыры. Апалчэнцы-сяляне біліся коп'ямі і сякерамі. Саюзнікі жамойтаў і літоўцаў земгалы ўмелі карыстацца самастрэламі. Пры асабліва ярасных атаках рыцараў паганцы радамі садзіліся на зямлю, шчыльна ставілі шчыты, хаваючыся за імі. Гэтакім жа самым чынам у час бою яны хаваліся за счэпленыя цяжка нагружаныя фурманкі. Рыцарская конніца дарэмна білася аб такую сцяну, адно конскія грудзі чырванелі крывёй. Даводзілася брацціям-рыцарам злазіць з сёдлаў на зямлю і разам з ландскнехтамі і збраяносцамі сякерамі і мячамі праломваць сабе дарогу.

Хутка ўсе заўважылі, што не любяць паганцы біцца на адкрытай мясцовасці, у чыстым полі, а, як вужы, уцякаюць у балоты і лясы.

— Хрысціянская сіла ў шырокім пpасторы,— растлумачыў рыцарам у час месы Сіверт,— бо святым божым прамяням патрэбен размах, каб плаўна і вольна ліцца па ўсёй зямлі, а паганец, крывадушны чалавек, залазіць пад корч, у дупло, точыцца ў мох.

У дыме і звоне мячоў, у крыві і ранах нястрымна ляцеў час. Некаторых з паплечнікаў Марціна Голіна ўжо не было на гэтым свеце. Хто сканаў ад паганскай сякеры ці дубіны, а многія зламалі сабе шыю, разам з коньмі праваліўшыся ў лоўчыя, засыпаныя зверху

травой і лісцем, ямы. Грозны рыцар Голін скрыгатаў ад гневу зубамі. Аднойчы данеслі, што непадалёку хаваецца княскі табун — ажно пяцьсот галоў коней. Прывялі ў лагер і чатырох каняводаў.

— Ну, дзікуны, дзе трымаеце коней для свайго Міндоўга? — спытаў у іх Марцін Голін, і вочы радасна зазззялі. Каняводаў, звязаўшы рукі, паставілі на калені.

— Здаецца, вы любіце агонь, лічыце яго святым,— усміхнуўся Голін.— Зараз я праверу вашу любоў.

І загадаў збраяносцам:

— Раскладзіце чатыры вогнішчы!

Хутка на лясной паляне запалалі вогнішчы. Каняводы глядзелі на полымя, яшчэ не разумеючы, што іх чакае.

Марцін Голін, упёршы рукі ў бокі, стаў перад каняводамі, холадна сказаў:

— Пачынаю правяраць, як вы любіце святы агонь і як ён вас любіць. Ты! — паказаў ён пальцам на крайняга злева светлабародага паганца.— Гавары, дзе табун. Маўчыш? Падсмаліце малойчыку пяткі над агнём.

Збраяносцы схапілі паганца, узнялі, прывязаўшы да пік, над вогнішчам. Ен закрычаў ад болю.

— Гавары, дзе табун, і я адпушчу цябе, і дам лепшага каня,— падышоў да паганца Голін.— Ты паедзеш дадому на кані.

Канявод крычаў, курчыўся ад болю, але не казаў ні слова.

— Гэтага святы агонь не любіць,—засмяяўся Голін.—Бачыце, як ён нагамі дрыгае. Давайце сюды наступнага.

Яшчэ адзін паганец заенчыў над агнём. Так, па чарзе, абсмалілі, абпяклі ўсіх чатырох. Але трымаліся яны мужна. Адзін, самы старэйшы на выгляд, нават смяяўся з рыцараў, ганьбіў іх абразлівымі словамі. Голін зразумеў, што ён стараецца ў гэту цяжкую смяротную часіну падтрымаць сваіх маладзейшых і, пэўна, слабейшых аднародцаў. Гаваруну заткнулі рот, натаптаўшы ў яго ляснога моху. З яшчэ большай лютасцю ўзяліся за астатніх. Адчайнымі крыкамі і хрыплымі стогнамі напоўнілася лясная паляна. Сіверт не мог стрываць гэтага. Пайшоў у глыб лесу, каб не чуць чалавечага енку, пачаў тварыць святую малітву.

— Я вас зламлю! — скрыгатаў зубамі Марцін Голін.— Такія, як вы, раздзіралі цвікамі Хрыстову

плоць. За яго раны вы абмыецеся ў мяне крывавымі слязьмі.

Катаванні ўзмацніліся. Кожны з рыцараў, хто жадаў, прымаў у іх удзел: хвастаў паганцаў дрэўкам пікі, сыпаў на голыя грудзі гарачае вуголле, церусіў соль над ранамі. Ужо нават забыліся, дзеля чаго ўсё гэта пачалося, ужо не за схаваных коней цягнулі з няшчасных жылы, а за тое, што ў іх іншы бог, іншая мова.

— Спыніцеся! — крыкнуў нарэшце Сіверт Голіну, бо не мог пазіраць на жахлівае чырвонае месіва, у якое ператваралася чалавечая плоць.— Хрыстос дараваў сваім ворагам, даруйце ж і вы, яго рабы і дзеці. Гэтыя людзі паганцы, і мы, хрысціяне, абавязаны вызваліць іх з дзікага рабства дзікай веры. Але, каб зняць з шыі ярмо, не абавязкова адсякаць галаву. Не бічы і не жалезы, а слова патрэбна, святое слова. Дайце мне пагаварыць з імі.

Голін, стаміўшыся і знерваваўшыся, дазволіў манаху пагутарыць з палоннымі. Сіверт напаіў кожнага вадой, адагнаў прагных да крыві мух і камароў. Потым ласкавымі словамі суцешыў усіх, пачаў навучаць, угаворваць і пераконваць, як навучаюць клапатлівыя маці малых дзяцей. Паганцы, хоць на нейкі міг пазбегшы пакут, уважліва слухалі яго. У некаторых у вачах іскрыліся слёзы. Манах бачыў гэта, і яшчэ больш разгараўся ягоны імпэт, хацелася, каб ад спагадных усёдаравальных слоў заплакалі не толькі знявечаныя паганцы, але і рыцары, дрэвы, птушкі на дрэвах. «Слова перамагае ўсё,— расчулена думаў Сіверт.— Яно як бальзам і як меч».

Але самы старэйшы з палонных, часта міргаючы разбітым вокам, якое заплывала крывёй, сказаў:

— Ты скончыш гаварыць, і яны зноў пачнуць лупіць скуру з мяне і маіх таварышаў. Ты добра гаворыш, і бог твой, калі верыць табе, добры. Але наш бог лепшы. Чуеш? Наш бог лепшы, бо гэта бог нашых дзядоў і нашага народа. Чаму твой бог, калі ён такі чалавекалюбівы і ўсёмагутны, не зробіць, каб вось гэты звер,— паганец зірнуў на Голіна, што стаяў побач з Сівертам,— ператварыўся ў камень або струхлелы корч?

Тлумач з ландскнехтаў пераклаў словы паганца Марціну Голіну. Рыцар пачырванеў ад гневу, паклаў цяжкую руку на плячо Сіверту, злосна выдыхнуў:

— Хопіць, святы айцец. Ты ж вучыш нас, што ёсць рай, чысцец і пекла. Так? Дык вось я для іх не на тым,

а на гэтым свеце, у гэтым лесе, на гэтай паляне, устрою пекла. Адыдзі ўбок, святы айцец.

Немагчыма перадаць словамі тое, што пачало рабіцца. Чалавечае цела распырсквалася чырвонымі шматкамі. Выццё і крык стаялі над зямлёй. На галаву старэйшаму з паганцаў рыцары надзелі карону — вянок з галля і падпалілі галлё. Вогненнагаловы паганец паўтараў адно:

— Наш бог лепшы.

Пэўна, такія словы нейкім чынам змяншалі боль.

«Божа, прыляпі мой язык да гартані маёй,— ліхаманкава думаў Сіверт, адышоўшы як мага далей ад страшнай паляны.— Не дай мне зараз не тое сказаць і не тое крыкнуць». Ён затыкаў вушы рукамі, шыўся галавой у густы зялёны хмыз.

Праляцела ноч. Марцін Голін не скрануў атрад з месца, бо рашыў чаго б ні каштавала вырваць у паганцаў прызнанне. Зноў успыхнулі вогнішчы, пачуліся стогны і крыкі.

Недзе пасля абеду Голін, які ўласнаручна катаваў палонных, заўважыў, што адзін з іх, самы маўклівы і самы буйнацелы, усё цяжэй пераносіць пакуты. Слёзы градам цяклі ў яго з вачэй. Голін даў знак рыцарам, і ўсе пачалі катаваць толькі буйнацелага, наляглі з такой ярасцю, што аж косці ў бедалагі трашчалі. Паганец не вытрымаў, закрычаў:

— Не магу болей!

— Цярпі,— прахрыпеў яму скрываўленымі губамі самы старэйшы з палонных.— Цярпі, Гірстаўме. Хутка ўсяму канец. На тым свеце мы апусцімся ў прахалодную раку, паплывём па ёй, і Лаўма, распусціўшы свой пояс, усміхнецца нам.

— Не магу... Скажу,— прашаптаў у нейкай гарачцы-ліхаманцы Гірстаўме, і вочы былі туманныя ад болю.— Даруйце мне, калі можаце... Скажу, дзе стаяць нашы коні...

— Але ж там твая жонка, дзеці! — гнеўна ўскрыкнуў ягоны сябра па няшчасцю і пакуце.— Там і нашы сем'і.

— Не магу,— апусціў галаву на грудзі Гірстаўме і заплакаў.

Тады астатнія трое паганцаў пачалі пляваць на яго, праклінаць самымі лютымі словамі. А ён паўтараў толькі адно:

— Не магу...

— Глядзіце, багі, глядзіце, продкі, на адступніка,— сабраўшы рэшткі сіл, прыўзняўшыся на локцях, сказаў старэйшы з паганцаў.— Ён пашкадаваў сваё нікчэмнае жыццё. Але няхай усё чуюць нябёсы: з гэтага часу на нашай зямлі няма Гірстаўме, няма і ніколі не было.

— Няма і ніколі не было,— як рэха, паўтарылі два астатнія палонныя, адсоўваючыся ад Гірстаўме.

Марцін Голін загадаў забіць усіх, падараваўшы жыццё аднаму Гірстаўме, які ляжаў на прыціхлай паляне і плакаў. Неўзабаве рыцары прыгналі вялізны табун коней і купку жанчын з дзецьмі. Коней вырашылі прадаць рыжскім купцам, жанчын і дзяцей Голін адпусціў. Жонка Гірстаўме падбегла да мужа, пачала змываць з яго кроў. Дзеці, трое белагаловых хлопчыкаў, стаялі непадалёку, спалохана пазіралі на бацьку. Гірстаўме нешта сказаў жонцы, і яна разам з сынамі хуценька пашыбавала ў лес, пэўна, у сваю вёску, каб прыгнаць фурманку і забраць напаўжывога мужа. Якраз хлынуў лівень, загрукатаў гром. Сінія бізуны маланак узвіліся над зямлёй. Рыцары і Сіверт разам з імі пахаваліся ў паходныя шатры. Адзін Гірстаўме застаўся ляжаць пад дажджом, падставіўшы знявечаны твар грымотнаму небу. Сіверт бачыў, як паганец шырока разяўляе рот, нібы выкінутая на бераг рыбіна, і прагна глытае нябесную ваду.

Калі ж супакоілася неба і ўсе вышлі з шатроў, Гірстаўме ўжо не было на паляне.

— Дзе ён дзеўся? — спытаў Сіверт у Морыца.

— Жонка забрала і павезла дадому,— упэўнена адказаў той.— Хоць і пакалечаны, а ўсё ж будзе жывая душа пад бокам.

Так усе і забыліся пра Гірстаўме, але неўзабаве прыехала на фурманцы жонка, з вялікім плачам пачала яго шукаць. Сіверт пахадзіў каля вогнішчаў, уважліва прыглядваючыся да падпаленай травы, і ў адным месцы заўважыў як бы баразёнку, што вяла ў лес. Манах здагадаўся, што гэта поўз Гірстаўме. Разам з ягонай жонкаю ён пайшоў па гэтым кволым, дзе-нідзе заплямленым крывёю следзе. Відно было, з якой страшэннай напругаю поўз паганец, падмінаючы сваім цяжкім непаслухмяным целам траву, ломячы мокрае кустоўе. Ён узадраў, нібы ралам, шэры пясок на невысокай выдме, што навісала над лясным азерцам. Баразёнка прывяла да чорнай, як дзёгаць, вады, на якой

нерухома ляжалі першыя жоўтыя лісты з бяроз і асін. Чалавечыя белыя ногі тырчалі з вады.

— Гірстаўме! — закрычала жанчына.

Манах стаяў і глядзеў, як яна, укленчыўшы, поўзае каля тапельца, як хоча выцягнуць яго на бераг. Але таго, хто добраахвотна аддаўся ёй, не вяртае назад вада.

Смерць паганца ўразіла манаха. Так паміралі калісьці высакародныя грэкі і рымляне. Пад прымусам або па слабасці страціўшы свой гонар, яны абрывалі нітку ўласнага жыцця. «Цяжкі крыж душы чалавечай»,— думаў Сіверт, гледзячы, як жанчына з малымі дзецьмі выцягвала з вады цела свайго мужа, а потым клала яго на фурманку. Пазногці на пальцах ног пасінелі, а іх зрываліся кроплі вады.

Атрад Марціна Голіна ішоў насустрач жамойцкім войскам кунігаса Выканта. Яшчэ тры-чатыры дні, і яны з'яднаюцца, і тады наступіць пагібель Міндоўга. Ён будзе адрэзаны ад Літвы і Новагародка. Справу завершаць галічане і лівонцы, якія ўдараць з поўдня і з поўначы.

Голін у сваім прыгожым прасторным шатры сабраў ваенны савет, каб параіцца, як найлепей закончыць такі ўдалы паход. Сам ён сядзеў на захопленым у адным літоўскім замку высокім дубовым крэсле з падлакотнікамі ў выглядзе зубатых рыбін. Насупраць Голіна на лёгкіх перасоўных лавачках сядзелі тры комтуры, граф Энгельберг з Майнца, польскі граф Збышка Сулімчык, пяць англійскіх рыцараў, імён якіх ніхто не ведаў, бо яны толькі што дагналі атрад, каб скрыжаваць свае мячы з паганцамі. Сіверт разам з рыцарскім пісарам Імануілам сціпла месціўся ля самага ўвахода. У шатры было невялікае акенца, адмыслова зробленае са шкляных шарыкаў у лёгкім свінцовым пераплёце. Гарэлі свечкі. Толькі што адгрымела навальніца, і знадворку чуўся густы шум устрывожанага лесу.

— Слава Ісусу Хрысту! — усклікнуў Голін.

— Ва векі вякоў! — дружна адказалі ўсе.

Па скронях у Голіна каціўся пот, бо пасля навальніцы ў шатры ўсё роўна была жорсткая задуха. Вочы ж у суровага рыцара блішчалі па-маладому. Усе бачылі гэта і радаваліся — хутка, вельмі хутка хрысціянскае воінства атрымае яшчэ адну слаўную перамогу. Бадай, адзін Сіверт быў не ў гуморы. Нешта церабіла яго, гняло. Успаміналіся стогны паганцаў на лясной паляне, крывавая баразёнка, што вяла да чорнай вады.

Манах сядзеў спіною да ўвахода і бачыў, як і ўсе, натхнёны твар Голіна. Прадвадзіцель атрада дзякаваў прысутным за вялікую мужнасць і цярпенне, абяцаў шчодра ўзнагародзіць кожнага пасля таго, як закончыцца паход. Асабліва хваліў ён англійскіх рыцараў, што, як зразумеў Сіверт, не падабалася ўсім астатнім. Англічане ж яшчэ ні разу па-сапраўднаму не выцягвалі мячы з похваў.

Раптам здарылася такое, што да скону, да апошніх дзён жыцця будзе помніцца Сіверту. Манах убачыў, як нечакана пабялеў твар у Марціна Голіна, дыбком узняліся на галаве кароткія сівыя валасы, вочы, здаецца, вылезлі з вачніц ад жаху і здзіўлення, а правая рука, якая толькі што ўпэўнена і ўладна ляжала на падлакотніку крэсла, пацягнулася да мяча ды так і здранцвела на паўдарозе. Ніколі б не паверыў Сіверт, што такім спалоханым можа быць славуты рыцар, які ў мностве паходаў прывык да смерці, да жалезнай кашулі, цяжкай ад салёнага поту, які адным ударам мяча развальваў бязбожнікаў ад ключыцы да сцягна. Марцін Голін хацеў узняцца, устаць, але невядомая сіла нібы прыляпіла яго да крэсла, а вочы глядзелі толькі ў адным кірунку — на ўваход у шацёр.

Сіверт, яшчэ нічога не разумеючы, азірнуўся і замёр. Ён убачыў невераемнае. Побач [redacted] ім, за нейкі сажань ад правага пляча, бясшумна плыў жаўтавата-белы клубок або шар велічынёй [redacted] добры мужчынскі кулак. Дробненькія тонкія іскры, як іголкі, вырываліся з яго, і чуліся лёгкі трэск і шыпенне. Гэты клубок, гэты шар, пэўна ж, уляцеў у шацёр знадворку. Ён плыў між рыцарамі, і валасы ў іх на галовах злёгку варушыліся, хоць можна было паклясціся на крыжы, што ў шатры не было ні кроплі ветру. Усе як змярцвелі, перасталі нават дыхаць. Толькі кожны стрыг вачамі, цікаваў, куды паверне жахлівы ў сваёй нечаканасці і невядомасці госць. А ён нетаропка плыў ад увахода проста да крэсла з падлакотнікамі ў выглядзе зубатых рыб, на якім сядзеў Марцін Голін. Ён быццам ведаў, куды яму патрэбна плысці. Хто кіраваў ім? Д'ябал? Хрыстос?

Сіверт адчуў агіднае трымценне ў каленях, абшчапіў іх рукамі, угнуў галаву. Ён, як святар, ужо зразумеў, што чужы вогненны шар прыляцеў па нечую душу. Цішыня ў шатры была незвычайная. Было нават чутна, як за сценкамі шатра, сажняў за дзесяць ад яго, б'ецца рачная хваля ў травяністы бераг — шалесь, шалесь...

Рыцары сядзелі як прыкутыя. Шар набліжаўся да Марціна Голіна, часам злёгку пагойдваючыся ў паветры. Так плыве па вясновай рацэ змытае паводкай круглае птушынае гняздо.

— Д'ябал! — раптам на ўсю моц грудзей крыкнуў Марцін Голін, выхапіў з похваў цяжкі меч, але не паспеў узмахнуць ім. Вогненны шар, быццам раззлаваны гэтым крыкам, рэзка ўзвіўся пад самую столь шатра, мільгануў адтуль уніз, як каршун, і стукнуўся проста ў лоб суроваму рыцару. Грымнуў выбух, паваліўшы ўсіх на зямлю. Сіверт яшчэ падумаў, што так лопаецца, выбухае, ударыўшыся аб палубу варожага карабля, гліняны гаршчок з грэчаскім агнём. Страшная сіла зрэзала слуп, на якім трымаўся шацёр. Гэтым слупом Сіверту балюча стукнула па спіне. «Магіла — апошні наш спрат»,— крутнулася ў галаве манаха думка, і ён страціў прытомнасць.

Яго, як і ўсіх астатніх, выцягнулі з-пад абгарэлых ашмоццяў шатра ландскнехты. Морыц прывалок манаха на рачны бераг, паіў халодным кіпенем ракі.

— Што гэта? — млява спытаў у прыслужніка Сіверт.

— Нябесны агонь,— як заўсёды ўпэўнена адказаў Морыц.— Шатра няма. Усе рыцары жывыя, акрамя Марціна Голіна. У Голіна твар зрабіўся чорны, як у эфіопа, ад носа і вушэй следу не засталося.

Нечаканая жудасная смерць Голіна страшэнна перапалохала рыцараў, не кажучы ўжо пра ландскнехтаў і збраяносцаў. Польскі граф Збышка Сулімчык адразу ад'ехаў са сваімі людзьмі ў Кракаў, бо ўбачыў у пагібелі кіраўніка атрада пагрозны знак нябёс. Следам за ім зніклі тры англійскія рыцары. Ландскнехты разбягаліся натоўпамі. Атрад узначаліў граф Энгельберт з Майнца. Ён сурова расправіўся з палахліўцамі і загадаў павесіць двух збраяносцаў. Але не ягоная жорсткасць выратавала атрад, а тое, што з усіх бакоў хрысціян акружалі тысячы і тысячы ўзброеных паганцаў. Казалі, што яны ўсіх, каго бяруць у палон, спальваюць на ахвярных вогнішчах.

— Лепш быць пахаваным па хрысціянскаму звычаю ў роднай зямлі, чым развеяцца попелам у богапраціўнай Літве,— гаварыў тым, хто аслабеў духам, Сіверт.

— Як жа дабрацца да роднай хрысціянскай зямлі? — пыталі ў яго.

— Трэба вось гэту зямлю зрабіць хрысціянскай,—

рашуча тупаў нагамі па тым месцы, дзе стаяў, манах. Але ён заўважыў, што, хоць усе згодна ківалі галовамі, далёка не ўсе ў душы згаджаліся з ім. Страх аслабляў людзей.

Комтур Дзітрых сказаў аднойчы Сіверту, калі нікога не было побач:

— Усе мы падобны зараз на мудраца Сакрата.

— Чым жа? — здзівіўся манах.

— Сакрат у цямніцы трыццаць дзён чакаў смяротнага пакарання. Ён ведаў, што абавязкова памрэ, але памрэ толькі тады, калі, па звычаю Афін, вернецца з Дэласа свяшчэнны карабель. Мы таксама тут памром. Ведаць бы толькі, калі прыйдзе наш карабель.

— Сын мой,— уважліва паглядзеў на комтура Сіверт,— дужа змрочныя ў цябе думкі. Маліся, і Хрыстос азорыць душу тваю святлом спакою і радасці.

А праз два дні хмурнаватым вятрыстым ранкам на вузкай лясной дарозе тысячы і тысячы паганцаў з двух бакоў напалі на атрад Энгельберта. Хоць і пазбягалі рыцары лясоў, дзе немагчыма было развярнуцца іхнім коням, але амаль увесь гэты край быў лясны, і хочаш не хочаш вельмі часта даводзілася ісці лесам. Кароткія коп'і-суліцы і дроцікі густым дажджом паляцелі ў хрысціян. З цяжкім крэктам рухнулі на дарогу, перагарадзіўшы яе, старыя высозныя елкі. Ад яраснага крыку здрыгануўся лес. У звярыных шкурах, абвіўшы галовы, каб быць непрыкметнымі паміж зялёніны, дзеразой і тонкім бярозавым голлем, ашчацініўшыся коп'ямі і рогвіцамі, рынуліся паганцы на рыцараў. Бой разгарэўся надзвычай жорсткі. З прыдарожных дрэў ляцелі на атрад Энгельберта гарачыя галавешкі, тоўстыя бярвенні, камяні. Некалькі дзесяткаў рыцараў са сваімі цяжкімі коньмі праваліліся ў лоўчую яму. Адтуль даносіліся праклёны і перадсмяротны конскі хрып.

Сіверт разам з неразлучным Морыцам прыбіўся да ландскнехтаў. Тыя, апусціўшыся на левае калена, няспынна стралялі з арбалетаў. Іхняя страляніна была такой удалай і трапнай, што цэлая гара мёртвых і параненых паганцаў ляжала неўзабаве на дарозе. Разгарачаны Сіверт, які добра намахаўся мячом, на нейкі міг прысланіўся спіной да бярозы, зняў з галавы шлем — няхай цела вецер пачуе. Побач калаціўся ад страху Морыц.

— Што з намі будзе, святы айцец?

— Усё ў волі божай,— удумна прамовіў манах.— Бог паслаў супроць нас свой меч, хоць меч гэты і ў паганскіх руках.

У гэты час між паганцаў пачуліся крыкі:

— Дайце дарогу навагародскім лучнікам!

— Няхай яны паб'юць псагалоўцаў!

Пярэднія рады тых, што нападалі, расступіліся, і выйшла больш як пяцьдзесят лучнікаў. Былі яны ў востраканечных шлемах, у доўгіх, кляпаных з жалезнага дроту, кальчугах.

— Русіны ■ Новагародка,— апалым голасам сказаў Сіверт. Ён зразумеў, што на гэтым свеце засталося жыць лічаныя імгненні.

— Яны ж хрысціяне! — закрычаў, бялеючы ад жаху, Морыц, бо ўбачыў за плячамі ў новагародскіх лучнікаў паўнюткія тулы з гартаванымі стрэламі.— Чаму граф Энгельберт не спускае свой сцяг? Хіба грэх нам, хрысціянам, здацца ў палон хрысціянскаму войску?

Сіверт, слухаючы брыдкае выццё Морыца, напружана ўглядаўся туды, дзе стаяў сцяг Энгельберта — на белым полі залаты іерусалімскі крыж у чорным тэўтонскім крыжы. Манаху і самому хацелася, каб нешта спыніла палёт новагародскіх стрэл. І чаму марудзіць гэты тугадум? Паганцаў жа ў тры разы больш, чым хрысціян, і ўсе дарогі да адступлення адрэзаны.

— Кладзіся, святы айцец! — крыкнуў Морыц, тузануўшы Сіверта за рукаў.

Яны ўпалі ў гразь, у бруд, і ўпалі вельмі своечасова, бо над галовамі тонка свіснулі дзесяткі стрэл. Пранізаныя імі, валіліся на зямлю ландскнехты.

— Што робіць граф Энгельберт? — аж вішчаў Морыц.— Не здаецца і нас не абараняе! Пераб'юць жа ўсіх, як курапатак.

— А ты помніш, што казаў Марцін Голін? — спытаў у прыслужніка манах.— Не здавайцеся ў палон паганцам, бо на вогнішчах жыўцом спаляць.

Такія словы ўшчэнт дакналі беднага Морыца. Ён абхапіў галаву рукамі.

— Будзь пракляты той дзень, калі я паслухаўся бязносага Франца і прыехаў у Лівонію. Я так добра жыў у Вестфаліі. У мяне быў свой дамок, былі гусі.

Але вельмі мала часу заставалася на ўспаміны, бо стрэлы ляцелі ўсё гусцей, а баявы кліч ворагаў грымеў, здавалася, над самым вухам.

— Дык жа нам можна здацца новагараджанам, хрысціянам. Святы айцец, новагараджане ж людзей не паляць? — заенчыў Морыц.— Мы не рыцары. Мы божыя служкі. Нас яны павінны адпусціць у Рыгу або Вендэн.

— А я думаў, Морыц, што ты адважны воін, Рычард Ільвінае Сэрца,— знайшоў у сабе сілы для жарту манах.

— У мяне маё сэрца, і яно адно,— пакрыўдзіўся Морыц і раптам радасна закрычаў: — Бог пачуў нашы малітвы! Энгельберт спусціў сцяг!

Ен стаў на калені, замілавана сашчапіўшы рукі, сказаў:

— Дзякуй табе, нябесны ўладыка. Вярнуся ў Вестфалію і ў святым храме ў той жа дзень пастаўлю пудовую свечку за шчаслівае збавенне ад смерці.

Няшмат засталося ў жывых людзей Энгельберта. Рыцараў уцалела ўсяго чацвёра з пяцідзесяці. Сам Энгельберт, цяжка паранены, стагнаў, прыдушаны ўласным канём.

Да Сіверта [illegible] Морыцам і купкі ландскнехтаў прымчаўся на рыжым порсткім жарабку, прыкрытым скураной лічынай, чарнавалосы шыракаплечы асілак у надзіва багатым убранні. На ім быў кажух з грэчаскага алавіра, абшыты шырокімі залатымі карункамі, боты з зялёнай скуры, таксама шытыя золатам. Высокі жалезны шалом з наноснікам, з кальчужнай сеткай-барміцай, якая ахоўвала шыю і плечы, ззяў у яго на галаве. Ен асадзіў жарабка і зычным голасам праз тлумача сказаў:

— Я князь Далібор-Глеб Ваўкавыйскі. Вы мае палонныя.

— Мы твае, твае, хрысціянскі князь,— паспешліва залепятаў Морыц, бо ўбачыў, што рыцараў і іхніх збраяносцаў зганяюць у асобную кучу нейкія суровыя з выгляду воіны ў звярыных шкурах.

Іх пагналі на поўдзень, у глыб Літвы.

— Глядзі, Бачыла, нямецкі поп! — весела крыкнуў русабароды вой-ахоўнік свайму напарніку і тыцнуў пальцам у Сіверта.

— Поп? — здзівіўся зеленавокі вой, якога назвалі Бачылам. Ен паправіў на галаве медную шапку, сціскаючы ў руцэ кап'ё, надышоў да Сіверта.

— Ты поп?

Манах няўцямна пазіраў на новагараджаніна і не

разумеў, чаго хоча ад яго гэты схізматык. Павісла маўчанне.

— Скажы яму хоць што-небудзь, святы айцец,— гарачліва шаптаў побач Морыц.— Кап'ё ў яго доўгае. Можа нас дваіх на кап'ё насадзіць.

Ен пачаў прыніжана ўсміхацца Бачылу, прыкладваючы рукі да грудзей і кланяючыся.

— Не круціся, як ліса пад бараной,— загадаў Морыцу Бачыла і зноў, ужо больш строга, спытаў у Сіверта: — Ты поп?

Манах зняў з сябе нашыйны крыж, высока ўзняў над галавой, заспяваў святы псалм.

— Так бы адразу і сказаў,— прамовіў Бачыла і крыкнуў: — Князь! Князь Глеб Ізяславіч! Мы нямецкага папа злавілі!

Пад'ехаў Далібор, уважліва глянуў на Сіверта. Пэўна, яму нешта спадабалася ў манаху, бо загадаў:

— Пасадзіце яго ў фурманку. Паедзе са мной у Ваўкавыйск.

Сіверта вывелі з гурту палонных. І тут следам кінуўся Морыц, заверашчаў, быццам з нажом падступілі да горла.

— Без мяне святы айцец прападзе!

— Чаго гэта ён? — здзівіўся Далібор.

— Гэта мой прыслужнік,— сказаў Сіверт.— Дазволь, кароль ваўкавыйскі, узяць яго з сабой.

«Хутка нямчыны да нявольніцтва свайго прывыкаюць»,— у думках адзначыў сам сабе Далібор.— Наш чалавек, бывае, памрэ, а чужому няміламу небу так і не ўсміхнецца».

— Бяры з сабой свайго халопа,— дазволіў святару.

Усё паварочвалася даволі ўдала. Сіверт з Морыцам маглі ўжо карміць магільных чарвей або, што яшчэ горш, гарэць на паганскім вогнішчы. Яны ж ехалі ў зручнай няцеснай фурманцы ў горад Ваўкавыйск, дзе ўладарыў князь Далібор-Глеб. Не бяда, што толькі зараз Сіверт упершыню пачуў пра гэты горад. Галоўнае — там жывуць хрысціяне, хоць і падначальваюцца яны не папу рымскаму, а канстанцінопальскаму патрыярху.

«Усё ў нашым жыцці падзелена на святло і цемру,— ціхамірна і журботна думаў Сіверт, едучы па дагэтуль невядомай краіне.— Як стаяць у Магдэбургскім саборы статуі пяці мудрых і пяці неразумных дзеў, так ёсць на зямлі і ў небе жыццё і смерць, цвіценне і тлен. Я — раб

схізматыкаў і паганцаў, але ж мая душа належыць толькі Хрысту».

У сталіцы магутнай дзяржавы літоўцаў і русінаў Навагародку лёс палоннага манаха рэзка змяніўся. Князь Глеб Ваўкавыйскі заехаў адабедаць да свайго даўняга сябра князя Войшалка, які ад імя бацькі, кунігаса Міндоўга, правіў Навагародкам. Сам жа Міндоўг упадабаў Варуту і Кернаве і не любіў выязджаць з гэтых гарадоў. Але вайна прымусіла кунігаса надоўга сесці ў сядло і вельмі часта начаваць пад покрывам нябёс, а не ў сваім любімым нумасе. Ворагі ішлі з усіх бакоў. Спачатку кунігас нават смяяўся над валынска-нямецка-жамойцкім саюзам. «Сышліся мядзведзь, свіння і асёл»,— казаў сваім бліжнім Міндоўг. Але гэтыя такія непадобныя жывёлы балюча кусаліся. А поруч з імі яшчэ стаялі яцвягі і пінскія князі. Праўда, піняне ішлі на Навагародак не па сваёй волі — гнаў Даніла Раманавіч, якому яны перад гэтым скарыліся. Хмурна было на душы ў Міндоўга. Надумаў ён сабраць у Навагародку раду з усіх падручных князёў і кунігасаў, з навагародскіх і літоўскіх баяр. Завярнуў перад радаю да сына, Войшалка, і ў яго сустрэў Глеба Ваўкавыйскага разам з дзіўным чалавекам, які нешта лапатаў па-нямецку.

— Хто гэта? — кісла зморшчыўшыся, спытаў Міндоўг.

— Дамініканскі манах Сіверт,— адказаў Далібор.— Узяты маімі воямі ў палон. Вялікай вучонасці святар і чалавек.

— Вялікай вучонасці? — засмяяўся Міндоўг.— А па-навагародску ці па-літоўску ён умее гаварыць?

Тлумач пераклаў Сіверту сказанае кунігасам. Дамініканскі манах сціпла ўталопіў у зямлю вочы, пакланіўся.

— Я навучуся, вялікі кароль. Я вельмі хутка навучуся вашым цудоўным мовам, бо ад нараджэння закладзена ў мяне Хрыстом незвычайная здольнасць да навучання.

Сіверт не спадабаўся Міндоўгу.

— Немца аддасі мне,— сказаў кунігас Далібору.— Дужа ў яго хітрыя вочы і слізкі язык.

І строга спытаў:

— А чаму твой бацька, князь Ізяслаў Свіслацкі, не прыехаў у Навагародак на раду?

— Князь Ізяслаў сядзіць у Свіслачы, я ж —

у Ваўкавыйску,— нахмурыў бровы і прыкусіў губу Далібор.

— Даносяць мне верныя людзі, што ён з тэўтонцамі і ляхамі перанюхваецца,— пачаў закіпваць гневам Міндоўг.

Ваўкавыйскі князь як анямеў, не сказаў на гэта ні слова.

Так трапіў дамініканскі манах Сіверт са сваім прыслужнікам Морыцам у лясны горад Варуту да кунігаса Міндоўга, а дакладней, да ягонай новай жонкі чарнавокай прыгажуні Марты.

## III

Варуту, пасля таго як яе спаліў Даўспрунк з сынамі, зноў адбудавалі на чорным прысаку. Яшчэ больш магутнымі сталі сцены і надбрамная вежа. Княскі церам пабагацеў, раздаўся ўшыркі, заблішчала ў ім новае срэбра і золата, але не было ўжо там зацемненай патаемнай малітоўні, у якой былая літоўская княгіня Ганна-Паята і сын яе Войшалк любілі размаўляць з Хрыстом. Марта, прыехаўшы з Нальшанскай зямлі ў якасці ўладаркі церама і кунігасавага сэрца, адразу ж загадала зламаць малітоўню, выкінуўшы з яе ўсё начынне, акрамя, вядома, святых абразоў. Гэтыя абразы павезлі ў Навагародак, у храм Барыса і Глеба.

З малалецтва жывучы ў невядомасці і сціплай крыўдлівай беднасці, бо бацька быў звычайным маламаёмным баярынам, у якога адно багацце — кажух ды меч, прыгажуня Марта марыла аб раскошы і славе, аб усеагульным пакланенні. А што мог ёй даць бацька? «З гэтага баярына вошы дажджом сыплюцца»,— выпадкова пачула яна аднойчы, як, смеючыся, казалі пра яго праезджыя рыжскія купцы. Усю ноч яна праплакала, кусаючы душную пярыну. І вось, нібы сонца ў небе, з'явіўся Міндоўг, ваяўнічы і ўдачлівы кунігас, мужчына-зубр з чорна-зялёнымі ўпартымі вачамі. Усё спачатку здавалася Марце сном: і ягонае сватанне, і багатыя дарункі, што аж сляпілі яе, і пераезд у Варуту, у кунігасаў церам. Яна вельмі добра разумела, што ў жаночай прыгажосці дужа кароткае жыццё. Не паспееш азірнуцца, адляціць прыгажосць разам з маладосцю, як адлятае з восеньскіх дрэў крылатае жоўтае лісце.

У цераме новая княгіня завяла надзвычай строгія парадкі. Прыслужніц, маладзенькіх дзяўчат, пакінула тых самых, што хадзілі яшчэ за Ганнай-Паятай. Але кожны міг і на кожным кроку з вялікай асалодай помсціла ім за неіснуючыя іхнія грахі, за тое, што папярэднюю сваю ўладарку яны, як здавалася ёй, больш любілі і шанавалі. За самую нязначную правіннасць, за не вельмі ласкавы або сумнаваты позірк біла іх па шчоках, разрывала сукенкі, цягала за валасы, загадвала хвастаць крапівой або лазой. Калі Сіверт упершыню наведаў церам, сваім пільным дамініканскім вокам ён убачыў мноства прыгожых прыслужніц, якія стаялі на каленях на рассыпанай солі і грэчцы. Некаторыя з іх былі дагала пастрыжаны, замест сукенак на іх былі надзеты грубыя мяшкі з прарэзінамі для галавы і для рук. Надзвычайнай прыгажосці сінявочка стаяла ў куце святліцы на адной назе, праўда, трымаючыся рукой за сцяну. Такое пакаранне перапала ёй за нязграбную, на княгінін погляд, вядома, паходку. Ужо ў час самой аўдыенцыі разгневаная чымсьці Марта раптам пляснула ў ладкі, і адразу ж, выскачыўшы з суседняга пакоя, бухнулася перад ёй на калені светлакосая прыслужніца, сказала, як праспявала:

— Што загадае ўсясіліца наша?

— Падай люстэрка,— пагардліва пазіраючы на яе, загадала княгіня.

Тая, не дыхаючы ад страху, прынесла і трымала перад ёй, стоячы на каленях, прыгожае люстэрка ў залатой аправе. Марта доўга і старанна пазірала на сябе, потым вусны злосна скрывіліся.

— Як ты мяне прычасала сёння, лянівая жывёліна?! Вось тут валасок тырчыць і вось тут!

Нагою, абутай у пазалочаны туфлік, княгіня ўдарыла прыслужніцу ў твар і, паклікаўшы надворных халопаў, загадала тут жа спаласаваць яе нагаямі.

Суразмоўніцай княгіня Марта аказалася вельмі цікавай. «У яе мужчынскі розум»,— пачціва думаў манах, калі яна выпытвала пра Ліён і Рым, пра народы, якія жывуць там, дзе заходзіць сонца, пра іх звычаі, адзенне, веру.

Манаху адразу адштукавалі ўтульную хатнюю капэлу, у якой ён мог славіць Хрыста. Разам з ім тут горача маліўся Морыц, які за гэты час пакруглеў, згубіў жмут чорных валасоў на цемені. Усё часцей зазірала ў капэлу княгіня, уважліва слухала малітвы. Астатні

ж горад заставаўся паганскі. Паганцам быў, як зразумеў манах, і сам кунігас, хоць і прыняў у Новагародку праваслаўную веру.

Вялікая радасць, якую ён пакуль што старанна хаваў, жыла ў душы ў Сіверта. Надзейныя людзі, а надзейных людзей манах умеў знаходзіць усюды, пад сакрэтам данеслі, што хоча Міндоўг разам з бліжэйшымі сваімі баярамі хрысціцца ў каталіцкую веру. Вось чаму і яго, нікчэмнага манаха, адразу прыкмеціў між палонных і наблізіў да сябе. Цяжкасці вайны, паражэнні, шматлікія варожыя раці, што ішлі на Літву і Новагародак, прымушалі кунігаса ўсё часцей паварочваць позірк у бок апостальскага рымскага прастола. «Слава вам, Бог наш і прасвятая дзева Марыя»,— расчулена паўтараў у сваёй капэле Сіверт, і нецярпеннем чакаючы той светлы дзень.

Яшчэ адзін надзвычай цікавы чалавек сустрэўся манаху ў варуцкім цераме. Гэта быў Астафій Канстанцінавіч, разанскі баярын, які ўцёк калісьці ад свайго князя і ад татараў, што знішчылі Разань. Высокі, цёмнавалосы, з доўгім храшчаватым носам, ён меў нейкі свой патаемны ключык да кунігасавай душы. Не такі, якім валодаў Казлейка, а свой. Казлейку Сіверт адразу запаважаў, бо адчуў у ім сілу, якой трэба толькі падпарадкоўвацца. Калі ж пойдзеш напроціў гэтай сілы, абавязкова страціш галаву. Да Астафія Канстанцінавіча ў манаха былі дваістыя адносіны. Гэта таксама быў, калі верыць ягоным словам, пакутнік, чалавек без радні і без радзімы. Сіверт паважаў такіх людзей, бо сам жыў іхнім жыццём. Але ён адчуваў варожасць да былога разанскага баярына як да праваслаўнага схізматыка, што ў любы міг можа падставіць нагу ў няспыннай штодзённай пагоні за кунігасавай душой. Ды Астафій пакуль што памоўчваў, загадкава ўсміхаўся і прыглядваўся да манаха.

Міндоўг тым часам на поўны голас пачаў пагаворваць аб хрышчэнні ў каталіцкую веру. Праваслаўе, прыніжанае ў Кіеве, Разані і Маскве татарамі, было пакуль што бяссільнае, кланялася кожнаму ханскаму баскаку, а кунігас любіў і паважаў сілу. За ўласнае хрышчэнне і за прывод пад апякунскую руку Рыма ўсяго свайго народа Міндоўг разлічваў атрымаць ад папы Інакенція IV каралеўскую карону. Калі ён зробіцца каралём, такім, як і ўсе хрысціянскія ўладары

Еўропы, ворагі схаваюць свае мячы, бо нельга, каб хрысціянін ваяваў супроць хрысціяніна.

Войшалк з большасцю новагародскага праваслаўнага баярства і, вядома ж, святар Анісім з храма Барыса і Глеба і слухаць не хацелі пра каталіцтва. Міндоўг не дужа здзівіўся, што русіны не хочуць пакланіцца Рыму. Спрадвеку божае святло ішло да іх з Канстанцінопаля і Кіева. Але сын, родны сын супраць! Ен выклікаў Войшалка з Новагародка ў Варуту, і той паслухмяна прыехаў.

— Чаму супраць мяне, вялікага кунігаса і бацькі свайго, Новагародак бухторыш? — злосна спытаў у Войшалка.

— Таму што нельга мяняць веру,— адважна адказаў сын.— Ты — праваслаўны, як нябожчыца жонка твая Ганна-Паята, як я.

— Нельга мяняць? — пагрозна засоп Міндоўг.— А быць рабом у нікчэмнага Выканта можна? А страціць набытак дзядоў-прадзедаў можна?

Ен раптам ірвануў на сабе зялёную адамашкавую кашулю. Паказаліся бугорыстыя, зарослыя кучаравым цёмным воласам грудзі.

— Маці мая, мяне нарадзіўшы, скуру мне дала. Глядзі на голую скуру маю. Гэта — першая вера мая, адвечная вера прадзедаў. Потым летняе адзенне я апрануў. Гэта руская вера. Апрану зімовы кажух. Гэта будзе рымская вера. А перад смерцю скіну з сябе ўсе чужыя адзежы і зноў вярнуся голы ў лона агню свайго і веры сваёй. Зразумеў?

Міндоўг упрытык падышоў да сына, паклаў яму рукі на плечы, усхваляванымі бліскучымі вачамі, здавалася, працінаў наскрозь. Войшалк зацята маўчаў.

— Прашу цябе, не перашкаджай мне,— глуха выдыхнуў Міндоўг.— Вяртайся ў Новагародак і супакой русінаў. Іхняй дзедаўскай веры я не парушу. І ты заставайся ў праваслаўі. А мне, каб захаваць дзяржаву, трэба позірк свой скіраваць на Рым.

Так і не паразумеліся, не сталкаваліся бацька з сынам. Войшалк паехаў у Новагародак, Міндоўг застаўся ў Варуце. Адразу ж кунігас паклікаў Сіверта, пасадзіў побач з сабою, спытаў:

— Ці дапаможаш мне ў вялікай справе?

— Дапамагу. Загадвай, кунігас,— узрадавана адказаў манах, бо адчуў, што светлы святы дзень, аб якім ён столькі марыў, набліжаецца.

— Хачу я разам з блізкімі баярамі прыняць каталіцтва,— прыцішыў голас і чамусьці нават азірнуўся Міндоўг.— Парай, як гэта хутка і беспамылкова зрабіць.

— Вялікі кунігас,— расчулена стаў перад Міндоўгам на калені Сіверт,— чужыя народы будуць зайздросціць твайму народу, бо ім кіруеш ты. Хрыстос чакае цябе, а там, дзе Хрыстос, і слава, і сіла.

— Устань,— нецярпліва выгукнуў кунігас.— Як думаеш, мне адразу да папы паслоў слаць?

Сіверт борзда ўзняўся [redacted] каленцаў. Вось ён, светлы доўгачаканы дзень! Сказана ж было ў святым пісанні: «І прыпаўзуць пад руку тваю валасатыя і касматыя, сляпыя і бессардэчныя, і кожнага з іх ты ўзнагародзіш, як посахам, божым прамянём».

— Трэба пачынаць [redacted] Вендэна, з магістра Андрэя фон Стырланда,— цвёрда прамовіў манах.

— А чаму не з Рыгі, не з епіскапа Мікалая? — упарта нахіліў галаву Міндоўг.

— У Мікалая няма войска, а значыць, няма і сілы,— як дзіцяці, растлумачыў яму манах.

Кунігас згодна кіўнуў галавой: так, сіла патрэбна, без сілы, без зброі кожны ўладар не ўладар. Сіверт, увайшоўшы ў ролю навучыцеля, хацеў быў пачаць гаворку пра кандыцыі*, на якіх Літва прыме хрышчэнне ад Рыма, але Міндоўг так глянуў на яго, што манах раптоўна абмяк і замоўк.

— Не лезь, уюн, не ў свой венцер,— строга ўсміхаючыся, сказаў Міндоўг, і дамініканец зноў адчуў сябе нікчэмным дажджавым чарвяком, які на кароткі толькі міг высунуўся са сваёй норкі. Давялося, каб не распаліць непатрэбнага гневу ў кунігаса, зноў бухнуцца на калені.

Міндоўг, хто б ні сустракаўся яму ў той дзень, у кожнага выпытваў, строга гледзячы ў вочы, як адносіцца той да хрышчэння ў каталіцкую веру. Нават размаўляў з княгінінымі прыслужніцамі, што, пакараныя ў чарговы раз, пераціралі белымі прыгожымі каленкамі гарох і грэчку. Адчуваўся ў кунігасе глыбокі душэўны страх. Ён быў упэўнены, што Крыве-Крывейта, дачуўшыся пра такое, пракляне яго, а праклянцце першасвяшчэнніка — як цяжкі камень, пушчаны ў скронь. Разам з Казлейкам таемна з'ездзіў кунігас

---

* К а н д ы ц ы і — умовы.

у свяшчэнную алку, у трывожным одуме хадзіў між маўклівых дубоў, часам прыпадаў да іх, гладзячы шурпатую суровую кару. Казлейку збоку здавалася, нібы Міндоўг слухае, што кажуць яму дубы.

Ужо вечарам, калі, стомленыя, вярнуліся з алкі і кунігас быў надта невясёлы, сустрэўся Астафій Канстанцінавіч, або, як пачалі ўсе яго зваць, Астафій Разанец. І ў яго спытаў Міндоўг пра пераход у каталіцтва.

— Вера як шчыт,— адказаў Астафій Канстанцінавіч.— Калі адчуваеш, што стары шчыт знасіўся, што ён у дзірках, заказвай бронніку новы.

Кунігасу спадабаліся такія словы. Ён падумаў, што, калі ўдасца адбіцца ад ворагаў, калі вернецца спакой у Літву, патрэбна будзе прыблізіць да сябе галавістага Разанца.

З вялікай урачыстасцю паехала пасольства з Варуты да лівонскага магістра Стырланда. Узначальваў яго Міндоўгаў любімчык Парнус, які ведаў нямецкую мову і латынь і ўжо не раз бываў у суседніх дзяржавах. З Парнусам ехаў Лінгевін. З дазволу кунігаса хацеў ён угаварыць магістра выдаць назад у Літву трох сваіх братоў, што ўцяклі ад яго, Лінгевіна, і ўсе землі і багацці надумалі завяшчаць Ордэну.

— Набытак нашага бацькі, усяго нашага роду яны хочуць аддаць немцам,— не знаходзіў сабе месца Лінгевін.— Не ўдасца ўгаварыць Стырланда — кожны з іх атрымае ад мяне нож у спіну.

Міндоўгу так і не ўдалося сабраць у Новагародку баярскую раду. Войшалк, ягоны союзнік Глеб Ваўкавыйскі, іерэй Анісім і большасць баяр не сабраліся ў назначаны дзень на дзядзінцы. Кунігас скрозь пальцы паглядзеў на такое непаслушэнства. Вядома, каб не падпірала вайна, каб не гарэлі па ўсім небасхіле пажары, ён бы на вяроўках іх прыцягнуў туды, куды яму хацелася. Але зараз ён адчуваў сваю слабасць і рашыў не дражніць праваслаўнае новагародскае баярства. Ускладзе яму на галаву папа каралеўскую карону, вось тады і будзе час для размоў з імі. Галоўным жа на сённяшні дзень заставалася прабіць дзірку ў варожай сцяне — вывесці з вайны Лівонскі ордэн. Ды гэта аказалася не так проста. Андрэй Стырланд пасольства прыняў, але даў зразумець Парнусу, што вельмі пажаданы візіт у Вендэн самога кунігаса і з больш багацейшымі дарамі. Як вымачаны ў халоднай

вадзе шчанюк, вярнуўся ў Варуту Парнус, баяўся глядзець у вочы Міндоўгу. Ды той сустрэў яго ласкава, шчодра ўзнагародзіў, з нейкай загадкавасцю ў голасе сказаў:

— Хвалі лёд, калі па ім пройдзеш.

І, доўга не збіраючыся, паехаў сам, узяўшы з сабой Казлейку, Лінгевіна, малалетніх сыноў і Парнуса, загадаўшы нагрузіць поўны воз срэбных і залатых сасудаў. Следам гналі табун выгадаваных у пушчы хутканогіх коней, везлі мёд і воск, футры, новагародскія лукі і літоўскія мячы. Не шкадаваў багацця кунігас, бо ведаў: аддасі сёння — возьмеш заўтра.

Лівонскі магістр сустрэў гасцей надзвычай урачыста. Сцяной стаялі абапал дарогі рыцары ў багата прыбраных даспехах, віталі радаснымі крыкамі грознага Міндоўга. Яшчэ ўчора кожны з іх меў бы за шчасце прывалачы яго на вяроўцы ў Вендэн, і калі не атрымалася такое, то рыцары вінавацілі не сябе, не свой баявы спрыт, а літоўскіх лясных раган*, што ахоўваюць кунігаса.

— Брат мой, вось мы і сустрэліся,— усхвалявана сказаў Стырланд Міндоўгу і моцна яго абняў. Дугастыя жаўтлявыя бровы ў магістра ўздрыгвалі. Сам ён быў цёмны воласам, і гэта нечаканая жаўтлявасць у бровах навяла кунігаса на нядобрую думку. «Пэўна, знішчаючы нашы замкі і вёскі, бровы абпаліў»,— падумаў Міндоўг. Успыхнула агіда і нянавісць да магістра. Але тое, што прывяло кунігаса ў Вендэн, перасіліла, і ён, шырока ўсміхаючыся, абняў і пацалаваў Стырланда.

— Пад ахову твайго крыжа хачу аддаць усю сваю дзяржаву,— узнёсла прамовіў Міндоўг.

— Святы крыж у руках гасподніх, а я, як і ўсе брацці-рыцары, толькі нікчэмны раб Хрыста,— сціпла адказаў магістр. У вачах быў радасны яркі бляск.

— З малалецтва жыў я там, дзе жывуць вецер і лес,— пранікнёна загаварыў кунігас.— Як і мой народ, жыў я пад аховай граманосных нябёс. Вера дзядоўпрадзедаў давала нам сілу.

— Паганская вера як бясплодная смакоўніца,— рэзка перарваў яго Стырланд.

Рэдка хто асмельваўся ставіць сваё слова поперак Міндоўгаваму слову. Кунігас нібы спатыкнуўся, нібы ўдарыўся нагой на поўнай хадзе аб цвёрды дубовы

---

* Рагана — чараўніца, ведзьма.

корань. Нейкі час ашаломлена глядзеў на магістра. З глыбіні чорна-зялёных вачэй выплывалі вострыя белыя зорачкі гневу. Здавалася, зараз Міндоўг крыкне лютым голасам, тупне нагой. Лівонскі магістр, светла ўсміхаючыся, стаяў насупраць.

— Так, яна бясплодная,— глуха сказаў кунігас.— І вось таму я прыйшоў да цябе і прашу, каб ты дазволіў мне зрабіцца тваім хрышчонікам.

Ён схіліў галаву.

— Хрыстос усё бачыць [redacted] нябёс — выгукнуў Стырланд,— і яшчэ ў гэтым жыцці ён шчодра ўзнагародзіць цябе, вялікі кароль. А зараз пойдзем у трапезную, каб разам пакаштаваць хлеба, што паслала неба, разам апусціць руку ў сольніцу.

Назаўтра на рысталішчы ў гонар кунігаса вендэнскія рыцары правялі турнір. Каб уразіць літоўцаў, біліся баявой зброяй да першай крыві. Рэзка звінела жалеза, храплі коні. Светлавалосы юнак-герольд натхнёна трубіў у срэбны рог.

Міндоўг любіў добрую зброю, любіў хвацкае рукапашша і не адрываючыся назіраў за паядынкам. У асабліва гарачых момантах ён сціскаў кулакі, стукаў адзін аб адзін, кусаў губы. Нарэшце не вытрымаў, усхвалявана сказаў Стырланду:

— Хачу свайго байца выставіць.

— Як вялікі кароль пажадае,— пачціва ўсміхнуўся магістр і махнуў пальчаткай, каб рыцары спынілі коней і апусцілі мячы.

Міндоўг, узбуджана дыхаючы, азірнуўся наўкол. Праваруч ад яго сядзеў Казлейка, шчуплы і белатвары. Усе ўбачылі, як раптоўна чырвань пакрыла Казлейкавы шчокі, быццам нехта неасцярожна разліў віно. Міндоўг сярдзіта хмыкнуў, тыцнуў пальцам у грудзі Лінгевіну, што, не міргаючы, пазіраў на кунігаса:

— Ты!

Вернападданы Лінгевін адразу ж апрануў баявыя даспехі, узяў шчыт, кап'ё і сякеру, ускочыў на каня, што падвялі ордэнскія пахолкі*. Звонка затрубіў герольдаў рог, і перапынены турнір усчаўся [redacted] новай сілай. Біліся групамі — тройка рыцараў на тройку. Міндоўг, ды і ўсе астатнія, глядзелі толькі на Лінгевіна. Як пакажа сябе гэты пушчанскі мядзведзь у сутычцы з праслаўленымі еўрапейскімі рыцарамі? Магістр Андрэй Стырланд,

---

* Пахолак — слуга, ландскнехт.

седзячы побач з кунігасам, суха ўсміхаўся. Ён быў упэўнены, што любы баец з Літвы і Самагіціі* доўга не ўтрымаецца ў сядле, сустрэўшыся на рысталішчы лоб у лоб з лівонскім байцом. Літоўцы і жамойты перамагаюць таму, што нападаюць велізарнымі масамі і што апошнім часам у саюзе з імі выступаюць новагараджане, услонімцы і ваўкавыйсцы, вядомыя цвёрдасцю сваёй пяхоты і сваімі цудоўнымі лучнікамі.

— Андрых, я выб'ю літоўца з сядла, як курапатку! — падняўшы забрала, крыкнуў магістру ягоны любімчык граф Інгрыд. Нядаўна графа былі захапілі ў палон жамойты і добра-ткі падсмажылі на вогнішчы, пакуль ўдалося яго адбіць. Паміж сабою рыцары і асабліва ландскнехты завуць графа Інгрыда Печаная Шчака. Магістр весела ўсміхнуўся Інгрыду, перахрысціў яго.

Міндоўг бачыў перад сабой толькі Лінгевіна. Здавалася, уся Літва з Новагародкам, уся Яцвягія і Жамойць сабраліся зараз у чалавеку, імя якога было Лінгевін. «Стань тысячарукім і тысячавокім!» — крычала ўсё ў душы ў кунігаса.

Андрэй Стырланд вельмі тонка адчуваў хваляванне кунігаса. «Гэты чалавек народжаны так, што любіць ставіць на карту ўсё да апошняй ніткі,— думаў магістр. Яму ўспомнілася, як незадоўга перад гэтым днём прыязджалі Міндоўгавы паслы з надзвычай каштоўнымі дарункамі. Тады ж перадалі яны вусна просьбу кунігаса: «Калі заб'еш або выганіш з усіх вакольных земляў Таўцівіла, атрымаеш яшчэ больш».

Між тым Лінгевін біўся зусім няблага. Можна было падумаць, што гэта лівонскі рыцар — так умела закрываўся ён шчытом, так спрытна манеўраваў канём, то паслабляючы, то нацягваючы повад. Нарэшце, на здзіўленне ўсіх лівонцаў і ў першую чаргу магістра, граф Інгрыд атрымаў магутнейшы ўдар сякерай, захістаўся ў сядле і ўпаў на свежаўскапаны пясок рысталішча. «Бедны Інгрыд,— аж скалатнуўся магістр.— Гэты варвар, пэўна ж, раструшчыў яму галаву, як арэх». Усе гледачы як знямелі. Пахолкі хуценька выбеглі на арэну, за рукі і ногі панеслі Інгрыда. Печаная Шчака цяжка стагнаў.

— Лінгевін! — закрычаў, радасна залямантаваў Міндоўг, у адзін скок апынуўся перад сваім баярынам,

---

* Самагіція — Жамойць.

ссадзіў яго з каня і прылюдна пачаў цалаваць.

Некаторым рыцарам гэта страшэнна не спадабалася. Яны скрыпелі зубамі, выхоплівалі мячы. Адусюль толькі і чулася:

— Паршывыя паганцы!

— Змыем [redacted] пяску рыцарскую кроў іхняй крывёю!

— Магістр, дазволь!

Але Андрэй Стырланд узняўся на ўвесь свой высачэзны рост, рэзкім уладарным голасам прыпыніў шум, абвясціў:

— Перамог рыцар Лінгевін з Варуты!

І тут Лінгевін, пэўна, падвучаны Міндоўгам, падбег да Стырланда, пляснуўся перад ім на калені, сказаў:

— Вялікі магістр, я чэсна біўся супраць твайго рыцара і, як бачыш, адолеў яго. З тваіх рук я павінен атрымаць прыз. Мне не трэба ні срэбра, ні золата, ні баявы конь і ні заморскі меч. Аддай мне маіх братоў, нікчэмных здраднікаў Тушэ, Мілгерына і Гінгейку. Я ведаю, што вы, немцы,— магутны і высакародны народ, і вы таксама плюяце на здраднікаў і ненавідзіце іх. Аддай маіх братоў, і я, як самы старэйшы ў родзе, вырашу, што [redacted] імі трэба зрабіць. Вунь яны сядзяць.

Лінгевін рукой, якая моцна сціскала сякеру, тыцнуў у той бок, дзе, схаваўшыся за спінамі лівонцаў, перасталі дыхаць, калаціліся ад страху ягоныя браты.

— Аддай, магістр, перабежчыкаў,— папрасіў і Міндоўг.— Калі хто [redacted] тваіх людзей здрадзіць табе і будзе шукаць прытулак у маіх землях, я адразу прышлю яго назад. Аддай.

Над рысталішчам цяжкім каменем навісла цішыня. Зрушыць гэты камень адным сваім словам мог толькі лівонскі магістр. Ён разумеў усю адказнасць і доўга маўчаў. Нарэшце вымавіў, як сыгнэтам* прыпячатаў:

— Жывых людзей я не аддаю за прыз. Прынясіце яму рыцарскі даспех, які зрабілі саксонскія кавалі.

На змярканні таго ж дня Андрэй Стырланд, застаўшыся з кунігасам вока на вока ў трапезнай, сказаў цвёрдым голасам:

— Пакуль не прымеш агульную веру хрысціянскую, не [redacted] Канстанцінопаля веру, а з Рыма, пакуль не пашлеш рымскаму папе паднашэнні і не выкажаш паслушэнства, з намі міру ніколі не будзеш мець і не будзеш мець пасмяротнага выратавання. Асвяці хрышчэннем

---

* Сыгнэт — пярсцёнак з пячаткай.

тое золата, якім ты асляпіў вочы Ордэну і мне, і нашы мячы адразу стануць саюзнікамі.

— Я зразумеў цябе, магістр,— пільна глянуў на яго Міндоўг.— Заўтра ж пасол мой Парнус едзе ў Рым.

На тым і дамовіліся. Узрадаваны Стырланд падараваў кунігасу пакрыты прыгожым узорам рыцарскі даспех. Такія ж даспехі, толькі маленькія, дзіцячыя, урачыста ўручылі малалетнім Руклюсу і Рупінасу. Нават маленькія жалезныя мячы начапілі кунігасавым сынам на пояс. Гэта вельмі ўсцешыла Міндоўга. Ён кранаў пальцам лязо мячоў, прыцмокваў языком. І ў вялікім узрушэнні пакінуў Стырланду ўвесь свой харчовы абоз. А былі ў тым абозе бочкі з прэсным мёдам, мяса некалькі дзесяткаў полцей*, сала, сыры, масла ў трох кадоўбцах, дзве бочкі маку, мноства вянкоў цыбулі і часнаку.

Радасна вяртаўся кунігас дадому па лясной глушэчы. Ад свежага ветру, што бушаваў у наваколлі, ад адчування сваёй удачы было чыста і лёгка на душы. Магістр Андрэй Стырланд, а следам за ім і рыжскі епіскап Мікалай з лютых ворагаў зробяцца вернымі саюзнікамі. Хіба гэтага мала для шчасця? Рухне сцяна, што акружала дзяржаву. З яцвягамі ён справіцца, а галіцкага князя Данілу можна ўлесціць, уціхамірыць, аддаўшы за ягонага сына Шварна Рамуне.

— Дайну! — закрычаў Міндоўг.— Запявайце дайну!

І калі загучала дайна, калі ўзляцела пад самыя воблакі, сказаў з зіхоткім бляскам у чорна-зялёных вачах:

— У злых людзей няма песень.

Ён надзеў падарунак Стырланда, прыгожы даспех, горда ехаў на кані. Промні сонца аж гарэлі на бліскучых наборных пласцінах. І раптам зашыпела страла, сярдзіта клюнула ў спіну. Кунігас потырч носам кульнуўся на зямлю. Гразёю з-пад конскіх капытоў пырснула ў твар. Ён варухнуў плячыма і, калі пераканаўся, што смертаноснае жалеза не ўпілося ў ягоную плоць, цёплым полымем шуганула ўнутры, затапіла сэрца радасць: «Я жывы. Лівонскі панцыр выратаваў мяне». І адразу ж Міндоўг ускочыў на ногі, выхапіў меч, рэзка развярнуўся, крыкнуў страшным голасам:

---

* Полць — палавіна тушы.

— Хто?!

Казлейка паказаў на драбнацелага светлавалосага юнака, пэўна, фурмана, што стаяў ля бліжняй фурманкі, разгублена-спустошана ўсміхаючыся, апусціўшы лук. Яго ўжо вязалі вяроўкамі, ломячы рукі.

— Ты?! — падбег да юнака Міндоўг.— За што?! За што хацеў забіць мяне, забіць свайго кунігаса?!

— За парушаную веру,— ціха адказаў той, і густы смяротны пот заліў твар. Здавалася, вечаровая раса легла на чалавека.

Міндоўг страшнымі ўдарамі разваліў яго на крывавае ашмоцце, пачаў таптаць, ледзьве супакоіўся. Цяжка дыхаючы, сеў проста на зямлю, абхапіў лоб рукамі і як акамянеў. Потым, калі зноў паехалі, калі змрок апусціў чорнае крылле на зямлю, плакаў нікому не бачнымі суровымі слязамі. Казлейка ж загадаў сваім людзям узяць галаву засечанага фурмана. На яе надзелі высушаную авечую морду-лічыну і павезлі ў Варуту. Там па гэтай мёртвай галаве няўтомны Казлейка вылавіць усіх блізкіх і далёкіх родзічаў таго, хто асмеліўся ўзняць дзясніцу на кунігаса.

Самая вялікая нечаканасць напаткала Міндоўга ў Новагародку. Войшалк разам з мясцовымі баярамі і купцамі зачыніў перад кунігасам браму. Калі Міндоўгу сказалі пра такое, ён спачатку не паверыў.

— Новагараджане не хочуць пускаць мяне ў горад? — разгублена спытаў у Казлейкі.

Потым ускочыў на каня, пад'ехаў да акутай жалезам брамы, уладна і грозна крыкнуў:

— Я — Міндоўг! Дзе князь Войшалк Новагародскі?

Ніхто не адказаў. Чуліся глухія ўдары аб камень, скрыгат і ляск — новагараджане будавалі абарончую вежу. Рабілі хутка, спешна, быццам апошні дзень у бога бралі.

У кунігаса раптоўным болем набракла левая рука. Ён, зморшчыўшыся, пацёр яе, загадаў трубіць у трубы. Ды зверху крыкнулі рашуча і злосна:

— Трасцу табе!

І адразу ж паляцелі стрэлы. Кунігас аж задыхнуўся ад гневу. У шаленстве накіраваў каня проста на браму, але перад конскімі капытамі гопнуўся, плёхнуўся ў гразь пудовы камень. Давялося паварочваць назад.

«І гэта мой сын,— з пякучай нянавісцю думаў Міндоўг пра Войшалка,— мая кроў. Я, кунігас, цёвас*,

---

* **Цёвас** *(літоўск.)* — бацька.

нібы апошні жабрак, стаю каля брамы, і ў мяне шпурляюць каменнем».

Ён, як смяротна паранены, азірнуўся, быццам шукаючы апірышча. Хмарыста ляжаў навокал небасхіл. Вецер бег у лясы. Побач Казлейка сумленна моршчыў лоб і аддана глядзеў на кунігаса. «Вось хто не здрадзіць і не прадасць»,— з палёгкай падумалася Міндоўгу.

— У Варуту! — крыкнуў ён і з усяе сілы шлегануў каня.

Ужо ў сваім нумасе, супакоіўшыся, Міндоўг задумаўся над тым, як пакараць Войшалка і навагараджан. І чым больш ён думаў, тым усё глыбей пераконваўся, што немагчыма нічога зрабіць. Сілаю не возьмеш, бо Навагародак як тая скала — і сцены ў яго магутныя, і воі шматлікія, у крывавых сечах загартаваныя, і баярства з купецтвам маюць вялікае срэбра. Зноў жа, смерды-русіны спрадвеку працавітыя, і зямля ў іх родзіць шчодра. Адным словам, ёсць у Навагародку жалеза, ёсць срэбра і ёсць хлеб. Хто-хто, а навагараджане памятаюць, што пусцілі калісьці ў свой горад кунігаса з дружынай, калі яго выгналі [illegible] Літвы, як ваяводу-прыхадня, узяўшы клятву вернасці. Набраў з таго часу Міндоўг вялікую моц, але мацней Навагародка ўсё роўна не зрабіўся. І вось цяпер, дазнаўшыся, што кунігас перакідваецца ў каталіцтва, Навагародак зачыніў перад ягоным носам браму. Гэта ўсё Войшалк са сваёй праваслаўнай вераю! Дала ўсё-ткі плод патаемная малітоўня ў Варуце, і не салодкі плод, а горкі. Хутчэй бы ён ужо прыняў габіт чарнечы*. Перадаюць жа віжывыведнікі, што на Войшалка, якога Навагародак узяў сабе за князя, находзіць часамі нейкі сум, нейкі стогн слёзны, і збіраецца князь, як просты паломнік, пайсці ў Афон на Святую гару. Гэтага Міндоўг ніяк не мог зразумець. Кінуць князёўства-гаспадарства, каб зрабіцца манахам? Аддаць у чужыя рукі прыдбанае сваёй крывёю?

Вырашыў кунігас параіцца аб усім гэтым з Сівертам. Святар пакланіўся Міндоўгу, вычакальна паглядзеў на яго.

— Ці не крыўдзяць цябе ў Варуце? — спытаў Міндоўг.

---

* Прыняць габіт чарнечы — пастрыгчыся ў манахі.

— Я жыву ў тваім горадзе, вялікі кароль, як у божым садзе,— адказаў манах.

— Не хлусіш? — прыжмурыўся Міндоўг.

— Клянуся залацістымі валасамі дзевы Марыі.

Адказ спадабаўся кунігасу. Разумеў ён, што хітруе лівонскі святар, што клятва ягоная нейкая не надта моцная, бо хрысціяне клянуцца святым крыжам, але ўсцешыла вуха і душу тая лёгкасць і дасціпнасць, ■ якімі пакляўся дамініканец.

— А чаму ты стаў манахам?

На гэта пытанне Сіверт палка і доўга казаў аб тым, як раскінуў між людзей чорную павуціну д'ябал, пажыральнік чалавечых душ, як трэба няспынна змагацца супраць яго, каб здабыць сабе вечнае нябеснае жыццё, бо ■ гэтага свету, з зямлі, час прыбярэ ўсіх. Страсна казаў, што ненавідзіць сваё цела, сваю грахоўную плоць. Задумаешся пра бога, пра сонм святых пакутнікаў, і раптам — вурчыць у жываце. Так бы і разадраў сабе кіпцямі жывот.

Пасля такой размовы Міндоўг ніяк не мог заснуць. Ляжаў ■ расплюшчанымі вачамі ў нумасе, слухаў трапятлівае дыханне ночы, успамінаў далёкае ўжо маленства сваіх сыноў. Як верылі яны яму тады, як любілі яго! Кожнае бацькава слова ■ найвялікшай пашанай клалі ў душу, нібы срэбную грыўню ў куфэрак-капілку. «Заставаліся б яны маленькія»,— неаднойчы думаў ён. Але выраслі Руклюс з Рупінасам, а Войшалк даўно ўжо муж, кунігас. Пасталелі, узмужнелі сыны, толькі няма радасці яму, бацьку. Калі з меншымі яшчэ можна на нешта спадзявацца, бо няспелыя пакуль што іхнія душы, дык Войшалк зусім чужы. Не скажаш яму: «Кроч, сын, па маіх слядах». Сваю дарогу, сваю галаву і вочы мае. Ворагам робіцца старэйшы сын. І гэта ягонае жаданне ісці ў абіцель, стаць манахам не такое бяскрыўднае і бязглуздае, як думалася раней. Сіверт, лівонская мудрая ліса, бачыць у такім жаданні прагу Войшалка да адзінаўладства ў Навагародку і Літве.

Чорная дзікая ноч глядзела з усіх куткоў на Міндоўга, а ён, узъюшваючы, распальваючы сам сябе, усё думаў пра Войшалка. Да ўлады рвецца першынец. Хоча ўладу царкоўную і ўладу свецкую зграбці ў адзін кулак, як рымскі папа, як сарацынскі халіф. Хоча, каб усе лічылі яго праведнікам. Бачыў такіх праведнікаў кунігас. У лясным манастыры прычынялі яны сабе самыя розныя пакуты: марылі плоць голадам, пера-

цягвалі з месца на месца велізарныя камяні, аддавалі сваё цела на кармленне камарам і машкары. І хваліліся, што манастыр іхні як мора — яно не трымае ў сваіх берагах гніль, выкідвае яе прэч. А самі падслухоўвалі размовы ў суседніх келлях, прыціскаючы да сцен талеркі з белай рамейскай гліны, а да талерак — свае вушы.

Так і не надумаў кунігас, як расквітацца за апляву-ху, што атрымаў ад Новагародка. Ісці вайною не выпадала. Жамойты, яцвягі, полаўцы з галічанамі зноў наступалі на дзяржаву з усіх бакоў. Ніхто не зважаў, што кунігас згадзіўся прыняць каталіцтва і што паехалі да папы ягоныя паслы. Не хацелі чуць і пра тое, што рыжскія золатакавалі ўжо робяць каралеўскую карону для Міндоўга. Пры такіх варунках нельга было сварыцца з гордымі новагараджанамі. Наадварот — трэба было як мага хутчэй падаць руку прымірэння, забыўшы ўсе свае крыўды. І хоць было гэта для кунігаса тое самае, што весела ўсміхацца пры вострым зубным болі, ён першы пайшоў на такое. Спачатку вырашыў пасланць у Новагародак Сіверта. Дамініканец на гэты час ужо стаў духоўнікам княгіні Марты, і тая не магла ім нахваліцца.

Сіверт з вялікай ахвотаю згадзіўся. Ён ужо не адчуваў сябе палоннікам. Па-першае, кунігас з'ездзіўшы ў Лівонію, зрабіўся слугой Рыма, па-другое, нечуванымі шчадротамі асыпала манаха Марта. «Я — крылатае хрысціянскае семя,— натхнёна думаў Сіверт.— Вецер лёсу, якім кіруе гасподзь, занёс мяне ў гэту пустку, у гэты дзікі край. Тут неўзабаве расквітнее дзівосны сад Хрыстовай веры».

З сабой дамініканец узяў Морыца і дзесяць літоўскіх вершнікаў. На плечы ў іх былі накінуты касматыя звярыныя шкуры. Гэта вельмі ўсцешвала манаха. Ён здаваўся сам сабе пракам-правідцам, які выводзіць сляпыя душы з багны, з цемры на божае святло.

Пры выездзе з Варуты напаткалі атрад лівонскіх рыцараў. Магістр Андрэй Стырланд слаў дапамогу Міндоўгу. І хоць атрад быў нешматлікі, а рыцары і ландскнехты вельмі змораныя, душа ў Сіверта напоўнілася звонкай радасцю.

— Дзеці мае,— усхвалявана ўсклікнуў ён,— вас накіраваў сюды сам Хрыстос!

Рыцары здзівіліся, убачыўшы ў літоўскай глушэчы свайго земляка. Іхні важак, рудавалосы саксонскі граф

Уда, схіліў перад манахам калена, клапатліва спытаў, як апынуўся тут святы айцец і ці не крыўдзяць яго тубыльцы. Сіверт з ахвотаю, бо адчуваў голад па роднаму слову, расказаў пра сябе, пра свой палон, не ўпомніўшы, аднак, колішняе сяброўства з імператарам Фрыдрыхам II Гогенштаўфенам. Са светлымі слязамі на вачах прасіў ён рыцараў і ландскнехтаў быць вернымі апостальскаму прастолу, не шкадаваць сіл і жыцця ў барацьбе супраць д'ябла. Хто ж адступіцца, здрадзіць, будзе галодны ў пякельнай пустыні сваю кроў са свайго цела смактаць.

— Памром за папу! — крычалі рыцары і грукалі аб шчыты мячамі.

— За папу і за караля Міндоўга,— удакладніў Сіверт.— Гэты хрысталюбівы неафіт зрабіўся нашым верным саюзнікам.

— Памром за Міндоўга! — рашуча крыкнулі рыцары.

Граф Уда, дазнаўшыся, што манах едзе ў Навагародак, адразу ж выдзеліў для ягонай аховы частку свайго атрада, бо літоўскія вершнікі ў звярыных шкурах не спадабаліся яму. Хіба можа звярыная лясная поўсць сапернічаць з жалезам?

Сіверт узрадаваўся дапамозе. Як ні лунала ягоная душа ў захмар'і, целам ён пакуль што знаходзіўся на зямлі і добра ведаў аб мностве няшчасцяў, якія чакаюць на кожным кроку тленную плоць.

— Будзе вам адпушчэнне ўсіх грахоў,— прачула сказаў ён рыцарам.

Але ў Навагародак ні лівонцаў, ні літоўцаў не пусцілі. Толькі аднаму манаху з ягоным служкам Морыцам дазволілі ўвайсці ў вакольны горад. Пра тое ж, каб ім трапіць на дзядзінец, не было пакуль што і гаворкі.

— Князь Войшалк Міндоўгавіч у ад'ездзе,— растлумачылі Сіверту, хоць дамініканец дакладна ведаў, што той у Навагародку. «Гэты праваслаўны фанатык не хоча са мной размаўляць,— адзначыў сам сабе манах.— Ды нічога — я пачакаю. Крэпасці бяруць не толькі сілай, але і цярпеннем».

З надзвычайнай цікавасцю прыглядваўся Сіверт да навагараджан. У большасці сваёй гэта быў рослы, шэравокі і сінявокі народ. Валасы мелі колеру варонінага крыла і белага лёну. На сваіх палетках сеялі жыта і полбу, пшаніцу з ломкім коласам. Манах каштаваў

іхні хлеб — боханы і каравai. Хлеб яму вельмі спадабаўся. Адчувалася, што ён дае сілу. Вырошчвалі новагараджане акрамя хлеба чачавіцу, боб, капусту, моркву, кроп, цыбулю, часнок, каноплі. За гарадскім валам пасвіліся велізарныя конскія табуны, якія належалі князю і баярам. Адразу ж выведаў Сіверт, што мясцовыя хрысціяне са стараннем і руплівасцю ходзяць у царкву, але гэта ніколькі не перашкаджае ім маліцца на сваіх сядзібах богу жывёлін Вялесу.

Пасялілі Сіверта з Морыцам у прытворы* храма Барыса і Глеба. Перад гэтым меў гутарку з дамініканцам новагародскі іерэй Анісім. «Хітры чалавек з халоднымі вачамі»,— падумаў пра яго Сіверт.

— Як толькі вернецца князь Войшалк, будзеце жыць у княжым цераме на дзядзінцы,— паабяцаў Анісім і пачаў выпытваць пра Рым і Рыгу, пра замірэнне Міндоўга з лівонцамі. Сіверт падрабязна расказваў аб усім, а сам пільным вокам слізгаў па багатым убранстве рызніцы, па срэбры і золаце, па прыгожа аздобленых вокладках кніг Ветхага і Новага запавету.

Уважліва выслухаўшы Сіверта, Анісім уздыхнуў:

— У цяжкай рабоце праходзіць чалавечае зямное жыццё.

На што дамініканец, строга звёўшы бровы, прамовіў:

— Яшчэ апостал Павел сказаў: «Хто не робіць, той не есць».

Дні тры ці чатыры, якія Сіверт з Морыцам жылі ў царкоўным прытворы, амаль поўнасцю пайшлі на тое, каб выведаць усё магчымае пра Войшалка. Асабліва цікавілі дамініканца тыя сілы, што ўзвялі Міндоўгавага сына на новагародскі сталец. Вось што ўдалося яму выпытаць. Міндоўг ніколі не заваёўваў Новагародак, а быў, калі выгналі яго з Літвы, падручным князем у мясцовага баярства і купецтва. Падпарадкаваўшы з дапамогаю новагараджан Літву,варуцкі кунігас адчуў сілу і захацеў стаць гаспадаром сваіх былых заступнікаў і абаронцаў. Для гэтага спачатку неабходна было скінуць тутэйшага князя Ізяслава Васількавіча, карэнні якога ішлі з роду менскіх Глебавічаў. Ды не Міндоўг нанёс паражку** Ізяславу. Узняліся супроць князя купецтва і частка баярства, якія самі хацелі «справавацца», хацелі, каб гандлёвы шлях з русінаў у немцы быў

---

* Прытвор — памяшканне перад уваходам у царкву.
** Паражка — паражэнне.

«чыст», «без рубяжа». Пэўна ж, бралі яны прыклад з Ноўгарада і Полацка, дзе галавой усяму веча. Хто такі там князь? Наёмнік, прыхадзень. Сёння яго ўслаўляюць, хваляць, а заўтра, калі што не так, выганяюць з дзядзінца і пасада. Князь са сваёй дружынаю служыць мужам-вечнікам за кармленне, бо сам бедны, як царкоўная мыш. Пра такіх кажуць: «На назе саф'ян рыпіць, а ў катле трасца кіпіць». Ізяслаў даведаўся аб учыненай супроць сябе змове, закаваў у жалезы зачыншчыкаў і жорстка пакараў іх. Браталюбамі, як сказалі Сіверту, называліся тыя людзі. Ды схапілі Ізяслава ў ягоным цераме, прымусілі ехаць у Свіслач. І самае дзіўнае ў гэтай справе тое, што змоўшчыкаў падтрымаў Ізяславаў сын княжыч Далібор-Глеб. Сын узняў руку на бацьку. Што ж, пра такое дамініканец ведаў. Там, дзе бушуе барацьба за ўладу, сціхае голас роднай крыві. І ў Рыме, і ў Ліёне было такое. Сыны садзілі бацькоў у жалезныя клеткі, знясільвалі голадам, гарачай смалой паілі, як той чорт у пекле. Дзівіла Сіверта іншае. Далібор, калі сагналі са стальца ягонага бацьку, мог сам стаць новагародскім князем, баяры і купцы аддавалі яму княжую шапку, але ён адмовіўся. Прычым адмовіўся на карысць Міндоўга, а потым Войшалка. Гэтага Сіверт не разумеў. Што за белая варона між чорных варон аб'явілася ў Новагародку? Ды за ўладу трэба чапляцца не толькі рукамі — зубамі. Жыццё на зямлі зменлівае. На пярсцёнку мудрэйшага цара Саламона было выразана: «І гэта пройдзе». Нязменная застаецца толькі прага ўлады. Будзь імператарам, каралём, князем да таго часу, пакуль не падпаляць твой дом, пакуль на хрыбце паршывай вадавознай кабылы не вывалакуць цябе, абсмяянага і апляванага, з горада. А гэты княжыч-новагараджанін добраахвотна аддаў уладу. «Не веру,— сказаў сам сабе Сіверт.— Ці бог узяў у яго розум, ці яго сілаю змусілі адысці ўбок, у цень». І адразу ж узнікла ў манаха вярэдлівае жаданне сустрэцца з ваўкавыйскім князем.

— Як мне пабачыць князя Глеба Ваўкавыйскага? — спытаў ён у Анісіма.

— Для гэтага трэба паехаць у Ваўкавыйск,— адказаў іерэй.— Але цяпер ты не праедзеш, лацінянін, бо зноў з вайною ідзе на нас князь Даніла Галіцкі з братам Васількам і з сынамі Шварнам і Раманам.

— Мне здаецца, што я трапіў на зямлю бясконцых войнаў,— уздыхнуў Сіверт.

Ён загадаў Морыцу варыць заечыну з бобам. Трэба было цярпліва чакаць той дзень, калі князь Войшалк пакліча на дзядзінец. У тым, што яго паклічуць, дамініканец не сумняваўся. Над Новагародскай зямлёю навісла бяда, і Войшалк, хоча ці не хоча, абавязкова пойдзе на замірэнне з куніґасам Міндоўгам. Ён, Сіверт, пасланец Міндоўга, і таму горды праваслаўны князь Новагародка вымушаны будзе даць яму аўдыенцыю. Чакаючы гэты шчаслівы час, манах са смакам еў заечыну і назіраў спешныя рыхтаванні новагараджан да нялёгкай вайны. З сем'ямі і жывёлаю збягаліся ў горад смерды. Дзень і ноч умацоўваўся вал. Дзень і ноч гарэлі на пасадзе вялікія дымныя вогнішчы. Адтуль чуўся грукат жалеза, конскае ржанне.

— Бяжым адсюль, святы айцец, у Варуту,— калоцячыся ад страху, папрасіў аднойчы Морыц.

«Паслаў жа мне бог палахлівага слугу»,— са скрухай падумаў Сіверт, а сам сказаў:

— Князь Даніла дагоніць нас і пад Варутай.

Такое прадбачанне дабіла Морыца. Твар пабраўся чырвонымі плямамі, ніжняя губа агідна затраслася. Манаху чамусьці падалося, што зараз Морыц укусіць яго.

— Пайшоў прэч,— строга і злосна загадаў ён.

Калі слуга знік, Сіверт сеў у крэсла, выцягнуў ногі і заплюшчыў вочы. Як брудная вясновая вада, скочвалася з душы стома, каб даць месца блакітнаму, нагрэтаму сонцам, струменю. Дзве зоркі заззялі ў змроку, і былі тыя зоркі філосафамі-прапаведнікамі Альбертам Вялікім і Фамой Аквінскім. Бачыліся спічастыя вокны храмаў, чырвона-сіня-жоўтыя вітражы, гранітныя гарэльефы, лес востраканцовых веж. Бачыўся Ланскі сабор, у якім калісьці так шчыра і натхнёна, праз слёзы, маліўся ён яшчэ юнаком. На шаснаццаці вежах стаіць там шаснаццаць быкоў. Калі ўзводзілі пад неба сабор, калі ў будаўнікоў выцеклі з пякучым салёным потам апошнія сілы, паявіўся аднекуль цудоўны белы бык і дапамог дабудаваць святы будынак. Вось чаму яго сабрацці ўзнесены пад самыя воблакі.

Час у маладосці быў гусцейшы, цвярдзейшы, даводзілася прабівацца праз дні, як праз каменныя сцены. Час хапаў за рукі, звабліва шаптаў на самае вуха: «Паглядзі, якая прыгожая белая шыйка схавана пад змрокам капюшона, якія агністыя чорныя вочы палаюць у зяленіве вінаградніку, паслухай, як пяшчот-

на спявае тамбурын у смуглых руках. Маленне і пост выдумалі старыя, высушаныя жыццём жанчыны. Зірні на гэтых агідніц з тоўстымі нагамі і жыватамі, з ручаямі маршчын на азызлых чырвоных тварах, з мясістымі барадаўкамі на шчоках і губах. Як яны моляцца, з якой страсцю цалуюць крыж і глядзяць на неба! А некалі ж, чарнавалосыя і чарнавокія, тонкія, як сцяблінкі, з шаўковай пяшчотнай скураю, млелі яны ў абдымках маладых прыгожых рыцараў, пілі пацалункі і віно. Некалі з кветкамі ў пышных прычосках, лянівыя і п'янаватыя, раскошна ляжалі яны ў беламармуровых лазнях, а цемнаскурыя рабы-прыгажуны, сціпла апусціўшы гарачыя вочы, расціралі іх наймякчэйшымі ручнікамі, абпырсквалі духмянымі пахкімі сокамі, абвявалі апахаламі з яркіх птушыных пёраў. Але знясілела, разбурылася плоць, і адразу яны ўспомнілі пра душу, пра Хрыста і ягоную нябесную дзяржаву. Зараз яны аб'яўляюць святатацтвам, смяротным грэхам нават самы сціплы пацалунак. Хрысціянства — рэлігія старых брыдкіх жанчын, якія калісьці былі няўтрымнымі распусніцамі».

Вядома ж, у юначыя гады такое мог нашэптваць на вуха толькі спакуснік-д'ябал. Нездарма Фама Аквінскі ў сваёй тэалогіі адводзіў яму, вярхоўніку дэманскага каралеўства, асобае месца, бо д'ябал валодаў сілаю псаваць надвор'е, чыніць людзям усялякае зло, перашкаджаць тым, што жывуць у шлюбе, выконваць іхнія сямейныя абавязкі. Фама казаў, што памылкова і нават злачынна адмаўляць веру ва ўсёмагутнасць д'ябла. Вера ў д'ябла такая ж свяшчэнная, як і ўсё, чаму навучае каталіцкая царква. Тады, адганяючы прэч агіднае шаптанне, юны Сіверт да поўнай знямогі чытаў малітвы, стаяў на каленях і адбіваў паклоны, пакуль не з'яўлялася перад ім Багародзіца, нібы куст чырвоных ружаў у залатым паўзмроку.

Час у маладосці быў, вядома, гусцейшы. Цяперашні час, як спакойнае халоднае неба з дужа рэдкімі воблакамі. Хапае месца крылу, ляці куды хочаш, але крыло слабое, няўпэўненае, баіцца далёкай цвёрдай зямлі, і толькі вера ў Хрыста трымае ў паветры.

Без дазволу ўбег Морыц. Выгукнуў спалохана і радасна:

— Святы айцец, цябе кліча на дзядзінец кароль Войшалк.

— Нарэшце,— рэзка, аж зашумела доўгая чорная

сутана, узняўся Сіверт. Ён узяў у рукі святую кніжыцу, апусціў, як і належыць, вочы і нетаропка пайшоў у княжы церам.

— А што мне рабіць? — залямантаваў ззаду Морыц.

— Ідзі за мной,— не азіраючыся, сказаў манах.

Войшалк спадабаўся Сіверту і адначасова напалохаў яго. Меў мудры дамініканец вока на людзей, дадзена яму было з першага позірку вызначаць, чым напоўнена душа чалавечая. Калісьці ў навальнічных летніх лясах, у густых ляшчынніках між мноства буйных падружоўленых гарачым сонцам арэхаў ён, яшчэ хлапчук, беспамылкова знаходзіў арэхі з прапалінкаю ад маланкі. Не возьме ў пальцы, а ўжо ведае: гэта гнілюк. І амаль не памыляўся. Людзей ён вымяраў прагаю ўлады, прагаю распусты і жорсткасці. Кожны рыцар, кожны мужчына, калі ён толькі не змярцвелы еўнух, нястомна дамагаецца плоцкай уцехі, жаночага кахання, а значыць, і ўлады, бо самы нікчэмны з мужчын пачувае сябе, абдымаючы паслухмяную каханку, уладаром. Рабства, як лічыў Сіверт, пачалося з таго самага часу, калі Ева, уздыхнуўшы, згадзілася аддацца Адаму.

Цвёрдасць адчуў і ўбачыў у навагародскім князю манах. Гэты, калі трэба, не збаіцца крыві. А напалохала тое, што не змог адразу ж, як прывык, ухапіць глыбінную сутнасць ягонай душы. Як бы з мноства сотаў, напоўненых і салодкім, і горкім мёдам, складалася яго душа.

Войшалк сядзеў на княскім троне — вялікім, аздобленым залатымі і срэбнымі пласцінамі, крэсле. На сцяне над ім з кавалачкаў смальты, з бліскучага дроту, з птушыных пёраў і звярыных шкур быў прыгожа выштукаваны кляйнот* Навагародска-Літоўскай дзяржавы — збройны муж на белым кані ў чырвоным полі аголены меч над галавой уздымаў.

Па правую руку ад Войшалка на дубовай лаве сядзеў князь Далібор-Глеб Ваўкавыйскі. Сіверт адразу ўпіўся ў князя вачамі. «Вось той, што ад вялікай улады адмовіўся,— падумаў манах.— Здаровым целам узнагародзіў яго бог і трапятлівай душою, але ён, бачу я, няшчасны».

Новагародскія баяры, маўклівыя і суровыя, сядзелі ўздоўж сцяны. Між чорных і шэра-сініх барод дзве ці тры былі рыжыя, як чырвоны агонь.

---

* Кляйнот — герб.

— З чым прыйшоў, лацінянін? — гучна спытаў Войшалк.

— Князь Войшалк, сын Міндоўга,— смела адказаў Сіверт,— прыйшоў я з Варуты ад твайго бацькі, вялікага кунігаса, каб пацвердзіць, што ўзяў ён са сваімі баярамі хрысціянскую веру з Рыма, з рук папы Інакенція IV. Ужо вязуць людзі папы каралеўскую карону ў Літву.

— Ну й што? — нахмурыў бровы Войшалк.

— У вялікім гневе быў кунігас, што зачыніў ты перад ім вароты Новагародка, не пусціў нават рук абагрэць. Хацеў загадаць скапаць твой вал, але злітаваўся. І паслаў мяне да цябе. Я — манах ордэна святога Дамініка Сіверт.

— Навошта ж паслаў цябе кунігас? — яшчэ больш нахмурыўся Войшалк.

— Вялікі кунігас перадае табе словы міру і бацькавай ласкі.

Пачуўшы такое, новагародскія баяры скінулі з твараў суровасць, зашумелі, загаманілі. Паяснелі вочы і ў Войшалка з Даліборам. Яны пераглянуліся між сабою, і Сіверт зразумеў, што новагародскі і ваўкавыйскі князі не адзін пуд солі з'елі разам і, пэўна ж, сябруюць па сённяшні дзень. Гэту акалічнасць варта запомніць на будучае.

— Міндоўг зрабіўся саюзнікам Лівонскаму ордэну,— казаў далей манах,— і магістр Андрэй Стырланд прыслаў на дапамогу Варуце рыцарскі атрад.

— Лівонцы ў Варуце? — паблядне́ў Войшалк.

— Так,— лагодна ўсміхнуўся дамініканец.— Калі я ехаў да цябе, граф Уда прымаў хлеб-соль ад жыхароў Варуты.

Ён раптам прыкусіў язык, бо адчуў, што сказаў не тое, што чакалі, і не так.

— Жэрнасы ідуць па нашай зямлі! — крыкнуў князь Глеб Ваўкавыйскі. Вочы блішчалі вялікім гневам. Ён усхапіўся са свайго месца, падбег да Сіверта, быццам хацеў ударыць яго. Баяры і князь Войшалк таксама былі вельмі незадаволеныя.

«Чым я ўгнявіў іх? — разгублена думаў манах.— На гэтай зямлі, між гэтых людзей заўсёды трэба быць вельмі абачлівым. Адно і тое ж слова мае тут падчас зусім іншае значэнне і вагу. Але зараз неабходна маўчаць, бо могуць зняць галаву, калі толькі паспрабуеш уткнуць свой голас. Агідныя дваяверцы! Прынялі

хрысціянства, а ў зацішных кутках моляцца Перуну».

— Каб ты катніх рук не мінуў! — крычаў між тым Сіверту дужа раззлаваны рудабароды баярын маленькага росту.

Ён упрытык падышоў да манаха, з нянавісцю пазіраў на яго знізу ўверх.

Але большасць баяр было ў міралюбным настроі. Не выпадала ім сварыцца з лівонцамі, бо ішлі пад сцены Новагародка ворагі, і можа, у гэты самы час ужо гарэлі, руйнаваліся іхнія вотчыны і дзедзіны.

— Кожны чорт на сваё кола ваду цягне,— сказаў баярын Белакур, землі і сядзіба ў якога былі над ракой Шчараю.— Трэба нам, князь Войшалк, узнімаць дружыну, узнімаць апалчэнне мужоў, новагараджан, слаць ганцоў да кунігаса Міндоўга і разам з ім бараніць дзяржаву.

І ўсё ж Сіверта кінулі ў цямніцу. Як ні адбіваўся манах, не дапамагло. Схапілі за каршэнь і пацягнулі ў падзямелле. Пракляў ён той дзень, калі надумаў ехаць з Рыма ў Прусію і Лівонію, а адтуль напрасіўся ў атрад Марціна Голіна. Ззаду енчыў, бегучы за сваім гаспадаром, Морыц. Яго адганялі, лупцавалі дрэўкамі коп'яў. «Прападзе без мяне, дурань,— падумаў Сіверт,— але што зробіш? Для пераможаных няма сонца».

— Морыц! — крыкнуў ён.— Ідзі да караля Войшалка і скажы, каб цябе адвезлі ў Варуту!

— Святы ойча, я хачу з табой у цямніцу! — верашчаў, нібы яго рэзалі, Морыц.

— У цямніцы яшчэ паспееш насядзецца,— лагодна сказаў новагародскі дружыннік, а калі Морыц зноў заверашчаў, даў яму поўху.

Сіверт бачыў усё гэта і, як чалавек набожны і мудры, адразу змоўк. Яму ўспомнілася, што пры двары візантыйскіх парфіраносных імператараў звычайна катуюць, дапытваюць вінаватых і невінаватых еўнухі. Імператар сядзіць сабе на троне, а ля падножжа трона раздзіраюць аголеную чалавечую плоць бізуны, у канцы якіх уплецены кавалкі свінцу. Аж сапуць лютыя еўнухі, пырскае на золата і на мармур кроў, але той, каго катуюць, маўчыць — нельга гаварыць, тым больш крычаць у прысутнасці імператара.

Думаючы пра ўсё гэта, дамініканец апынуўся ў цёмным падземным паграбе, сцены якога былі выкладзены халоднымі шурпатымі камянямі. Заскрыгатаў ключ у замку, нешта сказаў ахоўнік ахоўніку, яны

засмяяліся і, гучна тупаючы, пайшлі туды, дзе сінела неба і зззяла сонца. Сіверт застаўся адзін.

— Устаў я перад табой, Хрыстос, як свечка перад іконай,— панылым голасам сказаў манах.— Выратуй мяне. Не дай, каб макрыцы і павукі пасяліліся на маёй галаве.

Ен пашукаў вачамі, дзе б прымасціцца ў гэтай чортавай кішэні, і раптам убачыў, што не адзін у падзямеллі. Каля супрацьлеглай сцяны на падлозе сядзеў ці ляжаў нейкі чалавек. Было вельмі цёмна, толькі праз шчыліну над дзвярыма прабіваўся кволы пучок святла, і нельга было разглядзець твар суседа па няшчасцю. А можа, незнаёмец спаў, схаваўшы галаву, як робіць гэта лясная птушка, уточваючы галаву пад крыло.

— Хто там? — ціха спытаў Сіверт.

Ні гуку не было ў адказ. Ці той каля сцяны не чуў, ці не хацеў гаварыць. Дамініканец раптам падумаў, што і не можа быць адказу, бо пытанне само сабою вырвалася ў яго на нямецкай мове. Тады ён запытаў па-русінску.

— Чалавек,— прагучала ў паўзмроку. І столькі спустошанасці і бяссілля было ў гэтым адзіным слове, што Сіверт уздрыгнуў. Няўжо і ён праз нейкі час будзе такі? «Усё ва ўладзе божай,— адразу ж падумаў ён.— Я, калі паразважаць, яшчэ шчаслівец. Людзей аскапляюць, асляпляюць, садзяць на ланцуг па шыю ў ледзяной вадзе».

Манах укленчыў каля таго, хто назваў сябе чалавекам, бо толькі тручы дрэва аб дрэва можна здабыць агонь, бо толькі ідучы да жывога чалавека можна захаваць пачуцці і розум у бязмоўі цямніцы. Нельга было вызначыць з першага позірку, якога ўзросту нявольнік. Ды Сіверт і не раздумваў пра гэта.

— Хто ты? — спытаў ён.

— Алехна, сын Іванаў. Новагародскі купец,— адказаў таварыш па бядзе, цяжка варочаючы языком. Пэўна, у магільнай цішыні адвык ад жывой мовы. Быў ён змарнелы, худы, празрысты з твару, бо якое ж аб'едства ў цямніцы.

— Я чуў пра цябе,— паклаў яму руку на плячо Сіверт. Плячо было лёгкае, бязважкае, як птушынае пёрка.

Вочы ў Алехны здзіўлена ўспыхнулі і адразу абвялі.

— Мы не сустракаліся з табой на крыжавых

дарогах,— холадна прамовіў ён. Пэўна, адразу ж падумаў, што Сіверта падсадзілі сюды, каб яшчэ нешта выведаць. Але даўно ўсё ўжо сказана, выцягнута з душы і цела распаленымі абцугамі.

Дамініканец адвярнуў крысо плашча, дастаў з патаемнай кішэні сваю запаветную скрыначку, а з яе — жалезны жолуд. Паклаўшы жолуд на далонь, паднёс яго амаль да самых купцовых вачэй. Спытаў:

— Есць у цябе такі?

Алехна не скеміў спачатку, што гэта такое. А калі ўгледзеў, калі зразумеў, адхіснуўся ад Сіверта, а потым зірнуў на яго з агідай і нянавісцю. Тут немагата жыць, ліпець на белым свеце, а нейкі прыхадзень, толькі падсуседзіўшыся, пачынае сыпаць соль на раны.

— Што табе трэба ад мяне? — глуха прамовіў Алехна.— Калі ты выведнік, калі за дзвярыма цямніцы цябе чакаюць мае мучыцелі, то скажы ім, што я хачу памерці. Сам накласці на сябе рукі я баюся і не ўмею, але я дужа хачу, каб яны прыйшлі, хоць зараз, і накінулі чорны мяшок на галаву. Скажы ім, каб хутчэй забілі мяне.

Сіверт лагодным голасам пачаў расказваць купцу пра сябе, пра тое, як сустрэў у Лівоніі браталюба Панкрата, як той перад самым кананнем адкрыў яму таямніцу жалезных жалудоў і аддаў свой жолуд, бо не браць жа яго з сабой у магілу. Здалося, што Алехна паверыў. Сплыла з вачэй нянавісць.

— Гаварыў мне Панкрат,— казаў далей Сіверт,— што ты быў самы мудры між усіх, самы справядлівы.

— Будзь сціплы,— перапыніў манаха Алехна.— Вока не бачыць само сябе.

— Але гэта і сапраўды так, бо Панкрат не мог хлусіць на парозе смерці. Толькі вось што дужа мяне здзіўляе, купец. Ты і твае аднамыснікі хацелі, каб у Новагародку пачаў княжыць Міндоўг. Прыйшоў у Новагародак Міндоўг, зараз на стальцы сядзіць сын яго Войшалк, а ты як гніў у падзямеллі пры Ізяславе, так і сёння гніеш.

— Не хлусіш, нямчын? — Алехна аж ускочыў на ногі.

— Клянуся Хрыстом,— пранікнёна пазіраючы яму ў вочы, прамовіў Сіверт.

З глухім стогнам браталюб рухнуў на падлогу.

— Міндоўг і Войшалк забыліся пра мяне! Яны ў Новагародку, а я — у падзямеллі!

У вялікім адчаі ён укусіў сябе за руку.

— А мы ж для іх узаралі першую баразну. Мы ўсё рабілі для таго, каб іхняе зерне ўзышло на новагародскай зямлі. І вось якая плата.

Алехна, угнуўшы галаву ў плечы, пачаў біць па каменнай сцяне кулакамі. Рукі разбіваліся ў кроў, а ён не адчуваў болю. Ледзь здолеў Сіверт утаймаваць браталюба. Часам дамініканцу здавалася, што той звар'яцеў.

— Не трэба было мне гаварыць табе пра такое,— гарачліва ўпікнуў сябе Сіверт, калі Алехна, стаміўшыся, лёг каля сцяны, нібы куль саломы.— Але ж я думаў, што ты ўсё ведаеш. Клянуся табе — як толькі выйду ■ цямніцы, выйдзеш і ты, бо князь Войшалк будзе ведаць аб усім. Сядзець жа мне тут два-тры дні, не болей. Астыне князь і адразу загадае выпусціць мяне. Пачынаецца вайна, і як Войшалк ні дзярэ нос, не абысціся яму без Міндоўга, а я Міндоўгаў пасол.

Усё адбылося так, як меркаваў манах. Праз дзень яго выпусцілі ■ падзямелля. Войшалк і Глеб Ваўкавыйскі, седзячы на войскіх конях, чакалі Сіверта каля ўвахода ў цямніцу. Калі ён выйшаў нарэшце на сонечнае святло і стаў, заплюшчыўшы вочы, новагародскі і ваўкавыйскі князі борзда саскочылі ■ шытых золатам чырвоных сёдлаў, падхапілі яго пад рукі. Гэта быў нечуваны гонар для простага манаха. Але спрактыкаваны ў жыццёвых бурах калугер* выдатна разумеў, што не яго так прывячаюць-велічаюць гордыя князі. «Значыць, Даніла і Васілька Раманавічы недалёка ад Новагародка»,— адразу падумаў ён і ўсклікнуў з найвялікшым хваляваннем:

— Шчасце будзе вам, князі! Толькі што бачыў я ў небе два сонцы і якраз над вашымі галовамі. Як німбы залатыя былі тыя сонцы. Ведайце — усміхнецца вам Хрыстос.

Войшалк і Далібор пераэірнуліся між сабою. А Сіверт натхнёна блішчаў вачамі. Успомнілася яму, як цяжка і няпроста заваёўваў ён любоў імператара Фрыдрыха II Гогенштаўфена. Суровы быў спачатку Фрыдрых, не дапускаў манаха не толькі да сваёй душы, але і да рукі сваёй. І вось, ідучы ў замак да свайго ўладара, Сіверт узяў двух легканогіх і дужа лютых хартоў. А якраз у полі мышкавала бесклапотная ліса.

---

* **Калугер** — манах.

Сіверт непрыкметна спусціў хартоў са шворкі, яны з усіх ног памчаліся за лісой, схапілі яе. Манах пабег за імі, вызваліў з іхніх зубоў і кіпцюроў лісу і ўрачыста панёс, жывую і непашкоджаную, да імператара. «Глядзі, уладар, які падарунак я табе падрыхтаваў»,— ціхмяна і пакорліва сказаў Фрыдрыху. «Як жа ты змог яе злавіць?» — здзівіўся Фрыдрых, сам заўзяты паляўнічы. Сіверт схіліў галаву і, пакляўшыся здароўем свайго сеньёра, пачаў расказваць: «Я ехаў да цябе верхам на кані, убачыў гэту лісу і адразу падумаў, як цудоўна ўпрыгожыць яна твой паходны плашч. Ударыўшы каня шпорамі, я панёсся за ёй. Але дзе там! Яна ляцела як вецер, і мой конь пачаў адставаць. Тады я ўзняў рукі да неба і стаў заклінаць: «У імя ўладара майго імператара Фрыдрыха спыніся і не паварушыся!» I яна ў той жа міг застыла як укопаная. Я злез [redacted] каня, узваліў лісу на плячо, нібы авечку, і прынёс да цябе ў замак». З таго дня Сіверт зрабіўся ўлюбёнцам славутага імператара, сядзеў з ім за адным сталом, піў віно [redacted] аднаго посуду. Галоўнае ў малачасным зямным жыцці — заваяваць любоў моцных.

Вось і зараз манах, малітоўна склаўшы рукі, глядзеў паверх княжых галоў, і яму бачыліся два яркія сонцы. Можа, таму, што з цемры выйшаў, замільгацела, запярэсціла ўваччу, можа, страсна хацеў убачыць, але сонцы былі налітыя агнём і чырванню, іскрыстыя, звонкагарачыя.

— Хрыстос усміхнецца вам,— натхнёна паўтарыў Сіверт.

Яго ўрачыста павялі ў церам. На дзядзінцы і ў вакольным горадзе Навагародка збіраліся, між тым, гуртаваліся вялікія войскія сілы. Манах бачыў тысячы моцных плячыстых рыцараў, якіх тут называюць воямі. Яны былі ў вастраверхіх шлемах і бліскучых кальчугах, з чырвонымі шчытамі, з дзідамі, сякерамі і мячамі.

Увесь час падыходзілі новыя атрады з Ваўкавыйска, Здзітава, Услоніма, Вавярэска, з іншых блізкіх і далёкіх гарадоў і весяў.

— Пінчане прыйшлі! — раптам узрадавана крыкнуў Войшалк.— Князі Фёдар, Дзямід і Юрый!

Ён, забыўшыся пра Сіверта, кінуўся да пінскіх князёў, кожнага абняў і пацалаваў. Далібор таксама пацалаваўся з пінянамі. Былі яны ўсе чорнавалосыя, з надзіва сінімі на загарэлых тварах вачамі. Старэйшы між іх Дзямід сказаў, разгладзіўшы тонкія чорныя вусы:

— Хацеў нас князь Даніла Галіцкі забраць пад сваю руку, але мы не даліся, павялі дружыны сюды, бо заўжды верныя Новагародку.

Быў Дзямід Пінскі драбнаваты з выгляду, з маленькімі рукамі і нагамі. Зламыснікі казалі, што нарадзіцца б яму дзяўчынаю, але ў той самы час, калі з'яўляўся ён на белы свет, закукарэкаў певень. Ды ў гэтага драбнюка былі нібы жалезныя пальцы. Хапаў ён на ловах дзіка за тлусты валасаты хіб і вырываў ладны шмат гарачага сала.

— Дзякуй, дзякуй вам, князі,— свяціўся радасцю Войшалк.

Сіверт зразумеў, што радасць у Міндоўгавага сына была шчырая. Не з Варуты прыйшла дапамога, не ад бацькі, якога Войшалк (усе ведалі гэта) не любіў, а з лясной і балоцістай Пінскай зямлі. Жыхары гэтай зямлі спрадвеку цягнуцца да дрыгавічоў і крывічоў Новагародка. Апошнім часам, калі пад татарскімі парокамі рухнулі сцены Кіева, ідзе нястомная барацьба паміж Галіцка-Валынскім княствам і Новагародска-Літоўскай дзяржавай за першынство ў землях, што ляжаць на захад і на поўнач ад стольнага Кіева. Кожны хоча прыбраць гэтыя парушаныя татарскай навалай землі, гэтыя асколкі магутнай Кіеўскай Русі да сваіх рук. Піняне і тураўцы аддаюць перавагу Новагародку і ўсё часцей, пераймаючы завядзёнку новагараджан, услонімцаў і ваўкавыйсцаў, называюць сябе літоўцамі або ліцвінамі, у адрозненне ад летувісаў, жыхароў Жамойты і Аўкштайты. «Ліцвіны — новы народ,— думаў манах.— Трэба запісаць гэта для памяці ў свой пергамен». Ён цвёрда рашыў, як толькі наступіць спакой, як толькі надарыцца вольная часіна, пісаць хроніку. Ды дзе той спакой?! Згодна «Вечнаму евангеллю» францысканца Джэрардзіна з Борга-Сан-Даніна ў той дзень, калі Хрысту будзе тысяча, і дзвесце, і шэсцьдзесят гадоў, наступіць усюды мярзотнасць запусцення. Ужо зараз бягуць хрысціяне ў лясы і пустыні або самазабіваюцца разам са сваімі дзецьмі.

— Вяртайся ў Варуту да вялікага кунігаса і перадай, што, адбіўшыся ад галічан, пойдзем на дапамогу,— сказаў Войшалк Сіверту.— А за цямніцу не крыўдуй.

— Там, у цямніцы, сядзіць чалавек,— прамовіў Сіверт, пільна пазіраючы ў вочы новагародскаму князю.

— Ну і што? Шмат на свеце цямніц і дужа шмат у іх вязняў, каб кожнага шкадаваць і пра кожнага помніць.

— Але чалавек, які сядзіць у тваёй, новагародскі кароль, цямніцы, на шыі побач з хрысціянскім крыжам носіць вось такое.

Манах паказаў Войшалку жалезны жолуд. Князі, новагародскі і ваўкавыйскі, з вялікай цікавасцю і ўзрушэннем разглядвалі жолуд, круцілі яго ў руках.

— Гэта — купец Алехна,— сказаў нарэшце Далібор.

— Ён яшчэ жывы? — спытаў Войшалк.

— Пэўна ж, яшчэ жывы, калі нямчын пра яго гаворыць.

— Купца Алехну толькі што я бачыў у цямніцы,— пацвердзіў Сіверт.

— Алехна,— задумліва круцячы ў пальцах жолуд, прамовіў Войшалк.— Гэта той самы, што больш за ўсіх хацеў мець новагародскім князем Міндоўга. Той, што не вельмі любіў мяне і цябе, князь Глеб. Так?

— Так,— адказаў Далібор.

— Хіба мы павінны любіць таго, хто не любіў нас? Няхай сядзіць купец у цямніцы. Я толькі загадаю, каб яго лепш кармілі і паілі. А жалезны жолуд аддадзім вернаму саюзніку Новагародка князю Дзяміду Пінскаму.

Войшалк падышоў да пінскага князя, надзеў яму на шыю срэбны дробнакаваны ланцужок з цёмным жалезным жолудам.

## IV

Далібор паперадзе ваўкавыйскай дружыны ехаў у Варуту, каб дапамагчы кунігасу Міндоўгу адбіць чарговы наступ жамойцкіх, яцвяжскіх і галіцка-валынскіх войскаў. Разам з ім ішлі пешцы з Услоніма і невялікі атрад прусаў, якія, ратуючыся ад Тэўтонскага ордэна, перасяліліся нядаўна ў ваколіцы Гародні. Войшалк застаўся ў Новагародку і рыхтаваўся вытрымаць там аблогу князя Данілы Галіцкага. З Войшалкам сталі на сцены Новагародка піняне і тураўцы.

Чорныя валасы ваўкавыйскага князя ўжо прыхоплівала ранняя сівізна. Твар завастрыўся, скура на шчоках зрабілася амаль карычневая, так абпалілі яе сонца і вецер. Вочы строга пазіралі з-пад прыпухлых ад частага бяссоння павекаў. У Новагародку пакінуў Далібор сваіх сямейцаў: жонку — княгіню Еўдакію, дачку нябожчыка Усеваладкі, і трохгадовага сына Збыслава. У Ваўка-

выйску ж, дзе ён княжыў ужо не адзін сонцаварот, сядзеў зараз галіцкі княжыч Леў Данілавіч. Жорсткі бой даў Далібор галічанам, валынянам, полаўцам і яцвягам каля Услоніма на рацэ Шчары. Біліся два дні. З яловага лесу, працуючы пад покрывам ночы, збудавалі ваўкавыйсцы і ўслонімцы тын вышынёю ў паўтара сажня, сталі за ім. Дарэмна Даніла Галіцкі [redacted] братам Васількам, [redacted] сынам Львом і сватам Цягакам, з паслом кунігаса Таўцівіла баярынам Рэўбам хадзіў на прыступ. Толькі горы мёртвых сваіх вояў наклаў. Тады выйшлі наперад яцвягі з князем Анкадам, пачалі кідаць рогціцы* і стрэлы, абкручаныя падпаленай саломай. Якраз у твар ваўкавыйсцам і ўслонімцам падзьмуў моцны вецер. Яловы тын успыхнуў, загарэўся з вялікім трэскам і гудам. Вецер нёс вогненныя галавешкі на Даліборäву дружыну. У гэты час каля тысячы конных полаўцаў лёгка пераправіліся цераз Шчару і ўдарылі ў спіну. Нездарма Шчара на мове літоўскіх прашчураў азначае Вузкая. На рацэ ўжо станавіўся, чапляўся за травяністыя берагі першы лёд, ярка бліскучы і тонкі, нібы бярозавы ліст. Коні стэпавікоў выскачылі са Шчары, абсыпаныя ад капытоў да шыі кавалачкамі гэтага лёду. Пры святле пажару здалося, што ўсе яны ў зіхоткіх кальчугах. Далібор адступіў у бок Навагародка, страціўшы сотні дзве людзей. Асабліва балюча перажыў ён смерць свайго старога настаўніка ляха Косткі. Вельмі мужна біўся лях. Рухнуў пад ім конь, прабіты яцвяжскімі рогціцамі, прыдушыў Костку. Але лях, сабраўшыся з сілаю, узняўся на ногі, адбіваўся двума мячамі.

— Пераходзь да нас! — крыкнуў яму Леў Данілавіч.— Будзеш у мяне ваяводаю!

— Я служу Навагародку і князю Далібору,— адказаў Костка.

Нарэшце полаўцы кінулі валасяны аркан, зноў звалілі ляха на зямлю. Але ён, ужо лежачы, паспеў успароць бруxавіну некалькім стэпавікам. Разлютаваныя полаўцы білі яго рукаяткамі бізуноў, цвёрдымі вострымі наскамі ботаў, паўжывога зацягнулі ў ханскі шацёр і там пасадзілі на кол, змазаны бараным тлушчам.

Пасля сечы над Шчараю Даніла Галіцкі з сынам Львом прыпыніўся ў Ваўкавыйску, каб даць хоць трохі

---

* Рогціца — дроцік.

адпачыць сваім расшкуматаным Даліборам палкам. Яшчэ аднаго свайго сына, Рамана, з полаўцамі і яцвягамі паслаў на Гародню.

Далібор, перавёўшы дых у Новагародку, сустрэўшыся з Войшалкам, рушыў на дапамогу Варуце. З найбольш блізкіх людзей ішлі з ім ваявода Хвал, меднік Бачыла. Замест халопа Найдзёна, які, спалохаўшыся вайны, адпрасіўся конюхам у глухую наднёманскую весь, ваўкавыйскі князь наблізіў да сябе, зрабіў сваім целаахоўнікам-слугою маладога Курылу Валуна. Гэта быў блакітнавокі здаравяк, высачэннага росту, [redacted] цёмнымі кучаравымі валасамі. Ад сілы меў ён васемнаццаць сонцаваротаў зямнога жыцця, а ўжо ўсе людзі на берагах Росі, Шчары і Нёмна ведалі пра яго. Далібор упершыню ўбачыў Курылу, калі ўмацоўвалі ваўкавыйскі вал. Халопы, смерды і дружыннікі секлі лес, капалі гліну, цягнулі камяні, абляпіўшы іх, як мурашкі. І вось прыйшоў на вал чалавек, які нёс агромністы шматпудовы камень.

— Хто гэта? — здзіўлена спытаў Далібор, пазіраючы на незвычайнага незнаёмца.

— Гэта наш Курыла Валун,— адказаў, вітаючы асілка, меднік Бачыла.— Як нарадзіўся, далі яму імя Курыла, а як падрос і пачаў валіць [redacted] ног сваіх адналеткаў і сталых мужчын, сталі зваць Валуном.

— Адкуль у цябе такая сіла? — спытаў меднік у Курылы Валуна.— Што ты еў, як малы быў?

— Рэпу і грыку*,— светла ўсміхнуўшыся, адказаў Курыла Валун.

— А казалі, што ты мядзведжую кроў піў,— не адставаў Бачыла.

— Навошта? — зноў усміхнуўся Курыла.— Мяне матуля малаком паіла.

— Эх, Курыла, Курыла — вялікая сіла,— штурхнуў яго плечуком меднік.

Ды Курыла Валун стаяў незварушна, як скала. Ен трымаў на плячах камень, а здавалася, трымае вязанку сухога галля.

— Куды класці камень? — спакойна спытаў ён.

— Нясі на самы верх вала,— хітра прыжмурыўшыся, загадаў Бачыла.

Блакітнавокі асілак лёгка закрочыў туды, дзе завіхаліся муралі і каменясечцы. Адразу ж пасля гэтага

---

* Грыка — грэчка.

Далібор паклікаў Курылу ў свой церам, шчодра пачаставаў, выпытаў усё пра ягоны род і ягонае малалецтва. Быў Курыла Валун з ваўкавыйскіх купцоў, але бацьку ягонага, калі ішоў з абозам, забілі галаўнікі. Маці, засумаваўшы па мужу, памерла, і Курыла застаўся адзін, бо не даў яму бог братоў і сясцёр. Як амаль кожны магутны целам чалавек, быў ён мяккасардэчны, чуллівы, гуляючы ў лузе, крыло нікчэмнай страказе не мог абарваць. Рос спачатку павольна. Праўду кажуць, што паспешліва рвецца пад сонца толькі пустазелле, а садовая яблыня марудна набірае сілу.

Ды раззлавалі, раз'ятрылі маладога ціхуна вакольныя людзі, можна сказаць, суседзі. Іхнія дзеці, дражнячы, называлі яго дурным купецкім выпладнем. Даўно заўважана, што дзеці-малалеткі вельмі жорсткія і ім абавязкова трэба мець поруч з сабой некага слабага, безабароннага, каб на гэтым небараку штодзень спаганяць сваю жорсткасць. Дзеці, як і належыць дзецям, былі маларослыя, а Курыла, іхні равеснік, рос угору, нібы гонкі дубок, і гэта таксама вельмі злавала іх. Вясною яны любілі кідаць у Курылу варонінымі і вераб'інымі яечкамі. Але самы балючы і непапраўны ўдар чакаў юнага асілка, калі ён прыйшоў аднойчы на магілу сваёй маці. У глыбокім сумным одуме сеў ён каля магілы і раптам убачыў такое, ад чаго пачарнела ўваччу. З грудка вільготнага жоўтага пяску, пад якім у каменнай труне ляжала маці, тырчаў ружовы, агідны сваёй яркай ружовасцю свіны лыч. Курыла аж задыхнуўся ад нечаканасці, ад вострай крыўды і гневу. Ён упаў на калені, пачаў ліхаманкава, ломячы пазногці, разграбаць пясок і выцягнуў з яго ладнаватага ўжо смярдзючага парсюка. Закрыўшы рукамі твар, пабег Курыла з могільніка, рухнуў у густую глухую траву, дзе цьмяна блішчалі затоеныя лугавыя жабкі, і яго зблажыла. Яму вымотвала кішкі, здавалася, вырывала сэрца з грудзей. Адляжаўшыся ў траве, апаласнуўшы твар дажджавой вадою з лужыны, у якой расла жоўтая пухнатая лотаць, ён узяў камень, пайшоў на пасад і, як толькі ягоныя адвечныя ворагі пачалі крыўляцца, паказваць язык, цяжка шпурнуў у іх каменем. З таго часу і прачнулася ў купецкім сыне ягоная незвычайная сіла. Увесь скарб, які застаўся пасля бацькі, ён ахвяраваў на царкву. Сабе толькі купіў добрага каня, багатае сядло і жалезную кальчугу. Ваўкавыйскія

кавалі зрабілі яму адмысловы кій* паўпуда вагою. З гэтым кіем пачаў Курыла Валун браць удзел у «полі», аб'язджаючы на сваім кані Новагародскую зямлю, заязджаючы ў Менскае княства і нават у Полацкае. «Поле» — гэта паядынак, двубой, які праводзіўся па рашэнню суда людзьмі, што люта варагавалі між сабою. Паколькі ворагаў у кожнага хапала, «поле» было даволі частае, асабліва ўвосень. Збіралі людзі плады зямныя, пілі хмельны мёд і, прыпомніўшы крыўды ад суседзяў і несуседзяў, ішлі да мясцовага князя ці баярына, які валодаў правам мясцовага суда. Старыя, святары і малалеткі шукалі звычайна наймітаў, што маглі б, атрымаўшы немалое срэбра, біцца за іх. Курыла Валун і быў адным з такіх наймітаў. Слава аб ягоным страшным удары і вялікай адвазе кацілася над Россю, Шчарай і Нёмнам, дасягаючы да Віслы і Дняпра. Вось якога чалавека сустрэў Далібор.

Курыла Валун ехаў на сваім гнядым кані следам за князем. Цёмныя, не прыкрытыя ні шлемам, ні аблавушкай, валасы шкуматаў вецер. Адпаліраваны да люстранога бляску кій цяжка вісеў уздоўж левага сцягна. За халявай чырвонага, добра-такі растаптанага, бота горда тырчала касцяная лыжка. Гэта лыжка мела доўгую жалезную ручку, у якой Курыла прасвідраваў дзірку, каб пры патрэбе можна было павесіць сваё адзінае багацце на крук або гвоздзь.

Побач з Курылам Валуном ехаў меднік Бачыла. Шчокі ў медніка былі ружовыя. Яго аж распірала ад ганарлівасці — гэта ж ён, а не хто іншы, знайшоў і прывёў у княжую дружыну славутага асілка. У паходзе меднік як бы апекаваў Курылу Валуна. Калі надараўся прывал, борзда скочваўся [redacted] каня, бег у бліжэйшы лес, валачыў адтуль сушняк і распальваў вогнішча.

— Ты, Валунок, сядзі. Я сам,— лагодна казаў ён, дастаючы з-за пазухі крэсіва і выбіваючы іскру.

Крэсіва ў медніка было важнецкае, з фігурнай бронзавай ручкай у выглядзе дзвюх кіпцюрастых драпежных птушак, якія клявалі чалавечую галаву.

— Сам зрабіў,— хваліўся кожнаму сустрэчнаму-папярэчнаму меднік.

Так і ехала гэта тройца: наперадзе маўклівы заклапочаны князь, ззаду Курыла Валун і Бачыла.

---

* **Кій** — баявы молат.

Вельмі розныя, непадобныя былі яны знешне, але той, каму б удалося хоць на міг пранікнуць у іхнія думкі, здзівіўся б, бо думалі яны пра адно і тое ж — пра жанчыну, вядома, кожны пра сваю. Бачыла ўспамінаў жонку, якая з дзецьмі засталася ў Новагародку. «Птушаняткі вы мае шэранькія»,— звычайна казаў ён жонцы і дзецям. Далібор пакутліва думаў пра Рамуне. З таго самага часу, калі жаніўся ён на ваўкавыйскай князёўне, калі нарадзіла яна яму сына, не аднойчы спрабаваў Далібор забыць светлавалосую літоўку, дзікаватыя чорна-зялёныя вочы, гнуткую звабную паставу, ды нічога не атрымлівалася. Як прырасла яна да душы. Ён разумеў, што грэх яму, сямейніку, нават у думках трымаць чыстую, не аблагоджаную мужчынам дзяўчыну, але зноў і зноў трызнілася Рамуне. Нездарма гавораць людзі: «Каюся, ды за тое ж хапаюся». Курыла Валун, незварушна седзячы на кані, прыгадваў дужа прыгожую незнаёмку, якую напаткаў учора на дзядзінцы Новагародка. У яе былі вельмі сумныя вочы і заплаканы аж сінsocі твар. Поруч з ёю ішоў княжы дружыннік, таксама надзіва прыгожы, час ад часу нахіляўся да вузкага дзявочага пляча, нешта шаптаў, прыжмурваючы бліскучыя прагныя вочы, у маленькае ружовае ад халоднага ветру вушка. Курыла Валун, сам не разумеючы чаму, адразу ж неўзлюбіў дружынніка. Захацелася неяк зачапіць яго, паджучыць, раззлаваць, каб потым можна было ляснуць цераз увесь лоб жалезным кіем. Ды ўсмешлівы дружыннік нават не зірнуў на Курылу Валуна.

— Хто гэта? — спытаў, уколаты такой няўвагаю, Курыла ў захутанай ва ўсё чорнае бабулькі, адной з тых бабулек, якія ведаюць і помняць усё.

— Вель, княжы дружыннік,— прашамкала тая пустым сухім ротам.— А з ім залатарова дачка Лукера.

— А чаму Лукера такая невясёлая?

— Сам у яе спытай,— з нечаканай злосцю адказала старая, але адразу памякчэла, згледзеўшы разгубленасць і пакору на твары ў маладога асілка.— Брата яе ў княжай вязніцы* трымаюць.

І, пэўна, знайшоўшы свежыя вушы, якія маглі цярпліва і бясконца слухаць, расказала Курылу Валуну пра залатара Івана, пра Алехну і браталюбаў, пра пакуты, што цярпелі і церпяць яны з-за нечай чорнай

* Вязніца — турма, цямніца.

здрады. Курыла ўважліва лавіў кожнае слова. Як вогненныя зярняты, падалі словы ў душу і прараслалі вялікай шкадобай да прыгажуні-дзяўчыны, для якой лепшыя сокі лепшых пладоў горкія, бо ўжо не першы сонцаварот не бачыць у цямніцы сонца родны брат.

— Я дапамагу ёй! — узрушана выгукнуў Курыла Валун.

— У яе ўжо ёсць памагаты,— унікліва сказала старая, цыўкнуўшы вачамі на дружынніка Веля.

Успомніўшы гэтыя словы, Курыла Валун цяжка ўздыхнуў і крутнуўся ў сядле.

— Што з табою? — адразу ж запытаў Бачыла.

Ён ужо ўсіх і самога сябе прызвычаіў да думкі, што з'яўляецца апекуном маладога асілка. Варта было Курылу кашлянуць, ад'ехаць трохі ўбок ад княжай раці, як Бачыла, нібы трохвокі змей, быў побач, пільна пазіраў у твар. Такая залішняя клапатлівасць пачала раздражняць, і Курыла Валун суха адказаў:

— Са мной усё добра, катляр.

Ён наўмысна назваў Бачылу не меднікам, а катляром, хоць ведаў, што таму не падабаецца такі назоў. Не раз разгарачаны Бачыла тлумачыў усім жадаючым: «Я — меднік. І бацька мой, і дзед з прадзедам адвеку былі меднікі. Я не толькі катлы ўмею кляпаць, я магу самую дробную птушачку нябесную з медзі выкаваць».

Пачуўшы слова «катляр», Бачыла пакрыўджана адкапыліў губу і ўжо да самай Варуты ехаў моўчкі. Гэта каштавала яму вялікай крыві. Так ужо быў зачаты ён бацькам і мацеркай — хоць выкінь з рота язык, не мог доўга маўчаць.

Варута шумела, як устрывожаная борць. Кунігасы і баяры з Летувы, а таксама з Дзялтувы, Дайнавы, Нальшы збегліся разам са сваімі людзьмі пад ахову яе сцен. Кажухі і сярмягі запоўнілі ўвесь горад. Людзей было так шмат, што толькі кунігасы і самыя мнагаімныя баяры начавалі ў цёплых будовах. Астатнія кладліся спаць на вуліцы пад адкрытым небам. Вазы стаялі ўпрытык адзін да аднаго.

Міндоўг з вялікай радасцю сустрэў Далібора і ваяводу Хвала з дружынай. У знак асаблівай прыязнасці ваўкавыйскаму князю паслалі спаць у кунігасавым нумасе. Цьмяна гарэла свечка. Начныя мятлушкі бязладна мітусіліся над полымем. Далібор, падклаўшы рукі пад галаву, ляжаў на звярыных шкурах, а ў вачах быў пярэсты кругабег чалавечых твараў. Колькі людзей

убачыў ён сёння! Зрушаныя з месца бядой, з усіх канцоў новай дзяржавы прыйшлі, прыехалі, прыбеглі яны ў Варуту, каб стаць пад Міндоўгаў сцяг. Можа, ужо заўтра ўдараць у катлы і ў сурмы, абвяшчаючы бой, і пальецца кроў на халодную зямлю. І ён, Далібор, і ягоныя дружыннікі, і Курыла Валун з меднікам Бачылам, і ваявода Хвал з новагараджанамі падставяць грудзі пад варожае смяротнае жалеза. У гэтае чалавечае мора ўліліся ўсе яны шырокай бурлівай ракой. «Хто ж мы? — узіраючыся ў густую цемру, думаў Далібор.— Новагараджане? Русіны? Русічы? Руснакі? Ліцвіны? Хто мы? Які назоў дадуць нам нашчадкі? Наша зямля не стойбішча здзічэлых вятроў і не прытулак восеньскіх нудотных хмар. Наша зямля — гарады і весі над Нёмнам, Ясельдай і Шчарай. Для чаго нарадзіліся мы і народзяцца нашы ўнукі? Сваёй жывой крывёй харчаваць іншыя народы ці, шануючы плуг і меч, жыць па прадзедаўскіх законах на прадзедаўскай зямлі?»

Такія думкі не ўпершыню прыходзілі да ваўкавыйскага князя. Усё часцей неадчэпна ўспамінаўся яму вяшчунВаласач, хітры і надзвычай разумны калека. Дзе ён зараз? Ляжыць чорным прысакам у зямлі або сядзіць, як і сядзеў, пад святым дубам? Даўно хочацца з'ездзіць да яго, ды ніяк не выпадае ў гэтай штодзённай мітульзе. Пякуча ўрэзаліся ў памяць вешчуновы словы: «Памятай, што жыццё — пастаянная здрада. Вечар здраджвае раніцы, стары чалавек здраджвае самому сабе, таму, які калісьці быў маленькім». Жыццё — пастаянная здрада... Есць праўда ў гэтых словах, хоць спачатку і цяжка зміріцца з ёю. Але ці здрадзіў ён, Далібор, сваёй зямлі, калі разам з дружынай, разам з новагародскім і ваўкавыйскім баярствам падтрымаў варуцкага кунігаса Міндоўга, а потым аддаў вялікакняскі трон яму і ягонаму сыну Войшалку? Ці здрадзіў ён сваёй зямлі, калі змоўчаў, калі не крануў мяча, бачачы, як роднага бацьку выпраўляюць з Новагародка ўдзельным князем у глухую Свіслач? Ці здрадзіў ён сваёй зямлі, калі сам, хоць некаторыя і падбухторвалі, не ўсчаў крывавую грызню за новагародскі трон? Нялёгкія, балючыя думкі...

Важна тое, што сёння ён — ваўкавыйскі князь, правая рука князя Войшалка. Вельмі важна тое, што з Нёмна, прадзедаўскай ракі, не напіўся вады татарскі конь, абпырсканы крывёю растаптаных і пасечаных кіеўскіх вояў. Новагародак і Літва, моцна ўзяўшыся за

рукі, спынілі дзікага каня. На Галіцка-Валынскай Русі па загаду напышлівых татарскіх баскакаў пачынаюць ужо сваімі рукамі бурыць у сваіх гарадах брамы і скопваць абарончыя валы. Валы ж Навагародка, Ваўкавыйска і іншых прынёманскіх гарадоў стаяць непарушна.

Не спалася. Далібор выйшаў з нумаса пад халоднае начное неба. Дзьмуў парывісты вецер. З густой цемры ляпіла махрыстым белым снегам. Варута, не зважаючы на глыбокую ноч, не патушыла вогнішчаў. Каля аднаго з іх ваўкавыйскі князь між іншых галасоў пачуў галасы сваіх людзей. Гэта былі Курыла Валун і Бачыла.

— Люблю Нёман,— весела казаў Бачыла,— красоцце, а не рака...

— Нават болей жонкі любіш? — спыталі ў яго.

— Ну і язык у цябе, чалавеча,— засмяяўся меднік.— Як памяло... Але, слухай не слухай, люблю Нёман. Прыгожая рака, багатая. Рыбу шапкай чэрпай.

Прамовіўшы гэта і крыху памаўчаўшы, няўседны меднік сказаў:

— Эх, Курыла, Курыла, вялікая сіла, мне б тваё здароўе. Бач, які ты спраўны, які гладкі ды тоўсты.

— Пакуль тоўсты ссохне, дык худы здохне,— бадзёра адказаў Курыла Валун, і ўсе засмяяліся.

Гэта спакойная вясёлая размова людзей, якія заўтра ў час сечы могуць загінуць, усцешыла ваўкавыйскага князя. Бяліў зямлю і будовы снег, шастаў вецер, а вогнішчы ў Варуце і між іх найгалоўнае, найдаражэйшае — святы Зніч — не тухлі. Не адрываючыся глядзеў Далібор на гудлівае полымя, і ў звівах жоўтых і чырвоных пасмаў, у залатым лёце іскраў бачыліся яму таямніча-суровыя твары людзей, якія ўжо даўно пакінулі гэту зямлю і якія яшчэ прыйдуць на яе.

Раптам нечая лёгкая рука легла Далібору на плячо. Ён уздрыгнуў. Літоўская вайдэлотка ва ўсім белым стаяла перад ім. Цяжка было з першага зірку вызначыць, колькі ёй сонцаваротаў.

— Ідзі за мной, ваўкавыйскі князь,— ціха сказала вайдэлотка.

Далібор, ні аб чым не распытваючы, пакрочыў за ёю — след у след. Яму думалася, што нездарма ён не спаў, нездарма выйшаў з цёплага нумаса пад халоднае начное неба. Зараз павінна адбыцца тое, чаго ўсе апошнія дні нецярпліва прагла душа. Але што адбудзецца і як адбудзецца, ён не ведаў.

Вайдэлотка прывяла Далібора да капішча Пяркунаса. У свой час, як амаль і ўсю Варуту, капішча знішчыў пажар. Міндоўг, зноў сеўшы на варуцкі сталец і прыняўшы каталіцтва, не толькі нанова адбудаваў святое месца Пяркунаса і Зніча, але і пастараўся, як адразу заўважыў ваўкавыйскі князь, каб было яно прастарнейшае і прыгажэйшае, чым раней. Гэтым хацеў ён улагодзіць літоўскіх паганцаў.

Капішча было даўжынёй каля дваццаці сажняў, шырынёй — каля дзесяці. Глухія сцены амаль у тры чалавечыя росты [redacted] заходняга боку прарэзваліся вузкімі дзвярыма. Даху не было. У самай сярэдзіне капішча пад камлюкаватым дубам высіўся балван Пяркунаса. Леваруч ад яго стаяў дубовы Атрымрас у выглядзе змея з чалавечай галавой, праваруч — Поклюс, бог мора, вады і пекла. Каля сцяны ў крытай галерэі знаходзіўся каменны алтар-ахвярнік. Да алтара вяло дванаццаць прыступак. На кожнай прыступцы была выбіта адпаведная фаза маладзіка. Нязгасны Зніч гарэў у глыбокай нішы, якую высеклі ў сцяне. Ні вецер, ні снег і дождж не маглі заляцець у сховішча агню. Насупраць увахода ў капішча каля ўсходняй сцяны мелася капліца, у якой захоўваліся святыя сасуды, адзенне жраца і вайдэлотак, трут, крэсіва і кадоўбцы са смалой. Пад капліцаю ў неглыбокім пограбе жылі чорныя вужы, якія славяцца даўгавечнасцю і мудрасцю. Побач з домам Пяркунаса стаяў дамок жраца і ягонага прыслужніка, а таксама каменна-драўляная невысокая вежа, з якой жрэц аб'яўляў волю багоў людзям.

Маўклівая вайдэлотка прывяла Далібора ў капішча і спынілася на парозе, а потым і зусім некуды знікла. Ваўкавыйскі князь застаўся адзін. У густой начной цішыні чуўся толькі адзін жывы гук — няўтомнае і няспыннае трапятанне Зніча. Здавалася, зусім побач цячэ, бурліць рака. І яшчэ здавалася Далібору, што гэта ўздыхае і варушыцца ў сваім гняздзе несмяротная светлапёрая птушка фенікс.

Ён узняў вочы, глянуў на алтар. Мільготкае святло ад Зніча бегала па верхніх прыступках каменнай лесвіцы. Усё астатняе капішча было змрочнае і страшнаватае гэтай сваёй змрочнасцю.

Раптам там, дзе сутыкаліся цемра і святло, Далібор заўважыў танклявую дзявочую постаць. Горача ўздрыгнула сэрца. Гэта была Рамуне.

Яна павольна ішла да яго зверху, ад Зніча, і цёплыя

плямы святла ляжалі на вузкіх плячах. Здавалася, крылы вырастаюць у юнай князёўны-вайдэлоткі за спіною.

«Яна паклікала мяне... Яна памятала пра мяне...» — усхвалявана думаў Далібор.

— Я ведала, князь Далібор, што ты прыйдзеш. Дзякуй табе,— сказала Рамуне, спыніўшыся насупраць яго.

Салодкім шчаслівым сумам напоўнілася сэрца. Далібор глядзеў на бледны спакутаваны твар той, якую кахаў, аб якой думаў заўсёды ў бліжняй і дальняй дарозе, і яшчэ больш вабнаю і жаданаю была яна. Не Глебам, а Даліборам назвала яго Рамуне, ведаючы, што дужа любіць і шануе ён сваё пракаветнае імя. І гэта таксама надзвычай расчульвала ваўкавыйскага князя.

Юная прыгожая літоўка была не ў паўсядзённай апратцы вайдэлотак, сціплай і строгай, а ў сваім самым багатым святочным уборы. Сляпіла вочы ярка-белая льняная кашуля ■ высокім каўняром і доўгімі рукавамі. Падол зялёнай ваўнянай спадніцы быў густа абвешаны бронзавымі бляшкамі. Яны ж налазілі адна на адну і здаваліся бліскучай рыбінай луской. Спадніцу падпяразваў шырокі тканы пас, да якога была прычэплена круглая бронзавая падвеска, пакрытая ліставым срэбрам і ўпрыгожаная пяццю вочкамі з цёмна-сіняга шкла. Зверху кашулі Рамуне накінула наплечнае пакрывала, літоўцы называюць яго скяпята. На галаве ў князёўны была скураная шапачка з дробнымі бронзавымі кольцамі і вялікай зіхоткай бурштынінай.

Далібор моцна абняў Рамуне. Яна падатна прыгарнулася да яго. Сваімі вуснамі ён сустрэў яе вусны, цвёрдыя і халаднаватыя. Зверху шумеў Зніч і глядзела цёмнае хмарыстае неба. Колькі часу стаялі яны так, нібы зліўшыся ў адну істоту, літоўская князёўна і ваўкавыйскі князь.

— Піва без хмелю, алей без солі, конь без хваста, жанчына без дабрачыннасці аднолькавы кошт маюць,— сказала раптам Рамуне, вызваліўшыся з Даліборавых абдымкаў.

Вялікі сум быў у голасе.

— Ты аб чым, Рамуне? — спытаў Далібор і зноў моцна пацалаваў яе, пальцамі асцярожна пачаў гладзіць ёй шчокі і бровы.

Рамуне ўся як бы ўспыхнула знутры. Вочы зрабіліся вільготна-мяккія, іскрыстыя. Агонь і ранішняя раса,

бляск месяца і срэбра азёрнай хвалі — усё было ў гэтых дзіўных вачах.

Далібор адчуў, як часта забілася, затрапятала ў яе сэрца. З болем і адчаем яна пачала цалаваць яго, і цёплыя слёзы каціліся па шчоках.

— Не плач, галубка,— шаптаў Далібор.

Ішла з-пад ног зямля, збівалася, перахаплівалася дыханне, праз адзежу і праз холад восеньскай ночы пёк агонь яе маладой дзявочай скуры.

— Хадзем за мной,— прашалясцелі, як у гарачым тумане, словы Рамуне.

У цёмным дамку жраца на вузкай дубовай лаве яны аддаліся адно аднаму, зліліся ў каханні, як зліваюцца звонкія вясновыя ручаі. Гэта быў паднябесны ўзлёт сэрцаў, згода рук, вачэй і вуснаў...

— Аддаюць мяне за галіцкага князя Шварна, ці, як яго яшчэ называюць, Свараміра Данілавіча,— лежачы на Даліборавай руцэ, горка сказала Рамуне.— Былі ўжо сваты. Праз сядміцу-другую паеду з абозам.

— Але ж мы ваюем супраць галічан! — горача ўсклікнуў Далібор.— Я адаб'ю цябе ў дарозе. Я нападу на абоз. Я ж ведаю, што ты не хочаш за Шварна.

Ён ускочыў, нахіліўся над ёй.

— Ты ж не хочаш за галічаніна, за Свараміра.

Рамуне ласкава і адначасна ўладна закрыла яму рот цёплай маленькай далонню.

— Хачу,— ціха сказала пасля маўчання.— Ты ж таксама жаніўся на ваўкавыйскай князёўне.

Яна ўстала, пачала апранацца. Нават не зірнуўшы на сваё багатае ўбранне, у якім выйшла насустрач Далібору, нацягвала грубую каляную кашулю вайдэлоткі. Рухі былі вялыя, бязвольныя.

— Я ж ведаю, што ты не хочаш,— апалым голасам яшчэ раз прамовіў Далібор.

— Дзяржаве патрэбен мір,— суха сказала Рамуне.— Так гаворыць бацька, а я заўсёды веру яму. Калі я пайду за Шварна, спыніцца вайна, перастануць паміраць у сечах воі. І ты таксама будзеш жывы.

Яна пагладзіла Даліборавы валасы.

— А яшчэ я гатова хоць у балота бегчы, абы не бачыць гэту поскудзь Марту, мачаху. Не магу глядзець на яе, не магу дыхаць побач з ёю. О, каб была жывая мая маці!

Далібор зноў пачаў цалаваць яе.

— Ведаеш, чаму цябе паклікала, чаму цноту

дзявочую табе аддала? — мякка адхілілася ад ваўкавыйскага князя Рамуне.— Таму што кахала і кахаю цябе, і там, у чужой старане, заўсёды буду помніць нашу сустрэчу. Скажы, ты таксама будзеш памятаць мяне?

Яна пільна-пільна зазірнула ў вочы Далібору. Усхваляваны князь толькі моўчкі хітнуў галавой, а потым сказаў, глытаючы даўкі камяк у горле:

— Буду. Клянуся табе. Ты для мяне, Рамуне, як святая пакутніца Ірына.

— Раскажы пра Ірыну,— адразу папрасіла Рамуне, паклаўшы яму галаву на плячо.— Я ведаю, што ты любіш чытаць старыя пергамены. Раскажы.

— Слухай,— прытуліў яе да сябе Далібор.— У паганскага караля, што ўладарыў у градзе Мегідскім, нарадзілася прыгажуня-дачка Пеленопія. Кароль загадаў сваім муралям збудаваць багаты высокі стоўп і пасяліў у ім дачку да таго самага часу, пакуль яна зможа ўступіць у шлюб. Толькі птушак бачыла каралеўна. Але аднойчы была ёй дзівосная відзежа, і нябесны голас абвясціў, каб прыняла яна хрышчэнне, а залатакрылы анёл шапнуў ёй на вуха яе хроснае імя — Ірына. У той дзень, калі кароль знайшоў дачцы жаніха, яна разбіла паганскіх балванаў і адмовілася прынесці ім ахвяру. Разгневаны Лікіній загадаў раздушыць родную дачку каляснікай. Але конь вырваўся са збруі, адгрыз каралю руку, і той памёр. Потым конь загаварыў чалавечай моваю, пачаў славіць Ірыну. Яна ўваскрасіла бацьку. Лікіній прыняў хрышчэнне і выракся каралеўства. Ды прыйшла бяда — на іхнюю зямлю напаў кароль Седзекій. Ён кінуў Ірыну ў яму з гадзюкамі, але тыя не прычынілі пакутніцы шкоды, і тады Седзекій загадаў люта катаваць яе.

Далібор адчуў, як уздрыгнула Рамуне, мацней абняў дзявочыя плечы.

— Ды піла, якой павінны былі перапілаваць Ірыну, зламалася, вада пацякла міма кола, да якога яе прывязалі. Людзі закідалі Седзекія каменнямі, і ён памёр. Дзесяць тысяч яго ваяў загінула ад мяча анёла. Тады пачаў помсціць Ірыне Саваах, сын Седзекія. Але агонь не схацеў датыкацца да цела пакутніцы, а распалены медны сасуд у выглядзе быка, куды хацелі запіхнуць Ірыну, ператварыўся ў быка жывога. Саваах звар'яцеў і загадаў епарху, каб той забіў яго. А Ірына папрасіла людзей занесці яе ў поле і пакласці ў мармуровую труну. Калі ж праз тры дні зноў прыйшлі

на тое месца, труна была пустая — бог пераклаў Ірыну ў рай.

Далібор змоўк. Не дыхала Рамуне. Вецер нёсся над начным капішчам, і былі чутны цяжкія ўдары аб сцены. Пырскі дажджу і камячкі снегу лупцавалі ў малюсенькае акенца.

— А Зніч гарыць,— прашаптала раптам Рамуне, і вочы былі шчаслівыя.— Ведаеш, чаму не збаялася я на святым месцы аддацца нашаму каханню? Таму, што Пяркунас ахоўвае каханне. «Дрэннае семя ўзыходзіць і без сяўбы»,— вучыў наш мудрэц Ішмінтас. А мы [redacted] табою, князь Далібор, добрае семя хацелі пасеяць. Праўда?

— Праўда,— замілавана гледзячы на яе, адказаў Далібор, а потым з болем у вачах пачаў прасіць: — Не едзь да Шварна. Як падумаю, што ты ляжаш [redacted] ім на шлюбны одр...

Ён скрыгнуў зубамі.

— Не едзь. Я сёння ж украду цябе. Я кіну ўсё, каб быць з табой.

Рамуне строга пазірала на яго, маўчала. Пачуліся лёгкія асцярожныя крокі — ішла вайдэлотка.

— Я ненавіджу твайго бацьку! — закрычаў Далібор.— Ён ненаедны звер. Дзеля ўлады ён праглыне родных дзяцей.

Рамуне маўчала.

— Я ненавіджу і Войшалка, твайго брата,— шалёна звузіўшы вочы, ужо не крычаў, а шаптаў Далібор.— Святара, які нават ува сне бачыць сябе каралём Навагародка, Літвы і Жамойці.

Рамуне маўчала. Увайшла вайдэлотка. Твар быў мокры ад дажджу і снегу.

## V

Меч ярасці, які прынеслі Міндоўгавы ворагі пад сцены Варуты, ужо не мог скрышыць новую дзяржаву славян і літоўцаў, што нарадзілася ў вялікіх пакутах, у агні і крыві. Нішто ў гісторыі не бывае выпадковым. Так як ручаі і рэкі цякуць са сваіх узвышшаў у свае моры, так і народы, памыляючыся, прыносячы шматлікія ахвяры, знаходзяць той шлях, магчыма, той адзіны шлях, па якім неабходна ісці, бо правільна сказаў калісьці мудрэц: «Жыццё сваё здзяйсняць мы павінны

самі». Гэта тычыцца і кожнага чалавека і кожнага народа, малога або вялікага.

Пярун, магутны ўладар нябесны, якому Бялбог уручыў нябесны молат, каб весці вечную барацьбу супраць Чарнабога і ягонай д'ябальскай раці, аб'яднаўся з Пяркунасам. Гэта калі гаварыць моваю міфаў і святароў. А ў зямным рэальным жыцці вайсковая сіла літоўскіх князёў (у першую чаргу Міндоўга і Войшалка), пад рукой у якіх была цудоўная, вельмі моцная на той час конніца і апалчэнні сялян-пешцаў, злілася з сілай і магутнасцю Белай Русі, значна больш развітай у эканамічных і прававых адносінах. Тут, у Новагародскай і Полацкай землях, былі непрыступныя крэпасці, багатыя гарады, ураджайныя нівы, спрактыкаваныя рамеснікі і энергічныя купцы, вельмі моцны клас баяр-феадалаў. Тут спрадвеку пісаліся і перапісваліся кнігі, працавалі славутыя дойліды, збіралі пад сваё крыло не толькі фанатыкаў і аскетаў, але і дапытлівых разумных мужоў цэрквы і манастыры. Фанатыкі і аскеты нішчылі сваю плоць, свой дух у глухіх скляпеннях, камянелі і звярэлі, называючы нават вошай з клапамі «жэмчугам божым». Тыя ж, хто меў чэпкі розум, узіраліся з цесных келляў у будучыню сваёй зямлі і свайго народа. Для таго каб не трапіць пад татарскага каня, каб не скарыцца тэўтонскаму мячу, быў адзіны шлях — з'яднаць свае сілы з суседняй Літвой. Вось чаму і адбылося такое з'яднанне.

На гэты раз Варута не скарылася. Хоць у Міндоўга і кінулася ад хвалявання носам кроў, калі жамойты, яцвягі, галічане і полаўцы з аглушальным крыкам пайшлі на прыступ, горад удалося адстаяць. Ударылі са сцен літоўцы і новагараджане з услонімцамі і ваўкавыйсцамі. Лівонцы няшчадна білі з арбалетаў.

Наступіла цішыня. Толькі параненыя енчылі каля вала.

Другога штурму наогул не было. Выехалі на лугавіну з паўсотні полаўцаў і яцвягаў, узброеных суліцамі, і столькі ж абаронцаў Варуты разам з Курылам Валуном і графам Удам і правялі турнір. Стэпавікі пусцілі стрэлы, яцвягі кінулі суліцы і рогціцы, але шкоды нікому не прычынілі — засланіліся варутчане шчытамі. Потым усе сталі паўкругам, а на сярэдзіну выбіліся яцвяжскі князь Борут і Курыла Валун. Борут быў у яцвягаў кобнікам, у шуме ветру і лесу чуў голас багоў. Калі іхнія разгарачаныя коні наблізіліся, Борут

пагрозна закруціў вялізнымі чорнымі вачамі, нібы хацеў пракалоць імі Курылу, і дзіка адчайна закрычаў, аж вушы заклала ўсім ад такога нечаканага крыку. Але Курылу Валуна кобнік не змог напалохаць. Малады асілак, калі і баяўся каго, дык толькі бога. У час жа гэтага двубою ён справядліва лічыў, што бог будзе на ягоным баку, бо не ён, Курыла, першы напаў на яцвяжскую зямлю, не з-за яго пачала ліцца кроў.

Больш за ўсіх хваляваўся меднік Бачыла. Нават прысеў на кукішкі і трымцеў увесь, як восеньская павуціна пад ветрам.

— Давай, Курыла,— шаптаў ён.— Давай, мацачок.

І кожнаму, хто быў побач, хто падварочваўся пад руку, расказваў:

— Ён жа такі здаровы, такі магутны. Як ехалі з Ваўкавыйска да Новагародка, масты пад ім правальваліся ў рэкі.

Нялёгка даводзілася Курылу Валуну. Борут увесь час то выкрыкваў, то шаптаў нейкія нікому не зразумелыя словы. І амалі заўсёды Курылаў конь пачынаў палахліва ржаць, а колькі разоў нават спатыкнуўся на роўным месцы. Хоць ты ў лоб трэсні гэтаму каню.

— Давай, хлапчыска,— паўтараў між тым Бачыла, замілавана гледзячы на свайго малодшага сябра.

— Ах ты, кляча,— раззлаваўся нарэшце на каня Курыла Валун. Ён зразумеў, што чары яцвяга-кобніка могуць, калі не адказваць хітрасцю на хітрасць, перамагчы ягоную, Курылаву, сілу. І тады Валун рэзка развярнуў свайго каня, паставіў яго так, каб сонца свяціла ў вочы. Сонца было хоць і восеньскае, бляклае, але конь адразу адчуў сябе весялей, бо на нейкі міг злавесны вастраносы твар кобніка растварыўся ў жаўтлявых промнях.

Курыла Валун, весела гігікнуўшы, ірвануўся да Борута і адным ударам свайго магутнага жалезнага кія раструшчыў чэрап. Кобнік толькі паспеў аслабела саўгануць суліцай і злёгку ўспароў Курылу скуру на левым прадплеччы.

— Кобнікава сіла не ўсясільная! Высунуў язык кобнік! — закрычаў меднік Бачыла і пачаў абдымаць і цалаваць Курылу Валуна.

Двубой скончыўся. Разам з ім скончылася вайна. Даніла і Васілька павялі свае раці ад Варуты. Яцвягі з вялікім плачам павезлі на чорных конях цела Борута

ў наднараўскія пушчы, каб там аддаць яго агню па звычаях продкаў.

Вайна, зразумела, скончылася не з-за таго, што Борут спусціў дух, а Курыла Валун нанёс удалы ўдар, хоць Бачыла так і лічыў і ўсюды і ўсім расказваў пра гэта, не забываючы ў патрэбным месцы падхваліць самога сябе. Але ж на тое ён і Бачыла, красамовец. Так ужо спрадвеку павялося на зямлі: старцы-жабракі песні гудуць, а красамоўцы красамоўства вядуць. Знямога наступіла з абодвух бакоў, вось і патухла вайна. А яшчэ папа гразіў з Рыма адлучыць князёў Данілу і Міндоўга ад апостальскай апекі, бо ад яго ж, ад папы, каралеўскія кароны атрымалі, каталіцкімі вялікасцямі зрабіліся. А яшчэ вельмі добра памятаў Даніла Галіцкі, як ён, найслаўуты рускі князь, пакорліва прыехаў да хана Батыя, піў у ягоным шатры мярзотны кумыс, чорнае малако з-пад кабылы і, зашчаміўшы на самае дно душы гнеў і крыўду, стаяў на каленях. Татары, як лебяда і крапіва, незлічона пасяяліся з таго часу амаль на ўсёй рускай зямлі, і адно выратаванне ад іх на сённяшні дзень — баявы саюз Літвы і Белай Русі. Кунігасу ж Міндоўгу было яшчэ цяжэй. Зноў узнялі галаву ягоныя супляменнікі, гатовы хоць зараз адкалоцца. Вось-вось трэсне валуновы падмурак дзяржавы, і зноў — замятня, кроў, бясконцыя сечы... Не, толькі не гэта. Ён стаміўся ўжо ад злога віхурнага жыцця, калі спіш і не ведаеш, ці прачнешся. «Не плач па парасятах, калі свінню смаляць»,— чуў ён аднойчы. Словы запалі ў памяць. Якраз падаспеў такі час, які не любіць слёз, які вымагае рашучага беспамылковага дзеяння.

Адразу ж аб'явіў кунігас, што аддае сваю дачку Рамуне за Шварна Данілавіча. Аб'явіў таксама, што Навагародкам і ўсімі прылеглымі землямі будзе валодаць з гэтага часу сын ягоны Войшалк, ён жа, Міндоўг, застанецца панаваць у карэннай Літве і ўсходняй Жамойці. Частку жамойтаў на рацэ Дубісе разам з іхнімі нівамі, жонкамі і дзецьмі адпісаў кунігас у якасці даннікаў і канакормцаў епіскапу Хрысціяну, што павінен быў прыехаць з Прусіі. Жамойты за вернасць архіепіскапу адказвалі, як было дамоўлена, рукой і шыяй. Архіепіскапу аддавалася права суда за разбой на дарогах.

Усё гэта вельмі не спадабалася жамойтам. «Не рашай за нас,— сказалі іхнія пасланцы Міндоўгу.— Калі твая галава такая разумная, ідзі ў лес і ўсунь яе

ў пашчу свайму Жэрнасу. Ды навошта хадзіць у лес? Няхай Казлейка адгрызе табе галаву. Ён добра ўмее рабіць такое». А яшчэ назвалі жамойты кунігаса, пэўна, наслухаўшыся лацінскіх святароў, Ірадам Іерусалімскім і Неронам Рымскім. І хоць веяла ім у твары спусташальнае дыханне смерці, адважна сказалі ўсё гэта пасланцы.

Злы быў Міндоўг. Якраз у той час пасярод самай зімы дождж вялікі паліў, і страшэнная пасля каўзота надарылася. Чалавечыя трупы вытавалі са снегу ў навакольных лясах, смярдзелі. Шмат тады варуцкіх псоў спалела, коней і людзей кусалі, пакуль самі не падохлі.

Жамойцкіх пасланцоў за іхнюю нечуваную дзёрзкасць забілі мачугамі, а кунігас моцна задумаўся. Пра Казлейку думаў ён, пра ягоную прапанову. Прыйшоў неяк у нумас Казлейка, як заўжды, ціхі, пакорлівы, звышадданы, і сказаў, што бяда смяротная пагражае дзяржаве. А каб не ўпілася ў сэрца зубамі тая бяда, патрэбна з кожных дванаццаці дзяцей мужчынскага полу аднаго прыносіць у ахвяру багам. «Але гэта — вяртанне ў дзікунства»,— запярэчыў кунігас. «На дванаццаць мужчын абавязкова нараджаецца адзін здраднік,— цвёрда сказаў Казлейка.— Зірні, мой кунігас, і ўбачыш — здрада ў кожным кутку пляце свае сеці. Трэба быць жорсткімі, бо жыццё — жорсткая справа». — «Але хто ж вызначыць, які з немаўлят стане здраднікам?» — «Давер гэта мне. Я вызначу,— заззяў вачамі Казлейка.— Каго — у раку, каго — у кошык і на самы верх дрэва прывяжам. Птушкі або маланкі абавязкова знойдуць».— «А як з жанчынамі быць? — разгубіўшыся, запытаў Міндоўг.— Жанчына дзяржаве не здрадзіць. Яна, як хвост, ідзе за мужчынам».

Не згадзіўся тады Міндоўг («Я — не Ірад!»), але абяцаў падумаць. Калі верны Казлейка пайшоў, кунігас загадаў прынесці збан мёду і свой любімы чырвонафіялетавы распісаны золатам кубак. З Візантыі прывезлі кубак. Раскрылены кіпцюрысты арол быў намаляваны на ім. Ашчаднымі маленькімі глыткамі піў кунігас мёд і думаў пра Казлейку. Гэты не здрадзіць. Яго, вядома, не любяць, але ён — самы найверны. Вернасць жа — сонца, якое дужа ярка свеціць. Не ўсім падабаецца залішняя яркасць.

А назаўтра Лінгевін з узброенай вартаю прывёў да Міндоўга Казлейку і манаха Сіверта, якія былі звязаны

адной вяроўкай. У Казлейкі ў дадатак да ўсяго быў разбіты, расквашаны нос. Міндоўг не паверыў сваім вачам.

— Што гэта? — накінуўся ён на Лінгевіна.

— Кунігас,— расцягваючы, смакуючы словы, спакойна адказаў той,— няхай гэтыя псы,— ён тыцнуў пальцам у Казлейку і Сіверта, што бездапаможна стаялі на каленях,— падзякуюць мне. Я выратаваў ім жыццё. Я вырваў іх з рук жрацоў і ўсяго народа.

Міндоўг няўцямна пазіраў то на Лінгевіна, то на Казлейку і манаха.

— Ноччу яны хацелі (страшна нават прамовіць!) патушыць святы Зніч,— сурова сказаў Лінгевін і ўдарыў нагой Казлейку. Той не зморшчыўся ад удару, матлянуў галавой.

— Патушыць Зніч? Ты, пэўна, звар'яцеў,— сціснуў кулакі Міндоўг.— Патушыць святы агонь, які запалілі нашы продкі, які павінен гарэць вечна. Ты звар'яцеў. Хіба можна нават падумаць пра такое?

— Казлейку можна,— з радасна-здзеклівым, як падалося кунігасу, бляскам у вачах сказаў Лінгевін.— Ды спытай у яго сам.

Міндоўг люта прыкусіў губу, звузіў чорна-зялёныя вочы, потым шалёна тупнуў нагой, закрычаў на людзей Лінгевіна:

— Вон адсюль!

Варту як бурай выдзьмула.

— Ці не сон гэта, мой верны Казлейка? — пацішэлым і, здавалася, лагодным голасам спытаў кунігас. Ён спыніўся насупраць Казлейкі, глядзеў на яго задумліва і выпрабавальна.

— Тое, што чалавек бачыў ува сне, нават самае жорсткае, самае такое, да чаго ніколі не дабярэшся розумам, абавязкова было або будзе ■ некім у зямным жыцці,— пакорліва адказаў Казлейка.

Кроў цякла з разбітага носа. Ён сёрбаў носам, але кроў не выціраў, і невялічкая бліскучая лужынка цёпла свяцілася на падлозе. «Вось якая ў яго кроў,— раптам падумаў Міндоўг.— Я ніколі не бачыў ягонай крыві. Густая, цёмная...»

— Выйдзі вон,— раптам загадаў ён Лінгевіну.

Той разгублена лыпнуў вачамі, хацеў нешта сказаць, ды словы нібы прыліплі да гартані. Калі зачыніліся дзверы за Лінгевінам, кунігас прысеў на кукішкі побач з Казлейкам, пранізліва глянуў яму ў твар.

— Як ты даўмеўся да такога? Можа, ты і праўда звар'яцеў? Я паклічу зялейнікаў-лекараў.

Ён устаў, узяў у руку срэбны званец.

— Не трэба, вялікі кунігас,— цяжка ўздыхнуў Казлейка.— Мой розум, як чыстая незамутненая крыніца.

— Дык тады звар'яцеў я,— са злосцю сказаў Міндоўг,— бо нічога не магу зразумець. Навошта табе было гэта? Навошта ты пайшоў да святога Зніча з лацінянінам?

Ён закрычаў, аж пасінелі шчокі:

— Адказвай, пёс! Адказвай, бо зараз кат усе твае косці паставіць дыбарам!

— Для цябе рабіў усё, для тваёи моцы і славы,— ціха выдыхнуў Казлейка.— Мы сустрэліся з манахам Сівертам, духоўнікам княгіні Марты, і адначасова голас нябесны пачулі. І казаў гэты голас з нябёсаў, што смерць пагражае і дзяржаве, і табе, вялікі кунігас, і сынам тваім. А каб адолець немінучую смерць і разарэнне, трэба зрабіць такое, чаго яшчэ ніхто не рабіў. Трэба прынесці нечуваную на нашай зямлі ахвяру. «Якую? — пачалі думаць мы.— Спаліць чалавека або каня? Забіць раба ці рабыню? Ссекчы святое дрэва?» Рабілася ўжо ўсё гэта раней, бачылі такое багі і нябёсы.

— Але пры чым тут манах-нямчын? — рэзка перапыніў яго Міндоўг.— Ён жа не верыць Пяркунасу.

— Я веру Хрысту, як верыш яму і ты, вялікі кароль,— сціпла ўставіў свае слова Сіверт.— Памятаеш, як хрысцілі цябе ў Новагародку? Сышлося столькі народу, што епіскап са сваім кліpам вымушаны быў чыніць святое набажэнства за гарадскім валам, у чыстым полі.

Міндоўг люта пекануў па ім чорна-зялёнымі вачамі, але стрымаўся, загадаў Казлейку:

— Гавары.

— Я надумаў тады прынесці ў ахвяру сябе самога,— стоячы на каленях, зноў пачаў спавядацца Казлейка.— Але што мае нікчэмнае жыццё? Каму яно патрэбна? Багам? Ці я ўзыду на ахвярнае вогнішча, ці кінуць туды пазалеташнюю сухую сцяблінку — адно і тое ж. Калі б я ведаў, што мая смерць — яшчэ адзін дыямент у тваю карону, я з радасцю згараў бы кожны дзень.

Ён усхліпнуў. Светлай слязою залілося вока.

— Гавары,— не адрываў ад яго позірку Міндоўг.

— Думалі мы з манахам Сівертам і так, і гэтак. А вайна ўжо грукалася ў варуцкую браму. І хоць розум

мой маленькі, з камарову лытку, усе ночы не спаў я і думаў, думаў... Ахвяра павінна была быць нечуванай і нечаканай. Самым святым, свяцейшым за жыццё, трэба было ахвяраваць. І нарэшце я надумаўся. Я адразу ж пайшоў да манаха, хоць вісела над Варутаю глухая ноч, і, баючыся, што кожнае імгненне можа ўдарыць у мой кашчунны рот нябеснай стралой Пяркунас, расказаў яму ўсё. Мы вырашылі на міг, толькі на кароткі міг прытушыць Зніч. Такое, як мне было вядома, яшчэ ніколі не рабілася на нашай зямлі. Пакуль святы агонь не гарэў, манах тройчы прачытаў малітву, прасіў хрысціянскага бога, каб ён даў табе поўную і канчатковую перамогу над ворагамі тваімі.

— Але я вымушаны ўзяць за такое нечуванае святатацтва жыццё ў цябе і ў нямчына,— сурова прамовіў Міндоўг.

— Бяры. Маё жыццё належыць табе,— хуценька сказаў Казлейка і дадаў: — Пяро сагнулася б ад жалю, каб хто мог апісаць тое, што мы нацярпеліся ў гэту ноч.

— А ты чаго маўчыш? — спытаў кунігас у Сіверта.— І навошта ты, чужаземец, улез у такое? Няўжо ў княгіні Марты было нясмачнае піва?

Манах з годнасцю паглядзеў на кунігаса, сказаў:

— Папа, беручы цябе і тваю дзяржаву пад сваю апеку, хацеў, каб ты і твой народ былі хрышчаныя і жылі вольна. Ён быў упэўнены, што каралеўская карона ўзвысіць Літву між суседзямі.

Такія непалахлівыя словы спадабаліся кунігасу. Але ён гнеўна зламаў цёмнае густое брыво, са злосцю выдыхнуў:

— Дык і мячы тэўтонцаў і лівонцаў, што п'юць нашу кроў, таксама, як і маю карону, асвяціў папа. Хіба думаюць людзі пра мурашак і чарвякоў, пра тое, як ім жывецца? Мы для Рыма — чарвякі і мурашкі.

— Не,— смела адказаў дамініканец.

У гэты час цэлая бура чалавечых галасоў пачулася знадворку. Нешта затрашчала і зазвінела. Спалоханы Лінгевін прачыніў дзверы.

— Што там? — злосна спытаў Міндоўг.

— Вайдэлоткі прывялі народ. Аднаго майго чалавека раздзёрлі на шматкі. Сам бачыў, як шпурнулі на зямлю руку... Яны патрабуюць, каб ты аддаў Казлейку і манаха.

— Зніч! — ляцела знадварку.— Зніч!

Казлейка пабялеў, з адчаем глядзеў на кунігаса.

Сіверт, заплюшчыўшы вочы, шаптаў малітву.

— Хацеў па лязе мяча прайсці, вось і пройдзеш,— суха сказаў Казлейку Міндоўг.

— За цябе гіну, вялікі кунігас,— аддана прамовіў той.

Крыкі вакол нумаса ўзмацніліся. Здавалася, яшчэ трошкі — і рухнуць сцены. Міндоўг стаяў з апушчанай галавой, нібы нахіліў галаву насустрач ветру.

— Вялікі кунігас, дазволь вока на вока сказаць табе адно слова,— папрасіў Казлейка.

— Скажы.

Яны адышліся за велізарную цёмна-рыжую тураву шкуру, што звісала з-пад самай столі, хвалямі кладучыся на падлогу. На нейкі час дамініканец застаўся адзін. Ен напружана прыслухоўваўся да дзікіх крыкаў, якімі поўнілася ноч. На буйным, нібы конскім, твары беглі блуклівыя цені. Было такое ўражанне, што ён адначасна плача і смяецца. Частае сіплаватае дыханне вырывалася з ноздраў, парослых жорсткімі кусцістымі валасамі, прычым правая наздрына была большай за левую. Але правільна кажуць людзі: «Перад смерцю не надыхаешся». І таму Сіверт стараўся заспакоіць дыханне, заганяў яго ўглыб, а сам няспынна хрысціўся.

З-за полага выйшлі Міндоўг з Казлейкам. І адразу ж зноў прачыніў дзверы, уваткнуў у святліцу галаву Лінгевін, чакаючы слоў, якія скажа кунігас.

— Аб'яві ўсім, што заўтра Казлейка і нямчын памруць на ахвярным вогнішчы,— цвёрдым голасам прамовіў кунігас.

Лінгевін згодна кіўнуў галавой і не ўтрымаўся — радасць успыхнула ў вачах.

— Наглыкаўся нашай крыві і слёз,— жорстка выгукнуў ён Казлейку.

Потым грымнуў дзвярыма і ўжо там, на вуліцы, нешта закрычаў раз'юшанаму натоўпу.

— Вось і ўсё,— ціха сказаў сам сабе Сіверт.— Я заўсёды помніў, што вяршыня — апошні крок перад спускам.

На ноч іх зачынілі ў халоднай каморы, дзе агідна пахла мышамі і павуціннем. Праз свіны пузыр, якім было зацягнута малюсенькае акенца, манах убачыў раптам поўню, нават не поўню, а тупое мёртвае святло ад яе. Падумалася, што зараз яна плыве і над Ліёнам і над Рымам, толькі больш яркая, больш вясёлая. Сіверт гаротна ўздыхнуў, абшчапіў далонямі лоб. Вельмі не хацелася паміраць. Ен, вядома ж, быў упэўнены, што

адразу з дыму і пякучых іскраў паганскага вогнішча патрапіць у рай, але была нейкая незразумелая грахоўная шкадоба да свайго цела, якога ўжо заўтра не будзе. Нездарма апостал Павел сказаў: «Не ўсякая плоць такая ж плоць, але розная плоць у чалавекаў, розная ў скаціны».

Перад самым сном іх накармілі. Ахоўнік прынёс хлеба са смажаным мясам і па кубку халоднай, аж калола ў зубах, вады. Казлейка за ўвесь гэты час не вымавіў ні слова, не дакрануўся да ежы. Клубком ляжаў на падлозе каля сцяны і, здавалася, спаў. Сіверт жа паеў, папіў вады, сказаў праніклёным голасам, падбадзёрваючы Казлейку:

— Мацуйся вераю, мой брат па смяротнай пакуце.

Ён хацеў гаварыць далей, бо ласкавае слова і косць ломіць, але з цемры нечакана пачулася лёгкае храпенне. «Дзікун! Паганец! — аж узвілося ўсё ў душы ў манаха.— Перад самай смерцю спіць як дубовае палена!»

Халодныя слёзы накаціліся на вочы. Дрогкімі пальцамі пачаў гладзіць дамініканец шчокі, губы, лоб, развітваючыся са сваёй плоццю. І адразу ж даў сабе зарок, што, як бы цяжка і балюча ні было заўтра, будзе тварыць святую малітву, цярпець, трымаць слязу на сэрцы.

Раніцой сонца хлынула ў іхнюю змрочную цэлю. «Хрыстос памятае пра мяне!» — адразу акрыяў душой Сіверт. Забыўшыся на ўчарашнюю злосць, ён усміхнуўся Казлейку. Той быў зеленавата-сіні з твару, увесь час моршчыўся і ўздыхаў. Было відно, што вельмі баіцца ён вогнішча. Пот ручайкамі бег па скронях, рукі і вусны дрыжалі. Няўцямна пазіраў ён на каменныя, чорныя ад сырасці сцены каморы, на Сіверта і, не прамаўляючы ні слова, узбуджана соп носам. «Ды ён звар'яцеў ад жаху,— раптам здагадаўся манах.— Бог адабраў у яго мову».

Дамініканец пачаў асяняць няшчаснага Казлейку святым крыжам. На дне кубка засталося крышачку вады. Сіверт падаў кубак Казлейку. Той з прагнасцю выпіў усё і заплакаў.

Манах, як мог, суцяшаў вар'ята, аж пакуль за імі не прыйшлі. Радасны Лінгевін, што ўваліўся ў камору з дзесяткам вояў, схапіў Казлейку за каршэнь, з насалодай выкінуў за дзверы, каб весці на вогнішча. Казлейка завераінчаў, быццам яго рэзалі, і ўсе, апроч Сіверта, засмяяліся.

Каля велікакняскага церама было шумна і людна. Амаль уся Варута збеглася сюды, каб убачыць, як павядуць на смерць тых, хто надумаўся патушыць святы Зніч. Дзеці шпурлялі гразёю ў Казлейку і Сіверта, дарослыя, асабліва жанчыны, плявалі на іх.

«Навошта я згадзіўся ісці той ноччу на капішча, каб тушыць іхні агонь? — спустошана думаў дамініканец, крочачы поруч з Казлейкам.— Зацьменне найшло... Сядзеў бы зараз у пакоях каралевы Марты і чытаў ёй святое пісанне. Але, пэўна, так патрэбна Хрысту, бо ён, толькі ён, наш нябесны айча, кіруе сваімі служкамі і мудра вучыць іх. Прыйдзе час, калі на ўсім божым свеце патухне апошняе паганскае вогнішча. Я веру, што мяне чакае нябесны вянец, бо я дапамагаў тушыць д'ябальскі агонь».

Падмацаваўшы душу такою развагаю, Сіверт павярнуў галаву, каб зірнуць на свайго суседа па смяротнай дарозе, і як абухом ударылі яго па цемені, як гарачай паходняй тыцнулі ў самыя вочы — ён раптам здагадаўся: чалавек, што ідзе побач з ім, не Казлейка! Манаху аж перахапіла дыханне і рубам паставіла ў роце язык ад гэтага нечаканага адкрыцця. Ён аж спыніўся, але ў плечы стукнулі дрэўкам кап'я, і ён зноў пайшоў. Гэта быў не Казлейка. Гэта быў, як дзве кроплі вады, падобны на яго двайнік, але нямы, можа, нават без'языкі. І твар, і вочы, і скуру, і паставу меў невядомец, як у Казлейкі. Але не было ледзь прыкметных дзвюх радзімак, што павінны сядзець ніжэй левага вуха. Гэтыя радзімкі дужа добра запомніў Сіверт, бо, упершыню ўбачыўшы іх, падумаў: «Няйначай, д'ябал ушчыкнуў паганца жалезнай дзюбаю». Радзімак не было.

«Што ж гэта такое? — захлынуўся вялікай роспаччу дамініканец.— Мяне цягнуць да вогнішча, а Казлейка, зачыншчык і падбухторшчык, адкруціўся ад смерці, падсунуўшы замест сябе нямога дурня. Ды, відаць, гэтаму нямку проста выдзерлі язык перад пакараннем, каб не пачаў верашчаць і, раскрыўшы таямніцу, не ўвёў у шаленства народ».

Адразу стала зразумелая Сіверту ўчарашняя перамова Казлейкі з Міндоўгам. Стала зразумелым і тое, што Казлейка не выпіў ні кроплі вады. Пэўна, у ваду ўсыпалі соннага зелля. Ён, Сіверт, выжлукціў увесь кубак і заснуў, а ў гэты час у камору прывялі ілжэ-Казлейку.

— Хачу бачыць Міндоўга! Паклічце вялікага кунігаса! — прарэзліва закрычаў Сіверт, адчуваючы, як залівае душу мярзотны халодны страх. А некалі ж ён казаў сваім вучням і ўсім, хто хацеў яго слухаць: «Трэба выгадаваць народ, які не баіцца смерці». І яшчэ ён казаў: «Мы на зямлі толькі госці. Лепш смутак, чым радасць, бо сэрца смуткуе і ў радасці». Усё гэта імгненна вылецела з памяці, бо за некалькі дзесяткаў крокаў ужо бачыліся сцірты дроў, дзе неўзабаве закіпяць, забушуюць іскрыстым гарачым полымем два вялікія вогнішчы — адно для ілжэ-Казлейкі, другое для яго, Сіверта.

— Паклічце сюды Міндоўга! — крычаў, умольваў манах, але ніхто яго не слухаў.

Радасныя варутчане гатовы былі танцаваць і спяваць, загадзя смакуючы тыя пакуты, якімі пакарае Пяркунас лютых ворагаў святога Зніча. Асабліва здзекаваліся над Казлейкам, над тым няшчасным, хто лічыўся Казлейкам.

— Табе ўкоціцца ў вуха гарачы вугольчык,— паказваючы яму языкі, смяяліся падшыванцы-малалеткі.

— Ты зашыпіш на агні, быццам рыбіна,— пагрозна сказала бяззубая старая.— Памятаеш, як плакаў пад рукамі тваіх катаў мой сын Пірагас?

Набліжаўся канец зямнога шляху. Іх паставілі каля ўкапаных у зямлю слупоў, прывязалі, па самы пояс пачалі старанна абкладваць дрывамі, шышкамі, мохам і сухой бяростай. Сіверт ужо змірыўся са смерцю.

— Падобна авечцы, што доўга па пустыні блукала і знайшла нарэшце сваю аўчарню, вяртаюся я, о непагаслы Хрыстосе, з грэшнай зямлі на тваё святое неба,— шаптаў манах.

Побач, за некалькі крокаў ад яго, нешта бубніў, біўся галавою аб слуп ілжэ-Казлейка.

— Язык ад страху адкусіў,— кпілі варутчане.

І тут Сіверт убачыў апошнюю сваю надзею на гэтым свеце — саксонскага графа Уда. Рудавалосая галава графа круглелася ў натоўпе між цёмнавалосых і белавалосых літоўскіх галоў, як сонца між хмар.

— Граф Уда! Хрысціяннейшы рыцар! — закрычаў манах.— На цябе — усё маё маленне! Вызвалі з д'ябальскіх рук! Папрасі кунігаса, каб дараваў мне маю неразумнасць! Як суайчынніка і як хрысціяніна імем чысцейшай дзевы Марыі заклінаю цябе!

Уда нешта крыкнуў у адказ, падняў руку ў паль-

чатцы. І ў гэты міг падпалілі сцірту дроў, якой быў абкладзены ілжэ-Казлейка. Бедалага завыў ад болю, затрашчалі ягоныя валасы. Гарачыня ад вогнішча была такая моцная, што пачало прыпякаць і Сіверту.

— Гэта — не Казлейка! — узвысіў голас манах.— Нявіннага губіце!

— Пачакай, зараз мы і цябе паказычам,— весела паабяцалі яму.

Дамініканец зразумеў, што яго лічаць за вар'ята, бо хто ж, апроч Казлейкі, ненавіснага ўсім, курчыцца на вогнішчы, а лацінянін крычыць, што гэта не Казлейка.

— Адпусці ім, божа, грахі іхнія,— прачула сказаў Сіверт, рыхтуючыся памерці.

Раптам непадалёку ад сябе ён убачыў Морыца. Той з жахам глядзеў на яго і плакаў. Гэта расчуліла манаха. Знайшлася ўсё-ткі ў паганскім вэрхале жывая душа, якая шчыра спачувае яму. Сіверт куточкамі сухіх вуснаў усміхнуўся свайму служку.

— Вялікі кунігас Міндоўг даруе жыццё лацініяніну! — калі ўжо ішлі да Сіверта з галавешкаю, раскаціўся над людскімі галовамі зычны голас Лінгевіна.

Амаль усе прысутныя сустрэлі такую навіну крыкамі абурэння і гневу.

«Няўжо я буду жыць?» — падумалася манаху, і ён страціў прытомнасць.

## VI

Варута, як і ўся Новагародска-Літоўская зямля, адбілася ад нападу. У сваю чаргу Міндоўг, сабраўшы вялікую сілу, разам з Войшалкам і Даліборам, разам з Ізяславам Свіслацкім, які прызнаў нарэшце верхавенства кунігаса, уварваўся ў Жамойту і асадзіў галоўны горад свайго ворага Выканта Цвірамець. Але з наскоку ўзяць горад не ўдалося. Акрамя народнага апалчэння жамойтаў Цвірамець баранілі палавецкія і прускія атрады, якія былі падручнымі ў князя Данілы Галіцкага. Полаўцы, што некалі трымалі ў страху Русь і лічыліся ўладарамі паўднёвага стэпу, уцяклі, як суркі і дрофы, ад грознай татарскай конніцы, развеяліся па свеце. Частка пайшла на паклон да ўгорскага караля Бэлы, частка прыбегла да князя Данілы.

Сядміцу стаяла войска Літвы і Новагародка пад сценамі Цвірамеця. Некалькі разоў, то ўдзень, то ўначы,

хадзілі на прыступ, але агонь, камяні і кіпецень ляцелі на галовы. Пад Міндоўгам забіла каня буйным амаль пудовым каменем-галышом. Самога ж кунігаса дзеўбанула ў левую руку палавецкая страла. Выпаліўшы ўсё наваколле, сагнаўшы ў гурты палонных і жывёлу, адступілі ад Цвірамеця, хоць кунігас у найвялікшым гневе скрыгатаў зубамі.

Пад Цвірамецем, як, зрэшты, і пад Варутаю, асабліва вызначыўся Курыла Валун. У час першай сечы, каліываліліся з брамы Цвірамеця густыя натоўпы жамойтаў-пешцаў, Курыла адважна ўрэзаўся ў іх і адразу праламаў, прабіў дарогу ў чалавечай сцяне. Затрашчалі, пакаціліся ва ўсе бакі жамойцкія павескі*. Пешцы, ратуючыся ад Курылавага молата і каня, пачалі скакаць у роў. Шмат хто захлынуўся ў смярдзючай гнілой вадзе.

Меднік Бачыла стараўся быць усюды побач з маладым асілкам. Пастулова ён зрабіўся як бы Курылавым збраяносцам, але нядобразычліўцы смяяліся, што ў час бою палахлівы меднік проста хаваецца за ягонымі шырокімі плячамі. «Прыляпіўся да Курылы, як муха да вала»,— кпілі яны, ды ганарысты Бачыла пускаў міма вушэй такія кпіны.

— Вось і скончылася вайна,— сказаў Бачыла Курылу Валуну, калі новагародска-літоўскія раці адыходзілі ад Цвірамеця.— Што цяпер будзеш рабіць, Курыла? Ты ж хваліўся, што ў законнікі** хочаш падацца.

— Хваліўся, ды перахваліўся,— весела прамовіў Курыла.— Ёсць у Новагародку адна дужа прыгожая залатарова дачка. Хачу на яе глянуць і нешта ёй шапнуць на вушка.

— А як дзеткі запішчаць, што будзеш рабіць? — не адставаў Бачыла.

— Пасаджу ў рэшата і панясу на торжышча прадаваць.

Жарты жартамі, а Курыла Валун, якому амаль кожную ноч пачала сніцца Лукера, цвёрда вырашыў адшукаць яе, спадабацца ёй і, вядома ж, добра накухталяць княскаму дружынніку, каб не валачыўся, як хвост, за дзяўчынай. Аб усім гэтым Курыла чыстасардэчна расказаў медніку.

— Прыліпнеш ты, братка, да бабы і згубіш усю сваю

---

* Павеска — вялікі драўляны шчыт, абцягнуты скурай.

** Законнік — манах.

сілу,— уздыхнуў Бачыла.— Але гэта — збожная справа. Калі пачалі дзеўкі сніцца, трэба лавіць і мацаць гэтых дзевак. Я, праўда, як маладзёнам быў, не бегаў за сваёй будучай жонкаю. Яна сама за мной бегала.

— Ды ну? — навастрыў вушы Курыла.

— Бегала. І нават след мой выкапала.

— След? А навошта?

— Каб укахаць мяне ў сябе. Падпільнавала, як ішоў я па дарозе пасля дажджу, і выкапала мой след. А потым след гэты — у гаршчок і кветкі там пасадзіла. Шмат кветак было. І сінія, і ружовыя, і чырвоныя... Кожны дзянёк палівала кветкі нёманскай вадою, пра мяне думала і святыя малітвы тварыла.

— Ну, і ўкахаўся ты ў яе? — аж кончык языка прыкусіў ад цікаўнасці Курыла Валун.

— А як жа,— зноў уздыхнуў Бачыла, прычым уздыхнуў яшчэ глыбей.— Непаглядная, скажу я табе, была яна дзеўка. Такіх у мяне было — хоць ад Навагародка да Нёмна пад кожнаю хвойкай кладзі. Але чамусьці толькі яе пачаў бачыць... Гляну на луг або на рэчку ці на воблака, што над галавой плыве, і, вер не вер, адну яе бачу.

Курыла Валун, пачуўшы такое, весела, на ўсе шырокія грудзі засмяяўся. Разам з ім засмяяўся і Бачыла.

Ды нядоўгая была іхняя весялосць, бо князь Далібор з ваяводам Хвалам, не дазволіўшы дружыне перадыхнуць, павялі яе на Навагародак, а адтуль на Ваўкавыйск. Дзіўныя весткі прыносілі з Навагародка надзейныя людзі Далібору. Калі верыць ім, то кунігас Войшалк, пэўна ж, звар'яцеў — аддае Навагародскую зямлю сыну Данілы Галіцкага Раману. У глыбіні душы Далібор разумеў, што гэта не вар'яцтва. Спачатку Войшалк аддаў за Шварна Данілавіча сваю сястру Рамуне, зараз хоча аддаць Раману Данілавічу ўвесь свой набытак. Аслабела дзяржава пасля крывавых войнаў, вось і трэба яе ратаваць, каб не вытапталі да апошняй травінкі татарскія коні. Так, калі знянацку налятае на чалавека ў глухім месцы воўк, чалавек, баронячы жыццё, усоўвае лютаму зверу ў разяўленую пашчу сваю руку. Галоўнае — захаваць душу. Першай рукою, як раздумваў Далібор, была Рамуне, другой — уся дзяржава. «Але навошта жыццё бязрукаму? Ні меч не ўзяць, ні лыжку»,— няспынна клекатала злосць у Даліборавым сэрцы. Ён біў, падганяў каня, каб хутчэй

глянуць у вочы Войшалку. На варуцкім капішчы Пяркунаса ў час апошняга спаткання з Рамуне Далібор, разлютаваўшыся, крычаў, што ненавідзіць Войшалка, хітрага святара, які хоча ўвапхнуць сабе ў кішэню Новагародак, Літву і Жамойць. Але ці ненавідзіць ён Войшалка? Пэўна ж, не, бо Войшалк, прысягнуўшы на вернасць Новагародскай зямлі, абраны яе князем, яшчэ ні разу не адступіў ад клятвы-роты. Прыйшоўшы на новагародскі сталец збоку, з іншага народу, ён, не ў прыклад многім мясцовым князям і баярам, дбаў не пра пагібель, а пра росквіт дзяржавы, не срэбрам вочы песціў, а старымі славянскімі пісьмёнамі, захоўваў, як уласную зрэнку, мову і звычаі крывіцка-дрыгавіцкай зямлі. «Ён не Жэрнас,— падганяючы каня, думаў Далібор.— Жэрнасы дзеля жалудоў з-пад святога дуба, дзеля бясконцай і тлустай жратвы прададуць усё, прададуць родную маці. А калі ад рукі ворага рухне на зямлю брат, жэрнасы, уволю набіўшы, напхаўшы чэрава, будуць нюхаць і нават лізаць ягоную цёплую кроў. Усё зло на свеце — ад жэрнасаў».

Імклівы бег коней Даліборавай дружыны перапыніла на нейкі час навіна, якую паведаміў сустрэчны смерд. Зняўшы шапку, пакланіўшыся князю, ён сказаў:

— А ў нас сёння вяшчун на неба адыходзіць.

Далібор з непаразуменнем паглядзеў на яго.

— Валасач з Цёмнай гары сам сябе спаліць надумаў,— растлумачыў смерд, і ў сініх невялікіх вачах ззялі здзіўленне і нібыта радасць.— Хадзіў я да яго на гару, гаварыў: «Не спяшайся на шыбеніцу, яшчэ навісішся», але ён на мяне нават і не глянуў. Дужа вясёлы быў. Дзеўкі і маладзіцы збегліся з усяго Новагародка. А сам вяшчун залез у зруб, які ягоныя памочнікі збудавалі, загадаў абкласці зруб сухімі карчамі і, як сонца за лес упадзе, падпаліць.

Смерд зірнуў на шэрае неба. Сонца ледзь віднелася праз хмары і ўжо невысока стаяла над лесам.

— Здурнеў Валасач,— толькі і сказаў Далібор і пакіраваў дружыну да Цёмнай гары.

— Князёк, вазьмі і мяне,— залямантаваў смерд.— А то не паспею, не ўбачу, як вяшчун гарэць будзе.

Далібор пагардліва глянуў на яго, загадаў:

— Спусціце гэтаму гнойнаму жуку парткі і на задзе ягоным напішыце плёткамі маё княжае слова: «Не радуйся чужой дурноце».

— За маё жыта дый мне ж набіта,— разгублена

сказаў смерд, калі падступалі ўжо да яго з гарачымі плёткамі.

На цёмнай гары непадалёку ад святога дуба яны ўбачылі Валасачоў зруб — драўляную клетку памерамі два на два сажні, без вокнаў і дзвярэй. Толькі зверху меўся вузкі ход-лаз. Высунуўшыся з гэтага лаза, вяшчун развітальна пазіраў на белы свет: на дуб і лес, на воблакі, на людзей, мноства якіх сышлося [redacted] навакольных весяў і з Новагародка. Твар у вешчуна быў засяроджана-спакойны. Здавалася, Валасач прыслухоўваецца да зямных і нябесных галасоў, што чутны толькі аднаму яму. Дзеўкі і маладзіцы кучкаваліся як мага бліжэй да зруба і плакалі светлымі натхнёнымі слязамі. Мужчыны стаялі збоку. Некаторыя пасміхваліся.

— Гэта ж яго новагародскі поп Анісім разам [redacted] князем Войшалкам са свету зводзяць,— пачуў Далібор.

— А навошта ім рабіць такое?

— Дык ён жа, Валасач, паганец, дубоваму камлю моліцца.

— Ну і што? Уся Літва ў паганцах. І ў Новагародку яны ёсць. І ніхто іх за паганства іхняе не сілаваў.

— А я табе кажу, што Анісім тут пастараўся. Цвёрдай рукою магу пабажыцца.

Далібору не ўдалося даслухаць канец бясконцай спрэчкі, бо Валасач, у апошні раз глянуўшы на цёмнае вечаровае неба, загаварыў, і голас быў шчаслівы:

— Падпальвайце зруб. Неўзабаве засну я, дзеці мае, у вогненнай калысцы. Даўно я думаў пра такое і радуюся, бо соладка будзе спаць. Удосталь папіў я жыцця, а перасыць дае толькі пакуту.

Тры юнакі ў белым падпалілі сухія карчы і голле, якімі быў абкладзены зруб. Шуганула барвова-жоўтае полымя.

— Малайцы,— пахваліў іх Валасач.— Добрая работа два вякі жыве. А зараз няхай дзяўчаткі, як я іх вучыў, пасадзяць у зямлю жалезныя жалуды.

Чародка дзяўчат рассыпалася па Цёмнай гары. З кошыкаў бралі яны жалезныя жалуды, з вялікім стараннем закопвалі ў зямлю.

— І твая недатыка тут,— таўхануў Курылу Валуна пад бок Бачыла, заўважыўшы між дзяўчат Лукеру.— Не будзь майскай кветачкай. Як згарыць гэты стары грахаводнік, адразу бяжы да яе і прыцісні дзе-небудзь у лесе.

Курыла Валун не слухаў медніка, усхвалявана

глядзеў на Лукеру. Якая яна прыгожая, якая лёгкая і прывабная!

— З заходняга боку закопвайце! Каб крыжак на нашу зямлю не прайшоў! — крычаў між тым з вогненнага зруба Валасач.

Дзяўчаты ўпалі на калені, [redacted] бляскам у вачах ліхаманкава закопвалі жалезныя жалуды.

— А зараз — з паўднёвага боку! — ляцеў высокі адрывісты голас вешчуна.— Каб татарскі конь не прабег!

Дзяўчаты выканалі і гэты загад.

— Усё! — крыкнуў Валасач.— Адыходжу! Добра грэе святы агонь! Добра гарыць зруб! Дзве сцяны ў зрубе [redacted] новагародскай сасны, дзве — з літоўскага дуба!

Вяшчун, пэўна ж, адчуваў вялікую пакуту ад нясцерпнага полымя. Голас пачаў збівацца, слабець.

— Адыходжу,— данеслася да людзей.— Беражыце ж дзяржаву і агонь... Беражыце...

Ужо амаль усе стаялі на каленях, апрача Далібора, Бачылы і часткі ваўкавыйскай дружыны. Курыла Валун, укленчыўшы, плакаў, як плакала Лукера і яе сяброўкі. Чыстыя слёзы каціліся па загарэлых шчоках маладога асілка, і ён ні кропелькі не саромеўся іх.

Рухнуў зруб. Роем узвіліся іскры.

— Беражыце... — даляцела ў апошні раз.

Жанчыны пачалі галасіць, рынуліся да таго месца, дзе толькі што стаяў зруб, абпальваючы рукі, хапалі вугольчыкі. Кожная хацела панесці дадому хоць маленькую часцінку вогнішча, на якім ахвярна сканаў Валасач. Мужчыны трымаліся больш разважна, спакойна, але відно было, што і ў іх усхвалявана блішчаць вочы.

Далібор не мог зваладаць з сабой — дробна калаціліся ногі. Лезла ў галаву, прыпаміналася першая сустрэча з вешчуном на новагародскім дзядзінцы. Тады Валасач сказаў: «Як ні старайся, не здолееш змяніць колер сваіх вачэй». Дужа мудрагелістыя і незразумелыя былі тыя словы. Але сёння, калі адшумела ўжо шмат сонцаваротаў, калі вяшчун, ахвяруючы сабой дзеля дзяржавы, скончыў жыццё самаспалам, прыйшла ясчасць. Так, нельга змяніць колер вачэй, нельга змяніць душу. Той, хто хоча змяніць сваю душу, памірае, бо душа не пара ад вады, не дым ад гнілой саломы. Душа даецца кожнаму чалавеку разам з матчынай усмешкай і роднай зямлёй, яны — душа, маці і зямля — не-

падзельныя. Калі зменіш пад прымусам або па сляпой дурноце душу, лічы, што сваёй рукою забіў маці.

Далібор глядзеў на шырокі гарачы россып вугалёў, каля якога мітусіліся людзі, і ўспамінаў яшчэ адну сустрэчу з Валасачом, калі вяшчун аб'явіў яго Міндоўгавым сынам. Сёння зразумела — хлусіў. І нават можна даўмецца, дзеля чаго была тая хлусня. Хацеў зрабіць новагародскага княжыча Міндоўгавым адзінакроўцам, бо бачыў ці жадаў бачыць у варуцкім кунігасе таго, хто здолее сабраць у адзін моцны кулак Новагародскую зямлю і Літву, хто абароніць народ ад крыжацкага мяча і татарскай шаблі. І хоць сёння, як цвёрда перакана괌ы Далібор, не Міндоўг, а Войшалк з'яўляецца руплівым дойлідам новай дзяржавы, можна даравадь і апраўдаць святую хлусню. Ен, Далібор, як і ягоная дружына і ягоны народ, пачалі бачыць у Міндоўгу не дзікага паганца, не крыважэрнага хціўца і заваёўніка, а спрадвечнага суседа, брата па небяспецы, чалавека, які п'е ваду з тых жа рэк, што новагараджане.

Раптам паміж людскога вэрхалу ваўкавыйскі князь убачыў тых, каго менш за ўсё можна было спадзявацца сустрэць у такім месцы. Некалькі немцаў-ордэнцаў стаялі цесна купкай і пільна пазіралі на тое, што дзеялася вакол. Аднаго з іх Далібор адразу ж пазнаў — гэта быў дамініканскі манах Сіверт. Калісьці манаха гналі з палонам у Новагародак, але Міндоўг забраў яго да сябе ў Варуту. Па чутках, зрабіўся там дамініканец духоўнікам княгіні Марты, стаў яе ўлюбёнцам, ды такім, што поўнасцю завалодаў княгінінай душой. А потым, зноў жа па чутках, угнявіў Сіверт усю Літву тым, што разам з Казлейкам (звар'яцеўшы, ці што?) надумаў патушыць святы Зніч. Казлейку, які заўсёды меў пры Міндоўгу вялікую вагу і сілу, ніпто не ўратавала ад смяротнага полымя. Сіверта таксама ўзвялі былі на вогнішча, але ў апошні міг кунігас падараваў яму, як хрысціяніну і як саюзніку-іншаземцу, жыццё, хоць страшэнны крык грымеў у народзе. І вось манах тут, на Цёмнай гары. Стаіць і, не адрываючы вачэй, глядзіць на тое месца, дзе толькі што згарэў Валасач. Вядома ж, хітры немец робіць выгляд, што не пазнаў ваўкавыйскага князя, свайго былога ўладара, які калісьці аднымківам пальца мог, каб захацеў, скончыць ягонае зямное жыццё. Што ж прывяло на Цёмную гару дамініканца? Ясна адно — невыпадкова ён сюды прыехаў. Тэўтонскія святары сем разоў

прыкідваюць у галаве тое, што вымагае аднаго толькі слова ці аднаго кроку.

«Здаецца, я пачынаю разумець,— думаў Далібор, неадчэпна пазіраючы на Сіверта.— У Варуце ён ужо стаяў на вогнішчы, ужо развітаўся з белым светам, і раптам — яму вярнулі, як падарунак, жыццё. Ён не хацеў паміраць, заўсёды лічыў, што заслугоўвае доўгага жыцця і прыгожай ганаровай смерці, і вельмі-вельмі быў рады свайму нечаканаму выратаванню. Ён як бы нанова ступіў на гэту зямлю. І вось ён даведаўся, што тутэйшы святар, няхай сабе паганец, таксама павінен згарэць, але згарэць добраахвотна, па ўласнай волі. І яму захацелася глянуць у вочы гэтаму святару і абавязкова ўбачыць у іх страх, свой страх, які перажыў ён ў Варуце, стоячы на вогнішчы. Але страху ён не ўбачыў, і гэта вельмі бянтэжыць яго».

Далібор нібы падслухаў думкі Сіверта ці (быццам мелася акенца ў чалавечую душу) падгледзеў іх. Сапраўды, невыпадкова апынуўся манах на Цёмнай гары. Тыя некалькі сонцаваротаў, што пражыў ён між тубыльцаў, прымусілі дамініканца глянуць на гэты край новымі вачамі. Не дзікунства і не крываўства ўбачыў ён. Хоць, вядома, крыві хапала. Але старадаўнія храмы готаў і свеваў, як добра памятаў манах, называлі «дамáмі крыві», бо ў іх прыносілі чалавечыя ахвяры. Так што літоўцы [redacted] русінамі пралівалі крыві не больш і не менш, чым вымагаў час, і былі божымі людзьмі падобна пілігрымам, якія пашыралі ў Прусіі і Лівоніі вертаград гасподні. Раней дамініканец лічыў тубыльцаў амаль за звяроў, бо не ведаў іх. Страла ж, аб якой ведаюць загадзя, не так раніць.

Яшчэ ў Ліёне Сіверт наслухаўся аб тым, што тутэйшыя людзі дужа распусныя, што савакупляцца [redacted] жанчынаю могуць яны ўсюды, нават у агні і ў мярзотным балоце, а калі не хапае жанчын, займаюцца скаталожніцтвам, балазе, коз і свіней у іхніх пушчах ніхто не злічыць. Ды толькі і гэтага не знайшоў дамініканец. Так, жанчыну яны не абыходзілі, але хто і дзе, апрача, вядома, еўнуха, абыходзіць яе? Плоцкія ўцехі былі тут, як ні дзіўна, чысцейшыя, чым у самім святым Рыме. Гэта ж не ў Новагародку і не ў Літве, а ў Рыме пры панціфікаце* папы Грыгорыя Вялікага адкрыўся хрысціянскаму веку найвялікшы сорам і грэх,

* Панціфікат — час знаходжання на пасадзе папы рымскага.

калі пачалі рамантаваць велізарны басейн галоўнага манастыра. Работнікі спусцілі ваду і анямелі — на дне вадаёма ляжала некалькі тысяч мёртвых дзіцянят, народжаных у свой час, вядома ж, не святым духам, а манахінямі-малітоўніцамі. Сапраўдныя падводныя могілкі задушаных маленькіх чалавечкаў!

Паназіраўшы за ахвярным самагубствам вешчуна, якое той зрабіў у імя сваёй зямлі, сваёй дзяржавы, Сіверт лішні раз пераканаўся ў надзвычайнай духоўнай цвёрдасці тутэйшага народу. І зноў жа — гэта не фанатыкі-флагеланты*. Калі манах ехаў у Прусію, яму давялося ў дарозе на свае вочы пабачыць флагелантаў. Яны ішлі, а дакладней, беглі велізарным натоўпам, жанчыны, мужчыны, дзеці, усе голыя, хоць была лютая халадэча, і няшчадна хвасталі самі сябе плёткамі. Яны самабічаваліся да таго часу, пакуль не вывальвалася з рук плётка. Скрываўленыя, раздзёртыя да касцей целы, шалёныя, нібы сляпыя, вочы... Жах! Але людзі любяць, калі ёсць няшчасныя побач з імі. Сёстры патаемна хочуць, каб хоць адна з іхніх сясцёр была непрыгожая, няўдалая, каб слязамі кожны дзень змочваўся ў яе твар. Вось чаму простанароддзе любіць флагелантаў, даруе вытаптаныя нівы і забруджаныя дарогі. Ды тут, на гэтай незразумелай зямлі, усё нібы становіцца ўверх нагамі. Флагелантаў тутэйшы народ ненавідзеў бы, кроў, якую яны праліваюць, назваў бы дарэмнай крывёю. Сіверт усё больш пачынаў разумець, што ніколі не ўдасца нікому мячом зваяваць Новагародак або Літву. Калі перапыніш, перасіліш у адным месцы, яны, як вада, пракладуць сабе новыя шляхі. Толькі саюзам, толькі добраахвотнай уніяй могуць злучыцца з Рымам гэтыя людзі. «Усё, што ў маіх сілах, зраблю я, каб так і адбылося», — думаў манах, пазіраючы, як вугалі на месцы зруба пакрываюцца налётам шэрага лёгкага, быццам пух, попелу.

Нарэшце позіркі Сіверта і Далібора сустрэліся. Дамініканец пакланіўся ваўкавыйскаму князю. На чорнай сутане сціпла бліщчаў крыж.

— Гэта ж той нямчынскі поп, якога мы злавілі! — радасна ўскрыкнуў Бачыла, таксама прыкмеціўшы дамініканца.— Што ён тут вынюхвае?

— У святых айцоў не знайсці канцоў,— адказаў медніку Курыла Валун і зусім не на Сіверта глядзеў,

* Флагеланты — рэлігійная секта.

а на Лукеру, што набліжалася да яго з купкаю дзяўчат.

— Дабрыдзень, красуня,— ласкава прамовіў асілак.

Лукера здзіўлена ўскінула бровы, пазнала Валуна, хоць бачыла ўсяго другі раз, і пачырванела.

— Хочаш, пасаджу на сядло і давязу да Наваградка,— не адставаў Курыла Валун.

Ён быў упэўнены і вясёлы. Амаль усё сваё яшчэ нядоўгае жыццё правёў ён у выправах*, двубоях і залечванні атрыманых ранаў, бо хоць ворагаў лупцаваў хвацка, але і яму перападала. Купецкі сын, не меў Курыла ні бочкі зямлі**, ды ў марах сваіх сягаў у той дзень, калі за геройства і мужнасць вялікі князь зробіць яго шляхетным чалавекам.

— Сама дайду,— сагнаўшы з твару чырвань, рашуча адказала Лукера.

Яна адразу ўспомніла, дзе ўпершыню сустрэла прыгожага асілка, успомніла і тое, як ён закахана пазіраў на яе. Салодка абмерла сэрца, захацелася, каб гэты гаварун паклаў цяжкую, але пяшчотную руку на плячо ці нават (даруй божа!) падхапіў і пасадзіў у сядло. У яго такія сінія вочы! «Азёрныя», — падумала яна. Цяпер тутэйшы люд пайшоў больш цемнавокі або зусім чарнавокі. Ад чаго такое? Можа, чорны дым ад бясконцых пажараў у людскія вочы ўеўся ці полаўцы і татары прынеслі са стэпаў пякотную чарнату? Раней жа, кажуць старыя людзі, усё русінства было сінявокае і светлачубае. Ды тут Лукерын позірк спыніўся на тужлівым папялішчы, усім тым, што засталося ад зруба і ад Валасача. Аж дрыготка па целе пайшла. Ці час думаць пра ўцехі-любошчы, калі ад такога добрага чалавека толькі гарачы прысак застаўся? Але адразу ж яна ўспомніла вешчуновы словы: «Кахайцеся, дзеўкі».

Раптам Курыла Валун мякка абхапіў Лукерын стан і, не паспела яна войкнуць, пасадзіў, нібы пушынку, паперадзе сябе на каня.

— Пусці,— закрыла твар далонямі, папрасіла дзяўчына. Але голас быў радасны.

— Не пушчу. Табе белыя ножкі шанаваць трэба. Мацней трымайся за грыву.

---

* Выправа — паход.

** Бочка зямлі — участак зямлі, на засяванне якога патрэбна была бочка зерня. Бочка (вялікая) раўнялася 4 чвэрцям, або 8 асьмінам. Такім чынам, гэта ўчастак зямлі, для засявання якога неабходна выдаткаваць 150 кілаграмаў зерня.

І Курыла Валун ударыў каня.

— Куды ты?! — заверашчаў услед Бачыла.— Князь гневацца будзе!

Ды наравісты свавольнік, нават не зірнуўшы на разгубленага медніка, пад'ехаў да ваўкавыйскага князя, пакланіўся яму ў пояс, гучным голасам сказаў:

— Князь Глеб, дазволь адлучыцца. Спраўна служыў я табе і яшчэ служыць буду, але сёння ёсць у мяне адна задума.

Далібор у гэты час размаўляў з манахам Сівертам. Дамініканец падышоў сам, пачаў гаварыць пра мясцовых багоў і мясцовыя звычаі. Даводзілася толькі дзівіцца, як хутка нямчын навучыўся тутэйшай мове. І вось тут, як мядзведзь у чарот, уламаўся ў іхнюю гаворку Курыла Валун. Далібор сярдзіта хмыкнуў, пагрозна звёў бровы.

— Хто тут князь?

— Ты — князь,— яшчэ раз пакланіўся Курыла.— Але дазволь мне паехаць зараз у Навагародак. А праз ноч я ў Ваўкавыйску буду.

Далібор уважліва паглядзеў на Лукеру. Успомнілася, як ішла яна па дарозе з прыгожым вянком на галаве. Запытаў:

— І ты хочаш з ім ехаць?

— Хоча,— хуценька адказаў Курыла Валун.

Сама Лукера маўчала. Вочы былі радасныя.

— Едзь. Ад цябе ўсё роўна не адцярэбішся,— дазволіў князь і павярнуўся да Сіверта, каб весці далей гаворку.

Яны паехалі з Цёмнай гары. Навокал шумеў лес, паважна стаялі густа налітыя здароўем і спакоем дубы.

— Адкуль у цябе на руцэ гэткі рубец? — асмялеўшы, спытала Лукера.

Курыла Валун весела засмяяўся.

— Дзікікламі хапянуў. Дык я забіў таго дзіка, пас у яго са спіны выкраіў і перавязаў рану. Зажыла. У мяне ўсе раны хутка зажываюць.

— А шмат у цябе іх? — лёгка ўздрыгнула Лукера.

— Не лічыў.

Нябесная святлынь там, дзе сонца ўпала за лясы, яшчэ жыла, пералівалася ўсімі сакавітымі фарбамі, але паступова браў неба і зямлю ў сваю абладу халаднаваты змрок. Пудліва фыркаў конь, яго палохалі цені, што пачалі залягаць між дрэў. Лукера гладзіла конскую шыю. Курыла Валун маўчаў.

— Гэта да цябе ходзіць княжы дружыннік Вель? — раптам запытаў ён.

— Да мяне,— ціха прамовіла Лукера і дадала: — Хадзіў...

— А табе не казалі, што ён твайго брата купца Алехну разам з іншымі браталюбамі княжым людзям выдаў, рукі ў іхняй крыві замачыў?

— Я не ведала,— усхліпнула дзяўчына.— Далібог не ведала...

— Ен віжавое* ў князя ўзяў,— злосна выдыхнуў Курыла Валун.

Далей ехалі моўчкі. Гэтых кароткіх нялёгкіх слоў хапіла на тое, каб Лукера ўся сцялася ў камяк і, быццам пудлівая вавёрыца, сядзела паперадзе Курылы. Сам жа Валун адчуваў незвычайную прыкрасць, гнеў на сябе, языкатага і дурнога. Навошта ён загаварыў пра Веля? Рэўнасць загаварыла? Але чаму тады не дастала розуму, каб наогул не чапляцца да гэтай Лукеры, не хадзіць да бярозы, з якой ужо нехта цадзіў сок? Салодкага захацелася, захацелася мёрзлага ў пятроўку? Моташна было на сэрцы, хоць за калена сябе ўкусі.

Шумны цёмны лес махаў незлічонымі тысячамі сваіх галін, нешта спяваў, нешта праклінаў, а над нечым смяяўся. Смала і мох, птушынае дупло і мядзведзеў бярлог, спарахнелы вываранень, які здаваўся чалавекам, чарот на чорных балотах, тлусты барсук у сухой пясчанай нары, ручаёк, што бліскучай срэбнай ніткай шыўся праз траву,— усё засынала пад гэты шум і спяванне.

Курыла Валун, левай рукой трымаючы повад, правай пяшчотна, але цвёрда ўзважыў у далоні Лукерыны грудзі. Потым пачаў цалаваць у шыю, у валасы, якія казытліва пахлі спелымі цёплымі суніцамі. Лукера павярнулася да яго тварам, і ён у густой лясной цемры ўбачыў на нейкі міг (а мо гэта толькі падалося?), як пырскнулі з вачэй у дзяўчыны залатыя дробныя іскрынкі. Вусны іхнія сустрэліся, зліліся. Так зліваецца нагрэтая сонцам хваля з мяккім азёрным берагам. Лукера ўсім сваім наструненым маладым целам падатна прыгарнулася да Курылы Валуна, і ён адчуў, як нясцерпна закіпае кроў, як узлётвае, быццам зрабілася крылатым, сэрца.

Конь адразу ўлавіў, як памякчэла, а потым і зусім

---

* **Віжавое** — плата за данос.

аслабела гаспадарова рука. Такое ўжо бывала, раз ці два, калі ў час двубою гаспадар атрымліваў цяжкую рану і, глуха войкнуўшы, выпускаў повад. Але зараз было не тое. Зараз разам з гаспадаром ехала жанчына, яны аб нечым гаварылі, потым шапталі, а потым уздрыгнула і бязвольна кінула повад цяжкая і бязлітасная ў сечы рука. Разумная жывёліна зрабіла яшчэ некалькі крокаў і спынілася. Шумеў лес. З блізкай цемры востра свяціліся яркія кроплі і кропачкі. Калі войскі конь быў зусім дурным і маленькім сысунком, ён, упершыню ўбачыўшы такое, заржаў і прыціснуўся да цёплага матчынага боку — падалося, што гэта злавесна бліпічаць ваўчыныя вочы. Але зараз, пастарэўшы і памудрэўшы, ён пачаў спакойна скубці халодную траву, бо хіба можна баяцца трэсачак-гнілушак, якія некалі былі жывым дрэвам, а потым дрэва ўпала ад ветру ці ад старэчай немачы, спарахнела, рассыпалася на друз, і гэты нікчэмны друз чамусьці засвяціўся.

Гаспадар і жанчына, зрабіўшыся нібы адной істотаю, мякка саслізгнулі з сядла ў траву, у змрок. Зноў пачалі аб нечым шаптацца, потым заціхлі, і толькі чулася гарачае і частае дыханне.

Конь адышоўся ад іх на некалькі крокаў, стаў. Буйныя іскрыстыя зоркі гарэлі ў чорным небе. Мноства хмар бегла над лесам. Адна, белая і мяккая, была вельмі падобна на ягоную маці, кабылу Снягурку. Нават бачыўся доўгі віхурысты хвост, расчасаны нябесным ветрам. Конь узняў галаву, і святло зорак мільготна ўспыхнула ў цёмных сумных вачах. Конь слаба і жалобна заржаў, нібы паскардзіўся.

— Цішэй ты,— загадаў з цемры Курыла Валун, і конь адразу змоўк.

— Добры ў цябе конік,— лашчачыся да Курылы, зашаптала Лукера.

Яны зноў аддаліся каханню.

— Забі яго... Не даруй яму,— раптам страсна прамовіла дзяўчына.

— Каго забіць? — не зразумеў, не здагадаўся Курыла Валун.

— Забі Веля... Як удаў птушанём, так ён маёй душой валодаў...

Лукера пякучым доўгім пацалункам прыпала да ягоных цвёрдых вуснаў, а потым несуцешна заплакала.

## VII

Назаўтра ў Новагародку да Курылы Валуна прыбілася сотні тры-чатыры рукадзельных людзей, карабельшчыкаў з Нёмана, лайбы і плыты ў якіх пасеклі тэўтонцы ў Гіліі*, раздзетых і разутых вайной смердаў, нейкіх лютых на крык галодных валачаяў. Яны раз'ятрана ўварваліся з вакольнага горада на дзядзінец, пачалі крышыць і паліць усё, што траплялася пад руку. Слуг князя Войшалка, якія надумалі супраціўляцца, пабілі і, пабітых, павязаўшы за ногі, коньмі зацягнулі аж у Нёман.

— Князь Войшалк звар'яцеў! — крычалі яны.— Новагародак ён аддаў галічанам, а сам пабег на Афон, на Святую гару, каб там замуравацца ў пячоры! Хочам князем Глеба Ваўкавыйскага!

Пажары былі ў вакольным горадзе. Там можна было ўбачыць нязвычнае. Дзяўчаты і маладзіцы, ратуючы ад пажару жытло, галяком выскоквалі на двор, са збанам малака ў руках тройчы аббягалі свой дом, а потым лілі малако ў агонь. Гэткім чынам хацелі ўлагодзіць уладара агню Жыжаля. Але ці мала было малака, ці не захацеў прыняць Жыжаль ахвяру, а толькі выгарала, зеўрала велізарным чорным пісягом амаль палова ўсіх будынін.

З падземнай вязніцы вызваліў Курыла Валун браталюба Алехну, на ўласных плячах вынес пад няяркае зімовае сонца.

— Сняжок,— як дзіця, узрадаваўся Алехна, убачыўшы тонкі белы кілім, што засцілаў зямлю, дрэвы і дахі. Дрогкай, амаль празрыстай далонню ён нашкроб са сцяны жменьку сырога снегу, пачаў нюхаць яго, а потым прагна есці, нібыта быў гэта дзіва які смачны заморскі прысмак.

Прыбегла Лукера, пачала цалаваць брата. Прыклыпаў з вакольнага горада стары, ужо зусім сівы залатар Іван. Пабачыў прыніжэнне і горкую бядоту свайго любімага сына, былога прыгажуна і разумніка, бяссільна заплакаў і меў, калі пільна прыгледзецца, асалоду ад такіх слёз.

— Не плач, бацька,— усміхнуўся старому Алехна.— Бачыш, я жывы. І галаву маю не адгрызлі ў падзямеллі пацукі.

---

* Гілія — адно з вусцяў Нёмана.

Ён, пахістваючыся, устаў на ногі, крыкнуў аслабелым голасам:

— Новагараджане! Людзі! Вось і зноў я бачу вас. Каб вы ведалі, якая гэта радасць для мяне.

Яму далі вялікі чарналакавы канфар*. Браталюб дробнымі глыткамі піў віно. Ружавелі шчокі. Іскрыліся вочы.

— Не ідзіце пад валынян і галічан, бо яны ўжо самі татарскія рабы,— гаварыў Алехна.— З Літвою будзьце. Толькі так захаваеце свой дом і сваю душу.

— Але Войшалк збег у манастыр! — закрычалі з усіх бакоў.

— Ёсць Міндоўг.

— Ёсць князь Глеб Ваўкавыйскі,— рэзка перапыніў браталюба Курыла Валун і дадаў са шкадаваннем: — Дарэмна я цябе выпусціў на белы свет з-пад зямлі.

Ды Алехна не пачуў, а можа, зрабіў выгляд, што не пачуў Курылавых слоў. Воля, віно і белы снег, што сляпіў вочы, зрабілі немагчымае — браталюб уваскрэс проста на вачах. Побач былі сястра і бацька, побач і вакол яго быў Новагародак, спалены, пакалечаны, але, як заўсёды, нязломны, за плячамі засталіся агідныя мярзотныя сцены вязніцы, і Алехна, шырэючы ў плячах, нібы вырастаючы над натоўпам, натхнёна гаварыў:

— Магутную дзяржаву бачу. Сваімі шчытамі яна заслоніць вас і вашых дзяцей ад чужынцаў. Нібы чароўны кубак святой Ядвігі, дзяржава гэта ператворыць гнілую ваду паражэнняў у салодкае віно перамог. Веру, што не выведзецца наш корань і не загіне наш род. Новагараджане! Людзі! Дапамажыце мне сесці на каня, і ўсе, хто хоча, ідзіце за мной. Я пакажу вам тое, што вы павінны ўбачыць, калі жадаеце жыцця і працвітання Новагародку.

Курыла Валун у вялікім здзіўленні слухаў палкія словы браталюба. За што толькі душа ў целе трымаецца, а бач яго, як загаварыў.

Падвялі каня, пасадзілі Алехну, і, абточаны з усіх бакоў вялікім шумлівым натоўпам, ён накіраваўся з дзядзінца на вакольны горад. «Нібы князь едзе», — раздражнёна думаў Курыла Валун. Але, ловячы шчаслівы позірк Лукеры, адчуваючы ўсеагульнае ўзрушэнне народу, харобры асілак абачліва маўчаў,

* **Канфар** — кубак для віна.

ехаў следам за браталюбам. Раптам у мільгатні людскіх твараў Курыла Валун прыкмеціў таго, каго менш за ўсё можна было чакаць у такім месцы — княскага дружынніка Веля. Той выторкваў галаву з натоўпу, прагна глядзеў на Лукеру.

— Стой! — закрычаў Курыла Валун.— Стой, выжаль заечы*!

Ад грамавітага поклічу ўздрыгнулі ўсе, хто быў непадалёку ад Курылы, і шмат каму падумалася, што так раве мядзведзь, паранены стралой у самае вока.

— Стой! — зноў крыкнуў Курыла.

Толькі адзін Вель здагадаўся, каму пасылае свае гнеўныя словы чалавек-вежа, і, вядома ж, не стаяў на месцы. Ён ірвануўся праз натоўп, локцямі і кулакамі прабіваючы сабе дарогу.

Курыла Валун зразумеў, што на кані не вельмі разгонішся ў такім цясноцці, саскочыў з сядла і пабег за Велем. Ногі ў Курылы былі даўжэйшыя, паветра ў грудзі ён набіраў больш. Але Веля ратаваў жах. «Дагоніць — у адзін міг косці разбярэ», — думаў дружыннік пра Курылу Валуна і бег, джгаў з усіх сіл. Ды вельмі хутка стаміўся. Якраз на дарозе ўстала толькі што пабудаваная каменная вежа. Высячыся з паўночнага боку дзядзінца, яна як бы збірала ў адзін кулак увесь навагародскі земляны вал. Доўга не раздумваючы, Вель сігануў у вежу, пабег па дубовых прыступках на верхні ярус. Чамусьці падалося, што Курыла Валун не захоча дзерціся следам і шукаць яго там. Усюды ляжалі падрыхтаваныя для адбіцця варожай аблогі кучы камянёў, агромністыя бярвенні-каткі, якія кідаюць на галовы непрыяцеляў у час штурму. Вель узляцеў на самы верх, затаіўся. Сэрца трапятала, білася ў грудзях, як злоўленая ў цянёты перапёлка. Знізу цяжка забухалі частыя рашучыя крокі — Курыла Валун бег следам. Вель у смяротнай тузе глянуў праз вузкую байніцу. Зямля, пабеленая снегам, была далёка — не скокнеш, быццам кот з дрэва. Тады Вель схапіў халодны камень-галыш, уплішчыўся ў няроўную шурпатую сцяну вежы, перастаў дыхаць. Калі расчырванелы і ўпараны Курыла Валун, здзьмухваючы з вусоў гарошынкі поту, вытыркнуўся на верхні ярус, Вель гопнуў яго каменем па галаве. Ён біў у скронь, уклаў ва ўдар усю сілу, але круглы слізкі галыш крутнуўся ў самы апошні міг

* Выжаль заечы — сабака для палявання на зайцоў.

у руцэ. Вось чаму Курыла Валун устояў на нагах, толькі заматаў галавой. Тоненькі цурок чырвонай крыві пырснуў на зледзянелыя дубовыя дошкі.

— Ах ты, аторва смярдзючая,— сказаў Курыла Валун, плюнуў і схапіў Веля за глотку.

Дружыннік малаціў яго кулакамі па галаве, драпаў шчокі, але не слабелі жалезныя абцугі пальцаў, і нарэшце Вель, млява кіхнуўшы, аддаў богу душу. Курыла Валун, цяжка дыхаючы, наскроб са сцен вежы снегу, вымыў рукі і твар. Потым падышоў да байніцы, зірнуў уніз. Чорная людская ручаіна цякла ■ дзядзінца.

Алехна прывёў натоўп у вакольны горад на бацькаву сядзібу. Жвава кульнуўся з каня, пайшоў па хрусткім снезе разам з Лукерай да паўзямлянкі, якая тулілася за домам. Такіх паўзямлянак з печамі-каменкамі нямала было ў вакольным горадзе.

— Кандрат, адчыняй,— гучна сказаў Алехна і грукнуў у нізкія цёмныя дзверы дубовай калатушкай, што вісела на вузкім рэмені.

— Які Кандрат? — захваляваўся, зашумеў натоўп.— Няўжо Алехнаў прадзед? Дык казалі ж, што ён даўным-даўно на Афон пайшоў.

Колькі часу ні гуку не даносілася ■ паўзямлянкі. Быццам там усе вымерлі ці наогул ніхто ніколі не жыў. Ужо некаторыя з натоўпу, кпліва пасміхваючыся, пачалі адыходзіць з залатаровай сядзібы.

— Зжыў Алехна розум у княскай вязніцы,— казалі амаль усе, прытым казалі тыя, хто шчыра любіў Алехну і браталюбаў.

Тады і Лукера грымнула ў дзверы калатушкай. На гэты раз у паўзямлянцы як бы нешта зашамацела, скрыгочучы, адчыніўся знутры засоў, і на парозе ўстаў высокі і шыракаплечы стары ■ белай і пушыстай, як снежны сумёт, барадой. На ім быў скураны дзе-нідзе прапалены фартух. Яркімі блакітнымі вачамі ён прыязна глядзеў на людзей.

— Куеш, дзед Кандрат? — спытаў Алехна, абняўшы старога.

— А як жа? Кую,— адказаў Кандрат.

Убачыўшы Лукеру, паяснеў тварам, радасна заўсміхаўся, пачаў гладзіць ёй валасы доўгімі цвёрдымі пальцамі. Тут толькі самыя мазгавітыя з новагараджан здагадаліся, што на сядзібе залатара Івана і ягонага сына Алехны ўвесь гэты час працавала патаемная

коўніца, у якой стары Кандрат («Бяссмертны Кандрат!» — выгукнуў нехта з захапленнем) выштукоўваў жалезныя жалуды.

— Пакуль бог душу не возьме, буду рабіць святую справу,— паказваючы поўную жменю такіх жалудоў, бачачы, што ўсе дужа задаволены яго работаю, казаў стары.— У мяне быў памочнік, малалетак Грышка. Ды збег ад смуроду і агню. І зараз я адзін тут жыву. Крычнае жалеза рыхтую ў дымарцы, па каменных формачках яго разліваю, а потым даводжу на шпараку* і тачыле.

А па сядзібе, па ўсёй вуліцы ўжо неслася:

— Бяссмертны Кандрат!

— Бяссмертны Кандрат!

Белабароды стары чуў гэтыя воклічы, усміхаўся, гаварыў, нібы сам сабе:

— Бог працу любіць, вось я і стараюся. Але ведайце, людзі,— як будучай вясною з зямлі малады колас выплыве, памру я. Цела ўжо не хоча насіць душу.

— Бяссмертны Кандрат! — насуперак яго словам крычалі навагараджане.

Усцешаны стары тройчы пакланіўся ім да самай зямлі. Лукера цалавала ягоныя рукі, на вачах ззялі слёзы.

Раптам з натоўпу выбег цёмнавалосы гіжлівы** хлапчук, стаў побач з Лукерай.

— Грышка, дзе ты быў? — радасна здзівіўся Кандрат.

— За Нёман хадзіў,— звонкім голасам прамовіў хлапчук.— Не памірай, дзед Кандрат. Я табе зноў дапамагаць буду, вучыцца ў цябе буду.

— Добра, Грышка, добра... Не стану ўвесну паміраць,— усхвалявана казаў стары Кандрат, і ў сініх вачах нібы ўспыхнула па сонейку.— Разам будзем каваць жалезныя жалуды.

Ён узяў Грышку за руку, прытуліў да сябе. Так і стаялі яны, стары і хлапчук, а народ усё крычаў:

— Бяссмертны Кандрат!

І ніхто з навагараджан не ўспамінаў або стараўся не ўспамінаць пра забітых Войшалкавых служак, трупы якіх кінулі пад лёд на Нёмане. Яшчэ некалькі дзён назад за такі дзёрзкі ўчынак ракой магла б паліцца кроў і не адна галава развітацца з плячамі. Але Войшалка

---

* Шпарак — невялікае кавадла для кавання дробных вырабаў.

** Гіжлівы — рухавы, хуткі.

ўжо не было ў Новагародку. Зняўшы багаты княскі ўбор, апрануўшы грубы дарожны плашч, разам са жменькаю верных людзей пакіраваўся ён у Палонінскі манастыр да святога айца архімандрыта Грыгорыя. Па дарозе былога новагародскага князя перастрэў дружынаю князь Глеб Ваўкавыйскі. Яны зайшлі ў паходны шацёр і ўсю ноч прагаварылі — вока на вока, душа на душу. Яны даўно былі братанічамі, яшчэ з той далёкай зімовай ночы, калі пакляліся адзін аднаму ў дружбе і вернасці крывёю і нёманскай вадой, і не было між імі ніякіх таямніцаў.

— Што ты надумаў, князь? — горача і ўсхвалявана запытаў Далібор.— Манахам хочаш стаць? Але навошта?

— Дзяржаву хачу ўратаваць,— строга адказаў Войшалк.— І ты, як сын русінскай зямлі, дапаможаш мне. Ты ж цвёрда верыш, што, толькі з'яднаўшыся ў адно, Новагародская зямля і Літва змогуць выжыць?

— Веру. Цвёрда веру.

— Я так і думаў. Дзякуй табе, князь.

Войшалк паклаў Далібору на плячо руку.

— Але для таго, каб жыла і мацнела дзяржава, патрэбна, каб ззяў над ёй і над усімі яе сынамі адзіны бог. Пакуль жа Літва паганская, а Новагародак праваслаўны. Думаю я пашукаць у Палонінскім і Афонскім манастырах руплівых мудрых манахаў і перапісчыкаў пергаменаў, прывезці іх у наш край і на Нёмане між Новагародскай зямлёй і Літвой збудаваць святую абіцель. З яе пойдзе ва ўсе куткі дзяржавы святло хрысціянскай веры, бо будуць там дзённа і ношчна працаваць святары і летапісцы.

— Летапісцы? — узгарэўся Далібор.

— Так. Нельга народу жыць без сваіх летапісцаў. Гэта — што вясна без птушак і ручаёў.

Яны памаўчалі. Біўся ў тонкае палатно шатра вецер.

— Цяжкія часы давядзецца нам перажыць,— сказаў Далібор.— Купцы з поўдня прыходзяць і гавораць, што татарскі цемнік Бурундай збірае незлічоныя раці, каб ударыць па Літве і Новагародку. Татар у стэпах, як саранчы.

— Вось чаму і шукаю я саюзу з галіцкімі і валынскімі князямі, вось чаму і аддаю новагародскі сталец Раману Данілавічу,— у глыбокім роздуме прамовіў Войшалк, і сум чуўся ў ягоным голасе.— Народ крычыць, што я звар'яцеў. Калі-нікалі (павер мне, князь

Далібор) лепш звар'яцець, чым быць разумным. Але, як ты бачыш, я не вар'ят. Дзеля нашай дзяржавы, дзеля яе адной працую і пакутую. Сёння нам трэба вывесці ■ гульні галічан, улагодзіць іх, мець іх за саюзнікаў супраць татар, каб заўтра зноў моцна стаць на ногі. Вось чаму сястра мая любімая Рамуне паехала жонкаю да Шварна Данілавіча ў Холм.

— Як яна там? — міжволі вырвалася ў Далібора.

Войшалк уважліва зірнуў на яго, адказаў:

— Плача.

Далібор скрыгануў зубамі, ускочыў на ногі, выдыхнуў амаль ■ нянавісцю:

— І ты называешся братам? Плача сястра, плача, як птушка ў клетцы, а ты... ты гандлюеш ёю.

Ніводная жылка не ўздрыгнула на твары ў Войшалка. Толькі вочы злёгку пацямнелі.

— Жаночыя слёзы хутка высыхаюць,— спакойна адказаў ён.— Каб усё было наадварот, нідзе б не засталося ні астраўка сушы — зямная цвердзь захлынулася б у жаночых слязах. Але заўваж, князь Далібор, што тут плача не проста жанчына. Тут плача княгіня.

Ен яшчэ раз паўтарыў:

— Княгіня. Ці табе мне гаварыць, што крыж улады ой які нялёгкі. Павер, што Рамуне паехала да Шварна добраахвотна, хоць і ў слязах. Яна добра разумела, дзеля чаго ладзіцца гэты шлюб.

Далібор зацята маўчаў.

— Няўжо і ты хочаш зрабіцца маім ворагам? — пранікнёна глянуў на яго Войшалк.— У мяне і так іх сто карабоў. Прашу цябе, князь Далібор, стань сябрам і аднадумцам, як раней. Без цябе дужа цяжка і горка мне будзе.

Ен абняў ваўкавыйскага князя, тройчы пацалаваў. Далібор праглынуў ссушэлы камяк у горле, сказаў дрыготкім голасам:

— Гэта я так... Наверзлася нешта на душу... Адно памятай, кунігас: я заўсёды быў і застануся тваім братанічам.

— Дзякуй,— зноў абняў яго Войшалк.— За дружбу і вернасць я не буду плаціць табе сёння гатоўкай, срэбрам ці золатам. За такое плоцяць усім жыццём.

Войшалк пругка ўскочыў з паходнага крэсла.

— Бачу я заўтрашнюю слабасць Галіцка-Валынскай зямлі. І таму аддаю Навагародак не Шварну, а Раману. Шварн, жанаты на Міндоўгавай дачцэ, меў бы законнае

права на ўсё наша княства. Раман жа Данілавіч, няўдалы здабытчык аўстрыйскай кароны, хай дзякуе богу за тое, што яго зробяць гаспадаром Новагародка, прычым гаспадаром часовым. Ён не зможа і пікнуць пра свае права на ўладанне. Трэба зрабіць так, каб сыны князя Данілы Галіцкага жылі ў вечнай спрэчцы між сабою, каб не ведалі, як падзяліць вотчыну і дзедзіну сваю. Зусім недалёкі той час, калі пойдзе на спад моц галічан і валынян, калі замкі іхнія будуць разбураны, зарастуць травой іператворацца ў зялёныя пагоркі, бо ўжо татары, угры і ляхі ўзнімаюць на іх пяту. Ведаеш, у чым сіла нашай дзяржавы, князь? У чаканні.

Так прагаварылі яны да першых сонечных промняў, а потым абняліся, і Войшалк, паабяцаўшы, што кожную сядміцу будзе даваць вестку аб сабе, пайшоў да князя Данілы Галіцкага і далей — у Палонінскі манастыр. Не паспелі яшчэ астыць ягоныя сляды, як прымчаўся з малой свіслацкай дружынаю Някрас. Не злазячы з сядла, закрычаў:

— Дзе Войшалк?!

— Пайшоў у Галіччыну,— адказаў Далібор.

— Чаму не загадаў забіць яго?

Пры такіх словах малодшага брата ваўкавыйскі князь пільна паглядзеў яму ў вочы, прамовіў, стрымліваючы гнеў:

— Еш свой хлеб зямны спакойна. Не хапай яду жываглоць.

Але Някрас, пэўна ж, падвучаны бацькам, князем Ізяславам Васількавічам, не слухаў, крычаў:

— Войшалка трэба дагнаць! Дагнаць і забіць! Навошта ты выпусціў яго са сваіх рук?

— Таму што ён — гаспадар Новагародскай зямлі,— цвёрда сказаў Далібор.— Новагародская зямля ўзяла яго сабе за гаспадара, баяры і смерды ўзялі.

— А хто ты? — злосна прасіпеў Някрас.— Падручны князёк у прыблуды? Але нельга траціць час — паехалі, схопім Войшалка.

— Ці ты яшчэ не нагоцаўся ў сядле за дзень? — спакайнеючы, усміхнуўся Далібор.

Толькі Някрас не слухаў брата, разварочваў дружыну. Камякі шэрага мокрага снегу пырскалі з-пад цяжкіх конскіх капытоў.

— Спутайце яму каня! — крыкнуў Далібор.

І калі дзецкія выканалі загад, сказаў:

— Запрашаю цябе, мой любімы адзінаўтробны брат,

хлеба-солі адведаць. Добра, што перастрэў я цябе на дарозе, а то б вялікая бяда была. Ты, прабач, як той смерд, жыхар лясны — далей сякеры з калодаю нічога не бачыш.

Браты селі за паходны стол, пачалі моўчкі піць і есці. Але нават самая смачная ежа калом станавілася ў горле. «Ці той гэта Някрас? — краем вока цікуючы за малодшым братам, думаў Далібор.— Куды дзеўся ласкавы ціхмяны прыгажунчык з пунсовымі гладкімі шчокамі і сінімі даверлівымі вачамі! Калісьці мы з ім збіралі суніцы, ірвалі кветкі... Як ён прагне ўлады, як ірвецца да яе! Па крыві згодзен ісці, па касцях, абы ўзняцца вышэй. Ён і мяне, роднага брата, не раздумоўваючы, закляпаў бы на ланцуг у падземнай смуроднай цэлі, толькі б зрабіцца вялікім новагародскім князем. Я ведаю назоў такім людзям. Жэрнасы яны, ненаедныя сквапныя дзікі. Такія, як ён, ніколі, ні пры якіх варунках не дойдуць да думкі, што на зямлі можа знайсціся нехта вартнейшы і разумнейшы, чым яны. Вартнейшым і разумнейшым жэрнасы адразу ж перагрызаюць глотку, а самі сыта рохкаюць і зарастаюць тлушчам у шэрай гразі жыцця».

Так і вярнуўся Някрас у Свіслач ні з чым. З вялікім гневам пажаліўся бацьку, князю Ізяславу, што быў бы ў яго Войшалк, як сініца ў руцэ, але Далібор ні кропелькі не паспрыяў такому, а наадварот — спутаў каня, прымусова пасадзіў за стол, доўга і няшчыра частаваў і ўсё казаў, што Новагародскай зямлі, каб ацалець у віхурах няспыннага часу, трэба быць вернай Войшалку Міндоўгавічу, трымацца за яго.

— Дурань,— сярдзіта плюнуў Ізяслаў Свіслацкі.

І цяжка было здагадацца, каго ён лічыў за дурня. Але Някрас лёгка і бесклапотна падумаў, што гэта, вядома ж, Далібор.

Адразу пасля ад'езду малодшага брата павёў ваўкавыйскі князь сваю дружыну ў Новагародак, наваліўся знянацку на людзей Курылы Валуна і на самога Курылу. Палілася вялікая кроў. Гуло мёрзлае жалеза шчытоў і мячоў, калі пайшла княжая дружына ў наступ на вакольны горад. Валачаі і апівохі, якіх нямала засела ў вакольным горадзе, пазашываліся, нібы мышы, хто куды — у жытнія ямы, у істобкі, нават у сабачыя будкі. Іх выцягвалі за ногі, вязалі бічоўкамі. Сам Курыла Валун з найбольш адданымі людзьмі і з браталюбам Алехнам зламаў некалькі дамоў,

загарадзіў драўлянай сцяной вуліцу і амаль два дні адбіваўся са злосцю і ўпартасцю. Далібора здзівіла такая нечаканая раз'юшанасць свайго нядаўняга слугі. Некалькі разоў па ягоным загаду выходзілі, хаваючыся за шчыты, галасавітыя крыкуны і крычалі, каб паклаў Курыла Валун свой меч да князевых ног, і будзе яму за гэта вялікая ласка і міласэрнасць. Ніхто не адказваў, толькі аднойчы сам Курыла Валун вытыркнуўся з-за схоўнай сцяны і гаркнуў:

— Ідзі прэч, князь! Нельга было трываць Войшалкава і тваё здзерства!

Але агонь і пароkі-каменямёты, якія паставіў Далібор, узламалі сцяну. Амаль усіх абаронцаў сцяны, і ў тым ліку браталюба Алехну, няшчадна пасеклі на шматкі. Застаўся Курыла Валун, паранены, падсмалены полымем, і невялікая купка ягоных аднамыснікаў. Звязанага Курылу прывялі да ваўкавыйскага князя.

— Ну што, нагуляўся? — сурова прыжмурыўшы вочы, спытаў Далібор.

— Нагуляўся,— адказаў Курыла Валун.— Але, пэўна, скончылася маё гулянне.

— Няўдзячны пёс! — крыкнуў Далібор.

— Псом ніколі не быў, нават тваім,— з годнасцю адказаў асілак.

— Праліў кроў княскіх людзей? Пральеш за гэта і сваю,— спакайнеючы, прамовіў Далібор і загадаў: — Адцяць яму дзясніцу, у якой ён меч на князя ўзняў.

Курылу адсеклі правую руку і пусцілі ісці куды вочы глядзяць. Пабялелы асілак, замата́ўшы куксу чыстым кужалем, пайшоў на падвор'е залатара Івана, знайшоў там Лукеру, усхвалявана сказаў, неадрыўна пазіраючы ёй у твар:

— Ці палюбіш ты мяне такога? Я і адной рукою змагу хлеб здабываць і сваю жонку моцна абдымаць-мілаваць. Але ўсё ў тваёй волі.

— Ой, Курылачка! Ой, родненькі! — усклікнула Лукера.— Хто ж гэта цябе абкарнаў, як прыдарожную бярозу?

Яна прытулілася да яго, пачала цалаваць у вусны, у шчокі, потым пачала асцярожна хукаць на ягоную знявечаную руку, каб хоць неяк суцішыць, зняць боль. Курыла з радаснай зіхоткасцю ў вачах стаў перад Лукерай на калені, і мо ўпершыню ў жыцці скацілася па шчацэ сляза. Ледзяное сонца свяціла ім з-за хмар. Круціўся ў цёмным небе і павольна клаўся на прыціхлы Навагародак снег.

Далібор з ваяводам Хвалам, поўнасцю ўзяўшы ў сваю абладу вакольны горад, зайшлі ў коўніцу да Бяссмертнага Кандрата. Стары з Грышкам пакланіліся нечаканым гасцям і застылі як укопаныя кожны на сваім месцы.

— Жалезныя жалуды куеш? — пачціва спытаў Далібор у старога.

— Кую,— надтрэснутым голасам прамовіў Бяссмертны Кандрат.

— Куй, бо ў іх святая сіла нашай зямлі. Я і сам нашу заўсёды твой жолуд,— прачула сказаў князь і, азірнуўшыся, запытаў: — Можа, табе чаго не хапае? Хлеба, мяса або драўнянага вугалю? Я загадаю, і ўсё ў цябе будзе.

— Дзякуй богу, усё ў мяне ёсць,— паківаў галавою стары.

Потым гняўліва зірнуў на князя, і сівыя бровы над вачамі пырхнулі ўгору, як лугавыя матылі.

— Навошта бязрукую сілу на нашай зямлі плодзіш? Навошта адцяў дзясніцу Курылу Валуну?

— Курыла — бязбожны таць,— адказаў Далібор.— Ён зваяваў, папляжыў лепшых людзей князя Войшалка.

— Гэтай рукі табе некалі не хопіць,— прамовіў Бяссмертны Кандрат і нахіліўся над сваім варштатам.

## VIII

У лета 6768-е* ад сатварэння свету брацці-рыцары вырашылі канчаткова расправіцца з непакорнай Жамойцю, крывёй тубыльцаў патушыць пажар паўстання, які бушаваў там ужо некалькі гадоў. Жамойты, спадзяючыся на дапамогу Міндоўга, выбівалі рыцарскія гарнізоны з гарадоў і замкаў. Кожны рыцарскі замак яны называлі «гняздом ворана» і знішчалі яго дашчэнту, да голай зямлі. На вачах Ордэн трацiў усё заваяванае. Як набыта махам, дык і пайшло прахам. З такім ходам падзей рыцары, вядома ж, не хацелі мірыцца. Неабходна было высока ўзняць сцяг тэўтонцаў, на якім у чорным крыжы горда ззяў залаты іерусалімскі крыж. Гэты залаты крыж быў салодкім напамінкам аб пераможных бітвах супраць сарацынаў

* Лета 6768-е — 1260 год.

у Палесціне і Сірыі. Перабраўшыся на ўзбярэжжа Балтыйскага мора, тэўтонцы не забывалі Усход, калыску свайго баявога юнацтва, і ўсе замкі ў Прусіі і Лівоніі ўпрыгожвалі арабскім арнаментам і нізкімі парталамі. Быў вельмі пашыраны «сум па Усходу». Пад шум халодных лясоў, пад рыпенне пяску ў мокрых ад бясконцых дажджоў дзюнах рыцары марылі пра чарнавокіх смуглых прыгажунь, пра серныя лазні і срэбныя кубкі з віном, пра турніры. Зямлю, залітую бязмежна шчодрым сонечным святлом, сустракалі яны ў сваіх снах. Гэта быў калі не рай, дык месца за некалькі крокаў ад раю. Але, прачнуўшыся, тэўтонцы бачылі вакол сябе непакорны светлавокі і светлавалосы народ, садзіліся ў сядло, і зноў пачыналася бітва, якая расцягнулася не на адно дзесяцігоддзе. Калі ж закончыцца гэта знясільваючая бітва? Калі можна будзе ўкласці меч у похвы і, адзеўшы на галаву вянок з духмяных каляровых кветак, паслухаць звонкагалосых вагантаў, што спяваюць пра каханне? Рыцары вырашылі нанесці апошні і самы сакрушальны ўдар. Перад гэтым на Нёмане яны збудавалі крэпасць Георгенбург, каб адсекчы Жамойць і Прусію ад Літвы. Якраз узбунтаваліся куршы. Рыцарскі атрад, які пайшоў на іх, быў разбіты. Гэта паражэнне ўскалыхнула земгалаў. Іхні старэйшына Шабіс пачаў з вялікай лютасцю бурыць рыцарскія замкі, вешаць комтураў. «Годзе!» — як агульны ўскрык, як стогн самой дзевы Марыі, прагучала між лівонцаў і тэўтонцаў. Яны з'ехаліся ў Кёнігсбергу і дамовіліся неадкладна трубіць паход. Лівонскіх рыцараў вёў магістр Бургхард фон Гарнгузен, прускіх крыжакоў — ордэнскі маршалак Генрых Ботэль, атрад датчан з Рэвеля — герцаг Карл. Гэта было ядро войска, няўтрымны камень, што, грозна грукочучы, каціўся па схіле гары. Як наліпае снег на камень, так наліплі на рыцарскае войска, прыбіліся да яго шматлікія дапаможныя атрады хрышчаных ліваў, эстаў і куршаў. Вось якая сіла прыйшла ў рух, і ніўто ўжо не магло выратаваць Жамойць. Нават калі б усе яе мужчыны, ад млекасосцаў, што плачуць у калысках, да сляпых дзядоў, узялі ў рукі зброю, яе б усё роўна растаптаў жалезны чаравік.

У гэты самы час пасланец ад Крыве-Крывейты, загнаўшы двух коней, прымчаўся ў Варуту, упаў на калені перад Міндоўгам і выдыхнуў чорнымі патрэсканымі ад спёкі і цяжкай дарогі губамі:

— Ратуй, вялікі кунігас! Ратуй не мяне і не сябе — ратуй Радзіму!

Міндоўг не спаў перад гэтым дзве ці тры ночы, быў як у ліхаманцы. На левым воку агідна трымцела павека, як трымціць у голым лесе асінавы ліст. Чорныя цені ляжалі на запалых шчоках. Кунігас глуха кашляў, са злосцю глядзеў на пасланца. А той, не ўстаючы з каленяў, казаў адрывіста і адчайна:

— Клянуся Пяркунасам і крывёй сваёй мацеры: я лепш памру ў тваім нумасе, чым даведаюся, што ты не павядзеш войска на дапамогу братам-жамойтам.

Кунігас пагрозна маўчаў. І маўчаў увесь ягоны палац. Маўчала Варута. Тады пасланец раскрываніў сабе вострай ракавінай кауры, якую выхапіў з-за пазухі, твар, упаў ніцма і заенчыў:

— Запаліце святое вогнішча! Кіньце мяне ў тое вогнішча! Я не хачу бачыць здрадніка!

Страшна было чуць такое. Упершыню тут, у варуцкім палацы, чалавечыя вусны асмеліліся назваць вялікага кунігаса здраднікам.

— Маўчы, бенкарт*! Маўчы, злога ложа сын! — грозна крыкнуў Міндоўг.

Але пасланец Крыве-Крывейты, пэўна, страціў ужо і развагу і розум. Ён густа размазаў па твары кроў, узняўся на ногі. Раз'юшаны і чырванатвары, пырскаючы слінай, ён казаў проста ў вочы кунігасу:

— Агідны пярэварацень, за карону, за бліскучую пазалочаную цацку, ты аддаў нашым ворагам Літву, аддаў прадзедаўскую веру. Бяжы хутчэй у Караляўчус**. Там ужо сабраліся твае сябры-крывасмокі, каб уволю пакупацца ў жамойцкай крыві.

Кунігас, глуха застагнаўшы, стукнуў яго кулаком у разяўлены рот, выбіў некалькі зубоў. Бясстрашны пасланец хацеў яшчэ нешта сказаць, яшчэ шамкаў скрываўленым ротам, але накінуўся ззаду Астафій Разанец, зваліў з ног. Яны валтузіліся, счапіўшыся ў клубок, як сабака з гадзюкай на сенажаці.

— Запаліце вогнішча! — загадаў Міндоўг.

Ярка ўспыхнулі сухія бярвенні. Агонь пачаў танцаваць непадуладны чалавечаму розуму танец. Пасланец Крыве-Крывейты абвяў. Астафій Разанец адразу выпусціў яго са сваіх чэпкіх рук, адхіснуўся ўбок, бо той, хто яшчэ будзе жыць, не павінен

* Бенкарт — незаконнанароджаны.

** Караляўчус — Кёнігсберг.

знаходзіцца побач з тым, над кім блізкая смерць уздымае чырвонае пякучае крыло.

Міндоўг у мёртвай звонкай цішыні павольна пайшоў у нумас. Усе атарапела глядзелі на ягоную спіну, не ведаючы, што рабіць. Пасланец ляжаў на зямлі. Праз нейкія мігі, якія здаліся занадта доўгімі і пакутнымі, кунігас вярнуўся да вогнішча, трымаючы ў руках вельмі прыгожую выштукаваную рыжскімі залатарамі каралеўскую карону. Абедзвюма рукамі ён высока ўзняў яе над галавой (усе думалі — зараз надзене на галаву), нешта прашаптаў і шпурнуў карону ў агонь. Гэта было так нечакана, што ў большасці з прысутных вырваўся з грудзей ці то стогн, ці то ўсхліп. Некаторыя нават (і між імі Астафій Разанец) кінуліся да вогнішча, каб голымі рукамі разгрэбці чырвоныя вугалі і галавешкі, выхапіць з іх карону. Але Міндоўг спыніў усіх гэтых людзей уладным узмахам рукі.

— Гавару табе, Пяркунас, што ты — бог майго народа і мой бог,— чыстым усхваляваным голасам выгукнуў Міндоўг.— Гавару табе, Пяркунас, што каталіцкую веру і каралеўскі вянец я толькі таму ўзяў у рымскага папы, што абклалі былі мяне з усіх бакоў ворагі, як абкладваюць тура на паляванні. Але сёння я адмаўляюся ад чужой веры і кароны, сёння я зноў вяртаюся пад тваю магутную руку. І яшчэ я гавару табе, што роўна праз тры дні іду з усім сваім войскам у землі куршаў і жамойтаў, каб выратаваць іх ад крыжацкага мяча.

Радасным ярасным крыкам сустрэлі варутчане словы кунігаса. Людзі цалаваліся, шмат хто плакаў. Дружыннікі ўзвівалі ўгору баявыя сякеры і мачугі.

— Вядзі нас! — грымела наўкол.

— Вядзі, вялікі кунігас!

— Мы хоць сёння гатовы ісці на лацыннікаў!

Але Міндоўг астудзіў гарачыя галовы. Сказаў строга і неаспрэчна:

— Хто паедзе або пойдзе раней усяго войска, таго — у ланцуг.

Тады мясцовы люд успомніў, што лацыннікаў не трэба далёка шукаць — маюцца ўВаруце. Шумлівым скопам рынуліся туды, дзе жылі рыцары і кнехты графа Уда. Пра яшчэ аднаго лацынніка, дамініканца Сіверта, напачатку забыліся, бо ўвесь час быў ён пры каралеве Марце. Але манах сам аб'явіўся, прыбег да Міндоўга. Упаў у ногі кунігасу, часта дыхаючы, загаварыў-зашаптаў:

— Цябе хочуць забіць. Граф Уда крычаў перад рыцарамі, што ты здрадзіў, подла здрадзіў, крычаў ён, святой рымскай царкве і папу Аляксандру IV і табе трэба праткнуць сэрца стылетам*. Граф Уда вастрыў такі стылет. Асцерагайся.

— А ты што ж — за мяне? — уважліва паглядзеў на Сіверта Міндоўг.

— Я за бога, таму што бог — справядлівасць,— палка адказаў дамініканец, узнімаючыся з каленяў.— Сёння ж справядлівасць на тваім баку, вялікі кунігас.

— Але я хачу здрадзіць рымскай царкве. Я ўжо здрадзіў ёй.

— Царква яшчэ не бог,— пераканана прамовіў Сіверт.— Сёння рымская царква проста багаты, прыбраны золатам, але халодны і няўтульны дом. Сёння ў Рыме лічаць, што лепшым богам з'яўляецца той, у імя якога праліваецца болей крыві. Святыя айцы адразу пасля малітваў бягуць у лупанарыі**. Хіба такой павінна быць апостальская царква?

Міндоўг з непаразуменнем пазіраў на манаха. Дзіўныя словы гаворыць сын тэўтонскай зямлі, служка рымскай царквы. Ці гэта нейкія хітрыкі, ці вар'яцтва. Чалавек, якога ў апошні міг выбавілі ад смяротнага вогнішча, можа паехаць розумам зусім не ў той бок, як усе астатнія людзі.

— І даўно ты так думаеш? — пацікавіўся Міндоўг.

— Каб жа гэта я сам думаў! — усклікнуў Сіверт.— Хрыстос Усетрымацель засявае такімі думкамі маю галаву. Ён жа прыйшоў з нябёсаў на зямлю, як бог бедных, бог пастухоў і рыбакоў, каменячосаў і садоўнікаў. Тронам святога Пятра па божай задуме павінны былі валодаць бяссрэбранікі, мужы з галубінай душой. А што мы бачым у Рыме? Зборню прагных і ненасытных, як марская губка, фігляраў, рыначных блазнаў. Адзіная іхняя зброя — страх. Не святое божае слова, не мудрасць евангелістаў, а страх перад таямніцай, перад няўдачай, перад смерцю. А страх жа, як вядома, родны бацька жорсткасці.

— Годзе,— узняў руку Міндоўг.— Мне цябе не зразумець. Я не зайздрошчу тваім землякам-адзінаверцам, якія знаходзяцца сёння ў Варуце і ва ўсёй нашай дзяржаве, я не зайздрошчу графу Уда. Іхнюю

---

* Стылет — невялікі кінжал з тонкім клінком.

** Лупанарый — дом цярпімасці.

кроў возьме Пяркунас. А табе я дарую жыццё і волю.

— У трэці раз даруеш, вялікі кунігас,— пабялеўшы, прашаптаў Сіверт.— Як узялі мяне ў палон, як узвялі на вогнішча і сёння...

На вачах у дамініканца ўспыхнулі слёзы.

— Я не люблю лічыць,— жорстка перарваў яго Міндоўг.— Зараз жа сядай на каня і едзь куды хочаш — у Рыгу, у Вендэн або да ляхаў. Да мяжы нашай дзяржавы з табой паедзе варта. І ведай, што сляды твайго каня і твае сляды мой народ засыпле соллю і выпаліць агнём, каб не ацалеў ніводны парастак рымскай веры. Занадта доўга мы цярпелі, занадта доўга маўчаў на нябёсах Пяркунас. Але ён ужо грыміць, ужо надзяе баявую кальчугу. Чуеш?

Міндоўг прыклаў палец да вуснаў, наструнена прыслухаўся. Разам з ім прыслухаўся і Сіверт. Сапраўды, у небе над Варутай, над пушчамі, балотамі і азёрамі перакочваўся малады гарачы гром.

Зноў, у які ўжо раз, паўстала супраць лівонцаў і тэўтонцаў усё, што яшчэ жыло і рухалася, усё, што магло паўстаць. Жамойць і Прусія, куршы і земгалы ўчынілі змову між сабой, і ўспыхнуў суровы нясцерпны агонь, каб яшчэ сёння моцных і жывакроўных зрабіць заўтра чорным горкім прысакам. У Жамойці гуртаваў сілы кунігас Трайнат. У Прусіі вялі атрады паўстанцаў на ордэнскія замкі, на вежы і сцены Геркус Мантас і Дзіване Мядзведзь. Войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы было тым сталёвым жахлівым па моцы і нечаканасці молатам, які цяжка ўдарыў у самае сэрца Ордэну. Пад рукою ў Міндоўга пайшлі ў бой Літва і Аўкштайта, Нальша і Дзяволта, дружыны з Навагародка, Ваўкавыйска, Гародні і Услоніма. Далібор ехаў поруч з ваяводам Хвалам, сціскаў дзяржальна мяча.

13 ліпеня 1260-га года над возерам Дурбе цёк малочна-белы туман, а потым зыркае сонца ўваткнула ў звонкі нябесны блакіт вогненныя дзіды ранішніх промняў. Але пахаваліся стракозы і птушкі, нырнулі ў цёмную халодную глыбіню рыбы, замоўклі трава і чарот, бо дзве ярасныя людскія ракі, скрыгочучы жалезам, раздзіраючы раты крыкам, сутыкнуліся каля возера. Такіх лютых сечаў яшчэ не бачыла тутэйшая зямля. Паперадзе свайго войска Міндоўг трыма радамі паставіў лучнікаў і арбалетчыкаў. Тонка ўспорваючы густое ранішняе паветра, паляцелі стрэлы, зробленыя з яблыні, бярозы і чароту. На канцы кожнай стралы

былі прымацаваны арлiныя, глушцовыя і лебядзiныя пёры. Калі ландскнехты з рыцарамі наблізіліся на трыста — трыста пяцьдзесят крокаў, узяліся за справу арбалетчыкі. Арбалет новагараджане называлі самастрэлам, ляхі — кушаю. Ён біў доўгімі цяжкімі стрэламі з гранёным жалезным наканечнікам-балтом на вастрыі. Гэты смяротны болт праломваў, як яечнае шкарлупінне, самую гартаваную браню.

Магістр Бургхард фон Гарнгузен, не зважаючы на тое, што ягоныя людзі з енкам і хрыпам падалі на мокрую ад расы і крыві траву, паварочваў рыцарскую конніцу так, каб яе ўсёсакрушальны браніраваны востравугольнік ударыў якраз па цэнтры тубыльскай раці.

— Пераможам, і [redacted] загадаю кастрыраваць усіх палонных! — весела крыкнуў ён герцагу Карлу.— Няхай у Літве і на Русі жывуць не арлы, а каплуны*!

Затрубілі трубы. Узвіліся рыцарскія сцягі. Затрашчалі косці, і хлынула кроў. У кожнага ў жыцці бывае самы галоўны бой, калі і меч, і шчыт, і конь, і рука, што цяжка б'е і адбівае ўдары, і вока, што заліваецца потам і крывёю, робяцца адным цэлым, сплятаюцца ў адзін жалезны клубок, і адна толькі думка свідруе галаву: не заб'ю я, скінуць з сядла і заб'юць мяне.

Ах, як добра пачынаўся бой! Спявалі рыцарскія мячы, падразаючы, быццам балотную асаку, тубыльцаў, заганяючы іх па калена ў дрыгву, у сыпкі ўзбярэжны пясок. Але, калі сонца ўзабралася на зіхоткую вяршыню летняга неба, падскочыў да магістра Бургхарда фон Гарнгузена ззаду непрыкметны клышаногі старэйшына саюзных куршаў і з усяго пляча хвастануў магістра сякерай па шыі. «Здрада... Куршы здрадзілі», — паспеў падумаць магістр, грымнуўшыся з каня вобзем. І адразу яго растапталі цяжкія шалёныя коні.

Цяпер крыжакоў білі спераду і са спіны. Жах спусціўся з нябёсаў на зямлю. Учарашнія саюзнікі рэзалі рыцарам глоткі. Нянавісць, якая да гэтага дня заганялася на самае патаемнае дно душы, ударыла жалезным смяротным кіпцюром проста ў зрэнку і ў сэрца крыжацкаму арлу.

Загінулі магістр Бургхард фон Гарнгузен, маршалак Генрых Ботэль, герцаг Карл. Сто пяцьдзесят, калі не

---

* Каплун — кастрыраваны певень, які адкормліваецца на мяса.

болей, самых адважнейшых рыцараў ляжалі пасечаныя, паколатыя, растаптаныя, кармілі сваім мясам лісіц і вараннё. Колькі ландскнехтаў аддало богу душу, немагчыма было нават злічыць. Высокі светлавалосы літовец зайшоў па мельчаку ў возера, каб адмыцца ад крыві, бруду і поту, а затым сеў на зялёным беразе і старанна выціраў свае вялікія расплясканыя бясконцымі паходамі ступакі рыцарскім сцягам. Паранены комтур, што ляжаў непадалёку, убачыўшы такое, падгроб аслабелымі рукамі пад сябе меч, паставіў яго рукаяццю на зямлю, глуха ўскрыкнуў і кінуўся, абрушыўся ўсім цяжкім целам на вастрыё.

Купкі ландскнехтаў, хаваючыся ўдзень у лясах і балотах, зорнымі начамі беглі ў напрамку Рыгі і Мемельбурга. Цяжкую вестку неслі яны ў гарады і замкі, канчалі жыццё самагубствам, ляжалі ў глухіх куп'істых багнах, зарослых парудзелай вострай асакой, і чорныя п'яўкі ўпаўзалі ў вачніцы.

У ранішнім ружовым тумане пяцёра ўшчэнт знясіленых уцекачоў убачылі вершніка, які ехаў на кані, кіруючыся ў бок Рыгі. Мяркуючы па адзежы, гэта быў манах ордэна святога Дамініка.

— Хто ты? — як лясныя здані, перагарадзілі яму дарогу абдзёртыя і галодныя ландскнехты.

— Сіверт,— лагодна адказаў вершнік.— Іду ад вялікага кунігаса Міндоўга. [redacted] Рыгі хачу дабрацца да Рыма і там на каленях буду маліць папу Аляксандра IV, каб не меч, а мір паслаў ён на гэтыя землі, каб не аб'яўляў крыжовага паходу, каб сядзелі дома рыцары Майнца, Брэмена, Кёльна і Трыра.

Пакуль манах прамаўляў такія прачулыя словы, ландскнехты разадралі на кавалачкі ягоныя дарожныя торбы-саквы, усхліпваючы і скуголячы, нібы звяры, прагна пажыралі хлеб і мяса, вырывалі яду адзін у аднаго з рук, біліся за яе. Але вось голад прытупеў, цеплыня пакацілася па жылах, і яны пачалі ўслухоўвацца ў тое, што гаварыў манах.

— Ён вар'ят! — крыкнуў адзін з іх.

— Пра які мір ты вярзеш, калі брацці-рыцары ляжаць на беразе Дурбе з перарэзанымі глоткамі? — хапянуў Сіверта за нагу другі.— Ды ўсіх гэтых дзікіх тубыльцаў трэба дзень і ноч варыць у гарачай смале, варыць жыўцом!

Але Сіверт глядзеў на іх прасветленым позіркам і вёў сваё:

— Я паеду да папы, я скажу яму, што ў Прусіі, Жамойці і Лівоніі мы пралілі рэкі, азёры нявіннай крыві, мы знішчаем цэлыя народы.

— Змоўкні, ублюдак! — выскаліўшы дуплаватыя жоўтыя зубы, аж завыў ландскнехт па імені Франц, якому ў бітве амаль па плячо адсеклі левую руку.

Ен усё стараўся падскочыць, каб тыцнуць у твар манаху сваёй скрываўленай куксай. Ды на манаха найшло-наехала святое натхненне. Здавалася, ён не бачыць і не чуе абдзёртых і злых, раздаўленых чорнай ганьбай паражэння ландскнехтаў, не бачыць лес і балота, пыл на шчоках і вуснах, не бачыць дробных, але з пранізлівым прагным гудам мух, што клубком уюцца над куксаю Франца, каб выпіць хоць кропельку крыві. Аб вечным міры, пазіраючы на ранішняе неба, казаў Сіверт, аб святой боскай справядлівасці, якая не мае межаў.

Тады самы здаравейшы з ландскнехтаў кінуў вачыма туды-сюды, убачыў надламаную таўставатую бярэзіну, выдраў яе з коранем з зямлі і, шырока размахнуўшыся, гвазданув, дзеўбануў гэтым рагатым цяжкім коранем дамініканцу проста па цемені. Пачуўся сухі рэзкі гук, быццам пад нечай нагой лопнуў арэх. Сіверт упаў з сядла.

Ландскнехты памаліліся і селі ў кружок. Мёртвы манах ляжаў непадалёку. Вусны былі напаўраскрытыя, нібы яшчэ выбівалася, вылузвалася з грудзей узрушанае, але ўжо нікому не чутнае слова.

— А ў яго добры конь,— сказаў раптам Франц.

Усе павярнулі галовы, глянулі на каня, што спакойна скуб траву.

— Нас пяцёра, а конь адзін,— раздумліва сказаў Франц.— Да Рыгі ён нас не давязе. Дык давайце зарэжам каня і будзем варыць ягонае мяса.

Узрадаваныя ландскнехты адразу ўскочылі на ногі, трымаючы ў руках вяроўкі, нажы і камяні, пачалі асцярожна абкружаць каня з усіх бакоў.

## IX

Нібы ссечанае сякерай дрэва, рухнула магутнасць Ордэна, рухнула ў адзін дзень. Адразу паўсталі ўсе прускія землі: Самбія, Вармія, Натангія, Барцыя і Пагезанія. Курши захапілі рыцарскія замкі Сінцелен,

Вардах, Грабін, Грэзен, Лазен, Меркес... Ад Ордэна адпалі Земгалія, востраў Саарэмаа.

Гэта быў зорны час Міндоўга. Умелай і моцнай рукою накіроўваў, падштурхоўваў ён падзеі. У Полацку са згоды мясцовага веча ўжо сядзеў князь Таўцівіл. Схадзіўшы ў Чэхію разам з галіцка-валынскімі князямі, Таўцівіл вярнуўся дадому, абачліва памірыўся ■ Міндоўгам, прызнаўшы ягонае верхавенства. Цяпер, каб вытрымаць бітву з Ордэнам, з усёй рыцарскай Еўропай, неабходна было шукаць саюз і дружбу ■ магутным праслаўленым князем Уладзіміра-Суздальскай Русі Аляксандрам Неўскім. Параіўшыся з літоўскімі і навагародскімі баярамі і князямі, вялікі кунігас Міндоўг надумаў жаніць Таўцівілавага сына Канстанціна з дачкой Аляксандра Неўскага і адначасова заключыць дагавор аб сумесных баявых дзеяннях супраць Ордэна.

Гэта быў зорны час Міндоўга. Але гэта быў і пачатак ягонага падзення. Надыходзіць дзень, калі ў агромністым высозным дрэве, якое зялёнай кучаравай галавой падпірае аблокі, пасяляецца малюсенькі, нікчэмны сваёй непрыкметнасцю чарвячок. Шумі, красуйся, дрэва, калыхай птушыныя гнёзды, лаві завірухі і маланкі, думай, што ты вечнае, несмяротнае... Чарвячок ужо точыць цябе.

Пасля таго як Міндоўг зняў крыжы і загадаў усім хрысціянам пакінуць сваю дзяржаву, а некаторых забіў, ён зрабіўся для паганцаў-вогнепаклоннікаў ледзь не зямным богам. Крыве-Крывейта слаў яму вітанні і штодзень маліўся за яго. Ды ў Новагародскай зямлі, дзе княжыў Раман Данілавіч і дзе ў Лаўрышаўскім манастыры задумоўваў пісаць літапіс і пільна сачыў за ўсім, што адбывалася наўкол, Войшалк-Лаўрыш, такую навіну сустрэлі насцярожана, без радасці. Паганства тут было ўчарашнім днём. Ніхто не збіраўся зачыняць цэрквы і зноў прыклейваць залатыя вусы Перуну.

У Жамойці таксама не дужа славілі Міндоўга. Кунігас Трайнат з баярамі коса пазіраў на Варуту і на Кернове, дзе паперамена разам са сваім вялікім дваром жыў Міндоўг. Знешне Трайнат падпарадкоўваўся Міндоўгу і ў 1263 годзе ■ трыццацітысячным войскам напаў на Мазовію і Хельмінскую зямлю, забіў князя Земавіта Мазавецкага, а ягонага сына Конрада ўзяў у палон. Усё гэта рабілася па загаду Міндоўга, але жамойты прагна чакалі той дзень, калі можна будзе адпомсціць яму за крыўдлівыя пагардлівыя словы, якія

ён сказаў Трайнату. А сказаў Міндоўг вось што: «Яшчэ ні разу кунігас з Жамойці не валодаў Літвой. Заўсёды ўсё было наадварот».— «Нічога, некалі і я наступлю яму на крывавы мазоль»,— быццам бы прамовіў сваім баярам, пачуўшы такое, ганарлівы Трайнат. Як там ні было, між Літвою і Жамойцю прабегла першая трэшчына.

Вельмі складаныя адносіны былі ў Міндоўга з Войшалкам. Сын-хрысціянін некалі маліўся на свайго бацьку, палка любіў яго, але праляцела дзяцінства, юнацтва, упала сівізна на бараду, і надышоў час, калі толькі са скрыгатам зубоўным Войшалк мог чуць або вымаўляць імя Міндоўга. Сябе Войшалк называў няйначай як ліцвінам, падкрэсліваючы гэтым, што ў ім цячэ не толькі літоўская, але і славянская кроў, што ён не паганец, а хрысціянін і што да смертнага крыжа звязаў ён свой лёс з лёсам Навагародка. Пазіраючы на свайго гаспадара, пачалі звацца ліцвінамі многія баяры, купцы, рукадзельныя людзі і смерды як Літвы, так і Навагародка. Ужываў Войшалк толькі крывіцка-дрыгавіцкую гаворку, а ўжо калі стаў праваслаўным манахам, дык зусім адышоў ад Міндоўга, які перавярнуўся ў паганства.

Бацька таксама неўзлюбіў сына. Невыпадкова ж з надзвычайнай лёгкасцю згадзіўся, каб Войшалк сядзеў у Лаўрышаўскім манастыры, а Навагародскім стальцом завалодаў Раман Данілавіч. Галіцка-Валынскую Русь гэткім чынам ён хацеў зрабіць сваім шчытом супраць татараў. Але дужа крохкім і ненадзейным аказаўся шчыт.

Войшалк, маючы пастаянную сувязь з князем Глебам Ваўкавыйскім, з навагародскімі баярамі і святарамі, чакаў свайго часу, праз верных людзей сачыў за Раманам Данілавічам. Галіцкі князь сядзеў у Навагародку падобна таму, як бурнай шматводнай вясною на лапіку сухой зямлі велічынёй з цялячы лоб сядзіць смяртэльна перапалоханы зайчык. Наўкол бушуе мора вады, пранізліва трашчаць крыгі, вырываюцца з коранем, куляюцца ў халодных вірах дрэвы... Адчуваючы, што ў Навагародку яго амаль ніхто не прызнае за князя, Раман Данілавіч дужа прыахвоціўся да віна і кастарства*. Калі Войшалк і Далібор з дружыннікамі прыйшлі глухой ноччу на дзядзінец, каб закаваць князя-

---

* Кастарства — гульня ў косці.

набрыдня ў ланцугі, ён з вялікай страсцю разам са сваім целаахоўнікам Алексам гуляў у косці. Абодва былі п'яненькія і вясёлыя.

Аднак, як толькі развітаўся не па сваёй волі з новагарадскім дзядзінцам Раман, з далёкіх Карпат пачулася рычанне льва — князь Даніла Галіцкі пакляўся выбавіць сына і адпомсціць за яго. Са сваімі палкамі, з яцвягамі і полаўцамі ён імкліва ўварваўся з поўдня ў Новагародскую зямлю. Пад Ваўкавыйскам адбылася жорсткая начная сеча. Данілу Галіцкаму пашанцавала — напружыўшы ўсе сілы, ён разбіў ваўкавыйскую дружыну з новагародскім апалчэннем і нават захапіў у палон параненага Глеба Ваўкавыйскага.

Далібора прывялі ў шацёр да галіцкага князя.

— Дзе мой сын? — адразу запытаў Даніла Раманавіч.

— Не ведаю. На зямлі шмат дарог,— адказаў Далібор.

— Дзе Войшалк? — насядаў Даніла Раманавіч.

— Гаварылі людзі, у Пінеск пабег.

Даніла Галіцкі загадаў везці палоннага ваўкавыйскага князя ў Холм, а з Холма ў Візантыю — там спрадвеку не бачылі белага свету ў манастырскіх келлях рускія князі, ад якіх адвярнулася ўдача.

Далібор быў нібыта ўва сне. Везлі яго ў звычайных дрогкіх калёсах, у якіх смерды возяць снапы і дровы. Ліў зверху дождж, гарэлі зоркі ці свяціла сонца, а коні ўсё беглі і беглі, матляючы доўгімі грывамі. «Бог, пэўна, таму насылае мноства няшчасцяў на людзей, каб яны не шкадавалі, не сумавалі аб часе, які незваротна знікае,— думаў палонны князь.— Каму хочацца ўспамінаць або шкадаваць сваё гора, што люта грызла душу? Толькі ўперад павінен скіроўваць свой позірк чалавек, толькі ў заўтрашні дзень, бо гэты дзень яшчэ не наступіў і можа быць добры. Але, вядома, толькі не для мяне. Даніла Галіцкі не даруе мне шматгадовую дружбу з Літвой. Заснуць бы, забыцца пра ўсё, ды розум мой як начны воран, што не можа спаць у развалінах-руінах».

Так прыехалі ў горад Холм. Збудаваў яго Даніла Галіцкі на прыгожым лясістым узвышшы пасярод роўнага поля. Збегліся туды ад татараў сядзельнікі, лучнікі, калчаншчыкі, кавалі па жалезе, медзі і срэбры, паставілі двары і сёлы вакол гарадской сцяны, напоўнілі новы горад чалавечым голасам і чалавечай працай.

Асабліва дзівоснаю была ў Холме царква святога Іаана. Падлогу ўнутры вылілі з медзі і чыстага волава, і яна ззяла, як венецыянскае люстэрка. Чатыры аркі па вуглах царквы стаялі кожная на чатырох каменных чалавечых галовах, зробленых [redacted] белага галіцкага і зялёнага холмскага каменю. Абразы і званы князь Даніла прынёс з Кіева, а іконы Спаса і прасвятой Багародзіцы дала яму сястра Феадора [redacted] Феадораўскага манастыра.

Пасярод горада ўзвялі высокую вежу з часанага белага дрэва і выкапалі каля яе калодзеж-студзянец глыбінёй у трыццаць пяць сажняў, дзе ў самую спёку была халодная, як лёд, вада. Вежу абкружылі цяністым прыгожым садам.

Але цудам [redacted] цудаў быў каменны слуп, што стаяў за папрышча ад Холма. На слупе горда растапырваў крылы вялікі каменны арол. Палоннага ваўкавыйскага князя падвезлі да арла, які лунаў над зямлёю на вышыні дванаццаці локцяў, прымусілі сысці з калёсаў, пастаяць ля падножжа манумента. Пэўна, жадалі, каб Далібор адчуў сваю нікчэмнасць і адначасова быў уражаны веліччу і сілай працаўнікаў. Потым паехалі ў княжы палац. Ён, як і ўвесь горад, быў у падпалінах, у чорнай сажы. Аказваецца, зусім нядаўна бушаваў у Холме пажар, ды такі жахлівы, што чырвоная медзь раставала ад агню, як смала. Віною пажару былі не татары, не угры ці ляхі, а нейкая дурная баба. У вялікі вецер выграбла яна з печы-каменкі гарачае вуголле, выйшла за парог і сыпнула, пляснула гэта вуголле ў сухія стружкі — муж габляваў дошку. Не паспела баба вокам міргнуць, як зароў па-звярынаму пажар.

Далібора трымалі ў холмскім палацы ў вялікім гонары, кармілі-паілі з княжага стала, цешылі песнямі, але заўсёды вісеў на дзвярах ягонай апачывальні цяжкі замок, стаяла каля дзвярэй варта. «Чаму ж не адпраўляюць мяне князі Даніла і Шварн у Візантыю? — бясконцымі начамі думаў Далібор.— Пэўна, хочуць Войшалка з Таўцівілам злавіць і ў Холм прывезці, каб потым разам засадзіць у манастыр. Але не ўдасца ім такое. Не іхні час наступае. Галіччына і Валынь пусцілі ўжо на вецер сваю былую сілу. Татарын робіцца гаспадаром у іхнім доме».

А неўзабаве ваўкавыйскаму князю ўдалося шчасліва выбавіцца з палону. І дапамагла яму ў гэтым княгіня Шварнава, зеленавокая Рамуне. У глухую поўнач, калі

барабаніў па дахах і дрэвах дождж, калі бусыя* хмары ціснуліся да самай зямлі, нейкі слабы шум пачуўся за дзвярыма Даліборавай апачывальні. Князь прахапіўся, стаў каля сцяны, збоку ад дзвярэй. Падумалася, што гэта ідуць за ягонай душою, ідуць забіваць. Аніякай зброі не было ў яго, і ён схапіў гліняную круглую лампаду, напалову запоўненую тлушчам, у якім калываўся кнот-паплавок. Ціхенька рыпнуўшы, адчыніліся дзверы. Далібор затаіў дыханне, узняў руку, каб абрушыць лампаду на галаву таму, хто першы пераступіць парог.

— Ваўкавыйскі князь, не бойся,— прашалясцела з цемры.— Ідзі за намі. Каля палаца цябе чакаюць коні. Толькі асцярожней ідзі, не спаткніся аб вартаўніка.

Напружваючы зрок, Далібор убачыў вялікае нерухомае, пэўна ж, мёртвае цела, што ляжала на каменнай падлозе і перагароджвала ўваход у апачывальню. Даверыўшыся богу і свайму шчасцю, ён пераступіў цераз вартаўніка, подбегам пайшоў за незнаёмцамі. Іх было трое — усе ў чорных доўгіх плашчах ■ капюшонамі, усе чамусьці басанож.

Вецер ледзь не зваліў ■ ног. Люта сек дождж. Прывязаная да дрэва, чакала парка коней пад мокрымі сёдламі.

— Едзь асцярожней. Дарогу дажджом падмачыла,— сказаў у самае вуха адзін ■ незнаёмцаў.

— Хто вы? — спытаў Далібор, узлётваючы ў сядло.

Замест адказу той жа незнаёмец адшукаў навобмацак ягоную руку, паклаў у яе невялікую металічную бляшку з галаўнога жаночага ўбора. Мяркуючы па ўсім, яна была залатая або срэбная. «Рамуне! — уздрыгнула ў імгненнай здагадцы Даліборава сэрца.— Каханая!»

— Беражы цябе бог,— ціха прамовілі з цемры.— Брама расчынена. Калі выедзеш за браму, азірніся, і на верхнім ярусе палаца ўбачыш святло ў крайнім левым акне. Там — княгіня.

Коні памчаліся ў дажджавую імглу. Зменны конь, прывязаны доўгім повадам да сядла, у якім сядзеў Далібор, бег ззаду.

Праскочыўшы браму, ваўкавыйскі князь азірнуўся. Кропля святла ззяла ў глухой і сляпой цемры. Шалеў

---

* Бусы — шары.

вецер, бурболіў дождж, дрэвы гнуліся амаль да самай зямлі, а гэта кропля жыла, свяцілася, глядзела на яго, быццам пяшчотнае нязгаснае вока.

— Рамуне! — у вялікім узрушэнні, у адчаі крыкнуў Далібор. Тут, у чыстым полі, можна было не прыцішваць голас, бо ніхто не мог пачуць чалавечага крыку, апрача бурнахмарнага неба.

Даючы нядоўгі перадых коням, пазбягаючы людных купецкіх дарог, сплючы нейкія лічаныя хвіліны на лясной траве, на ахапках ссечанага мячом галля, а то і ў сядле, Далібор дзень і ноч імчаўся на поўнач, у Навагародскую зямлю. Ен не сумняваўся, што Шварн Данілавіч пашле следам пагоню, можа паслаць палаўцаў, а ў тых коні гарачыя, хуткія. Дзве думкі біліся, крылаціліся ў нібы наноў народжанай душы: «Я на волі!» і «Рамуне!»

У гэты самы час у Варуце ў страшэнных пакутах памірала княгіня Марта. Смяротная хвароба накінулася на яе знянацку. Так з-пад высокага воблака ў імгненне вока падае каршун на бесклапотную птушку. Яшчэ дватры дні назад княгіня была вясёлая, ружовашчокая, ездзіла з Міндоўгам на возера глядзець, як коймінцы невадам выцягваюць рыбу. Вярнулася ў палац у добрым настроі, але сапсавала настрой служанка. Прычэсваючы княгіню перад сном, яна нязграбна павярнулася і разбіла любімую княгініну вазу з сіняга нямецкага шкла. Марта загадала служанцы стаць на калені, узяць у рот аскабалкі вазы. Прыйшлі з раменнымі плёткамі конюхі і схвасталі служанку да крыві. А праз дзень нясцерпным пякучым болем паласнула Марце жывот. Ад такога нечуванага болю княгіня крычала, качалася па свайму ложу, а потым і па засцеленай звярынымі шкурамі падлозе. Не мог даўмецца Міндоўг, адкуль падхапілася бяда. Паклікаў ён да хворай служкаў Крыве-Крывейты, потым, памеркаваўшы, паклікаў святара Анісіма з Навагародка. У душы, як стрэмка, неадкрутна пачало калоць адчуванне, што гэта хрысціянскі бог карае за адступніцтва ад ягонай веры. Але пад покрывам ночы праслізнуў у апачывальню вялікага кунігаса Астафій Разанец, каб расказаць сваю здагадку. Два дні назад выпадкова прыкмеціў ён, як адна з чалядзінак, у якой быў дужа заплаканы твар і нядобра блішчалі вочы, схаваўшыся ў густой крапіве каля плота, біла каменем аб камень і нешта шаптала. Астафій нячутна, быццам дзікі чаратовы кот, падкраўся ззаду

і ўбачыў, што чалядзінка разбівае-расціраe на дробненькі друз, на пясок сіняе нямецкае шкло.

— Тоўчанага шкла падсыпалі ў пітво княгіні,— пераканана сказаў Астафій Разанец.

Разлютаваны Міндоўг загадаў тут жа схапіць і без літасці дапытаць усіх чалядзінак, што былі прыстаўлены да княгіні. Але калі смяртэльна перапужаных дзяўчат сагналі ў кучу, Астафій, як ні стараўся, не знайшоў між іх тую, што разбівала сіняе шкло ў крапіве. А потым адшукалі яе ў халоднай клеці — павесілася.

Марта, што ўжо канала, паклікала да сябе мужа, і калі Міндоўг прыйшоў, з вялікай любасцю пазіраючы на яго, прашаптала ўшчэнт аслабелым, тонкім і перарывістым, як восеньская павуціна, голасам:

— Аднаго цябе кахала... Сокал мой... Кунігас мой жалезнарукі... Хутка памру... Сёння ж пашлі ганцоў у Нальшаны да кунігаса Доўманта... Няхай жонку сваю, сястру маю Марфу, адпусціць на маё пахаванне... Сёння ж ганцам загадай ехаць...

Яна заплюшчыла вочы, заціхла. Міндоўг цалаваў яе ў лоб.

— Няхай прыедзе Марфа,— зноў зашаптала княгіня.— Мы з ёй — блізняткі... Як дзве кроплі вады падобныя... Слухай, кунігас... Калі яна прыедзе, не адпускай яе назад... Княгіняй замест мяне зрабі... Я ведаю, што яна не любіць тоўстага Доўманта... Яна цябе кахае... Мы з ёй падобныя як дзве кроплі вады... Не адпускай яе... Будзеш на Марфу глядзець кожны дзень і мяне бачыць...

Ноччу Марта, спалохана крыкнуўшы, памерла. Міндоўг выгнаў усіх з апачывальні, сеў каля нябожчыцы, горка заплакаў.

Потым паслалі за Марфай, і яна адразу ж прыехала. Потым спалілі на ахвярным вогнішчы Марту і ўсе яе ўборы, і верацяно, і нітку з іголкай, і серп, і люстэрка, і ручную вавёрыцу, з якой так любіла гуляць княгіня. Адплакаўшы сваё, адсумаваўшы, Міндоўг старанна памыўся ў лазні, апрануўся па-княжаму, прыйшоў у святліцу, дзе сядзела Доўмантава жонка, нальшанская княгіня, моцна ўзяў яе за плечы, глянуў, як прапёк, чорна-зялёнымі вачамі і сказаў:

— Будзеш у мяне жыць...

Марфа пабялела, потым пачырванела, згодна кіўнула галавой.

Калі кунігасу Доўманту Нальшанскаму паведамілі

пра такое, ён нажом з касцяной ручкай стругаў кіёчак малому сыну.

— Дакуль можна цярпець гэткага звера! — у шаленстве, у адчаі крыкнуў Доўмант і лязом нажа варсануў сабе ў далонь. Пырскнула цёплая кроў. Доўмант гарачлівым позіркам паглядзеў на якрачырвоную пляму, глуха вымавіў:

— Сваёю крывёй клянуся, што адпомшчу.

## X

Далібор хацеў схавацца на нейкі час у Лаўрышаўскім манастыры, але Бачыла, што з купкаю верных людзей прыбіўся да князя ў наднёманскіх лясах, адраіў.

— Не хадзі туды,— сказаў ён.— Даніла Галіцкі зноў цябе ў свае цянёты зловіць. Ды і пуста зараз у манастыры. Толькі дзве душы жывуць там — Курыла Валун з жонкаю Лукерай.

— Валун? — перапытаў Далібор, пранізліва глянуўшы на Бачылу.

— Ён. Пакляўся Курыла князю Войшалку, што, пакуль той збірае сілу ў Пінеску, зберажэ, захавае старыя кнігі і пергамены.

У Далібора пачалося вандроўнае, поўнае небяспекі жыццё. Вельмі хутка набраў ён немалую дружыну і разам з ёю бегаў па лясах і балотах між Ваўкавыйскам і Новагародкам аж да Нёмана. Здаралася, на некалькі дзён знаходзілі прытулак у якога-небудзь баярына, што, абгарадзіўшыся дубовым тынам, сядзеў у сваёй пракаветнай вотчыне. Здаралася, заходзілі ў Літву. Аднойчы прыпыніліся на Цёмнай гары, дзе самотна шумеў святы дуб, і Далібору ўвесь час думалася, што ходзяць яны па гарачым попеле Валасача. У тую ноч ён не спаў, успамінаў жонку і сына, што згарэлі ў час аблогі Ваўкавыйска, неадрыўна глядзеў на высокае, засеянае зоркамі неба. Яно было мудрае і чыстае, як матчына душа.

Неўзабаве са згоды Міндоўга і Рамана Данілавіча Далібор зноў сеў на княжанне ў Ваўкавыйску. Ды перахапілі галіцкія князі ганца, што патаемна ехаў з Пінеска ў Ваўкавыйск, везучы бяросту ад Войшалка. Хацеў спаліць ганец бяросту, але не паспеў. З той бярösты вынікала, што вось-вось прыйдзе Войшалк з вялікай сілаю, каб аднавіць сваё гаспадарства ў Новагародскай зямлі. Даніла Галіцкі зноў кінуў на

Далібора галіцкія, валынскія і палавецкія дружыны...

Хаваючыся ад пагоні, з вернымі людзьмі прымчаўся ваўкавыйскі князь ажно пад Варуту ў свяшчэнную дуброву-алку. Якраз жолуд з дубоў падаў, цяжкі, крамяны. Разам з Бачылам пайшоў Далібор па алцы, слухаючы, як пад ветрам жалезна скрыгоча дубовая лістота. І раптам нечаканае відовішча ўбачылі яны. На спадзістым беразе балоцістай рачулкі стаялі чалавек і дзік. Чалавек быў дробны, мізэрны і несамавіты, а дзік — сапраўдны волат. Як жывая гара, высіўся ён побач з чалавекам, быў амаль аднолькавага з ім росту.

— Казлейка,— уражана прашаптаў Бачыла.— Дык яго ж, казалі, спаліў Міндоўг.

Ад здзіўлення меднік сеў на зямлю. Далібор, каб не выдаць сябе, прымасціўся побач з ім, напружыў слых. Вецер дзьмуў якраз у іхні бок, даносіў лагоднае сытае парохкванне Жэрнаса, ласкавыя словы Казлейкі. Былы Міндоўгаў улюбёнец чузаў дзіка за вухам, казаў:

— Жолуд з дубоўваліцца, зямлю засцілае. Пачынай зноў збіраць сваіх братоў, Жэрнас. Шмат важнецкай ежы чакае ў алцы.

Ён прымружыў вочы, усміхнуўся, здавалася, выгнуў спіну, як буркатлівы каток, ды раптам цень трывогі набег на твар, і ён рэзка азірнуўся, прыслухаўся. Далібор з Бачылам перасталі дыхаць.

— Чакаю цябе, Жэрнас,— пасвятлеўшы тварам, супакоіўся, зноў загаварыў Казлейка.— Мы з табой — шчаслівыя. Ты (адзіны!) еў жалуды пад святым дубам, я (адзіны між людзей!) патушыў святы Зніч. Каб ты ведаў, якое гэта шчасце. Але ты ведаеш, бо разумнейшы, чым які-небудзь чалавек. Мы з табой рабілі і будзем рабіць тое, што Пяркунас і ўсе багі забаранілі рабіць іншым пад страхам найсуровай кары. Якое гэта шчасце.

Ён, упіваючыся асалодаю, заплюшчыў вочы. А Далібора трэсла ад гневу і абурэння. Ваўкавыйскі князь да болю ў пальцах сціснуў кулакі, гідліва глядзеў на маленькага чалавечка і вялізнага дзіка. «Ад такіх жэрнасаў і ад такіх казлейкаў плодзіцца зло на свеце,— думаў ён.— Па крыві, па касцях братоў ідуць, лезуць яны да свайго карыта. Няхай гарыць пясок і трэскаецца на кавалачкі неба — ім трэба толькі адно: жэрці! Праклятыя ненаеды! Няхай вядуць на смерць роднага бацьку, няхай здзекуюцца над роднай зямлёй, няхай сляпым варожым плугам пераворваюць матчыну магілу — ім трэба толькі адно — жэрці. Дык не ж!»

Ён рыўком ускочыў на ногі, прыгінаючыся, пабег да сваіх дружыннікаў. Праз нейкі час вялікая грамада людзей рынулася з дубровы на Казлейку і Жэрнаса.

— Ату! — крычалі дружыннікі.

— Бі іх!

— Заганяй цемрукоў у балота!

Жэрнас ірвануўся быў на людскую сцяну, але сустрэлі дзідамі, сякерамі, дубінамі. З акрываўленым лычам, падціснуўшы хвост, ён адступіў задам да рачулкі. Маленькія, глыбока пасаджаныя вочы насцярожана сачылі за ўсім, што пагражала ці магло пагражаць яму.

У гэты час Казлейка, хлюпаючы па гнілой чорнай вадзе, перабягаў на супрацьлеглы бераг. Імкліва слізгалі, хаваліся хто-куды шматлапыя срэбна-шэрыя павукі, жукі-плывунцы. Атлусцелы вадзяны пацук не паспеў вывернуцца, піскнуў пад нагою. Страла дагнала Казлейку тады, калі ён ужо ўздзіраўся на грузкі, расквашаны дажджамі бераг.

Жэрнас краем вока ўбачыў, як спатыкнуўся, а потым апусціўся на калені і папоўз у хрусткі чарот ягоны сябрук, самы найлепшы, самы наймудрэйшы з людзей. Чорная злосць-ярасць, здаецца, разарвала галаву. Дзік ашалела кінуўся ўперад. Магутнае цела, як таран, ударыла ў натоўп, і людзі ў жаху расступіліся. Двух ці трох дружыннікаў дзік зваліў на зямлю, Далібору абадраў бок. Але зноў узвіліся і люта апусціліся на тлусты хіб і на чэрап дубіны з сякерамі. Жэрнас разявіў пашчу, і Бачыла, на якога ён ляцеў, паспеў укінуць, увапхнуць у гэту жахлівую пашчу скураную торбу. У торбе абачлівы меднік насіў хлеб, крэсіва, трут. Ляжалі ў ёй і жалезныя жалуды, якія падараваў у новагародскай коўніцы Бяссмертны Кандрат.

— Давіся! — крыкнуў Бачыла.

Агаломшаны Жэрнас павярнуўся, потым услед за Казлейкам рынуўся ў рачулку. Узнялася бурлівая хваля, калі ён, ужо няцвёрда, хістка, ішоў па вадзе.

— Не трэба даганяць,— сказаў Далібор.

Усе глядзелі, як гара мяса і сала выпаўзае на бераг, як марудна шыецца ў чараты, пакідаючы за сабой крывавы ручай. Праз два дні над балотам закружылася варанне...

У гэты ж самы час дажываў свае апошнія дні Міндоўг. Яму здавалася, што мір і спакой наступілі нарэшце ў дзяржаве, што яго палюбілі ўсе: і сяляне,

і купцы, і баяры, і ўдзельныя князі. Яму здавалася, што даўно высахла кроў ягоных працiўнікаў, ягоных родзічаў, усіх, каго ён забіў. Марфа дарыла ўначы вялікаму кунігасу сваю жаночую пяшчоту. Мякка свяціліся пад ранішнім сонцам жнівеньскія росы 1263 года...

Але падманным быў спакой. Усе, хто меў сілу, захопліваў і раздаваў налева і направа абшчынныя землі. Князі ненавідзелі адзін аднаго, а ўсе разам ненавідзелі Міндоўга. Рымская курыя дзень і ноч думала, як бы скрышыць, знішчыць апошнюю ў Еўропе паганскую дзяржаву. Упарты Войшалк зноў вярнуўся ў Новагародак і быў сустрэты ўсеагульным радасным крыкам народа. У Ваўкавыйску сеў на сталец князь Далібор-Глеб.

У кунігаса апошнімі днямі балела галава. «Боль — таксама жыццё»,— сашчаміўшы зубы, думаў ён і аб'явіў паход супроць князя Рамана Бранскага. Усіх сваіх падручных князёў і баяр прымусіў кунігас ісці на ўсход, каб заваёўваць новыя землі. Сам разам з сынамі, разам ■ дваром ехаў трохі ззаду...

Раніцой 5 жніўня 1263 года загрымела навальніца. Гняўлівыя зломы чырвоных маланак перасеклі неба. Міндоўг з сынамі Руклюсам і Рупінасам спаў у паходным шатры. Густа білі па туга нацягнутым палатне дажджавыя кроплі.

Раптам каля ўвахода дзіка закрычаў і адразу ж захрыпеў баярын-ахоўнік. Міндоўг вылецеў з туравай шкуры, у якой спаў, згарнуўшыся клубком, вылецеў, быццам страла ■ лука. А на парозе ўжо стаяў кунігас Доўмант ■ мячом у руцэ. Чалавек дваццаць — трыццаць, узброеных, злых, тоўпіліся за ягонымі плячамі.

— Чаму ты вярнуўся? — раздражнёна спытаў Міндоўг.

Ні слова не кажучы, Доўмант ударыў з усяго пляча. Ягоныя саўмыснікі пачалі секчы яшчэ сонных Міндоўгавых сыноў. Да апошняга ўздыху Міндоўг маўчаў, толькі голымі рукамі лавіў, перахопліваў чырвоныя ад крыві лёзы мячоў, сваім целам закрываючы дзяцей.

Вялікім князем зрабіўся жамойцкі кунігас Трайнат. Ён паклікаў Таўцівіла, каб той прыехаў з Полацка дзяліць «зямлю і дабытак Міндоўгаў». Таўцівіл, надумаўшыся забіць Трайната, прыехаў, але першым смяротны ўдар нанёс Трайнат. Войшалк зноў уцёк, у Пінеск, Далібор — у пушчу. А праз нейкі час

Міндоўгавы конюхі зарэзалі Трайната, калі той ішоў у лазню-мыйніцу. Трайнат паміраў пакутліва, доўга крычаў страшным голасам.

Узнялася, забурліла Новагародская зямля і Літва. Далібор з дружынаю выйшаў з пушчы. Тысячы людзей сталі пад ягоныя харугвы. Трэба было ратаваць дзяржаву, якая нарадзілася ў агні і крыві. Адразу ж Войшалк з пінянамі рушыў праз лясы і балоты ў бок Новагародка. Недзе каля Ясельды два войскі сустрэліся.

— Слава вялікаму князю! — крыкнуў Далібор і схіліў перад Войшалкам калена. Войшалк абняў ваўкавыйскага князя, пацалаваў. Далей яны пайшлі разам.

Неадступна і грозна рухалася шматтысячнае войска на поўнач. Недзе там, у пракаветных пушчах, у зеленатраўных лугах, іскрыўся пад сонцам, клікаў да сябе Нёман.

І ў гэты самы час у Лукеры і Курылы Валуна нарадзіўся сын, прыгожы і здаровы. Шчаслівы Курыла ўзняў першынца на сваёй вялізнай далоні, сказаў:

— Расці, сынок. Расці, ліцвінок. Добрым воем будзеш.

Лукера смяялася. Сын залівіста плакаў. Сонца пазірала ў акно.

Литературно-художественное издание

ДАЙНЕКО Леонид Мартинович

ЖЕЛЕЗНЫЕ ЖЕЛУДИ

Роман

Для среднего и старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

ДАЙНЕКА Леанід Мартынавіч

ЖАЛЕЗНЫЯ ЖАЛУДЫ

Раман

Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту

Рэдактар Л. С. Курбека
Мастацкі рэдактар В. А. Макаранка
Тэхнічны рэдактар Г. Ф. Дуброўская
Карэктары Л. К. Паплаўская, Д. Р. Лосік

ІБ № 1704

Здадзена ў набор 02.04.91. Падпісана да друку 01.10.92. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура Школьная. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 15,96. Ум. фарб.-адб. 16,59. Ул.-выд. арк. 17,03. Тыраж 30 000 экз. Зак. 1214.

Выдавецтва «Юнацтва» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

